# МАЛАДОСЦЬ

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС
ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1953 годзе.

## У нумары



**11**

ЛІСТАПАД

1965

Выдавецтва «ЗВЯЗДА»
МІНСК

**Пры гэтым нумары — бясплатны дадатак «А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

**ВОКЛАДКА Ю. АРХІПАВА.**
**НА ДРУГОЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ:** Памяць сэрца. Туды, дзе была гераічная абарона Брэста, з'ехаліся пасланцы народаў, каб запаліць Вечны агонь, ушанаваць памяць вядомых і невядомых герояў.
Фота **В. Ждановіча.**



Алесь **САВІЦКІ**



Мастак **Арлен КАШКУРЭВІЧ**

# САМЫ ВЫСОКІ ПАВЕРХ

Аповесць

## 1

Мы будуем новы дом.
Дом з вялікіх белых блокаў.

Дом на пяць паверхаў. А кожны паверх — дванаццаць кватэр.

Гэтыя кватэры існуюць пакуль што толькі на паперы і, мабыць, у думках тых, хто будзе ў іх жыць. А вось рэальнасць: штабялі блокаў, глыбокі катлаван, і ў ім левае крыло падмурка. Ды яшчэ графік, у адпаведнасці з якім заўтра павінны быць пакладзены пліты першага паверха.

Графік добры. Але ў ім, на жаль, не прадугледжаны дождж, што лінуў сёння ноччу, а дождж быў спорны: усю ноч хвастаў. Вада падмыла сцяну катлавана, зямля асела і засыпала пляцоўку. І мы не можам класці пліты. Мы сядзім і чакаем начальства — старшага прараба Грушаля.

Нас у брыгадзе сем чалавек. Самы старэйшы сярод нас — Павел Сямёнавіч Ткач. Чалавек ён памяркоўны, сямейны: яго дачка сёлета заканчвае медыцынскі інстытут у Ленінградзе, і Павел Сямёнавіч часта расказвае нам пра яе поспехі.

Паміж сабою мы завём Паўла Сямёнавіча — Паўло. Адкрыта звяртаецца да яго гэтак толькі адзін з нас — кранаўшчык Мікола Рыгоравіч Сініцын. Яны дружбакі: у вайну партызанілі ў адным атрадзе. У Сініцына ёсць сын, і вучыцца ён таксама ў Ленінградзе, але на геолага, і пра гэта мы чулі ўжо, як і пра Ткачову дачку.

Сініцын вельмі падобны на свайго дружбака: спакойны, дабрадушны. Ён не падабаецца толькі Пятру. Пятро Чабоха — самы вясёлы хлопец у нашай брыгадзе — заве кранаўшчыка жартаўліва і насмешліва: Сініца. Толькі адзін Пятро адважваецца на гэта, і Сініцын не крыўдзіцца.

Затое Барыс Шагун цярпець не можа гэтай мянушкі. Барыс, увогуле, чалавек нейкі вельмі ўжо сур'ёзны. Мы жывём з ім у адным інтэрнацкім пакоі, але па-сапраўднаму не сябруем. Барысу дваццаць два — на адзін год болей, чым мне. Я люблю жарт, а Барыс маўклівы і заклапочаны ўвесь час, засяроджаны. Па вечарах ён нікуды не ходзіць, больш сядзіць у пакоі і ўсё думае, думае, альбо штосьць занатоўвае ў тоўсты сшытак. Аднойчы ён прызнаўся мне: здумаў пісаць кнігу. Я не сцярпеў, пахваліўся Віктару і Пятру. З таго дня Пятро заве яго пісьменнікам, а Барыс не можа дараваць мне гэтае здрады, мабыць з таго мы і не сталі дружбакамі.

Але я не бядую — сябры ў мяне ёсць. Пасля Валі — самай прыгожай і разумнай дзяўчыны ў нашым Прыдзвінску — мой лепшы сябар Віктар Зубок. Мы разам з ім вучыліся ў школе, разам пайшлі працаваць і вось ужо трэці год тут, на будоўлі. Мы, увогуле, разам з ім заўжды. Віктар быў побач у той жахлівы дзень, калі памерла мая маці. Штогод вясною ён ездзіць разам са мною ў Вабынічы: там, у брацкай партызанскай магіле над возерам, пахаваны мой бацька. Сёлета мы разам з Віктарам ездзілі здаваць уступныя экзамены ў маскоўскі ўніверсітэт.

Ёсць чалавек, які скептычна ставіцца да нашага сяброўства — Казімір Свірыдаў. Ён працуе ў нас другі год і чамусьці вельмі не любіць Віктара; той адчувае гэта і ніколі не ўпусціць зручны момант пакпіць. А Казімір ніколі амаль не адказвае яму, быццам не чуе. Спакойная, спаважная Казімірава пагарда да кепікаў мне падабаецца: паважаю яго за гэта, і яшчэ за ўсё тое, што давялося яму перажыць.

Казімір — ён адных год з Барысам, хоць з выгляду на многа старэйшы за яго — быў асуджаны на тры гады, але адседзеў толькі два: за старанную працу яму скарацілі тэрмін. Усе ў брыгадзе ведаюць Казімірава мінулае, але пра тое мінулае ніхто ніколі не гаворыць і не ўспамінае: нават Віктар у сваіх жартах абмінае гэтую тэму.

Спакойны і сціплы, вельмі разумны хлопец. І за гэта, а яшчэ нават болей за сумленнасць, Казіміра ў брыгадзе любяць. Бацька яго загінуў на фронце, а маці доўга хварэла, ляжала ў бальніцы, але цяпер папраўілася. Жывуць яны на Задзвінні.

Там жа на Задзвінні жыве і прараб Іван Тарасавіч Рогач — наш брыгадзір. Чалавек ён грубаваты, але прынцыповы і справядлівы. Рогач гэтак любіць: працаваць — дык працаваць, за чужую спіну не хавацца. І ніколі не крычыць, гаворыць спакойна і ўпэўнена.

Вось такая ў нас брыгада. І цяпер мы сядзім, і кожны лічыць патрэбным сказаць слова пра тую бяду, што нарабіў нам дождж.



Віктар іранічна пасміхаецца:

— Што ж, за рыдлёўкі будзем брацца? Давай каманду, брыгадзір! Ці можа пойдзем кланяцца Жаўняровічу?

Рогач спачатку не адказвае, невыразна хмыкае, спадылба зыркае на Віктара і толькі тады кідае кароткае і бязлітаснае:

— За дурной галавою і нагам і рукам няма спакою...

Галаву, мабыць, ён мае на ўвазе сваю.

Нічога не загадаўшы нам рабіць, Рогач падымаецца. І мы ведаем: на шосты ўчастак пойдзе, да Жаўняровіча, чалавека хітрага і нахрапістага.

Нейкі час маўчым. А што тут скажаш! У тым, што здарылася на ўчастку, ён, Рогач, бясспрэчна, вінаваты. Пазаўчора, калі бульдозер працаваў у нас, мы хацелі падраўнаваць катлаван, але прыбег Жаўняровіч і пачаў даводзіць, што робім непатрэбшчыну: стаіць гарачае надвор'е, праз дзень-другі мы выведзем падмурак з катлавана. Аддайце яму, маўляў, на дзень раней бульдозер.

Віктар болей за ўсіх пярэчыў, але Жаўняровіч пераканаў Рогача: аддалі. І цяпер наш брыгадзір пайшоў упрошваць прараба з шостага ўчастка перакінуць бульдозер нам.

Парушае маўчанне з'едлівы смяшок Віктара:

— Выпрасіш ты ў яго цяпер! Трасцу! Ды Жаўняровіч, пакуль работы свае не скончыць, на метр машыны ад сябе не адпусціць...

Барыс выцягвае з кішэні газету і, разгортваючы яе, уздыхае:

— Дзіўны ты чалавек, Віцька... Ва ўсім благое табе мроіцца...

— І рэдка, між іншым, даволі рэдка памыляюся... Але паколькі я чалавек адсталы, чытай газету. Буду слухаць і павышаць сваю свядомасць...

Барыс паглыбіўся ў чытанне — ён заўжды купляе газеты па дарозе на будоўлю. Віктар кінуў пінжак на блок, лёг на яго спіною і, закрыўшы кепкаю твар, адразу ж засоп, быццам моцна заснуў. Але ж відно: зусім і не спіць — уважна слухае.

Барыс чытае — задумліва і сур'ёзна — маленькі допіс пра мужны ўчынак шафёра нафтабазы. Машыну, што была ахоплена полымем, ён, рызыкуючы жыццём, вывеў за вароты базы і загнаў у сажалку.

— Стой! А чаму загарэлася машына?

Барыс аж перасмыкнуўся:

— А я думаў — спіш... Не пішуць, браце. Магчыма, ад выхлапу. Ды і не гэта ж важна.

— Хацеў бы я быць на месцы таго шафёра.

— Ён ляжыць у бальніцы.

— Усё роўна!

— Вы чуеце? Віцьку захацелася славы!

Віктар імпэтна прыўзнімаецца і садзіцца, ашчаперыўшы палатняныя штаны на каленках. У яго вузкіх карых вачах — пагрозлівы бляск.

— І славы! І няхай усе пачыталі б пра мужны ўчынак Зубка.

— Асабліва дзяўчаты,— з'едліва кідае Пятро.

— Дзяўчаты мяне не цікавяць. Усё гэта — наперадзе. Праўда, Лявон? І таму трэба мужна адмаўляцца пакуль што ад усяго...

У мой гарод цэліць! Аднойчы Віктар папракнуў мяне сяброўствам з Валяй: збіраюся ехаць на пяць гадоў у інстытут і заводжу тут нейкі «раман», як ён тады сказаў. Ледзьве не заляпіў я тады яму аплявуху. А цяпер што, зноў ён за старое? І аб якой мужнасці вярзе? Чаму глядзіць на мяне, калі спрачаецца з Барысам і хоча нечым дапячы яму?..

— Ты проста няправільна разумееш мужнасць,— спакойна і дзе-

лавіта гаворыць Барыс.— Мужным нельга зрабіцца дзеля выгады. Мужнасць павінна быць у сэрцы чалавека, і ён мужны не напаказ, а таму, што не можа рабіць інакш...

— Ты цытуеш сваю кнігу?..

Барыс моўчкі складвае газету. Па ссунутых бровах, па моцна сцятых губах, ды чырвані на шыі, я адчуваю набліжэнне навальніцы...

— Хлопцы,— папярэджвае Пятро,— на даляглядзе Грушаль. Канчай начаваць...

Старшы прараб не даходзіць да блокаў, на якіх мы сядзім, спыняецца непадалёк ад крана, на грабяні выкінутай зямлі. Грушаль не вельмі доўга вывучае сцяну катлавана, што асела ноччу: па хісткіх драўляных мастках ён ідзе ўніз, ходзіць там, нічога не пытае і не гаворыць; мы таксама моўчкі сочым за тым, як Грушаль таўчэцца на дне катлавана, як зганяе ботам рудую пену, што пухне на брудкай вадзе.

— Рогач пайшоў па бульдозер. На шосты...— урэшце кажу я Грушалю, хоць ён па-ранейшаму нічога не пытае.

— Навошта? Гэта далёка. Пазваніце ва ўпраўленне Якімчыку і скажыце, што я прасіў прыслаць бульдозер.

Іду ўніз па мастках.

— Добра. Перадам Рогачу...

Грушаль так рэзка паварочвае галаву, што брыль ледзь не падае. Грушаль прытрымаў яго рукою.

— Я прасіў не перадаваць, а пазваніць. Неадкладна! — дадае мякка і даверліва, быццам просіць прабачэння за ранейшую рэзкасць.

— Ваш катлаван убачыў — ледзьве не самлеў. У мяне на стокватэрным прабілася грунтоўка. Няўжо, думаю, і тут прэ? Ажно бачу — дождж гэта...

— Можа і там дождж наліў?

— Не! — рашуча адказвае ён і перапытвае: — І адкуль? Адкуль прэ? Ніяк не знойдзем...

Грушаль дыбае па хісткіх мастках; на краі катлавана спыняецца, просіць, дакранаючыся рукою да майго пляча:

— Напомніце, калі ласка, Якімчыку, што я чакаю людзей з вадаканала...

Ён не ідзе, а, здаецца, бяжыць амаль ад нас; зялёны яго пінжак хутка хаваецца за штабялямі белых блокаў, і над імі нейкі час плыве жоўтае кола саламянага брыля.

Віктар шматзначна пасміхаецца:

— Чаго не ідзеш? Бяжы, звані!

— Думаеш, вельмі мне хочацца?

— Тады я... Дазваляеш?

З руплівай гатоўнасцю Віктар ускоквае, робіць адзін крок, другі... Азірнуўшыся, спыняецца, потым варочаецца і штурхае мяне ў плечы:

— Ма-арш! І не пылі тут...

Адкідваю трэску, якой толькі што зграбаў пыл на шырокай бакавіне блока, і выходжу на вуліцу.

По праўдзе кажучы, няма аніякага жадання гаварыць з Якімчыкам, бо ведаю: нічога добрага з гэтай гаворкі не атрымаецца. Хто нам дасць бульдозер сёння? Ніхто. І Жаўняровіча таксама няма чаго вінаваціць — ёсць і ў іх свой графік. А галоўнае — свой розум трэба мець і не спадзявацца на добрае надвор'е. Менавіта гэта скажа Якімчык. І скажа з іроніяй, пажартуе так, што будзе сорамна. І Грушаль ведае гэта. Ведае, і таму паслаў званіць мяне.



Калі па шчырасці — не вельмі падабаецца мне Грушаль. Чалавек ён не благі і інжынер добры, з вялікім вопытам, і з ім лічацца. А вось начальства баіцца, ніводнага слова наўпярок не скажа. І спрачацца не любіць. А спрачацца, даводзіць сёння, мабыць, прыйдзецца нямала... А што даводзіць? Нам патрэбен бульдозер. Коратка і ясна.

Тэлефон-аўтамат непадалёк ад нашай будоўлі — трэба перайсці вуліцу і, мінуўшы магазін гароднiны, павярнуць направа. Адразу ж за паваротам — чырвоная тэлефонная будка.

Будка пустая, я гэта добра бачу праз шкляныя бакавіны. Дзверы зачыняюцца блага, увесь вулічны тлум лезе ў вушы, і я, прытрымліваючы бліскучую трубку, набіраю нумар нашага ўпраўлення. Трэск. Шолахі. Потым голас. Глухі і далёкі, быццам з глыбокага скляпення. Але я пазнаю яго адразу. Толькі ў маёй Валі гэткі голас!

— Мне патрэбна таварыш Лабоха,— прашу з робленай строгасцю і ледзьве не крычу ад радасці, што чую яе голас.— Гэта я, Валюха. Званю вашаму Якімчыку!

— Даю кабінет галоўнага інжынера...

Што гэта з ёю? Адкуль такая афіцыйнасць? Не пазнала хіба? Ці можа я пераблытаў?

— Гаварыце! Галоўны вас слухае...

Не, яна. Відаць, проста не пазнала: з нашай тэлефоннай будкі заўжды блага чуваць.

— Слухаю. Хто там? Бугрым? Які там яшчэ Бугрым? Ад Грушаля? Ну-ну... Цяпер разумею. Што ў яго здарылася?..

Як мага карацей кажу Якімчыку ўсё тое, што загадаў мне Грушаль. Размаўляю з ім, а ўяўляю сабе не яго вялізны кабінет, а вузкі і цёмны пакой прыёмнай. Уяўляю сабе людзей, якія сядзяць там і жартуюць з Валяй, і якім яна ўсміхаецца.

Ёй добра там усміхацца, а мне трэба даводзіць Якімчыку, што бульдозер нам вельмі патрэбен. Дзе ўзяць бульдозер? Ого, каб я ведаў, дзе яго сёння ўзяць!

Якімчык гаворыць са мной з'едліва, але лагодна, і раптам павышае голас, і ўжо не гаворыць, а грукае, быццам забівае цвікі:

— Няма. Няма. А дзе Рогач сам? Чаму ён не звоніць?

Мне хочацца кінуць трубку. Я проста рабочы: сказалі пазваніць — званю. Не магу ж я забараніць Рогачу ісці да Жаўняровіча...

Ён слухае мой адказ і рагоча, рагоча дабрадушна і весела.

— Вось, вось... Няхай цяпер і дамаўляецца з Жаўняровічам... Навошта ж было пахваляцца: раней графіка, раней графіка... А што ён думаў? І якім, галоўнае, месцам?

— Не ведаю. («Зараз пазваню ёй. Знарок пазваню».)

— А варта было б. Колькі кубаметраў грунту ў катлаване?

— Можа, дзесяць. Можа, болей. Не лічылі. («Пазваню абавязкова. Усміхацца тым знайшла, мусіць, час...»)

Далёкі невыразны шоргат злятае з мембраны. Потым зноў поўнае іроніі:

— Дзесяць кубаметраў яны не могуць выкінуць! Няхай Рогач сам возьме рыдлёўку. Самую вялікую. Так і перадай. І каб графік быў!

— Добра, перадам. («Пазваню і спытаю. Ці не ад Якімчыка гэта яна набралася...»)

Я слухаю лаянку галоўнага інжынера і пералічваю чорныя колцы ланцуга, якім прыкута тэлефонная трубка да сцяны.

— У мяне ўсё,— урэшце гаворыць Якімчык.— І няхай Рогач увечары пазвоніць сам. Чуеце?

— Так.

Вешаю трубку на рычаг. Жалезны ланцуг звонка бразгае па сцяне, а мне здаецца, што ён усё яшчэ дрыжыць ад шалёнага крыку Якімчыка.

Набіраю Валін нумар.

— Упраўленне слухае...

Яе голас!

І ўсё тыя ж інтанацыі — строгія, афіцыйныя. Але цяпер сапраўды чую ў трубцы невыразную людскую гаману і вясёлы смех. Слухаю і маўчу, пакуль не пачынаюцца доўгія гудкі — паклала трубку.

Зноў набіраю нумар і на сухое афіцыйнае «Упраўленне слухае» — кажу знарок хрыпатым голасам:

— Чаму ў вас гулянка ў рабочы час?.. Гармідар адсюль чуваць...

— Таварышы, прашу цішэй,— гэта яна сказала сцішана, відаць, прыкрыла трубку даланёю. А потым зноў патрабавальна: — Прабачце, хто гэта гаворыць?..

Адразу і «прабачце» з'явілася!

Асцярожна чапляю трубку на рычаг і выходжу.

— Ну, нагаварыліся? Колькі ж можна, малады чалавек!

Паўз мяне шмыгае ў кабіну жанчына, з бразгатам зачыняе дзверцы.

На будаўнічай пляцоўцы ціха. Сініцын і Ткач поркаюцца ля крана. Барыс па-ранейшаму чытае газету. Віктар з Рогачам схіліліся над маленькай шахматнай дошкаю, што ляжыць на шырокай бакавіне блока.

— Што чуваць?

Рогач пытае гэта, не ўзнімаючы галавы — не можа адарваць свой позірк ад шахмат; думкі яго там, сярод нязграбных, абшарпаных фігурак.

— Загадана браць рыдлёўкі. Бульдозера сёння няма.

— Няма, дык няма...

— Шах вашай высокасці! — урачыста гаворыць Віктар.

— Аддаеш каралеву? — Рогач шчыра здзіўлены.— Бяру яе, прыгожую. Ах, вось які тут цвік! Затым ходзіць конь, і мне канцы!..— Ён, у замяшанні, чухае патыліцу, зрывае з галавы кепку, кладзе яе на калена і прыціскае кулаком: — І што, няма выйсця?

— На жаль, не. Усё прадумана. Ты лупіш каралеву, а я табе — мат! Магутны мат, хоць і звычайны па кампазіцыі... Дзіцячы, адным словам.

У вясёлых Віктаравых вачах, на ружаватых ад хвалявання шчоках, на падціснутых тонкіх губах — гуллівая радасць пераможцы. Але гэтая радасць не шчырая: праз яе прабіваецца дрэнна прыхаваная зларадднасць.

Вось жа натура! Ва ўсім, нават у гульні, Віктар хоча быць толькі пераможцам і нудзіцца, пакутуе, калі выходзіць не па-ягонаму. Не люблю Віктара ў такія хвіліны.

— У гэтай кампазіцыі ёсць памылка,— нечакана гаворыць Казімір.— Дзіцячая, як кажа Віктар. Але — даволі істотная. Дазвольце, брыгадзір, дагуляць партыю...

Віктар скептычна ўсміхаецца; ён па чарзе аглядае нас, быццам запрашаючы быць сведкаю Казіміравай наіўнасці. Вы, маўляў, бачыце гэтага дзівака?!.

— Сядай, Казімір. Сядай! — патрабую я.— Трэба з яго — падумаеш, задавака! — збіць трошкі пыхі. Сядай, а мы — паможам...

— Наваліцеся, наваліцеся, браточкі! Але тут вам нават сам гасподзь не паможа...





— А нам на яго напляваць,— грубавата гаворыць Казімір і ўпэўнена садзіцца на блок.— Нават і каралеву — жанчыну павbooжаць трэба! — мы чапаць не будзем...

— Каралева табе, між іншым, гэтага не даруе...

— Няхай яна тое свайму каралю, ведаеш, гаворыць!

— Лепей — хадзі!

Уладарным узмахам рукі Віктар запрашае гуляць. Казімір ро-

біць ход, чакае, як пойдзе Віктар. Той раптоўна чырванее, згледзеўшы небяспеку на шахматнай дошцы.

— Назад хадоў не даю. Каралева ўзята.

— Настойваеш? — Казімір глядзіць на Віктара з усмешкай.

— Так.

— Як хочаш... А, можа, перадумаеш?

— Твой ход! — сярдзіта, не зважаючы на іронію Казіміравых слоў, загадвае Віктар; лоб яго ўзмакрэў і блішчыць ад поту.

— Мой? Калі ласка... У такім выпадку — ён зусім просценькі. Ходзіць пешка...

Рогач нахіляецца да Казіміра, нешта шэпча яму на вуха, потым штурхае мяне локцем, штосьці гаворыць. Але мая ўвага цалкам там, на шахматнай дошцы.

Віктар прайграваеі Мабыць яшчэ раней, назіраючы за гульнёй Рогача, Казімір прыкмеціў яго памылку, прадумаў партыю і цяпер, знайшоўшы правільнае заканчэнне, імгненна адказвае на кожны Віктараў ход.

Казімір гуляе моўчкі, твар яго строгі і спакойны.

Казіміраў спакой даводзіць Віктара да шаленства; ён пагардліва адкідвае шахматы рукою і ўскоквае. Твар у яго чырвоны ад злосці.

— Гэта не гульня! Спачатку адзін, цяпер другі сеў. Не люблю!

— Што ты не любіш?

— Гэтага вось і не люблю.

— Не любіш прайграваць,— усё тым жа спакойным тонам удакладняе Казімір.— Гэта мы ведаем...

— Радасці! Дагуляў чужую партыю! Паспрабуй сваю зрабі... Садзіся, я пакажу табе, як трэба гуляць!

— Не пахваляйся, едучы на раць...— пад дружны рогат раіць Пятро.

Віктар яшчэ болей чырванее; вочы глядзяць на ўсіх нас дзёрзка і нядобра.

— А ты, Пецька, памаўчы. Ты ж нават у шашкі гуляць не можаш. А сунеш свой нос...

— Не ўмею, Віця, у шахматы. Святая праўда, не ўмею,— з прастадушнай даверлівасцю згаджаецца Пятро.— Але ж затое нікому і не прайграваю. І табе раю: кінь шахматы, пераключайся на каменьчыкі. Тут я цябе абстаўлю...

Мы зноў рагочам. Рогач, хаваючы ўсмешку, гаворыць:

— Пажартавалі, хлопцы, і хопіць. Работка чакае. Трэба сёння пліты паставіць, бо нешта зноў збіраецца падобнае на дождж...

Неба, сапраўды, хмарыцца; сцяжок на вежы крана вісіць нерухома, ад сырога жвіру патыхае парнай вільгаццю.

Віктар глядзіць на неба, моршчыцца:

— Як цяпер катлаван ачысціш...

— Мабыць і не чуў, што Бугрым казаў? — Рогач пытае гэта са спачувальнай усмешкаю.— Рыдлёўкамі. Самую вялікую, як і загадана ўпраўленнем, бяру сабе...

Мы ідзём у бытоўку — рыдлёўкі ляжаць там. Віктар усё яшчэ ніяк не можа супакоіцца,— падумаць толькі: прайграў! — злуецца, размахвае перад маім носам рукамі.

— Бачыш? — скардзіцца ён.— Рыдлёўкі мне няма...

— Паглядзі лепей у тым кутку. Пад дошкамі, пад дошкамі... Ну, вось цяпер кожнаму ёсць.

Віктар нічога не адказвае. У катлаване — мы пачынаем раўнаваць сцяну, што асела ноччу,— ён працуе з упартай злосцю незаслужана пакрыўджанага чалавека.



Рогач крыху памыліўся ў сваіх падліках. Мінае адна гадзіна, канчаецца другая, а прабіта толькі адна траншэя — у тарцы падмурка будучага дома. Праўда, за гэты час пакладзены і апорныя пліты — мы баяліся, каб крохкая сцяна жвіру не асыпалася зноў.

Цяпер застаецца самая доўгая траншэя, праўда, яна неглыбокая — завал тут зусім невялікі. Настрой ва ўсіх прыкметна палепшыўся. Нават Віктар не стогне больш. Ён зняў кашулю і, калі коўш напаўняецца з коптурам, першы круціць рукою над галавой — дае сігнал кранаўшчыку.

Прабіўшы траншэю, кладзём апорныя пліты. На ўкладку кожнай ідзе пяць мінут. А потым, пакуль кран прыцягне новую, у нас ёсць дзве мінуты адпачынку.

Я сяджу на вільготным пяску; побач стаіць Пятро і вачыма, поўнымі дзіцячай наіўнасці, глядзіць на Віктара.

— Ці ж праўда гэта, Віцька, што летась ты гуляў на першынство горада па шахматах?

— У цябе не спытаў...

— Дзівак, і яшчэ злуе.— У голасе Пятра тая ж, што і ў вачах, наіўнасць і дабрадушша.— Ды проста хачу ведаць, бо казалі, быццам прыязджаў Батвіннік.

Дакладны і хітры разлік: Віктар не можа пакінуць і не пакідае такую недакладнасць без адказу.

— Хлусня,— аўтарытэтна заяўляе ён.— Да нас Батвіннік ніколі не прыязджаў!

— І мне так здавалася. А цяпер бачу — праўда. А чаму, ты не ведаеш?

— Няма яму іншай работы! Ды калі яму ўсе гарады аб'ездзіць — жыцця не хопіць...

— Не, Віця, тут, мабыць, зусім не так было,— праставата гаворыць Пятро.— Думаю, што спалохаўся ён: а што, маўляў, як з Віцькам пасадзяць гуляць! Аблапошыць. Таму і не паехаў...

Разам з усімі рагоча і Віктар, рагоча ненатуральна звонка, і я заўважаю, што ягоны голас не зусім шчыры. Не, яшчэ не ўсё дараваў ён нам, хоць і намагаецца схаваць гэта.

Кран цягне апошнюю — на вугал падмурка — пліту. Яна павісае над траншэяй, мякка садзіцца на грунт; амаль адначасова з Барысам заўважаем: пліта нестандартная.

Барыс абураецца:

— Чорт бы іх там пабраў! Як цяпер паставіш?

Віктар, здаецца, адзін бачыць, што трэба рабіць.

— А ведаеш — проста... Сунем — і ўсё. Зямлёй засыплецца — тысячу гадоў прастаіць.

Рогач, сцяўшы губы, глядзіць на пліту, пляскае па ёй даланёю і кідае кароткае:

— Мяняць!

Рыпнулі тросы; чмякнуўшы, пліта адрываецца ад вільготнай зямлі і, зусім не гайдаючыся, ціха выплывае ўверх з катлавана.

На дно траншэі, калі пліта скранулася з месца, асыпаюцца дробныя, рыхлыя камяні. Зграбаю іх і ў той жа час чую, як за насыпам нешта суха трашчыць і глуха, аж здрыгануўся дол, грукае. Гучна, як вялізныя струны, гудуць тросы крана.

Віктар ужо выкараскаўся з катлавана, стаіць на жоўтым жвіры насыпу, рагоча і ў вялікім узрушэнні ўзмахвае рукамі.

— Го-го-го! Карці-іна, хлопцы! Сініца хату скапуціў!

Лезу на насып, да Віктара. Але тое, што бачу, не выклікае ў мяне весялосці.

Сініцын не разлічыў, і цяжкая, на паўтары тоны, пліта крыху зачапіла хляўчук і вугал плота, якім абгароджан даволі ладны садок за насыпам. Плот паваліўся, падмяў парэчкі і малліннік, а хляўчук — нізенькі, з чорнага бярвення — колькі яму там трэба было! — скасабочыўся, асеў; сярод бэлек, недзе ўглыбі, верашчыць свінчо.

На ганак хаты,— старой, драўлянай, абшаляванай і пафарбаванай ў зялёны колер,— што стаіць крыху воддаль ад хлеўчука, за яблынямі, выбегла жанчына з бліскучым палонікам у руцэ. Нейкі час — дрэвы закрываюць ад яе павалены плот і разбураны катух — яна стаіць, слухае, ніяк, мабыць, не могучы даўмецца, што ж гэта здарылася. Потым, пачуўшы віск парасяці, борздзенька кідаецца з ганка на сцежку.

Дзверына хлеўчука — маленькая і таксама пафарбаваная ў зялёны колер — перакасілася, не паддаецца. Гаспадыня вісне на клямцы, потым адбягаецца, глядзіць на нас; выцягнуўшыся шнурам, мы стаім на насыпе.

— Ай, што ж яны гэта нарабілі! Што нарабілі, паразіты! Людцы, людцы, паглядзіце ж вы!

Свінчо ў хлеўчуку, пачуўшы знаёмы голас, верашчыць, як рэзане. Гаспадыня ярасна тузае дзверыну, спрабуючы адчыніць.

— Дзюшачка мая! Дзюшачка родная! Ды што ж вы стаіцё? Ратуйце, паразіты няшчасныя!..

Мы з Віктарам кідаемся на помач, з усяе сілы напіраем на дзверыну плячамі. Дзверына крыху прачыняецца, і праз шчыліну ў сад выслізгвае ладны пярэсты парсючок.

— Гу-гу-га! — галёкае Віктар.

— А каб жа табе ў пячонках гугулася! — застагнала гаспадыня і заехала Віктару палонікам па плячах.— Я ж табе, вісус дурны, папакажу-у!

— Аё-ё-ёй! Забіваюць!..

Смеючыся, Віктар адбягаецца да Рогача; прараб злез з насыпу і таксама кіруецца да хлеўчука.

Гаспадыня, ваяўніча размахваючы палонікам, падступае цяпер да Рогача.

— Зараз жа каб мне плот стаяў! І хлеўчучок. Новенькі вы мне цяпер паставіце. Новенькі!

— Навошта ён вам, цётачка,— Віктар пакрысе набліжаецца.— Пазносяць усё тут. На Кастрычнік кватэру дадуць, з ваннаю...

— Чакай, Віктар,— спыняе яго Рогач, робячы знак адысці.— І вы, гаспадынька, дарэмна хвалюецеся. Зараз усё папр авім, як належыць...

За хатаю верашчыць свінчо. Гэта на нейкі час выратоўвае нас: жанчына кідаецца туды. Але яна варочаецца зноў, калі мы, паставіўшы новы слуп, мацуем да яго плот. Слуп новы, моцны, глыбока ўкапаны. Гаспадыня навальваецца на яго грузным целам, учапіўшыся аберуч: слуп крыху нахіляецца.

— Ці ж так мой слупок стаяў? Не скранеш! А гэты? Ён жа ад ветру хістаецца! Калі не перакапаеце — скаргу падам. Я ведаю, куды пісаць. Ведаю!

Нават маўклівы Ткач і той, урэшце, не вытрымлівае:

— Аціхні, цётка! Як мае быць слуп укапаны...





— Я вам яшчэ не гэтак аціхну! Я вас яшчэ ў міліцыю пацягну! Колькі малінніку зглумілі. А парэчкі? А вой жа ты вой! Што ж гэта робіцца!..

Ткач ужо сам не рады, што зачапіў жанчыну, і маўчыць. Віктар міргае яму, нечакана плёхаецца на мяккі жвір насыпу, стогне гогласна, каб чула гаспадыня.

— Ай, Пятро, рука баліць! О-о-ёй-ёй, баліць... Зламалі мне руку тым жалезным палонікам.

Віктару да спадобы гэтая гульня; ён надзвычай хутка ўвайшоў у ролю пакрыўджанага, так хутка і натуральна, што адразу ж і здзівіў і напалохаў жанчыну. Узрадаваны гэтым поспехам, ён ужо не можа спыніцца, стогне яшчэ грамчэй, выцягвае наперад сагнутую руку, і пальцы на ёй адразу растапырваюцца.

— Во як рука цяперака скрывілася! Калека! Дазвольце, брыгадзір, пайсці ў бальніцу па даведку? А заўтра — у міліцыю, а потым — у суд. Няхай бюлетэнь мне аплоціць.

Усё выходзіць у яго вельмі натуральна,— і голас, і скрыўлены ад болю твар,— і толькі па веях, што дрыжаць на прыплюшчаных вачах, я здагадваюся, як цяжка яму стрымліваць смех.

Жанчына ўтрапёна аціхае, потым скоранька шыбуе сцежкаю ў другі канец саду. Яна больш не падыходзіць да нас, корміць ля ганка парсюка — адтуль далятае сытае ціхае рохканне.

Ткач прыцёг з прарабкі клямары, жалезныя, з рэдкай, але глыбокай насечкай на загнутых канцах. Мы змацавалі імі бярвенні ў сцяне хлеўчука, падправілі дзверыну.

— За гэтую работу і паўлітэрка належыць,— жартуе Віктар; ён ужо «здаровы» і прыбівае аполкі ў плоце.— Яшчэ дзякуй няхай скажа, бо цяпер мацней, чымся было.

Ткач злосна ўзмахвае рукою.

— Няхай лепей адчэпіцца. Колькі засталося тут стаяць гэтаму хлеўчуку? Да восені. А звягі?.. Болей гадзіны — як таму свінчаці пад хвост... Даўно б сваё кончылі...

Мы зноў лезем у катлаван і хутка ставім апошнюю пліту падмурка. Праца ідзе спорна і весела. У нашых жартах вельмі часта ўпамінаецца той палонік, што быў у руках жанчыны. Віктар не крыўдзіцца: круціць рукою над галавой — сігналіць кранаўшчыку — і рагоча:

— Глядзі, Сініца, прарабкі нашай не абярні... Куды ў дождж схаваемся? Пільнуй будан!

Да канца дня пасняваем пакласці першы рад блокаў. Рогач — ён задаволены незвычайна — аглядае катлаван, ледзьве прыкметна ўсміхаецца і сам памагае нам несці ў прарабку ламы і рыдлёўкі.

У прарабцы пачынаецца вясёлая мітусня. Хутчэй за ўсіх пераапранаюцца Барыс і Пятро — яны спяшаюцца на футбольны матч: прыдзвінскія футбалісты сёння гуляюць на сваім полі з мінчанамі.

— А ты чаго валыніш? — Рогач паглядае на Віктара.— Ці скруцілася каруселька?

— Точна. Зламалася машына...

Віктарава слабасць — карусель — нам вядома. Новае вялізнае карусельнае кола ўстанавілі ў парку ля Дзвіны вясной — з таго дня Віктар вельмі часта па вечарах гібее там. На мінулым тыдні, зусім выпадкова, я раскрыў сакрэт гэтага захаплення: не карусель, а бібліятэкарка маленькай чытальні, што ў другім баку парку, цягнула яго туды. Віктар папрасіў мяне нічога не казаць хлопцам. Я абяцаў, хоць і здзівіўся: у брыгадзе паміж сабою мы нічога не ўтойвалі.

— А ўчора, між іншым, карусель працавала...

Адчуваю, што Казімір гаворыць гэта знарок.

— Значыцца, адстаўка табе, Віця,— жартуе Рогач.— Ды прызнайся, ніхто цябе за гэта не папракне. Дзяўчаты цяпер капрызныя...

Віктар шматзначна падміргвае яму.

— Точна, брыгадзір. Адстаўка поўная на сягоння. Запланаваны вечар адпачынку і цыганскіх рамансаў. Прыйдзеш, Лявон? Ёсць новы запіс...

Хіба ён не ведае: у нас з Валяй кіно!

— А ў цябе, Казя? Заходзь, калі час ёсць...

— Няма.

— Праўда ж, ты цяпер каруселіш? Жадаю ўдачы!

Казімір бы і не чуе зусім Віктаравых слоў; спакойным кіўком галавы развітваецца і шнуруе да вуліцы. Услед за ім цягнуцца прараб, Сініцын і Ткач — усе яны жывуць на Задзвінні: аўтобусны прыпынак хоць і побач, але ехаць доўга.

Сёння адзін толькі я не спяшаюся: білеты ў нас з Валяй на дзевяць гадзін.

І справа не толькі ў гэтым.

Люблю, застаўшыся на адзіноце, глядзець на тое, што мы зрабілі за дзень усёй брыгадаю. Маўклівыя рэчы абкружаюць мяне, і добра глядзець на іх і думаць. Толькі здаецца, што яны маўклівыя. Варта пастаяць над катлаванам, паслухаць, і тады ўсё вакол поўніцца сваімі гукамі, цікавымі і незвычайнымі. Цененька-цененька шалахціць, асыпаючыся, падсохлы за дзень жвір на касматых грабянях насыпу; ходзіць вецер у штабялях блокаў, здзьмухвае з белых брусоў лёгкі шэры пыл, і блокі ледзь чутна спяваюць; нерухома вісяць тросы крана, бліскучыя і тонкія ў промнях сонца: вецер кратае іх цёплымі, не частымі подыхамі, і ў сталёвых нітках тросаў абуджаецца няясны спеў, таксама далёкі і невыразны, поўны таямнічасці.



За спіною чую крокі і ціхае прастуджанае пакашліванне — ідзе Грушаль. Крокі ў яго цяжкія, нейкія працяглыя, быццам чалавек валачэ ногі па зямлі: чуваць, як рыпіць жвір.

Грушаль спыняецца побач. Ён бачыць пакладзеныя ў катлаваны пліты і блокі, але маўчыць, павольна закурвае і працягвае мне пачак грузінскіх папярос. Я ведаю, што іх прысылае яму ягоны брат з Грузіі, ведаю, што Грушаль зараз спахопіцца, як гэта робіць заўжды, бо прапаноўвае папяросы чалавеку, які зусім не курыць.

Але сёння Грушаль стаіць маўклівы і засяроджаны. Потым спакойна, быццам усё яшчэ ўзважваючы штосьці, закрывае папяросны карабок, хавае яго ў кішэню.

— У каго гэта з рускіх паэтаў: «Построю дворцы ледяные, каких не построит народ...»? Не памятаеце?

Пытанне бянтэжыць мяне. Яно такое нечаканае, што я, разгубіўшыся, не магу адказаць. Адчуваю, што чытаў, што дужа знаёмае, а вось адкуль — не магу прыгадаць...

А Грушалю ўжо, відаць, і не патрэбен мой адказ.

— Рогач, мабыць, пайшоў дамоў?.. Хацеў я цягнуць яго на стокватэрны. Паўдня мы там біліся. І што аказалася? Звычайны вадаправод. Знайшлі трубу, і — кропка. А бульдозер вам Жаўняровіч даў?

Ён слухае мае кароткія тлумачэнні, зноў аглядае першы рад блокаў на дне катлавана і скупа, стрымана хваліць:

— Але ж і падабраў сабе Рогач хлопцаў! Пазайздросціш... Даўно ведаю: з галавой ён. І таму баюся, што пацягне яго Якімчык да сябе.

— А мы не аддамо!

Грушаль звонка рагоча.

— І ён пра вас гэтак жа гаворыць. Баіцца, каб не раскідалася брыгада. Што, інстытут ваш маўчыць?

— Але...

— Гэта ў іх бывае. Канцылярыя, відаць, блага працуе. Самае паганае, мой юны сябар, калі канцылярыя робіць не тое, што трэба...

Моцным узмахам рукі ён адкідвае ад сябе асмалак і, скасавурыўшыся, глядзіць на мяне; цень заклапочанасці знікае з ягонага твару, тонкія зморшчынкі збіраюцца ля вачэй, і тоўстыя абветраныя губы ламае хітраватая і ў той жа час добрая ўсмешка.

— Што так паглядаеце, мой юны сябар?.. Здзіўляецеся?

— Крыху.

— І яшчэ думаеце ўпотай: што ён вярзе тут, стары Грушаль?.. А мне, па-шчырасці, шкада проста...

Каго ён шкадуе? Незвычайна і крыху дзіўна гучаць гэтыя словы. Але Грушаль не хлусіць, ён заўжды гаворыць праўду. Калі не хоча гаварыць праўды, лепей змоўчыць, але хлусіць не будзе. Дзіва, каго ж яму цяпер шкада? Мяне і Віктара?.. Відаць, нешта з інстытута прыслалі на ўпраўленне.

— Шкада,— працягвае сваю думку Грушаль, нібыта ведае, што я чакаю тлумачэння.— Шкада Рогача: не хоча ён адпускаць такіх харошых хлопцаў з брыгады. Гаварылі, скажу па сакрэту, учора ва ўпраўленні пра замену. Нічога пэўнага не вырашылі. Брыгадзір ваш абы-каго не хоча....

А Рогач каб жа слоўца ці мне ці Віктару пра тую размову! Ён, увогуле, нічога не гаворыць пра наш ад'езд, быццам мы нікуды не збіраемся і будзем у ягонай брыгадзе заўсёды. У шчырай развазе Груша-

левых слоў, шкадаванні нават, што хутка нас з Віктарам не будзе на будоўлі, я раптам — зусім нечакана для сябе — бачу новага Грушаля, зусім не таго старшага прараба, якога сёння раніцою, ідучы да тэлефоннай будкі, лаяў і да якога ставіўся з пагардаю, бачу свайго паплечніка і адчуваю яшчэ большую радасць ад таго, што ён не забыў і памятаў пра мяне і майго сябра. Цікава, а каго ж прапаноўвалі ім ва ўпраўленні замест нас? Спытаць?.. Не, гэта не зусім і добра...

— Значыцца, графік вы цяпер зноў пагналі?

— Вядома,— адказваю я і паціскаю працягнутую для развітання руку Грушаля.— Калі не затрымаюць блокі і раствор...

— Будзем спадзявацца. Яны, увогуле, абяцаюць...

Грушаль ідзе з пляцоўкі, марудны і крыху згорблены,— так ходзяць звычайна ўсе стомленыя людзі; нечага спыняецца ля нашай бытоўкі, але не падыходзіць да яе і зноў шыбуе далей.

Выходжу на вуліцу і я.

Іду пешкі, мінаючы трамвайны прыпынак. Вось і тэлефонная будка. У будцы цяпер стаіць дзяўчына, крыху нахіліла галаў, і тэлефонная трубка, прыціснутая да вуха, схавана пад пышнымі чорнымі валасамі.

Гарачая хваля б'е мне ў твар. Валя?! Куды яна звоніць? І чаму тут?.. Не, не... Гэта ж не Валя зусім!

Дзяўчына паварочвае галаву, і я бачу круглаватыя вочы, поўныя нецярплівага чакання. Як я памыліўся! І тым не менш, стаю ля тэлефоннай будкі і гляджу на дзяўчыну ў вішнёвым плацці. Яна двойчы набірае нумар, і мне добра відаць яе пальцы: кароткія і моцныя, добра абрудзелыя на сонцы. Здаецца, што я чую доўгія і працяглыя гудкі ў тэлефоннай трубцы.

Урэшце дзяўчына выходзіць.

У яе вялізных чорных — ненатуральна чорных — і засмучаных вачах стаіліся разгубленасць і трывога.

— Працуе? — пытаюся невядома навошта.

— Так, так...— здаецца, яна толькі цяпер заўважыла мяне.— Мой нумар не адказвае толькі...

Дзяўчына борздзенька крочыць па тратуары. Вось яна дайшла да скрыжавання, павярнула ўправа і схавалася.

Прыходжу ў інтэрнат, вячэраю і кладуся на ложак адпачыць. Гартаю газету, потым бяруся за кніжку, але не чытаю і адразу ж лаўлю сябе на думцы, што не магу забыць тую дзяўчыну. Як яна падобна на Валю! І куды званіла? Настойліва гэтак званіла, і тэлефон не адказваў... «Построю дворцы ледяные, каких не построит народ...» Дык гэта ж Някрасаў! І як гэта там, ля катлавана, калі спытаў мяне Грушаль, я не мог прыгадаць!..

Радкі паэмы доўга жывуць у душы. Паўтараю іх, калі іду ўвечары да Валі, і потым пазней, пасля кіно, ідучы з ёю па вуліцы, прыгадваю зноў. Прыгадваю і задаю ёй тое ж пытанне, якім гэтак здзівіў мяне Грушаль.

Яна адказвае адразу, не задумваючыся.

— Па Някрасаву ў мяне было пытанне на выпускным, у школе. Хочаш зноў наладзіць экзамен?..

Расказваю ёй пра Грушаля, пра тое, што мы рабілі ўдзень, пра дзяўчыну, якую бачыў у тэлефоннай будцы.

— Прыгожая? — пытае Валя і нават прыпыняецца.

— Нават не ведаю! Спачатку здалося: ты стаіш! І спыніўся, і нават папытаў, ці працуе тэлефон...



— Значыцца, ты будзеш прыпыняцца ля кожнай дзяўчыны, якая хоць трошкі падобная на мяне?

Я бачу чорныя, з смяшынкаю, Валіны вочы. Але голас!.. У ім ёсць нешта ад тых інтанацый, што чуліся ўдзень, калі званіў ёй. Жартуе яна ці злуе па-сапраўднаму? Не магу даўмецца. І — не хачу нават: ад гуллівай і вясёлай рэўнасці яна робіцца яшчэ прыгажэйшая. Вядома, жартуе!

— Ты адна на гэтым свеце такая,— кажу я.— І цябе нельга ні з кім зблытаць. Ты — самая лепшая... Хіба гэта табе не доказ?

— Пераканаў, дзякую. Але болей не заглядайся на другіх дзяўчат. І не звані ўдзень. Я ж ведаю: ты званіў.

— Знарок. Каб не ўсміхалася ўсім. Нават у трубцы чуваць, як рагочуць там у вас.

— Гэта пастаўшчыкі. З завода бетону...

— Няхай нават з бісквітнай фабрыкі. Са мною ты павінна размаўляць крыху мякчэй.

— Дзіўны ты... Незнаёмыя людзі ў пакоі, і ў кожнага — справы. Тэрміновыя. А я табе ў трубку: «Лёнечка, дарагі...» Падумай, што ты гаворыш!

— Вось я і думаю, каб званіць табе часцей.

Яна нахіляецца, з пільнай увагаю ўглядаецца ў мой твар; я бачу адбітак яго ў Валіных зрэнках, сэрцам адчуваю цеплыню і ласкавасць яе вачэй.

— Ты будзеш мне званіць толькі некалькі дзён. Потым пазвоніш і табе нехта адкажа: яна ў нас не працуе. Разумееш?

— Ёсць адказ з друкарні?

— Так. Сёння гаварыла з дырэктарам. Урэшце ён прыкаціў з камандзіроўкі...

У Валіным голасе гучыць радаснае ўзрушэнне пераможцы, але маё сэрца не хоча прымаць гэтую радасць: мне здаецца, што было б сёння, менавіта цяпер, вось у гэтыя мінуты, лепей, каб Валя нічога не паведаміла мне. Падумаеш, гаварыла з дырэктарам друкарні! Хіба блага працаваць сакратаркай у прыёмнай галоўнага інжынера? Лінатыпы ёй усё сняцца! Што яна знайшла ў той друкарні!

Я сапраўды не ведаю, чым яе вабіць гэтая справа, чым прывабілі яе друкарскія машыны. Мы часта гаварылі з ёй пра тое, і Валя тады не пераканала мяне, што самая найлепшая спецыяльнасць — лінатыпістка.

— Упартая ты!

— Не падабаецца?

— Ёсць упартасць... І ёсць настойлівасць!

— Ты сам вучыў мяне таму. Цяпер, бачу я, не вельмі да спадобы мая настойлівасць. Ну, прызнавайся!

— Зараз я табе адкажу. Хадзем...

Мы паволі крочым вуліцаю, і я абдумваю тое, пра што хачу сказаць Валі. Сказаць шчыра, нічога не ўтойваючы. Так, не да спадобы... Хто гэта, чый голас гучыць ува мне? Пакрыўджанае самалюбства? Жаданне, каб усё было так, як гэтага хочацца толькі мне?.. Мабыць, так...

За плячыма ў Валі, зацененыя лістотай клёнаў, гараць электрычныя ліхтары. Валіны валасы здаюцца па краях светлыя, нават аранжавыя, і пад левай скроняю, там, дзе яны злёгку кучаравяцца, дрыжыць, вагаецца маленькая вясёлка. Я гляджу на той дрыготкі промнік, крыху прыплюшчыўшы вочы, і мне здаецца, што ад маленькага, крохкага ззяння струменіцца ласкавае, як бы сонечнае,

святло. І ад гэтага цяпла, ад таго, што Валя побач, слухае і даверліва паглядае на мяне, робіцца крыху сорамна за той званок удзень, і смешнай, дзіцячай забаўкай уяўляецца рэўнасць да тых невядомых людзей, што рагаталі ў прыёмнай і чые галасы я чуў; у сэрцы нараджаецца ўдзячнасць за пытанне, на якое трэба цяпер адказаць.

Я прыслухоўваюся да сваіх слоў, быццам гавару сам з сабою, і цяпер ужо дакладна ведаю: менавіта за гэта падабаецца мне Валя — за яе цвярозае, разумнае стаўленне да кожнага майго ўчынку, да нашага сяброўства, да ўсяго таго, што ёсць паміж намі.

## 2

А поўдні ліную дождж. Густы, з ветрам, але надта цёплы. Мы з Віктарам вярталіся са сталоўкі і ледзьве паспелі дабегчы да прарабкі. Віктар з разгону шмаргануў дзверы, я ўскочыў за ім, не ўтрымаўся, штурхануў яго, і мы ледзь не павaліліся.

— Не дурэйце, хлопцы! — просіць Ткач, складаючы рэшткі абеду ў зашмальцаваную, паабдзіраную з усіх бакоў цыратавую сумку.

Напроці Ткача, пры ўваходзе, на шырокім драўляным зэдліку месціцца Сініцын. Ён таксама нядобра зыркае на мяне і Віктара, але ніякае заўвагі не робіць — заняты размоваю з Ткачом.

— Што, кажаш, пад слівіны сыпаў? Прабач, не дачуў...

— Пілавінне ды попел... Ну, вядома, змяшаў як след. Трохі перакапаў зямлю і — туды. А што налета было сліў! Сказаць — не паверыш: чатыры вядры наваліла. І маладзенькая ж слівка зусім...

Знаёмая, як кожная дошка ў нашай бытоўцы, размова. Сініцын з Ткачом ніколі не ходзяць у сталоўку, прыносяць харч з дому, абедаюць тут, у прарабцы, і ніколі не сядзяць моўчкі. Мабыць, Ткач накукуецца ўдзень у сваёй будцы на кране, а потым злезе, і хочацца яму пагаварыць. Але і не толькі гэта: яны даўнія дружбакі і па садоўніцкай справе — у кожнага ёсць добры сад.

Віктар выцягвае з кішэні маленькія шахматы.

— Правядзем? Адну парцейку! Магу, Лёня, даць фору. Пешку. Нават дзве. Але ўмова жалезная: ніводнага ходу назад. Крануў фігуру — хадзі...

Віктар — ён сам цяпер набыў шахматы і цягае іх у кішэні на будоўлю — дэманстратыўна не хоча гуляць з Казімірам. Але апошнія дні выпадае вельмі мала вольнага часу: пакуль сходзім у сталоўку, застаецца ўсяго некалькі хвілін да пачатку работы.

— Табе мала дзве пешкі? — Віктар усё настойвае.

— Мне ніводнай не трэба. А тваё нахабства павінна і будзе пакарана ў чэсным баі!

— Абяцала сініца мора запаліць... Ведаеш, што цяпер яна лётае? Якімі будзеш? Белымі... Дазваляю...

— Рудымі.

— Не хочаш?

Віктар чамусьці болей не настойвае і не спрачаецца: моўчкі схаваўшы шахматы ў шырокую кішэню спяцоўкі, ён садзіцца ля мяне і разглядае вокладку часопіса — мы купілі яго ў кіёску ля сталоўкі.

Я ляжу на лаўцы, падклаўшы рукі пад галаву,— мулка, але добра. Драўляныя сцены і толевы дах прарабкі слаба гудуць ад удараў вадзяных кропель і ветру — дождж сціхае. Віктар шамаціць часопісам. У Сініцына з Ткачом гаворка ранейшая — садоўніцкія справы.



— У мяне сліва не ідзе,— сумна прызнаецца Сініцын.—І якое толькі трасцы не рабіў! І вапну сыпаў, і гною клаў, не шкадуючы. Гоніць лісце, як лес. А сліў — жменька...

— То я ж кажу: паспрабуй пілавінне з попелам. Альбо сялетры пастарайся. І восенню падсып. Паглядзіш...

Віктар кранае рукою маё плячо.

— Слухай... Ну і напісана, браце! Ці ты спіш?

— Амаль што... Лічы — сплю.

Ва ўсім целе салодкая санлівасць. І ціхі шэпт дажджу на толевым даху, і спакойная гаворка пра слівы закалыхваюць, настройваюць мяне бесклапотна, і ад гэтае бесклапотнасці прыходзяць ціхія, утульныя згадкі пра Валю, пра ўчарашні вечар.

Учора мы доўга хадзілі з Валяй у парку, потым стаялі ля яе дома — развіталіся; прыйшоў я ў інтэрнат а другой гадзіне ночы. Барыс яшчэ не спаў і сядзеў, схіліўшыся над сваім тоўстым сшыткам, увесь стол у яго быў закіданы паперамі. Я распрануўся і не хацеў перашкаджаць Барысу, ён не чапаў мяне і ўсё пісаў.

Потым, калі я амаль засынаў, ён спытаў:

— Як, Лёня, думаеш, чым гэта ўсё можа скончыцца?

— У тваім сшытку?

— Не, у тым выпадку, калі хлопец штодня прыходзіць амаль на світанні...

— Вяселлем, Барысе, вяселлем...

Ён пагасіў настольную лямпу — выйшаў пакурыць, і я адразу заснуў. Спаў добра і моцна да ўсходу сонца. Калі яно ўзышло, я прачнуўся, паглядзеў на Барыса — ён моцна спаў,— павярнуўся да сцяны, каб святло ад вокнаў не біла ў вочы і зноў заснуў.

Прарэзліва рыпяць дзверы прарабкі. Уваходзіць Рогач, смяецца і гучна плёхае мокрай кепкаю па далоні.

— Во, жытуха людзям! Суха. Цёпла. І камароў няма. А чаму госця не сустракаеце? Гаспадары!

Побач з прарабам стаіць дзяўчына. І хоць цяпер замест малінавага плацця на ёй чорны рабочы гарнітур, я адразу і беспамылкова пазнаю: яна! Неверагодна! Падобна на казку ці сон!..

— А на вуліцы дождж.

Цяпер ужо і голас пераконвае мяне: так, гэта яна стаяла тады ў тэлефоннай будцы. І ніякага сну няма, і тое, што я бачу і чую,— сапраўднасць.

Дзяўчына моўчкі сцягвае з галавы бліскучую ад вады празрыстую хусцінку; густыя чорныя валасы рассыпаюцца па вострых плячах. Усе мы моўчкі сочым за ёю і таксама моўчкі пазіраем на Рогача: мы чакаем тлумачэнняў. І ён, ловячы нашы здзіўленыя позіркі, ледзь прыкметна ўсміхаецца, голас яго будзённы і звычайны:

— Да нас у брыгаду падсобніца. Загадана ўпраўленнем. Сядайце, таварыш Гарохава. І прывыкайце. Народ у нас баявы... І працуе, бачыце, лежачы ці седзячы...

— Гарошка маё прозвішча. Я ж вам казала... Зіна Гарошка.

Яна незадаволена папраўляе рукою валасы над ілбом: не прыняты ні жарт Рогача, ні наша маўклівая насцярожанасць.

— Гарошына, гарошына! Якая ж ты харошая...

Праараб моўчкі, спадылба зыркае на Віктара, і ён, сумеўшыся, змаўкае. Праўда, на нейкі час. Амаль імгненна перасіліўшы разгуб-

ленасць, непрыкметна дае мне штурхаля, падсоўвае скрынку да Зіны.

— Сядайце, Зіначка!.. Цяперака глядзіце, слухайце і запамінайце прозвішчы ўсіх гэтых гультаёў...

Ён гаворыць з Зінаю вольна, нібыта даўно і добра ведае яе, хутка, як алоўкі, пералічвае нас. Мне сорамна за гэтую ягоную бесцырымоннасць і вельмі прыемна, што Зіна не бянтэжыцца, з іранічнай спагадай успрымае і Віктараву гуллівасць, і жартоўную гасціннасць.

— Досыць лічыць, досыць! У вас тут утульна. Толькі брудна дужа...

Яна акідвае хуткім позіркам нашу прарабку. І ўслед за ёю мы таксама аглядаем шурпатыя сцены, смецце па кутках і неахайна звалены інструмент. Мы маўчым. Толькі Рогач невыразна хмыкае, і цяжка зразумець, што хаваецца за гэтым: нязгода ці ўхваленне нечаканых, але зусім справядлівых слоў.

— А ваш прараб, ведаеце, не хацеў мяне браць у вашу брыгаду...

Рогач ускідвае галаву і цяпер ужо зусім выразна хмыкае: незадаволены. Але сказаць што-небудзь ці запярэчыць не паспявае.

Зіна вельмі хораша ўсміхаецца; яе зусім не бянтэжаць нашы позіркі.

— Так, так! Я сядзела ў прыёмнай і чула, як вы спрачаліся ў кабінеце галоўнага інжынера. І тут нейкая незадаволенасць ва ўсіх... А я прыйшла працаваць. Як усе... Старанна... Вы што, сумняваецеся?..

Цішыня была адказам на гэтую шчырасць і просты, па-дзіцячы наіўны папрок. Цішыня разгубленасці і непамыснасці. Нешта наважыўся быў сказаць Сініцын. Віктар апярэдзіў яго.

— Нікольні! Нікольні, Зіначка! На шчырасць мы адказваем шчырасцю: прымаем у брыгаду з вялікай ахвотаю. І прызнаемся, што спачатку мы разгубіліся, бо людзі ў нас сціплыя, як вы па мне бачыце, незвычайна. Ну, зірніце вось на яго... Лёня, падніміся! Хаця не, пачынаць трэба з самага прыгожага. Таму пачнем...

Зноў рыпяць дзверы прарабкі. На парозе, асветленым сонцам, стаіць Казімір, прытрымлівае дзверы рукою; у нашу камору ліецца яркае святло.

— Чаго седзіцё? Дажджу няма даўно!

— Калі ласка,— з падробленым шкадаваннем гаворыць Віктар,— Свірыдаў. І за тое, што ён прынёс нам радасную навіну пра сонца, паставім яго наперадзе мяне. Казімір, падыходзь сюды і знаёмся... Вось, Зіначка, той, каго я меў на ўвазе. Справядлівасць дык справядлівасць!..

Можа ад сонечнага святла, можа ад вясёлай Казіміравай усмешкі Зінін твар пераменіўся, ранейшая насцярожанасць прапала: яна доўга і ўзрадавана трэсла Казіміраву руку.

— Значыцца, на будоўлю пацягнула? — спытаў Казімір, і гэтае пытанне было як бы працягам нейкай даўняй гаворкі.

— Але... Як больш!

— І правільна. Вельмі правільна.

Казімір ведаў Зіну? Вядома! Гэта ж адразу відаць. Але адкуль?

Нешта падобнае на зайздрасць нарадзілася ва мне. Так, я зайздросціў той упэўненасці, мужнай і спаважнай прыстойнасці, з якой Казімір паціскаў працягнутую Зінай руку, гаварыў аб сваёй радасці бачыць яе тут, на будоўлі, у нашай брыгадзе.

З пляцоўкі нас ужо кліча Рогач.

Сонца нібыта ўвагнала шырокія промні ў зямлю і, абапіраючыся на яе, рассоўвае калматыя хмары, гоніць іх прэч ад бяздонных блакітных азёраў, што ўвачавідкі шырэюць у высі над намі; рэдкае, як



пыл, дажджавое сяйво асыпаецца з той высі, ззяе і блішчыць. Цэментавы раствор на драўляных шчытах пусціў звілістыя і тонкія, капуснага колеру, ручаі, і яны цякуць да катлавана, левы край якога зноў асеў і асыпаўся. Але гэта, калі мы паспелі ўцісн ўць туды апорныя пліты і два рады блокаў, ужо не страшна: няхай цяпер асыпаецца!

Рогач радасны і ўзбуджаны; яго грубаваты, пабіты рабаціннем твар здаецца прыгожым.

— А каб чакалі бульдозера? Паспрабуй, пакладзі пліты ў гэткай сырызне! А так — працуй і пасвіствай...

— Можам, брыгадзір, можам!

Казімір, прарэзліва свіснуўшы, скокнуў з насыпу ў катлаван. Рогач строга, але не сярдзіта грозіць яму пальцам — ён задаволены ўчарашняй работай, і дзіцячая гарэзнасць Казіміра яму да спадобы цяпер.

Ва ўсіх — я адчуваю гэта — добры настрой. Радасна, мабыць, ад таго, што пераціх дождж, што паспелі своечасова пакласці пліты, і цяпер мы зноў увойдзем у графік і, можа, нават абгонім участак Жаўняровіча — нашага даўняга саперніка.

Асабіста ў мяне да гэтай радасці прымешваецца яшчэ нязнанае раней узрушэнне. Гляджу на Зіну, а думаю пра Валю, уяўляю сабе, як мы сустрэнемся сёння ўвечары, як будзем гаварыць з ёю і як яна здзівіцца, калі пачуе пра дзяўчыну ў малінавай сукенцы. Напэўна, зноў спахмурнее, зірне падазрона і насцярожана і будзе маўчаць і слухаць. Што гэта, рэўнасць? Наўрад. Але чаму і сёння мне хочацца, каб было тое ж, што і ўчора? Хочацца, каб Валя сердавала, з падазронай увагаю прыслухоўвалася да кожнага майго слова і хвалявалася, не маючы ніякае падставы на гэта... А потым за кароткай хвілінкаю наіўнай і нясмелай падазронасці накоцiць хваля пяшчотнасці, удзячнасці, асаблівай і чулай цеплыні...

Работа ідзе ў нас спорна, і сцены падмурка растуць увачавідкі. Казімір увесь час насвіствае, часта паглядае на штабялі, дзе Пятро з Ткачом чапляюць пад кран блокі, падганяе:

— Гэ-гэ-гэ-ээй, блокшчыкі! Не адставай давай! Нам работкі хочацца!..

— Вас пяцёра там... А мы тут — удвух.

— А кран, Пятро, чаму не лічыш? — Віктар прыходзіць Казіміру на дапамогу.— Ён дзесяць чалавек замяніць.

— Такіх, як ты, Віця, трэба дваццаць. Толькі каб маўклівыя былі, моўчкі рабілі...

Не вытрымліваю і я, гукаю весела:

— А я не здатны моўчкі. Нам каб гудзела ўсё вакол, спявала. Тады прызнаем: работа!

— Бярыце, бярыце! Работкі вам дамо!

Мы з Віктарам крыху правалаводзіліся, выпраўляючы вуглавы блок, і вось ужо новы — плыве, сунецца з высі на нас.

— Ну як, Віця, запарыліся там? — крычыць Пятро.

— Вам там добра, з ветрыкам...— апраўдваецца Віктар.— А тут, як у лазні, прыпякае. Дыхнуць няма чым!..

Хмары сплылі ўжо зусім; у катлаване зацішак, вецер не можа прабіцца праз высокія завалы жвіру, і сонца смаліць нам у плечы неміласэрна. Паскідалі спяцоўкі, потым нават кашулі і працуем у майках. Урэшце і майкі — далоў. Усё роўна горача і душна па-ранейшаму: пот залівае вочы.

Са штабеля, што схаваны ад нас высокім насыпам, як па канвееры, няспынна плывуць у катлаван блокі. Рогачу вельмі па сэрцы гэты шалёны рытм. Ён таксама скінуў майку, засунуў яе ў кішэню, паглядае на нас бліскучымі вачыма; у голасе — вясёлы імпэт.

— Растворчыку! Растворчыку трэба!

— Канчаецца раствор, таварыш брыгадзір. Апошні коўш наскрабла...

Гэтае, з павагаю сказанае Зінаю «таварыш брыгадзір» нібыта выводзіць новую грань паміж намі і Рогачам: ён сам як бы крыху збянтэжаны, нават святлее з твару, прыемна ўражаны.

— Што, зусім скончыўся, Зіначка?

— Няпоўны коўш. І ўсё...

— Э-эях...

Рогач гатовы ўжо і вылаяцца, але, у час спахапіўшыся, нешта прыцішана і невыразна хмыкае; уголас, для Зіны ўжо, гукае з катлавана:

— Адпачніце там. Павінны падвезці раствор...

На тым растворы, што вывернулі мы з няпоўнага каўша, ставім яшчэ пяць блокаў; сцяна амаль завершана.

— І адбой цяпер,— загадвае Рогач.

Віктар сцеле на блок кашулю, кладзецца загараць.

— Якраз цяпер ультрафіялету шмат. Прыстае добра...

— Вось як прыстане скразнячок — будзеш ведаць. Апраніцеся, хлопцы!

Рогач выцягвае з кішэні скамечаную, у пісягах майку і, абцёршы твар і шыю, нацягвае яе на мокрыя ад поту грудзі; потым надзявае і кашулю.

— Горача!

Я падстаўляю сонцу разгарачаны твар. У грудзях пеніцца радасць. Стомы няма, і хочацца працаваць і працаваць, класці блокі, радавацца сонцу і жартаваць.

Казімір з Барысам таксама не надзяваюць кашулі. За лета ўсе мы добра зарудзелі на сонцы і цяпер з гонарам выстаўляем свае як бы мядзяныя ад загару плечы і грудзі.

У Віктара выспела ўжо летуценная прапанова.

— А во каб на рэчаньку... Ды кульнуцца! А што, брыгадзір, можа сапраўды плетануць на Дзвіну? Трасцу яны нам сёння падвязуць той раствор! Як твая думка, Барысе?

Барыс — ён у рэдкім выпадку ўхваліць што-небудзь нерэальнае — моўчкі нацягвае кашулю. Але Віктар не пакідае яго ў спакоі:

— Дык як, Барысе? Плетанём?

— Глупства гэта... Давай лепей палезем наверх. Там хоць ветрык ёсць...

— Я што казаў? Пахварэеце, а мне тады аднаму тут... Апранайся і — мар-рш наверх! Чуеш, Віцька, цябе Зіна кліча...

Рогач незадаволены; у яго голасе з'яўляюцца патрабавальныя ноткі.

— Мы — як дубы, брыгадзір,— усё яшчэ харахорыцца Віктар, але кашулю надзявае і лёгка, фарсіста ўскоквае на верхні блок.— О-о-оо! Майнэ мутэр бачу на даляглядзе! Вось каго не чакаў, дык не чакаў!..

Твар у Віктара збянтэжаны. Але не гэта здзіўляе мяне: бачу нейкі канверт у яе руках і адчуваю ў сэрцы непрыемны халадок трывогі.

— Лявон! Яна — паперу цягне! Гэта перамога! Ляцім, браце!..

Ад хвалявання Віктар крычыць сіпата, бы нешта не паспеў пра-

глынуць. Прыгнуўшыся, ён сігае з бруса на жоўты насып катлавана і бяжыць да маці, спатыкаецца, ледзьве не падае і зноў бяжыць, і з-пад ног коцяцца ўніз рудыя сырыя камякі.

— Віцюнька, Віцюнька! — як малое кураня, кліча Віктара маці.— Пісьмо з інстытута. Выклік!..

Яна стаіць ускрай насыпу — суровая і строгая ў сваім шыкоўным белым плацці — і чакае; рукі выцягнула наперад, нібыта хоча прыняць на іх сына, і сіні канверт, які яны трымаюць, уздрыгвае.

Віктар выхоплівае з матчыных рук канверт, прагна чытае.

Мне хочацца падысці да яго, і ў той жа час нешта ўтрымлівае. Выбраўшыся з катлавана, я стаю і не ведаю, што рабіць. Віншаваць Віктара? Радавацца?.. Але няма радасці, а ёсць нешта падобнае на разгубленасць, здаецца, усё гэта несапраўднае — і ўзрушэнне Віктара, і ўсхваляваныя словы яго маці, і нават гэты сіні канверт у яе руках.

— Прыняты, Лявон! Мне нават не верыцца... Чытай!

Віктар падлятае да мяне, совае ў рукі канверт. Машынальна бяру вузкі сіні канверт. Кароткае, усяго на адзін сказ, паведамленне прыёмнай камісіі. Так, Віктар прыняты. Ён — студэнт!

Густая цяжкая гарачыня раптоўна, як электрычны ток, шугае з грудзей у твар. А я?.. Чаму толькі яму выклік?..

— Збірайся, Віцюнька...— зноў, смешна, як малога, просіць маці.— У нас жа вельмі мала часу...

Гляджу на яе тонкія і бліскучыя ад густой малінавай памады губы і адчуваю, як раптоўна нараджаецца ў душы непрыязнь да гэтай жанчыны, якую я добра ведаю і якая здавалася мне раней прыгожай. Ведаю, што яна ні ў чым не вінаватая, што яна мае права радавацца поспеху сына, і тым не менш непрыязнасць жыве, сталее, і я нічога не магу парадзіць з сабою.

Віктар не заўважае мае непрыязнасці, але яму ўжо назаляе матчына клапатлівасць і вельмі не падабаецца роля малога і паслухмянага дзіцяці.

— Добра, мама. Ідзі дамоў. Я хутка прыйду...

— Ты застаешся? — яна па-сапраўднаму, шчыра здзіўлена.— А дарога... Трэба ж збірацца! Бацька пайшоў заказваць білет... Бяжы да начальства, афармляй дакументы! Гэта там спатрэбіцца!

Яна зашпільвае гузікі на Віктаравай кашулі, улюбёна ўтаропілася яму ў вочы і, апрача яго, здаецца, нікога не заўважае. Навошта было прыносіць выклік сюды?.. І Віктар... Мой сябар... Чаму ж ён не здзівіцца, чаму не папытае: «Дзе твой выклік, Лявон?.. З якое прычыны, Лявон, яго няма?..» Здаецца: запытай ён гэта — і мне будзе лягчэй, я змагу тады радавацца, спадзявацца і верыць у лепшае...

Віктар ловіць мой позірк, скіраваны на маці, і чырванее; адвёўшы яе руку ад сябе, ён неахайна совае канверт у кішэню і просіць, але цяпер грубавата, не хаваючы свае незадаволенасці:

— Добра, мама! Ідзі дамоў!..

— Падумай, што гаворыш! Гэта ж такі клопат пазбіраць усё... І да Ермаковых зайсці трэба, каб Клаўдзя пазваніла Губанавым, што едзеш. Яны ж нічога не ведаюць. Ці ты думаеш, што можна так адразу і паехаць да іх?..

— Вось ідзі і звані. А ў мяне — работа. Рабочы дзень не скончыўся. Не бачыш?..

Віктар абдымае маці за плечы. Мінуўшы прарабку, яны спыняюцца; маці зноў спрабуе пераканаць Віктара кінуць усё і пайсці разам. Мне не чутно, што Віктар адказвае, але я бачу — ён пярэчыць і нешта абяцае, паказваючы на гадзіннік.



Урэшце Віктар вяртаецца да нас, урачыста выцягвае з кішэні канверт, але аддае яго не мне, хоць я і стаю бліжэй, а прарабу.

— Ну, хлопцы, еду!

Рогач чытае вузкую паперку і кладзе яе ў сіні канверт; на твары прараба я не бачу ні захаплення, ні радасці, ні расчаравання.

— Віншую. Табе, праўда, трэба бегчы. Пакуль аформіш усё ва ўпраўленні... Не адразу яны і зробяць...

— Паспею. Цяпер нікуды не дзенецца! Галоўнае — дачакаўся... Увесь час верыў: будзе выклік! І вось...

Віктарава ўзрушэнне здаецца мне здрадай. Як ён можа радавацца, калі нічога не ведае пра мой лёс?.. Мы разам паступалі, разам хваляваліся, разам чакалі... І навошта цяпер хлусіць? Ён жа ніколі не быў упэўнены, увесь час баяўся, нёс нейкую лухту пра сынкоў «вялікага начальства», перад якімі, быццам, бы, заўжды адчыняюцца інстытуцкія дзверы. І гэта я падбадзёрваў яго, пераконваў, што трэба быць мужным і чакаць... А можа і мне ёсць выклік, і ён ляжыць у інтэрнаце, а я дарэмна хвалююся?..

Рогач кладзе сваю руку мне на плячо.

— Падбяжы ты ў інтэрнат, Лявоне. Можа і табе ёсць што...

— Праўда, Лёнька! — спахопліваецца Віктар.— Калі мне ёсць, дык і табе...

— А работа?

— Работа яму! Прастой жа ў нас!

Віктар быццам хоча згладзіць тое, што гэтак позна ўспомніў пра мяне, усміхаецца, падбадзёрвае і ўпарта даводзіць: трэба падбегчы ў інтэрнат. І можа нават яму таксама пайсці? Відаць, гэта будзе самае разумнае. Раствор, вядома, не падвязуць сёння. Пабегаць жа па тым упраўленні яму давядзецца.

— Праўда, Іван Тарасавіч, дазвольце нам з Лявонам бегчы!..

Цяжка пазнаць Віктара. Не памятаю, калі ён называў Рогача па бацьку, не памятаю, каб раней ён гэтак паддобрываўся да мяне. Прыкра ад яго саладжавай усмешкі — ніколі раней я не бачыў яе ў свайго сябра...

— Якія з вас сёння работнікі...— смяецца Рогач.— Уключайце добрую хуткасць і — габлюйце!

Мы бяжым да прарабкі, спехам скідаем свае спяцоўкі.

Толькі крыху пазней апынуўшыся на вуліцы, я нечакана прыгадваю, што ні з кім не развітаўся. Барыса яшчэ ўбачу... А Рогач і ўсе астатнія? Кінуў усіх, паляцеў, як маленькі за цукеркаю. Як жа гэта? Чаму той сіні канверт, атрыманы Віктарам, закрыў ад мяне ўсё начыста: і сяброў па брыгадзе, і наш новы дом, і маю асабістую працу... Не, не... Віктараў выклік тут не вінаваты. Прычына ва мне. Так, ва мне, у маёй эгаістычнай, самалюбівай натуры... Не атрымаў выклік... Дык што з таго? А бач ты, як усхадзілася ганарыстасць, як пыха запенілася, як закруцілася ў душы зайздрослівасць!..

Ніякіх лістоў мне ў інтэрнаце няма. Мы праглядаем пошту адзін раз, другі, абмацваем кожны канверт у вялізнай шафе стала, куды кладуць нашу карэспандэнцыю. Віктар, здаецца мне, па-сапраўднаму заклапочаны.

— Колькі разоў прыходзіць да нас пошта?

— Раніцай і апоўдні, а другой гадзіне. Сёння няма чаго чакаць болей...

— Пачакаем заўтрашняй. Свет за адну ноч, думаю, не перавернецца. Точна!..

— Няма?
— Так. Няма! Я, можа, цяпер радуюся, што нікуды не еду...
Зіна глядзіць на мяне, і той цень усё яшчэ ляжыць на яе твары; потым яна дакорліва ківае галавою, і мне здаецца, што дакарае Зіна не мяне, а кагосьці яшчэ, другога чалавека, якога цяпер тут няма, але якога ёй вельмі хочацца пераканаць.
— Чаму гэта людзі заўжды быццам саромеюцца шчырасці? Ці баяцца... Нібыта хтосьці будзе смяяцца з іх... Не разумею...
У яе позірку няма ранейшай цеплыні — такія былі ў Зіны вочы там, у тэлефоннай будцы. І ад маўклівага дакору гэтых добрых чорных вачэй, што глыбока аселі ў вачніцах, мне робіцца сорамна. Сорамна за сваю дзіцячую паспешлівасць, з якой я кінуў усё і паляцеў у інтэрнат, за ранейшыя думкі пра Віктараву маці, за сваю падазронасць да Віктара...
Сапраўды, чаму я не мог сказаць Зіне шчыра пра тое, што думаў і што зусім нядаўна адбылося? Няхай не ўсё. Але шчыра адказаць на яе пытанне хіба цяжка было?..
Прарабку мы зачыняем моўчкі.
На вуліцы развітваемся. Зіна паварочвае ўправа, а я стаю і гляджу ўслед.
— Лёнік! Лёня!
Гэта кліча мяне Валя. Яна бяжыць да мяне цераз вуліцу, а я, узрушаны і ўзрадаваны нечаканай сустрэчаю, нерухомы, як слуп.
— У-ух, як я ляцела! За дзесяць хвілін з упраўлення дабегла. Гэтак і падумала: тут цябе яшчэ знайду...
Яна кратае рукою аўтаматычны аловак у верхняй кішэньцы майго пінжака, усхвалявана і пяшчотна глядзіць мне ў вочы. Толькі яна адна можа гэтак глядзець...
— Лёнік, я ўсё ведаю. Віктар мне сказаў...
— Паспеў пахваліцца маімі поспехамі?
— Як ты можаш жартаваць?
— Усё ўладкуецца, Валюха!
— Крыўдна ўсё-ткі...
— А мне цяпер — радасна. Нават не ўяўляеш, якую радасць прынесла, што прыбегла сюды...
— Я не магла чакаць да вечара.
— І малайчына. Зараз я табе ўсё раскажу...
Дастаю з кішэні сваю насоўку і выціраю спацелы Валін лоб.
Слаўная, добрая мая Валюшка... Навошта хвалявацца, навошта бедаваць. Пакуль ты побач, пакуль ты кахаеш мяне — нам нічога не пагражае. Я асілак тады! Я магу і зраблю ўсё, што ты захочаш. І нас, удвух з табою, не адолее ніякае гора. Ніколі! Ніколі не адолее!
Няхай усе чуюць і ведаюць гэта!

## 3

Раніца.
Начная прахалода стаілася пад кудлатымі маладымі клёнамі. Ноччу ішоў дождж, і асфальт цяпер чысты, але пярэсты — яшчэ не паспеў як след прасохнуць.
Ашалела крычаць вераб'і.
Стаю ля ўваходу ў інтэрнат — пільную паштарку. Да пачатку работы застаецца шаснаццаць хвілін. Можна яшчэ пачакаць пяць...



Нават шэсць. За дзесяць хвілін, калі адразу ўскочу ў аўтобус, паспею на будоўлю, не спазнюся...
І вось урэшце — ідзе!
— Ёсць што?
— Чакаеш?
— Ведаць хочацца...
Нават не зірнуўшы ў сумку, паштарка адказвае скарагаворкаю:
— На жаль, пішуць табе яшчэ, Лявонка. Пішуць, мой даражэнькі... Хаця...
Яна выцягвае з сумкі не дужа тоўсты пачак рознакаляровых канвертаў, хуценька перабірае іх.
— Не, мой даражэнькі, не памыляюся: пішуць. Пачакай крышку...
—Не магу чакаць! Не магу! Праца чакае!
— Не гуляй дапазна! Не гуляй! — раіць мне ўслед паштарка.
Аўтобус паўнюткі, нават тырчыць са шчыліны ў дзвярах краёчак рукава: не паспеў хтосьці, прышчаміла. З натужным рыпеннем адчыняюцца дзверы. З цяжкасцю, але праціскаюся. Знаёмае цяпло металічнага корпуса. Знаёмае патрабаванне: «Давайце, таварышы, будзем плаціць за праезд!»
Новы дзень. І ўсё тыя ж, старыя клопаты.
Трымаю ў руках білет, услухоўваюся ў людскую гаману, і на душы робіцца спакойна і хораша. Прыгадваю здзіўленыя вочы паштаркі. Сапраўды, яе звычайнае «на жаль» выклікае ў людзей засмучэнне... А мне яе словы прынеслі радасць. Я і не чакаю ўжо выкліку, не хачу атрымліваць яго ні сёння, ні заўтра. Я не хачу сёлета нікуды ехаць. Учора з Валяй мы толькі апоўначы скончылі нашы планаванні, нашу гаворку пра будучае. Яна кахае мяне. І я кахаю яе. І на Новы год — наша вяселле. Навошта мне цяпер выклік!..
Ч-чорт! Праехаў свой прыпынак!
Куляю вылятаю з аўтобуса. Праз тры хвіліны на месцы. Насустрач мне з-за прарабкі выкочваецца самазвал. Значыцца, прывезлі раствор. Так, вось ён курыцца на дашчатым насціле, і Зіна падграбае яго.
— Здароў, студэнт! — крычыць мне Рогач і віншуе ўзнятай кепкаю.— А я быў думаў, паехаў!.. Дарэмна толькі сумавалі. Працуеш сёння?
— І сёння. І заўтра. І далей, пакуль не дабудуем дом. А потым паглядзім. У мяне... планы!
Ледзь не прагаварыўся, не гукнуў з радасці пра тое, што будзе на Новы год!
Рогач ляпае мяне па плячы.
— Правільна, дружа! Вучыцца табе і праз год не позна. Альбо завочна. Чаму не падумаць?
Ён па-сапраўднаму, шчыра ўзрушаны. І гэта ж відно ў Казіміравых вачах: ён здароўкаецца, але гаворыць мала, стрымана і чамусьці загадкава, ці — не магу зразумець дакладна — іранічна пасміхаецца. З кабіны крана прывітальна ўзмахвае рукою Сініцын.
Усе ў брыгадзе задаволены, што я не еду і застаюся. Усе, апрача аднаго чалавека — Зіны. Толькі яна адна раўнадушна сустракае маё з'яўленне на пляцоўцы ў гэтую раніцу: зірнула, нахіліла галаву ў адказ на маё прывітанне і зноў завіхаецца ля каўша. На галаве ў Зіны белая, з чырвонымі рыскамі, хусцінка. Прыгожая.
Першы дзень на гэтым новым доме брыгада працуе без Віктара. І дзіва: мне — я толькі нікому не хачу прызнавацца — быццам не-

чага не хапае. Віктар працаваў са смяшком, з жартачкамі і, калі справы ладзіліся, насвістваў адно і тое ж — пра капітана, якому скараюцца моры. Абрыдла была мне тая песня, я часта лаяўся з Віктарам, прасіў памаўчаць, але цяпер як бы і сумна без той мелодыі і хочацца зноў пачуць яе...

Падмурак амаль гатовы. Кран апускае пакет з цэглаю, і Рогач з Казімірам бяруцца мураваць вузкі прасценак ля дзвярэй. Мы з Барысам падносім ім цэглу і раствор.

Казімір вельмі лоўка — я раней не прыкмячаў гэтага — арудуе з цэглай. Рухі ў яго спакойныя, але ўпэўненыя і прыгожыя — можна залюбавацца. Рогач таксама не адстае, і кельмы ў іх руках пазвоньваюць, быццам спяваюць. Роўненька, па шнурочку, узнімаецца прасценак. Але надта ж марудна. Не тое зусім што блокі стаўляць... Там адзін, другі паставіў — адразу прыкметна і відно: расце сцяна. І чаму гэта раней ніхто не падумаў пра гэтыя блокі! Цаглінку да цаглінкі ляпілі. Марудна, відаць, праца ішла... І дзіва што: паспрабуй, збудуй з тых цагліначак гэткі вось гмах! Цяпер, мабыць,— ды што мабыць — пэўна! — за дзень робім болей, чым у тыя часы за поўны год!..

Урэшце прасценак выведзены. Цяпер — чарга шырокіх пліт перакрыцця. Пліты тоўстыя, з круглымі дзіркамі ўнутры. Адна пліта. Другая. Трэцяя... І адразу робяцца прыкметныя абрысы першага паверха. І на душы хораша: расце новы гмах! Расце, узнімаецца ў вышыню, да сонца бліжэй. Вельмі лёгка працуецца, калі бачыш, што выходзіць з-пад тваіх рук...

Перад полуднем на будаўнічай пляцоўцы з'яўляецца Віктар. Бяжыць па насыпу, размахвае тоўстым пакункам і, як учора, калі бег да маці, ледзьве не падае, хутка падхопліваецца і ўскоквае на толькі што пастаўленую пліту.

— Што, адвучыўся ўжо і хадзіць па нашым пясочку? — жартуе Барыс.

— Амаль што, браце-коце. А ў вас без мяне, аказваецца, падаецца работа. Першы паверх выводзіце!

— Мабыць, ты і перашкаджаў. А як пайшоў — адразу і загуло...

— Цяпер вам раскоша...

Віктар прыстуквае абцасамі — пліта глуха пазвоньвае; прыглушаны звон прападае не адразу, а нейкі час жыве ўнізе, пад плітою. Віктар услухоўваецца ў яго, зноў стукае абцасам.

— Даю прапанову: работы спыніць! Усіх запрашаю сюды!

— На мітынг з повадУ таго, што едзеш ад нас?

— Не, Барысе, без авацый. Я чалавек практычнага веку! І не люблю мітынгі.

Віктар выцягвае з пакунка бутэльку шампанскага і стаўляе яе на газеціну, побач з маленькімі чырванабокімі яблыкамі. З кішэні выцягвае пакуначак з сырам; сыр пакроены на тонкія лустачкі.

— Развітальная чарка гэта завецца. Гэ-эй, Сініца! Цягні Ткача сюды. Чуеце?

Рогач з энтузіязмам, але падазрона глядзіць на пузатую чорную бутэльку: ён і расчулены і не ведае, мабыць, якую пазіцыю яму, прарабу, трэба заняць у гэтым выпадку.

— Надумаў...— асцярожна і не вельмі строга дакарае ён.— У рабочы час абавязкова...

— Ніякі і не рабочы. Пад абед я і меціў. Ці думалі, што цішком Віцька змыецца?

Пытанне больш адрасавана мне, чым Рогачу, але я маўчу і



гляджу на Віктаравы пальцы, што здзіраюць бліскучую срэбную загортку з рыльца бутэлькі. Мне не хочацца нічога гаварыць яму: такое адчуванне, нібыта мы раней і не сябравалі і нічога агульнага ў нас не было.

— Чаго ж учора не забег?

Віктараў дакор шчыры. Адказаць на яго трэба.

— У Валі быў... Вярнуўся ў інтэрнат позна...

— А я падумаў — пакрыўдзіўся ты. Але маёй віны тут няма. Дапраўды. Будзе і табе выклік!..

— На гэтым стаіць крыж. Пакуль што...

— Дарэмна. Зноў абяцаю, пры ўсіх: прыеду і ўзніму вэрхал. Я ім там пакажу!..

Адчуваю: гаворыць ён праўду. І разумею яшчэ: трэба быць вялікадушным. Хіба я магу прымушаць Віктара сябраваць са мною, сябраваць шчыра, сардэчна! Не, вядома ж: сяброў не выбіраюць, як гузікі. Сябар, сапраўдны сябар — гэта заўжды паплечнік у змаганні і працы.

— Едзеш сёння? — Я разумею, што павінен спытаць гэта.

— Ага, Лявон. А дзесятай гадзіне цягнік...

— Памагчы дацягнуць рэчы?

— Адзін чамадан у мяне. Бацька таксі заказаў...

Ветлівасць ці простае нежаданне бачыць мяне на вакзале? Не магу зразумець...

Злазіць з крана і падыходзіць Сініцын. Чорная бутэлька шампанскага выклікае ў яго вясёлы смяшок.

— Ну-ну... Да гэтай навукі мы ўсе здатныя. Навошта, Віця, і ехаць далёка!.. Паўлюк! Цягні тамка і маю паклажу на закусь. А гарэлка тут ёсць.

— Ніякая гэта і не гарэлка! Пітво багоў! — смеючыся, пярэчыць Віктар.

— Што ты іх агітуеш, Віця? — гаворыць Ткач.— Ты сваё дзела вядзі — налівай. Толькі ці ёсць жа ў што?



— Усё прадугледжана. Як мае быць...

Віктар выцягвае з кішэні і ставіць на блок чырвоныя, састаўленыя адна ў адну, тры ёмістыя эбанітавыя пасудзінкі і пачынае адкручваць драціну з рылца бутэлькі. Руды корак пухне, спачатку паўзе марудна-марудна... Бух! Белы дымок ускіпае над верхам бутэлькі.

Пеніцца, іскрыцца на сонцы шампанскае.

— Па-першае,— жанчыне...— Віктар раздае эбанітавыя чаркі.— Па-другое,— прарабу. І табе, Сініца, за той хлявок...

Віктар і тут не ўтрымаўся, падкалоў кранаўшчыка. А Рогач урачысты і сур'ёзны.

— Ну! За шчаслівую дарогу,— прапануе ён.

Можа знарок так разлічыў Віктар, ці простая выпадковасць: мне выпадае піць з ім. Нам нават не хапае крыху шампанскага, каб чаркі былі поўныя.

— Даліем ў Маскве,— сур'ёзна абяцае Віктар.— За што мы ўзнімем?

— За навуку!

— Давай. Згода! — І Віктар высока ўзнімае чарку над галавой.— І яшчэ за ваш першы паверх!

— Тады і за апошні таксама. За — пяты паверх!

Чырвоны эбаніт здаецца барвовым, шампанскае ў ім зіхаціць агністымі колкімі промнікамі.

— Правільна, Лявонка! Ты правільны хлопец, Лявонка! — невядома з якое прычыны падхвальвае мяне Ткач.— Бяры, дарагі мой, кавалак сала... Брыгадзір, а ты чаго глядзіш? Навальвайся ўсе разам. На ўсіх хопіць...

У сумках Сініцына і Ткача, сапраўды, харчу багата: хлеб, кавалак ружавата-белага сала, вялізныя чырвоныя памідоры, гуркі і дзве шырокія — амаль у далонь кожная — катлеты.

Пра ад'езд Віктара ніхто ўжо не гаворыць. Пятро пачынае даводзіць, што ў Жаўняровіча ва ўпраўленні «свая рука», і таму іх участак заўжды хваляць і ставяць у прыклад. Ён шмат разоў казаў нам пра гэта. Надакучыла.

Казімір абураецца і рашуча прапануе:

— Давайце мяняць пласцінку! Што нам той Жаўняровіч даўся ў знакі... То бульдозер у яго, то — паказчыкі... Віктар едзе ад нас? Едзе. Вось і трэба ўдакладніць: хто яго будзе праводзіць?

— У мяне ж толькі адзін чамадан! Калі што — і сам дацягну. Сілы хапае...

— Усё роўна патрэбна камісія. Сямейных, прапаную вызваліць. А далей такім чынам: Лявон, Зіна і я. Хто — «супраць»? Няма. Прынята аднагалосна...

— Якія абавязкі камісіі? — жартуючы, пытаюся я ў Казіміра.— І задачы?

— Дудзець замест аркестра на пероне...

Рагочам усе. Казімір хітравата плюшчыць вочы.

— А што, Віцька, калі мы адну парцейку на развітанне з табою?.. Бо потым, як навукі глынеш, цябе і пікаю не дастанеш!

— Толькі, каб ніхто не падказваў. Глядзець, калі ласка, дазваляецца...

— Стаўляй. Згода!

— Зараз... Ах жа ты... Дома пакінуў шахмацёнкі!..

Віктар у замяшанні, абмацвае свае кішэні. Казімір супакойвае яго.



— І добра. Бо гуляць нам не выходзіць.

— Адступаеш, значыцца?

— Наадварот, наступленне пачынаецца. Зірні, якая армія коціць?

Па насыпу — мы толькі цяпер прыкмячаем — рухаецца нечаканае шэсце. Жанчыну ў стракатым плацці кожны пазнае адразу: гаспадыня дома, што стаіць у садку. Следам за ёю шыбуюць Грушаль і сержант міліцыі. Сержант маленькі, з маладым і жвавым тварам.

Болей ад усіх здзіўлены Віктар:

— О-ох і хросная ў мяне! Сержанта валачэ... Трэба хоць гэта прыхаваць...

Ён памкнуўся схаваць бутэльку пад газеціну. Рогач спыніў яго:

— Няруш. Злачынства тут няма...

Мы чакаем. Асабіста мне ўсё яшчэ не верыцца. Зрабілі ж усё, здаецца, як след: і плот паставілі, і хляўчук адрамантавалі. Чаго ж яшчэ не стае ёй?..

— Дзе краншчык? Сюды яго!

Жанчына загадвае гэта, наставіўшы рукі ў бокі, потым, згледзеўшы чорную бутэльку, што стаіць на газеціне, бясстрашна кідаецца наперад па сходках; сходкі гнуцца і жаласліва рыпяць пад яе нагамі.

— Зірніце! Вы толькі зірніце на гэтых работнічкаў! Паселі радком ды гарэлачку свішчуць. Зірніце вы на гэтую кумпанію, таварыш капітан!..

Губы сержанта паблажліва крывяцца.

— Ніколі не быў капітанам...

— Даруйце на слове, даруйце... На тым леце ў мяне капітан кватараваў — пра яго цяперка і ўспомніла. Ён — залатога сэрца чалавек! Мне гэты плот ставіць і памог...

Схіліўшы галаву, сержант глядзіць на газеціну, што пасцелена на блоку. Глядзіць неяк надта доўга, і я прыкмячаю, што рэшткі нашага агульнага абеду яго зусім не цікавяць: сержант чытае вялікі газетны загаловак, на якім расплылася вялізная пляма. Грушаль моўчкі кратае бутэльку рукою: позірк, які ён кідае на Рогача, нічога добрага не абяцае.

— Абедзенны перапынак, таварыш інжынер... Развітальная чарка, можна сказаць. Вы ж ведаеце, Віктар на вучобу едзе.

— А я што казала? П'юць, таварыш капітан! А потым, панапіваўшыся, хаты крышаць...

Сержант незадаволена моршчыцца.

— Хадземце агледзім, што разбурана, і складзем пратакол!

Жанчына трухае побач, строчыць несупынна, звягліва. Можа, ёй варта паклікаць сведак? Сведак, дзякуй богу, у яе поўна. Ёсць каму пацвердзіць, што плот быў пастаўлены летась. І ёсць майстар, які будаваў хлявок. Праўда, гэта было даўно. Можа і яго паклікаць? Ён жыве непадалёчку, і яна злётае мігам, калі толькі загадае капітан...

— Я не капітан! І вельмі прасіў бы вас не блытаць. Мне патрэбны факты. Паказвайце, дзе і што разбурана...

Рэзкі тон сержанта яе не бянтэжыць — толькі рукамі плёхнула:

— Што разбурана! Як — што разбурана?.. Хіба ж яно не відно?!. Калі ласка, калі ласка... Зірніце, як плот паставілі. Торкні пальцам — паваліцца. А колькі малінніку і агрэсту паглумілі. Хадземце! Хадземце! Усё пакажу. Як ёсцека пакажу...

Яна вядзе сержанта да плота, трасе слуп, які мы ўкапалі нанава,

часта торкае пальцам у наш бок, і яе звяглівы голас падаўляе кароткія сержантавы пытанні і няпэўныя тлумачэнні Грушаля.

— Ачмурыць яна сержанта,— палохаецца Віктар.

— Не ўдасца...

Сержант мне падабаецца. Якія нервы трэба мець, каб выслухоўваць усё гэта! На маю натуру — не сцярпеў, гаркнуў бы як след...

Урэшце не вытрываў і Рогач: ціха вылаяўшыся, падымаецца і ідзе да Грушаля, які стаіць побач з сержантам.

Віктар чухае патыліцу, кпліва зыркае на Сініцына.

— Ну, Сініца, капцы табе! Хто перадачы панясе? Сядзеш за краты, гэта я табе пэўна абяцаю. Ды і відно яно, як пры дні!..

— Пакінь ты, Віцька, свае жартачкі! Хочацца яму глядзець на гэтую... І як я ёйны плот зачапіў? Нейкі нячысцік за руку смаргануў...

— Таму і прапаную: на мяне валіце. Што яна са студэнта возьме?

— Ты далёка будзеш, а нам тут давядзецца цяпер слухаць... Яна до-оўга не супакоіцца...

— Вось я і кажу: мяне вінаваціць трэба... Ціха: ідзе ўлада!

Сержант, за ім гаспадыня хляўка, а потым і Грушаль зноў узнімаюцца на насып, пераступаюць сходкі. Сержант, агледзеўшыся па баках, садзіцца на краёчак блока. Ён быццам адразу забываецца на тую справу, што прывяла яго сюды: невядома навошта зазірае ўніз пад пліты, спрабуе нават скрануць блок з месца. Блок нерухомы.

— Моцна будуеце...

— Цікавіць? — асцярожна пытаецца Рогач.

— Вядома. Колькі будзеце будаваць?

— Гэты дом? Па графіку — месяц...

— Так... Хутка. Як тыдзень — паверх!

— Нават хутчэй...

— Та-а-ак,— быццам нешта падагуліўшы, сцвярджае сержант.— Дык што ж, будзем складаць пратакол? Як вы на гэта гледзіцё, таварыш Грушаль? Ёсць пярэчанні?

— Ніякіх. Падпіша і Рогач, і я падпішу, калі трэба. Толькі мушу вам сказаць, што прэтэнзіі грамадзянкі, далікатна кажучы...

— Разумею... Разумею. Пра тое можна пагаварыць і пазней. А пратакол — гэта дакумент...

Ён раскрывае планшэтку і, крыху пасядзеўшы моўчкі, касавурыцца на газеціну, хмурыцца. Потым трыма пальцамі ўзнімае бутэльку, стаўляе на дол, за брус, і толькі тады, паправіўшы планшэтку на каленях, выцягвае з кішэні чорную з бліскучым залочаным пяром ручку.

Мы моўчкі назіраем за ім.

Сержант піша нядоўга. Зноў шчоўкаюць кнопкі планшэткі.

— Пратакол. Далей — дата. Цяпер — тэкст. Прашу ўвагі,— просіць ён, хоць ніхто з нас нічога не гаворыць.— Тэкст...— Хвілінка маўчання і, адкашляўшыся: — «Прыбыўшы на месца і абглядзеўшы аб'ект, на які грамадзянка Цырава паказвае ў сваёй заяве, як на разбураны, знайшоў яго неразбураным. Плот,— у дужках,— адзін, знаходзіцца ў спраўнасці, без пашкоджанняў. Стан хлеўчука таксама здавальняючы, хаця памянёная вышэй будыніна мае нахіл на левы бок нязначны. Памеры аб'ектаў: плот — даўжыня дванаццаць метраў. Хляўчук — тры на два метры пад гонтавым дахам. Дах не пашкоджаны. На падставе таго, што сказана вышэй, і паказанняў будаўнікоў-сведак, памянёныя аб'екты лічыць спраўнымі, у сувязі з



чым прэтэнзіі грамадзянкі Цыравай да будаўніча-мантажнага ўпраўлення нумар пяць лічыць, што не маюць падстаў.

Склаў пратакол сержант Банькін».

Патрымаўшы аркуш паперы перад сабою, ён кладзе яго на блок і прыціскае ручкаю з жоўтым металёвым каўпачком.

— Прашу. Спачатку ісціца падпіша. Потым — таварышы ад упраўлення. Ці абодва можаце...

Гаспадыня хляўка ўтрапёна аглядае ўсіх нас, потым шалёна зыркае на сержанта і ўзмахвае рукою, быццам адштурхоўвае ад сябе пратакол.

— Не падпішу! Не падпішу! — Кінулася да сходак, перабегла на насып і ўжо адтуль павярнула ў наш бок скрыўлены злосцю твар.— На ўсіх вас закон знайду. Ведаю, куды скардзіцца!

Сержант узняўся, пачаў закрываць планшэтку.

— Гэта верна: законы яны ведаюць. Пісьменныя! І прашу вас, таварышы будаўнікі, паменей сутычак з дамаўласнікамі. Іхнія заявы ў нас во дзе сядзяць...— ён ляпае сваёй даланёю па карку.— Народ нервовы, асабліва, каго зносяць... Вельмі...

Ён закідвае планшэтку за плячо і шпаркай хадою шыбуе з насыпу.

Віктар не спяшаецца развітвацца, нібыта чакае чагосьці, глядзіць на зялёную вежу крана. Не вытрываў, урэшце.

— Адзін камень пакладу. Апошні. На прашчанне. Праўда, каб помніць...

Белы, асляпляльна белы блок, заціснуты чыгуннымі лапамі пад'ёмніка, паволі плыве над насыпам. Гайдануўшыся, зніжаецца.

Зуркоча барабан крана. Рыпяць тросы. Пад цяжарам блока суха скрыгочуць патрушчаныя каменьчыкі ў растворы.

— Кропка! — радасна сігналіць ён кранаўшчыку.

Грушаль з Рогачам усё яшчэ стаяць на насыпу, ціха — нам не чуваць пра што — гавораць. Яны стаяць спіною да ашаляванай і пафарбаванай у яркі колер хаты ў садочку. Грушаль час ад часу нахіляецца і нешта малюе тоўстай трэскай на пяску ля ног Рогача.

— А вы ганіце адразу і другі паверх,— урэшце далятае да мяне голас старшага прараба.— Не чакайце...

— Не закончыўшы першы?..

— Так. Пашырайце адразу фронт...

Наша будаўнічае жыццё адкінула, імгненна закрэсліла тое непрыемнае, што зусім нядаўна прыплыло да нас з-за плоту: і гаспадыня, і яе пагрозы — усё засталося там, пад насыпам. Нават Віктар не ўспамінае хлявок.

— Ну, браце-коце, яшчэ адзін пастаўлю,— зноў просіць ён.— Сумна мне там будзе без вас...

Віктар стаіць побач з Казімірам, расправіўшы плечы, мажны, упэўнены, з прыветным і вясёлым тварам. Так, калі чалавек працуе з душою, з ахвотаю і праца яму па сэрцы — ён робіцца прыгажэйшы. Праца — гэта, мабыць, адзінае, дзе чалавек не можа хлусіць. Не можа хлусіць сам сабе, і не можа хлусіць другому...

Так, Віктар, ты сам яшчэ не ведаеш, чаго дамогся за гэтыя кароткія хвіліны... Шмат, вельмі шмат дарую я табе з таго, што адбылося ўчора. Але не ўсё, май на ўвазе! Можа гэта і блага, але твае словы я, мабыць, буду памятаць доўга, і не ведаю, шчыра кажу табе, не ведаю, колькі часу спатрэбіцца, каб выветрылася з памяці мая ўчарашняя крыўда...

Далей будзе.



Юрась СВІРКА



# Формула лесу

*«Як гэта ні дзіўна, але мы да гэтага часу не маем, калі так можна сказаць, разгорнутай формулы лесу, гэта значыць, не ведаем сумарнай заканамернасці яго жыцця і развіцця».*

*Прафесар Ян КАРПІНСКІ.*



**З**апісана формула лесу вякамі,
Заплецена ў верас —
Нябачная воку.
Яна, нібы прывід,
То блізка блукае,
То зноў адыходзіць далёка-далёка.

Напэўна,
Не клікала сведак прырода,
Як сеяла сосны, дубы і яліны.
Таму засталіся яны назаўсёды,
Як тайна,
Якую разгадваць павінны.



Яна апавіта галлём і карэннем,
Засыпана дробнай смалістай ігліцай.
Здаецца б,
Упаў перад ёй на калені,
Прыдумаў малітву б,
Каб ёй памаліцца.

Да ўсіх таямніц неадкрытых далезу.
Мне тут дапамогуць:
І верас, і камень...
Прырода мяне прыпісала да лесу,
Як ісціну,
Формулу лесу шукаю.





**Д**уб за лета высах,
Што шарманка.
Ледзь крані,
Як медны, зазвініць.
Верх яго абсмалены маланкай,
Ствол яго аглух ад навальніц.

А лісты паскручваліся ў трубкі,
Прыхаваўшы трошкі халадку.
Ад ствала,
Здаецца, як ад грубкі,
Дыхае цяплынь —
Падстаў руку!

Дуб стаіць адзін,
Нібы бязбожнік.
Напляваць яму на ўсіх багоў...
Нібы пагражаць яшчэ ён можа
Кулакамі скручаных лістоў.





**Д**алёкае, зацягнутае марывам,
Ты засталося ў франтавых гадах.
Нясмелае з няздзейсненымі марамі
І са слязьмі пакуты на вачах.

Я не вярнуся да цябе, дзяцінства,
Бо я не помню да цябе дарог.
Ты зможаш калі-небудзь мне прысніцца,
Як напамін страхоцця і трывог.

Калі прысніцца мне: хлапчук трымаецца
За панарад, балотам ледзь ідзе.—
Тады няхай нічога не ўяўляецца,
Так пачынаўся мой блакадны дзень.

Калі прысніцца, што ў сырой зямлянцы
Малы не хоча есці лебяду,
Тады няцяжка будзе здагадацца,
Што гэта ты папала у бяду.

Калі прысніцца: нехта завіхаецца
На лузе з непасільнаю касой,
Тады адразу мне прыпамінаецца,
Што гэта ты, дзяцінства, а не сон.

Я не хачу з табою сустракацца,
Маё дзяцінства. Ты не лезь у сны.
Я не хачу, баюся я вяртацца
Да голаду, хваробы і вайны.





усіць, не забудуцца ніколі
Тыя сцежкі,
Дзе хадзіў з табой.
Мусіць, будуць помніць луг і поле
Цені:
Мой — даўгі.
Кароткі — твой.

Думаў я,
Што нашае каханне
Будзе вечным —
Скептыкам назло!
А яно,
Як зорка на світанні,
Нечакана гаснуць пачало.

А калі мяне хвароба гнула
(Я ад смерці быў на валаску),
Ты тады руку не працягнула,
Слабую і дужую руку.

Можа б
Выпаўз я хутчэй з бальніцы:
Ты мяне цягнула б,
Як святло.
І цяпер бы змог я пахваліцца,
Што каханне
Смерць перамагло.

Ты цяпер далёкая такая,
Не хачу цябе сустрэць нідзе:
Ты была, як цень,
Які знікае,
Калі сонца ў хмары пападзе.





ушуе мора,
Пенай слепіць хвалі
І топіць іх у чорнай глыбіні,
Каб век яны наверх не выплывалі,
Каб век не бунтаваліся яны.



І стогнуць хвалі...
Сціснуты стыхіяй,
Іх страшны гнеў
Не ведае граніц.
А можа, гэта плачуць рэкі тыя,
Якім вярнуцца нельга да крыніц...



*Ірынцы.*



усіх вядомых мінскіх камяніц
Мне дарагі навечна дом адзіны.
Я перад ім гатоў упасці ніц,
Сказаць:
«Паклон табе, мой дом радзільны!»

Па тры разы на дні сюды хадзіў,
Прыносіў пісьмы з кветкамі і вішні...
Я вас чакаў
І лішнім тут не быў,
Хоць вы тады яшчэ ка мне не выйшлі.

Радзільны дом!
Жыві ты у вяках.
Цябе да смерці з памяці не сцерці:
Тут нарадзілася мая дачка,
Амаладзілася маё тут сэрца.

## Я пакідаю гэты дом...



думаў,
Не забуду гэты дом:
Ты тут жыла,
І я сюды прыходзіў.
Начамі мы сядзелі пад акном,
Пакуль не ружавела на усходзе.

Я зноў прыйшоў.
Гляджу за частакол.
Сабака ў будцы...
Можа, даць мне цягу?
А ён —
Грыміць раз'юшаным ваўком
І, як змяю,
Ланцуг іржавы цягне.

Кажу яму:
Прыпомні, я твой друг.
Ты ж так любіў
Ля ног маіх палашчыцца.
А ён (о страх!),
Калі б парваў ланцуг,—
Не засталося б
Ні мяне, ні плашчыка.

Дурненькі мой!
Ты не брашы, пастой...
Мне уяўляецца,
Як ты, падкуплены,
Угодліва віляючы хвастом,
Каля другога круцішся пакутліва...

А ўсё ж такі адумаўся,
Пазнаў
І, вінаваты,
На мяне ўтаропіўся...
Я ўбачыў праз акно:

Сядзіць яна —
Мая любоў...
І мне няёмка робіцца.

Ды ўсё ж стаю,
Хоць бура у душы.
Кажу сабаку,
Што ля будкі трэцца:
«Брашы!
Перадыхні — і зноў брашы!
Не любіць —
Дык няхай хоць пазлуецца...»





А восень думала,
Што будзе вечнаю,
Такой крамянаю,
Як лета бабіна,
Што будзе фарбамі
Яна расквечана,
Каб быць прыкметнаю,
Каб быць прываблівай.

Яна не думала,
Што спеласць позняя
Зусім кароткая
І нетрывалая,
Таму пад раніцу
Над ціхай поймаю
Яна туманамі
Не накрывалася.

Калі ж адчула ўжо,
Што чары страчаны,
Што ўся прастуджана
Вятрамі колкімі,
Яна заплакала
Слязьмі гарачымі
І захлынулася
Дажджамі золкімі.

Барыс САЧАНКА



Мастак
Пятро КАЛІНІН

# Баравое рэха

Аповесць

## I

У той дзень, прыйшоўшы з калгаса дадому абедаць, бацька сказаў мне, што дзён колькі назад, яшчэ да майго прыезду на вакацыі, ён выбіў у Чортавым Лузе латку травы, і добра было б, каб я з'ездзіў і падвярнуў пракосы.

— Хай бы сохла сена...— разважаў ён уголас.— А заўтра, як бог дасць ды стаяцьме на пагодзе, бадай што можна будзе і згрэбсці яго, у стог скласці...

Рабіць дома мне ўсё роўна не было чаго, і я згадзіўся. Адразу ж з-за стала папраставаў у сенцы, выкаціў на падворак веласіпед, стары, даўні мой веласіпед,— яго купіў мне бацька, калі я вучыўся ў дзесятым класе,— прывязаў да рамы граблі.

— Ну, я паехаў! — не ведаю каму і навошта крыкнуў я і, паставіўшы нагу на педаль, лёгка ўскочыў на сядзенне.

Чортаў Луг — самая блізкая лясная сенажаць нашага калгаса. Звычайна, яе штогод праўленне дзеліць між людзьмі, каб яны касілі там сваім каровам сена. Лугоў у калгасе і без гэтай сенажаці хапае, а сена на працадні — круці не круці — даваць трэба, бо чым жа, як не сенам, будзе зімою карміць чалавек худобу, і ў праўленні надумалі: хай, лепей, кожны сам накосіць сваёй карове, чым будзе браць з калгаса гатовае. Трава ў Чортавым Лузе расла добрая, ядкая, вазіць сена ў вёску таксама не цяжка, бо сенажаць роўная і нават у глыбокую восень сухая, і людзі не адмаўляліся, бралі тое, што ім давалі.

Ехаць у Чортаў Луг можна па розных дарогах. У вёсцы нават смяяліся, што па якой дарозе ні паедзь — патрапіш на Чортаў Луг. Сёння я хацеў быць на сенажаці як можна хутчэй, каб, пакуль схаваецца сонца, параскідаць пракосы і яны хоць бы трохі абвенулі, прасохлі, а таму і выбраў дарогу самую кароткую і ад таго, мусіць, самую нецікавую. Поле, лес, дзялянкі, зноў поле, зноў лес і зноў дзялянкі... Сама дарога — шырокая, расцёртая, разбітая машынамі, з глыбокімі выбоінамі-ямінамі ледзь не на кожным кроку. Па такой дарозе не лёгка было б ехаць на веласіпедзе, даводзілася б яго бадай што больш весці рукамі, чым ехаць на ім самому, каб узбоч вузенькім паскам не вілася вытаптаная людскімі нагамі і веласіпеднымі коламі сцяжынка. Уз'ехаўшы на яе, я падумаў, як добра, што нехта здагадаўся пракласці гэтую сцяжынку. А то ну кудою б, скажам, вось я дабіраўся да Чортавага Лугу? Ды і не толькі я, а і ўсе, у каго ёсць веласіпеды. І тут жа згадаў, што тады, калі бацька купляў мне веласіпед, такіх сцяжынак узбоч дарог не было, бо не было гэтулькі і веласіпедаў — цяпер іх у вёсцы на багата больш, чым сабак, ёсць амаль у кожнага, хто можа нагамі дастаць педалі. Ужо нават не веласіпеды ў модзе, а матацыклы. Кожны падшыванец, што зарабляе капейку, толькі пра тое і дбае, як бы гэта на матацыкл свой сесці ды праехацца з канца ў канец па вёсцы, каб аж вецер у вушшу свістаў. Нічога не скажаш, багацее вёска, жыць па-другому пачынае! Не тое, зусім не тое, што было нават чатыры гады таму назад, калі я ад'язджаў у інстытут. Тады веласіпед быў у вёсцы за навінку, я ўжо не кажу пра радыёпрыёмнік ці тэлевізар. А цяпер у кожнага ў хаце радыё, святло з горада нядаўна правялі...

Далей думкі мае павярнулі трошкі ў другі бок. Я падумаў, што вось я, сын селяніна-калгасніка, у тым годзе закончу інстытут, атрымаю дыплом інжынера, і гэта анікога ўжо не дзівіць, бо стала звычайнасцю. Колькі людзей з адной толькі нашай вёскі вучыцца ў горадзе! Дальбог жа, не хопіць пальцаў на руках і нагах, каб усіх пералічыць. І гэта ў той вёсцы, дзе ўсяго якіх сорак-пяцьдзесят год ніхто, кажуць, нават распісацца не ўмеў, і калі каму прыходзіла пісьмо, дапяльвалі аж у воласць, каб там яго прачыталі. Разам з тым, мне было радасна, што я зноў вярнуўся на ўсё лета ў вёску і зноў, як бывала, еду ў Чортаў Луг варочаць сена, бы я і не вучыўся нідзе чатыры гады, бы я зусім і не выязджаў адсюль нікуды, а жыў і жыў сабе дома, у бацькавай хаце. Зноў я буду прывыкаць да вясковае яды, да грабляў, касы, плуга, зноў буду гэтак жа, як некалі, любавацца, калі ўбачу скіданы мною стог сена ці абагнаны загон бульбы. Зноў, калі мне, бывае, здасца, што звенавы няправільна перамераў маю работу і аблічыў, буду хапаць з яго рук драўляную стрыголку, бегаць па лузе ці па полі і мераць, а пасля на кавалачку паперы множыць, дзяліць, дзяліць і множыць, і да хрыпаты ў горле даказваць, што звенавы памыліўся, што ён не так, як мае быць, мераў і аблічыў мяне, нібыта мне і папраўдзе гэта так важна і я цалкам залежу ад таго зароблenaга працадня... На два месяцы я стану зноў тым звычайным вясковым хлопцам, якім я і быў да свае вучобы ў горадзе...

На сенажаці я паставіў веласіпед да камля дуба, што рос на відавоку, на беразе лесу, а сам, перавярнуўшы ўверх зубамі граблі, вострым канцом грабільна пачаў варочаць сена — яно было зялёнае, духмянае, як чай, і амаль сухое, бо пракосы былі не тоўстыя, толькі дзе-нідзе пад купінамі ці за кустамі трава ляжала вялая і спадыспаду, калі яе перавернеш, белая і сырая. Я хадзіў ад пракоса да пракоса і з кожнай хвілінай адчуваў усё больш і больш, як мае мускулы наліваюцца ўпругай і нейкай асаблівa прыемнай сілай, як пачынаюць так, як і некалі, брыдзець далоні рук, як мне робіцца лёгка і добра ад таго, што я зноў узяўся рабіць тое, ад чаго патроху пачаў быў ужо адвыкаць. Сонца стаяла яшчэ высакавата і пякло зусім па-летняму. Але я не зважаў на гарачыню — махаў і махаў граблямі, раскідаў і раскідаў грабільнам па пакошы сена. І толькі калі перавярнуў апошні пракос і выйшаў зноў на бераг лесу, да свайго веласіпеда, адчуў лёгкую стому ў плячах і што з непрывычкі я трошкі спацеў. Я расцягнуў замок саколкі і паваліўся ў траву, у цень, што падаў ад дуба — дуб гэты быў тоўсты, стары і неяк цудам ацалеў тут, на беразе сенажаці. Голле знізу было абрублена,— царабілі дзядзькі, каб пасляць пад стагі адзёнкі,— камель парэнаны, карысты, а вершаліна аблуплена, абсмалена перуном і ўсё адно густая, пышная.

З-пад дуба добра аглядалася сенажаць — шырокі хвалісты абсяг травы пад лёгкімі павевамі ветру то чырванеў, то жаўцеў, то бялеў ад красак, што распукнуліся і сама цвілі. Дзе-нідзе, бліжэй да лесу, рыжэлі, бы лінейкі ў школьным сшытку, пракосы. Два стажкі амаль хаваліся ў траве далёка, аж з таго краю сенажаці. Кружыў высока ў паднябессі коршак,— павольна, нібы нешта хацеў зрабіць, ды ўсё не асмельваўся. Свістаў на беразе лесу ў кустах касец, пішчаў крутагаловік, і ўсюды нылі камары. Нылі і надта ж балюча кусалі за голыя рукі. Каб адкараскацца ад надакучлівай заедзі, я прывязаў зноў да рамы веласіпеда граблі і, злёгку націскаючы на педалі, выехаў на дарогу.

Праўда, вельмі хутка я абдумаўся, што рабіць дома мне няма чаго, і збочыў з дарогі направа, на вузкую лясную сцяжынку, што вяла да леснічоўкі,— у ёй, гэтай леснічоўцы, жыў са сваёй сям'ёй ляснік Тамаш Буда. Я і сам не ведаю, навошта я гэта зрабіў. Ці то мне рупіла палюбавацца старымі выносістымі соснамі, што стаялі адсюль скрозь аж да самай леснічоўкі, ці то захацелася паглядзець, ці паспелі на баравых прагалах суніцы, ці то цягнула, вабіла мяне тая старая і бадай што апошняя ў нашых лясах леснічоўка, якую я не бачыў вось ужо блізка тры гады... Аднак, як бы там ні было, я так рашуча крутануў руль веласіпеда направа, што пра тое, каб вяртацца дадому па той дарозе, па якой я ехаў на луг, нечага было і думаць.

Сцяжынка была цесная, месцамі яна ледзь прадзіралася праз зараслі крушыны, алешніку і лазы. Але гэта толькі напачатку, бо далей ішоў змрочны хвойнік, бор. Тут сцяжынка падымалася ўгору і з кожным кіламетрам прыкметна шырэла. Сонца, хаця і зрушыла з паўдня, усё яшчэ пякло нясцерпна, і нават у засені дрымучых дрэў адчувалася яго ўсеабдымная сіла. Паветра, настоенае на пахах смалы-жывіцы і размаітых лясных красак, было густое, цяжкае. І я, патросшыся трохі па карэннях, што вытыркаліся, пляліся вузламі спрэс па сцяжынцы, злез з веласіпеда і пакаціў яго ўзбоч па порсткім і гнуткім верасе.

За маладым купчастым хвойнікам, за якім пачыналіся новыя, толькі што адведзеныя дзялянкі, я спыніўся: насустрач мне, проста па сцяжынцы, торкаючы сюд-туд пыскаю, бег вожык. Натапыраны, нашашэраны, іголкі так і тырчалі ва ўсе бакі; на іх, там, дзе спіна, жаўцелі два сухія бярозавыя лісцікі — вожык, мусіць, іх падабраў і некуды нёс.

Я стаіўся — чакаў, калі вожык дабяжыць да мяне. Тады сцягнуў з галавы кепку і накінуў яе на вожыка. Вожык, спалоханы, спы-

ніўся. Падкаціўшы да камля сасны веласіпед, я падняў шапку і рукою ўгарнуў у яе вожыка — ён быў тоўсты і на дзіва рахманы, нават не скруціўся ў клубок, не схаваў у калючкі сваю вастранькую сівую пыску — толькі злосна пырхнуў і чхнуў, бы ўсё адно малое дзіця, якому неспадзявана далі панюхаць табакі.

Выпускаць вожыка, каб ён бег і далей сваёй дарогай, мне не хацелася. «Завязу яго дадому, хай пажыве трохі ў нашай хаце, мышэй паловіць. А то развялося іх, хоць ты ката ў суседзяў прасі...» — падумаў я і паставіў шапку з вожыкам на багажнік. Але як толькі я ступіў крокаў тры наперад, вожык скокнуў у ягаднік. Я зноў спыніўся, узяў з багажніка шапку і зноў угарнуў у яе вожыка. І ў гэты момант пачуў, што паблізу мяне зашуршала лісце. Я выпрастаўся: па лесе, адтуль, дзе былі новыя лесапрамгасаўскія дзялянкі і дзе ўсюды на соснах жаўцелі смалістыя лапы падсочкі, ішла дзяўчына; ішла павольна, раз-пораз прыгінаючыся, каб не зачапіцца галавою за голле,— у руках яна несла вядро, поўнае ўкоптур смалы-жывіцы. Сіняе ў белыя бубачкі плацце было паднята вышэй, чым звычайна носяць у вёсцы дзяўчаты, і з-пад яго нават у рослым ягадніку добра відаць былі аж вышэй кален стройныя, загарэлыя ногі. Дзяўчына павярнулася, каб перамяніць з рукі ў руку вядро, і ў ёй я пазнаў Марту, дачку лесніка Тамаша Буды. Сэрца маё трывожна забілася, зусім так, як білася яно некалі, калі я прыязджаў да Марцінага брата Юзіка (разам з ім мы рыхтаваліся да экзаменаў у інстытут) і бачыў Марту. Тады яна вучылася яшчэ ў школе, толькі перайшла ў дзесяты клас, і не была замужам...

Марта зірнула на мяне і, вядома, таксама мяне пазнала.

— Змітрок! — ускрыкнула, нібы спалохаўшыся, яна. Паставіла вядро з жывіцай у ягаднік, і ў наступную хвіліну была ўжо ля мяне, на сцяжынцы.— Даўно прыехаў?

— Ды не, толькі што...

Мы стаялі зусім побач і не зводзілі адно з аднаго вачэй. Апошні раз мы бачыліся гады тры таму назад. Гэта было таксама ўлетку, калі я прыехаў на канікулы, таксама ў лесе, нават на гэтай самай сцяжынцы, толькі трохі бліжэй да поля. Я ішоў тады па грыбы, а Марта бегла ў вёску, нечага трэба было ёй купіць у магазіне. Яна гэтак жа вось, як цяпер, падала мне руку і, помніцца, сказала: «Змітрачок, павіншуй мяне, я выйшла замуж!» Каб толькі ведала яна, як балюча кальнулі мяне тыя яе словы! Не, тое, што Марта выйшла замуж, было мне не навіна. Пра гэта я ведаў яшчэ ў горадзе. Ды адно чытаць пра такое ў пісьме, другое чуць з вуснаў той, пра якую столькі мроіў, якую ў думках даўно ўжо інакш і не зваў, як сваёй. «Я ведаю,— сказаў тады я,— і, вядома, віншую...» У мяне, мусіць, быў вельмі разгублены выгляд і не той голас, якім я гаварыў звычайна, бо Марта раптам спыталася: «А чаму — вядома? — і паглядзела мне ў вочы.— Ты што, не рады?..» «Не, чаму ж... Я рады,» — сказаў я, але так, што Марта здагадалася, што ў мяне на душы. «Даруй мне, Змітрок,— сказала яна.— Я думала, што ў цябе ўсё прайшло. Помніш, ты ж пісаў мне ў апошнім сваім пісьме...»

Так, я добра помніў тое пісьмо. Я паслаў яго Марце ў злосці ў той дзень, калі мне напісалі з вёскі, што Марта вечар у вечар ходзіць у клуб і ля яе ўвіхаецца нейкі трактарыст з геалагічнай партыі, якая шукала ў нашай мясцовасці вось ужо некалькі год запар нафту. У тым пісьме была праўда адна толькі мая злосць, а ўсё астатняе — і дзяўчына, з якой я быццам бы дружу ў горадзе, і вечары, на якія я з ёю хаджу, і танцы, кіно — усё, усё ад пачатку да канца было вы-



думка, плод мае хваравітае рэўнасці. Як я шкадаваў пасля, што тое пісьмо не парваў, а паслаў Марце!.. А Марта стаяла і гаварыла: «Не крыўдуй на мяне. Ты ж пісаў, што ў цябе ёсць дзяўчына, і не такая, як я, а гарадская...» Яна знарок зрабіла націск на слове «гарадская», нібы хацела мяне ў нечым абвінаваціць, папракнуць... «Чаму ты думаеш, што гарадская абавязкова лепшая за цябе, вясковую?» — спытаўся я. Але Марта мне нічога не адказала, толькі раптам успляснула рукамі, успомніла, што магазін у дванаццаць гадзін зачыняецца на абед і яна можа не паспець, і, хуценька развітаўшыся са мной, заспяшалася ў вёску.

Я згадаў тую даўнюю нашу сустрэчу і ўсміхнуўся: тры гады прайшло, і вось мы стаім з Мартаю зноў на той самай сцяжынцы, дзе стаялі некалі, і зноў гаворым... Пра што? Ах, хіба не ўсё роўна цяпер, пра што гаварыць, абы толькі гаварыць, абы не маўчаць...

Марта адразу ж заўважыла маю ўсмешку. Спыталася:

— Ты чаго смяешся? Што, я змянілася? Не такая, як была? — і, абцягнуўшы на таліі плацце, вельмі прыдзірліва агледзела сябе.

Не, Марта не змянілася. Знешне была тою ж дзяўчынаю Мартаю, якую я некалі кахаў і якою яна асталася ў маёй памяці яшчэ са школы. Хіба, можа, трошкі папаўнела. Але паўната ёй была да твару, яна рабіла яшчэ больш прывабнай і яе фігуру. І я сказаў пра гэта Марце.

— А ты змяніўся,— сказала яна, і ў вачах яе, глыбокіх, вялікіх, чорных, я ўбачыў, як успыхнула раптам радасць.— Памужнеў, у плячах раздаўся... і, здаецца, папрыгажэў...

Яна ўсміхнулася, адкрыта, прыгожа і разам з тым неяк сумна, усміхнулася так, як умела ўсміхацца адна толькі Марта, і больш ніхто на свеце. Божа, што б я аддаў за гэтую ўсмешку некалі! А цяпер стаяў і не ведаў, што мне рабіць — хваліць, як добра выглядае Марта, як хваліць мяне яна, ці, лепей за ўсё, маўчаць і толькі сарамліва ўсміхацца. Я выбраў апошняе.

А Марта не сціхала, гаварыла і гаварыла:

— Зусім не такі, як быў... Чужы нейкі... Я цябе добра помню таго, і часта ўспамінаю...

У тым, што Марта на мяне не забылася і часта ўспамінае, яна прызнавалася ўпершыню. І я не знайшоў нічога лепшага, як таксама прызнацца:

— І я цябе ўспамінаю...

Я сказаў гэтыя словы, і тут мяне нібы прарвала — я міма сваёй волі загаварыў пра тое, у чым не прызнаваўся яшчэ нікому:

— Разы два нават сніў... Быццам я зноў вязу цябе перад сабою на веласіпедзе, помніш, як вазіў у тое лета, калі ты скончыла дзесяцігодку і я прыехаў на канікулы? Вакол ноч, цемра... І мы... Удваіх...

— Праўда? — усміхнулася зноў Марта, і зрэнкі ў яе вачах пашырэлі.— Ты б прыязджаў да нас калі ў лесніччоўку, а то і табе, напэўна, сумна аднаму ў вёсцы...

Гэта было нешта новае, бо пасля таго, як Марта выйшла замуж, яна ні разу не запрашала мяне прыязджаць у лесніччоўку. Я адразу ж захацеў ведаць, што ж у Марты здарылася.

— А муж твой што на гэта скажа? — знарок гулліва, як бы смехам, спытаўся я.

— А ты хіба не ведаеш? Яго ж няма дома, ён паехаў...

І праўда, што ж гэта я абы-што пытаю? Хіба ж я дзён колькі назад не чуў сам на свае вушы, што Марцін муж завербаваўся і па-



ехаў на лесараспрацоўкі ў Карэлію, каб зарабіць грошай і скончыць хату, якую пачаў ставіць у вёсцы?..

— Тым горш, што яго няма дома. Яшчэ нехта напіша, што я да цябе ездзіў...— паспрабаваў я звесці ўсю сваю гаворку на жарт, бо адчуў, што сказаў і так лішняе — мне не трэба было прызнавацца, што я і цяпер яшчэ калі-нікалі ўспамінаю Марту, сню яе па начах.

Але Марта не зразумела майго жарту.

— Хай пішуць... Ваўкоў баяцца, у лес не хадзіць,— сказала яна зусім сур'ёзна. І толькі цяпер яна ўбачыла, што я нешта трымаю перад сабою ў шапцы.— Што гэта там у цябе?

— Вожык.

— Няўжо? — шчыра здзівілася Марта.— Дай мне яго, Змітрок! — папрасіла яна праз хвіліну і ступіла крок да мяне, каб зазірнуць у шапку.

Цяпер мы стаялі зусім блізка адно ад аднаго, і я ўсім сваім целам адчуваў гэтую блізкасць. Я бачыў, як то апускаюцца, то падымаюцца яе яшчэ па-дзявочы поўныя, тугія грудзі, як заірдзеліся лёгкім румянцам яе шчокі, чуў, як часта і цяжка пачала яна дыхаць. Няўжо і яна адчувала так маю блізкасць, як адчуваў я яе?..

— Вазьмі,— падаў я Марце шапку з вожыкам.

— Дзякуй,— сказала яна з дрыготкім хваляваннем у голасе.— А па шапку прыедзеш, і прычына нейкая будзе, калі ты ўжо стаў такі баязлівы...

Яна зноў усміхнулася і ўзяла шапку. На момант, толькі на адзін момант, яе рука дакранулася мае рукі. І я адчуў цеплыню і ўсю гарачную, спакуслівую прывабнасць яе маладога, дужага цела. І ледзь стрымаўся, каб не абхапіць Марту за плечы, не прыцягнуць да сябе. Яшчэ б хвіліна, і я зрабіў бы гэта — сціскаў бы яе ў сваіх абдымках і цалаваў бы, цалаваў бы гэтак жа горача і хмельна, як цалаваў некалі, у тое лета, калі праводзіў Марту па вечарах да лесніччоўкі...

Але нешта мяне ўсё ж стрымала. Што? Тое, што Марта стала жонкаю чужога, невядомага мне чалавека? Ці я ўспомніў другую дзяўчыну, Валю, з якою я пазнаёміўся летась, калі быў на практыцы?.. Толькі я раптам адступіў назад да свайго веласіпеда, борзда ўскочыў на сядзенне і, нават не развітаўшыся, памчаў прэч ад Марты...

## II

Мо праз кіламетр я спыніўся, зноў павёў веласіпед рукамі ўзбоч сцяжынкі. Пашкадаваў — чаму я так не па-людску расстаўся з Мартай?... Што яна падумае пра мяне?

Але праз хвіліну супакоіўся. Хіба мне не ўсё роўна, што пра мяне падумае Марта? Яна першая парушыла нашу клятву, першая зрабіла тое, што не дае ёй права спадзявацца на што-небудзь лепшае ад мяне. Дурніца яна ўсё ж! Не паступіла ў інстытут, не магла году пачакаць, бежкам выйшла замуж... І каб хоць кахала таго трактарыста?.. А то, пэўна ж, не кахала. Бо каб кахала, хіба б гаварыла гэтак са мною, як сёння: «Хай пішуць... Ваўкоў баяцца, у лес не хадзіць». Не, гэта ўжо не жарт, а нешта большае. І ў вачах такі смутак, боль... Убачыла мяне, узрадавалася, бы дзіця, таго не ведаючы, што мне яна — мінулае, даўняе, напаўзабытае... Як рэха ў бары. Тут было, тут няма яго...

І адразу ж адчуў, што гавару сам сабе няпраўду. Гэта толькі так

мне здавалася, пакуль я быў у горадзе, пакуль не прыехаў сюды, у вёску, і не ўбачыў Марту. А ўбачыў — ажыло тое, што было некалі між намі... Хіба ж не захацелася мне абхапіць Марту, прыцягнуць да сябе і цалаваць, цалаваць, як цалаваў некалі?.. Так захацелася, што, каб не зрабіць гэта, я ўскочыў на веласіпед і памчаў прэч ад Марты. А яна?.. Таксама, як і я, успомніла, што было між намі... Ці, можа, жывучы адна ў лесе, затужыла па мужу?.. Кажуць жа, што маладой жанчыне вельмі цяжка быць доўга без мужа... А яна ж не бачыла яго ўжо не адзін месяц — муж яе паехаў з вёскі зімою і з таго так ні разу і не прыязджаў... Не, мусіць, усё ж яна казала праўду — яна не забываецца на мяне і шкадуе, што выйшла замуж не за таго, каго кахала... Які ж і я быў дурань — напісалі, што яна ходзіць у клуб, што ля яе ўвіхаецца нейкі трактарыст, я і паверыў, даў волю сваёй злосці... Што ёй заставалася рабіць?.. Спадзявацца на мяне, чакаць? Чаго? Я ж чорным па белым напісаў, што ў мяне ёсць другая дзяўчына, што я з ёю дружу і, напэўна, ажанюся. Напісаў, каб выклікаць рэўнасць, каб Марта адчула і сама, як гэта балюча ведаць, што той чалавек, у якога ты верыў, якому давяраў усё самае, здавалася б, патаемнае, раптам аказаўся зусім не тым... А выйшла вунь што...

І перад маімі вачыма праплыло тое апошняе маё лета дома перад інстытутам, з частымі ляснымі пажарамі, бо лета выдалася сухое, без навальніц і дажджоў, і ўсё сохла і гарэла не толькі ў лесе і на полі, але і ў балотах. Дым засцілаў наваколле, і нават у вёсцы ад дыму і смуроду не было чым дыхаць. І ўдзень і ўночы гарэлі тарфы. Пажары ў той год вялікай шкоды нарабілі не толькі лясам, а і калгасу, бо ў адну з начэй успыхнулі тыя балоты, што асушаны і на якіх было пасеяна проса і пасаджана бульба. Агонь непрыкметна падбіраўся да загонаў з просам і бульбай і пажыраў іх на вачах у людзей. І людзі глядзелі на гэта і нічым не маглі памагчы — пласт торфу быў тоўсты, на некалькі метраў у глыбіню, і атушыць агонь проста было нельга...

Тамаш Буда ў тое лета не стыкаўся дома. Не прыходзіў нават абедаць. Дзень пры дні быў у лесе — баяўся, каб не перакінуўся, не ўспыхнуў пажар у яго абходзе. І мы з Юзікам надумалі рыхтавацца да экзаменаў у інстытут разам у іхнім лясным селішчы. Балазе, тут было ціха і ніхто нам не перашкаджаў. Як толькі ўзыходзіла сонца, я выкатваў з сенцаў веласіпед, прывязваў да багажніка кніжкі і мчаў да леснічоўкі.

Юзік выносіў з хаты клятчастую палатняную посцілку, слаў яе пад маладой, кашлатай ліпкай, што расла на мяжы між полем і Тамашовым лугам і адкуль вельмі добра аглядалася ўся лясная сяліба. Палёгшы на жываты, мы па чарзе чыталі: Юзік чытаў, я слухаў, я чытаў — Юзік слухаў. А найбольш чытаў Юзік, бо я, лежачы на посцілцы, не зводзіў вачэй з лесніковай хаты. Я чакаў, калі выйдзе Марта, выцягне заткнуты ў вугал сенцаў серп, пойдзе жаць цяляці траву. Нажаўшы травы і занёсшы яе ў хлевушок, яна возьме капаніцу і пачне акопваць у агародзе бульбу ці палоць грады. Вось тады я і буду любавацца яе гнуткай, зваблівай паставай, загарэлымі, поўнымі ікрамі ног, голымі, такімі ўвішнымі рукамі, валасамі, што заплецены ў адну доўгую, тоўстую касу... Калі сонца падымецца высока, і ўжо нават у цяньку нашай кашлатай ліпкі ад духаты недзе будзе дзявацца, Марта прыйдзе да нас, моўчкі прысядзе на краёчак посцілкі, паслухае, што мы чытаем, і пакліча абедаць...

Пасля абеду мы з Юзікам з'ездзім пакупацца ў вяртлявую пралалодную Віць, зноў пачытаем, і на заходзе сонца, калі будуць з пашы гнаць кароў, я паеду дадому, каб заўтра зранку зноў быць тут, на гэтай ціхайляснай паляне. О, з якой бы радасцю я пасадзіў бы тады Марту на раму свайго веласіпеда, вёз бы яе перад сабою цераз лес у вёску, а потым бы цэлы вечар танцаваў, не адыходзіў бы ад яе ні на крок! А як добра ўмерклася б, мы непрыкметна зніклі б з клуба, і ўжо назад пайшлі б удваіх пеша да леснічоўкі...

Я не раз, і не два, а на дні мо па сотні разоў уяўляў, як бы добра было ўдваіх з Мартай ісці ўночы праз лес, і сэрца маё аж замірала ад шчасця...

Але тым летам Марта яшчэ не хадзіла ў клуб на вясковыя пагулянкі, а запрасіць яе самому на танцы ў мяне так і не хапіла смеласці. Я баяўся тады, наогул, хоць адным якім-небудзь неасцярожным словам ці паглядам выдаць сябе і свае пачуцці, выдаць, што ў мяне на душы. Ух, як я ненавіджу ў сабе гэтую нерашучасць, нясмеласць у самую патрэбную хвіліну!

Усё гэта,— і танцы па вечарах у клубе, і праводзіны Марты ноччу цераз лес да леснічоўкі, і хмельныя, да самазабыцця пацалункі,— прыйшло потым, праз год, калі я прыехаў на вакацыі з інстытута. Я нібы забыўся на ўсё, што нас акружала і што рабілася на свеце, і, як толькі змяркалася, бег у клуб, каб там зноў спаткацца з Мартай, каб згуляць з ёй дзеля прыклёпу пару танцаў і знікнуць да самае раніцы з вёскі... Я быў п'яны ад свайго кахання і ўсё лета жыў толькі адным ім. Старэйшы мой брат Кузьма, які ў той год вярнуўся з войска і таксама вечар у вечар хадзіў у клуб, іншы раз жартаваў:

— Гэта ж ахвоту трэба мець, ноч у ноч бухаць туды і назад па восем кіламетраў... Як бы і дзяўчат табе няма ў вёсцы!..

Я чырванеў, але змоўчваў. Для мяне, папраўдзе, не тое што дзяўчат, нікога нідзе не было ў тое лета — быў толькі сам я ды Марта...

## III

Сцяжынка віляе, уецца між камлёў сосен, лезе ў хмызняк, звіваецца вакол імхоў ды беляў, пакуль нарэшце не выводзіць мяне на бітую лясную дарогу, па якой ганяюць на пашу і з пашы кароў, ездзяць па дровы, ходзяць па ягады і па грыбы. Паварот, і вось бачу я—наперадзе ўжо свіціцца тая паляна, дзе стаіць Тамашова леснічоўка. Пераехаў Тамаш з вёскі ў лес нешта перад самай вайною і перажыў тут і вайну: ні немцы, ні партызаны яго так і не зачапілі. Астаўся за лесніка ён і пасля вайны, бо ўмеў, як ніхто, жыць з людзьмі. Змалку ён засвоіў тую ісціну, што складалася вякамі: салодкі будзеш — праглынуць, горкі — выплюнуць. І стараўся быць ні горкі, ні салодкі — жывучы ўсё сваё жыццё на адным месцы, ён ведаў людзей і ведаў, каму трэба даць ссячы якое бервяно, каб той не насіў за пазухай камень і не глядзеў воўкам, а на каго, калі той ссячэ дрэва сам, можна накласці і штраф, і чалавек той не выкруціцца — заплаціць. Таму парубак у яго абходзе заўсёды было менш, чым у іншых леснікоў, былі штомесяц і нейкія штрафы, і начальства за гэта Тамаша любіла.

Ля паляны я яшчэ больш запаволіў хаду — хацелася паглядзець, што змянілася на сялібе за тыя гады, што я не быў тут. Па правы бок ад дарогі, як не ў саменькім лесе, гарбацела абгароджаная густым штакетнікам леснічоўка, з другога зеляне́ў лужок — яго Тамаш

Буда штолета скошваў сваёй карове на сена. Дарога праходзіла пасярэдзіне паляны і як бы палавініла яе на дзве паляны. І тая палавіна, што бліжэй да вёскі, была не што іншае, як выбіты, спярэшчаны каровячымі сцежкамі выган.

Сама леснічоўка здалася мне цяпер яшчэ меншая, як была, і дужа старавінная. Тоўстыя, няроўна паабразаныя вуглы, маленькія, падслепаватыя вокны, чаратовая страха, аброслыя мохам сцены, складзеныя не па-тутэйшаму, з круглых неачэсаных бярвенняў... Леснічоўка паменшала яшчэ і таму, што за той час, што я не быў тут, вырас садок, які некалі пасадзіў Тамаш па ўсім сваім агародзе. Тая ліпка, пад якой мы з Юзікам рыхтаваліся да экзаменаў у інстытут, цяпер вымахала ў добрую ліпу. Тамаш нават усцягнуў на яе калодны вулей. Стаяла ля плоту і тая нешырокая, вышмараваная людскімі штанамі і спадніцамі лавачка, на якой я праседжваў не так даўно ночы з Мартай...

Забрахаў сабака. Але на яго брэх з хаты ніхто не выйшаў — ці то не было нікога дома, ці проста не прыслухаліся да сабачага брэху. Толькі пападымалі ўгору галовы і загегеталі гусі, што хадзілі па другі бок дарогі на выгане. Але і яны хутка супакоіліся, не пачуўшы ніякай небяспекі, пачалі зноў шчыпаць траву.

Мінуўшы паляну, я сеў на веласіпед. Зноў успомніў Марту, ужо неяк больш спакойна, без замілавання і таго хвалявання, з якім успамінаў яе хвіліну назад. Вось тут, ля гэтага каржакаватага, прысадзістага дубка мы з ёю стаялі, я браў яе на рукі і падсаджваў, каб яна дастала сук. Падцягнуўшыся, яна скакала на зямлю, а я лавіў яе і прыхінаў да сябе... Тут, ля вялізнага ніцага куста лазы аднойчы, калі мы позна ўночы ішлі з клуба, нешта перабегла нам дарогу, і мы спалохаліся, думалі, што гэта воўк... А ля гэтай старое, кашлатае сасны Марта мяне першы раз пацалавала сама: абхапіла шыю рукамі і пацалавала... А вось там, ля броду, мы ўпалі, калі я вёз Марту на веласіпедзе ў кіно... Давялося вяртацца назад, каб пераадзець запэцканае ў гразь плацце, і ў кіно мы спазніліся...

Я ехаў па дарозе, дзе мне было знаёма кожнае дрэва і кожны куст і дзе ўсё напаміналa пра Марту, і сэрца маё поўнілася пякучашчымлівым болем. З Мартаю ў мяне ўсё скончана, думаў, нібы супакойваў я сам сябе. Хай яна астанецца ў маёй памяці тым, што ёсць бадай што ў кожнага чалавека — маім першым нешчаслівым каханнем. І мне пара прывыкнуць ужо да думкі, што Марта не мая. і ніколі не будзе маёй, і больш не вярэдзіць сабе душу ўспамінамі, глядзець на яе, як на нешта даўняе, мінулае, тое, што было і чаго не вернеш. Тым болей, што я спаткаў ужо другую дзяўчыну, і тая дзяўчына, здаецца, шчыра пакахала мяне, і якую пакахаў я — з ёю я ўжо ніколі не расстануся...

Добра што ўспомніў: ёй трэба напісаць пісьмо. І расказаць, як я ездзіў варочаць сена, сустрэў Марту і што я думаў, чаму хваляваўся...Хай ведае Валя, што яна мне не абы-хто, а самы блізкі і дарагі чалавек. І я не магу далей хаваць, як злодзей, ад яе тое, што было ў мяне некалі з Мартаю, калі я не ведаў яе, Валі...

## IV

Дома не было нікога: бацька яшчэ не вярнуўся з калгаса, а маці некуды выйшла — ці не нарваць свінням травы.

Я дастаў ключ — яго хавалі пад старое карыта, што, перавернутае ўверх дном, валялася ў двары ля плоту, і адамкнуў хату. І на нейкі момант застыў у парозе — стаяў, не рашаючыся праходзіць далей, і аглядаў усё такое знаёмае, звыклае, сваё, нібыта бачыў яго ўпершыню пасля доўгай ростані, нібыта я вярнуўся не з сенажаці, а толькі што з горада, з цягніка. Ля дзвярэй стаіць той жа шырокі, мокры ад вядра, з якога пілі ваду, услон, пад ім — вялізны дубовы цэбар. На сцяне, трошкі далей,— завешаная марляй паліца. У куце, між акон,— стол, засланы палатняным даматканым абрусам. Два старыя, самаробныя ложкі, канапка, табурэты... Як і заўсёды, падлога чыста памыта і аж ззяе на сонцы, што слепіць вочы з усіх чатырох акон. У адной маснічыне, ля печы,— круглы, карычневы ад смалы сук; у ім невялічкая дзірачка — некалі, яшчэ хлапчуком, я націраў у гэтую дзірачку запалкавых галовак, потым біў па цвіку малатком і страляў, як з прапяканкі. Бацька аднойчы падлавіў мяне за гэтым заняткам і адсцёгаў дзягаю. Тая шырокая раменная дзяга таксама вісіць на цвіку ля стрэльбы на глухой сцяне, як вісіць на бэльцы ў кутку ля печы і той стары крамны рукаў з рабой Кузьмовай кашулі, у які бацька гадамі збіраў квіткі аб здачы розных падаткаў — мяса, малака, яек, бульбы, скур, страхоўкі, самаабкладання... У агента, што неяк прыйшоў праверыць, ці разлічыліся мы з дзяржавай, аж выступіў на носе па гарошыне пот, пакуль ён шукаў у тым рукаве патрэбныя яму квіткі. Ён пляваўся, гнуў мацюкі, разоў колькі вылазіў з-за стала, каб пайсці з хаты. Калі ж, нарэшце, бацька падаў яму патрэбныя паперкі, агент, нават не глянуўшы на іх, параіў бацьку ўсё лішняе спаліць. Бацька на гэта не адказаў нічога, толькі лыпнуў з-пад калматых броваў вачыма. А як агент выйшаў з хаты, завязаў рукаў ніткаю і павесіў зноў на тое самае месца, дзе ён і вісеў дагэтуль.

— Ыш ты, разумнік знайшоўся! Спалі, дык ён назаўтра прыйдзе і будзе казаць, каб я паказаў яму квітанцыі за ўсе гады. А няма — пляшку стаў, ці вопіс гаспадаркі пачне рабіць... Ведаем такіх. Не першы!..— доўга яшчэ бубнеў, не мог угаманіцца бацька.

Успомнілася гэта, і я ўсміхнуўся. Даўно мінуў той час, па вёсцы не ходзяць ужо агенты, бо і падаткаў тых ніхто цяпер не плаціць, а рукаў вісіць. І будзе вісець яшчэ доўга, бо бацьку не пераканаеш, што праз нейкі час не ўзбрыдзе некаму ў галаву праверыць старыя квітанцыі. Зняверыўся... Пасля вайны, калі ён вярнуўся з палону, патрабавалі ж нейкія ранейшыя дакументы. І каб іх не зберагла маці, закапаўшы ў шкляным слоіку ў агародзе, хто ведае, дзе сёння быў бы бацька...

Хата старая ў нас, яшчэ даваенная. Такіх хат у вёсцы ўжо асталося мала — кожны стараецца паставіць новую і не такую, як была, не проста хату, а дом, дзе была б асобна і спальня, і кухня, і прыхожая. Пагаворваў пра новую хату год колькі назад, калі я вучыўся яшчэ ў школе, і мой бацька. «Людзі стаўляюць, а мы што, хіба ўломкі!» — казаў ён.

Але новай хаты бацька так пакуль што і не паставіў. Вярнуўся са службы ў войску Кузьма, жаніўся, і давялося памагаць ставіць хату яму. А калі зрабілі хату Кузьму, бацька раптам загаварыў, што новая хата яму не трэба. «З дошак зробяць! — пачаў жартаваць ён.— А да той, дашчанай, бадай што і ў гэтай дажыву...»

У такой крутой перамене бацькавага настрою я бачыў другое. Раней бацька думаў, што я не паступлю нікуды вучыцца, астануся дома, у вёсцы, тады б новая хата была вельмі дарэчы. Жаніўся б і жыў бы ў ёй па праву меншага сына. А цяпер і праўда, навошта нам тая новая хата? У Кузьмы свая ёсць, а мая хата — дзе я сам. Учора я

жыў у горадзе, у студэнцкім інтэрнаце, сёння дома, у вёсцы. А заўтра?.. Заўтра я і сам не ведаю, дзе буду...

Такі цяпер час. І вёска не тая, што была некалі, і горад не той. Едуць людзі з горада ў вёску, з вёскі ў горад. І я не ўяўляю проста, як гэта можна ўвесь свой век пражыць на адным месцы, у адной хаце і нідзе, акрамя сваёй вёскі, не быць. А маці ж мая жыве так усё сваё жыццё, вось у гэтай хаце...

Дый, відаць, не так лёгка ставіць новую хату. Пісаў мне тады Кузьма, у адзін толькі раён колькі разоў давялося яму з'ездзіць, каб лесу далі. А трэба ж было яго, той лес, і парэзаць, і пачасаць, і прывезці, потым зруб зрубіць, накрыць яго, падлогу паслаць, печ зляпіць... Каб усё гэта парабіць — і сіла трэба, і час, і грошы...

І бацька палічыў за лепшае дажываць век свой у старой хаце, чым брацца будаваць новую...

## V

Паставіўшы веласіпед у сенцы, я сеў пісаць пісьмо Валі.

«Любая,— старанна выводзячы кожную літару, пачаў я.— Вось я і дома. Што я раблю, чым жыву, пра што думаю?.. Лепш за ўсё апішу падрабязна, як ёсць, адзін дзень свайго быцця ў вёсцы, і ты, калі ласка, уяві ўсё сама...

Прачынаюся я рана, на досвітку. Але не ўстаю, ляжу нейкі час на вышках у хляве (тут я і сплю, на сенавале) і слухаю вясковую раніцу. Чую, як суха рыпіць недзе аж у тым канцы вёскі журавель, як трубіць у берасцяны ражок пастух, як у кожным двары бразгаюць і дзынкаюць бляшаныя даёнкі — прачнуліся гаспадыні і спяшаюцца даіць кароў. Гучна ляскаюць весніцы, вішчаць свінні, верашчаць парасяты, кудахчуць куры, то тут, то там крычаць, гамоняць людзі... Праз невялічкую шчыліну ў страсе ў хлеў залятае ластаўка — прыносіць сваім дзецям корм. Павольна кружыць пад страхою, нешта весела шчабеча і ўжо толькі тады лёгка ўпорхвае ў гняздо — яно ў самым вільчаку, на дубовай сасе, цёпленькае, сухенькае, звітае з гразі, сена і пер'я. Малыя весела ціліўкаюць, і я бачу, як яны выцягваюць свае яшчэ зусім голыя, худыя шыйкі, разяўляюць кволыя жоўтыя дзюбкі і хапаюць корм. Устаю і я. Адзяюся і па хісткіх альховых драбінцах спускаюся ўніз, у хлеў. У хляве пахне гноем, прэлай саломай і малаком — маці, седзячы на табурэціку, доіць карову. Я кажу ёй добрай раніцы і, не заходзячы ў хату, выкатваю з сенцаў веласіпед і еду па роснай сцяжынцы, што віецца па бульбяным полі, у лес, еду да нашай буркатухі Віці — кіламетраў за тры ад вёскі я заязджаю і стаўлю там на ноч кашы. Яны амаль заўсёды парожнія, але затое калі трапіць шчупак — як ён лапоча, б'ецца аб сухое лазовае пруцце!

Пасля я блукаю па лесе, раблю што-кольвек у двары ці ў агародзе (сяку дровы ці памагаю маці палоць і акопваць грады) і сумую, сумую па табе, мая любая Валечка. Як не кожную хвіліну выбягаю на вуліцу, каб паглядзець, ці не ідзе паштальён, ці не нясе ад цябе пісьма. Іншы раз не вытрымліваю і іду сам на пошту. Дзяўчаты, што там працуюць, смяюцца з мяне. «Яшчэ табе пішуць»,— кажуць яны. І тады я раблюся сам не свой — як цень снуюдаюся па вёсцы і чаго толькі не думаю пра цябе. Мне здаецца тады, што ты неспадзявана захварэла ці трапіла пад машыну і ляжыш непрытомная ў бальніцы, ці — і гэта самае страшнае! — сустрэла ў вёсцы якога-небудзь свайго даўняга знаёмага і зусім забылася на мяне...

Я кахаю цябе і буду кахаць вечна. І ў імя нашага кахання я не магу, каб не расказаць пра адну дзяўчыну, з якой я сёння выпадкова сустрэўся, калі вяртаўся з сенажаці — сястру былога майго аднакласніка, Марту. Каб ты толькі бачыла, як узрадавалася яна гэтай сустрэчы!..»

Я напісаў гэтыя словы, і адразу ж схамянуўся, наважыўся іх закрэсліць. Але, падумаўшы, чамусьці не зрабіў гэта, пісаў далей:

«Ты нічога благога не думай, Валечка. У яе ёсць муж, ён паехаў на заработкі ў Карэлію, і яна проста засумавала па ім. Сустрэча з Мартаю мне напомніла, што ў сім-тым я павінен прызнацца табе: некалі, калі я закончыў першы курс інстытута і прыехаў на вакацыі дадому, я праводзіў Марту дахаты і нават яе цалаваў... Марта — леснікова дачка. Жыве яна ў лесе, робіць на падсочцы... І ты,



калі ласка, не думай, што ў мяне з Мартаю можа быць цяпер хоць якая блізкасць. Усё гэта я напісаў, каб ты ведала пра Марту і ніколі не папракала мяне тым, у чым я раскайваюся і сам...

Пішы мне. Абдымаю цябе і цалую.

**Змітрок».**

Паставіў дату, перачытаў пісьмо. І яно здалося мне надта ж пустое, няшчырае. Многага з таго, пра што я пісаў, не было зусім, а калі яно і было, дык было не так, як пра гэта я напісаў. За тыя дні, што быў я дома, я Валі так ні разу і не ўспомніў. Наадварот, сумаваў я па Марце. І на пошту хадзіў не таму, што мне нецярпелася хутчэй атрымаць пісьмо ад Валі, а таму, што я спадзяваўся там сустрэць Марту — яна, я ведаў, хадзіла туды часта, каб забраць пісьмы ад мужа і Юзіка і ўкінуць у паштовую скрынку свае. Навошта ж мне пісаць Валі няпраўду? Хачу шчырасці, выклікаю на шчырасць Валю, а сам нават у пісьме няшчыры. Дый якая пустата думак, якое ўбоства душы! Не, такога пісьма нельга пасылаць: яшчэ Валя падумае, што я не той, каго яна кахала, і расчаруецца ва мне...

І я парваў пісьмо на дробныя шматкі і ўкінуў у печ.

«Напішу лепей заўтра»,— падумаў я. І тут жа ўкалоў сябе, што Марце я пасылаў пісьмы, ніколі не перачытваючы, і не баяўся, што яна падумае пра мяне не так, як таго можа б хацелася мне... Чаму б гэта?..

У сенцах загрукала секачом маці, і я выйшаў памагаць ёй карміць свіней.

## VI

Дажджу назаўтра не было, стаяла зноў на пагодзе. І мы з бацькам схадзілі ў Чортаў Луг, зграблі сена і скідалі яго ў стог. Нішто сабе стажок, даволі ладнаваты — вазы на тры! І скідалі мы яго хвацка, прыгожа. Ад адзёнка вузкі, круглы, і чым вышэй, тым шырэйшы. Верх востранькі, шылаваценькі. Не стог, а проста цацка!

Калі мы палажылі апошнія апоўзіны і выйшлі на бераг лесу да таго дуба, дзе я адпачываў учора і дзе стаяў і сёння мой веласіпед, было яшчэ рана, сонца толькі-толькі схілілася на вечар. Мы пасядзелі трохі пад дубам, пагаварылі аб сім-тым, потым бацька падняўся, яшчэ раз адсюль, зводдалі, палюбаваўся стажком і сказаў, каб я памалу ехаў дадому, а ён па дарозе зойдзе яшчэ ў адно месцейка паглядзець, ці не скасіў там хто травы...

Я прывязаў да рамы вілы, свае і бацькавы граблі, сеў на веласіпед і лёгенька пачаў націскаць на педалі. Еду, еду і зноў не заўважыў, як збочыў на тую сцяжынку, што вяла да лесніччоўкі. А калі заўважыў, вяртацца назад было позна, бо праехаў я добрых кіламетры два. Дый, калі прызнацца шчыра, вяртацца назад мне не дужа хацелася. Нейкая невядомая сіла, нібы наканаванне, вабіла мяне, цягнула ехаць менавіта па гэтай сцежцы. Мне пачало нават здавацца, што сёння павінна здарыцца нешта вельмі важнае, што пераверне маю душу і ўсё далейшае маё жыццё. Я чакаў гэта нешта новае і незвычайнае, і сам не верыў, што яно можа быць. І па праўдзе — ну што магло здарыцца?.. Марта замужам, мужа яна не пакіне, дый я, бадай, не захачу, каб яна пакідала яго. Хай жывуць ужо, як сышліся... «Эх, Марта, Марта!.. Куды ты спяшалася?.. Хіба не магла напісаць мне, запытацца, чаму я прыслаў табе тое пісьмо?..

Ці ты выйшла замуж наўмысна, назнарок, каб адпомсціць мне?.. Дый я добры быў — напісаў пісьмо, і хоць бы слова, паўслова... Анічагуткі, быццам і не пісаў да гэтага штодзень, быццам і не меў патрэбы расказваць усё, што я думаў, што наогул рабіў. А каб ніхто не чытаў маіх пісьмаў, я пісаў іх нямецкімі літарамі, якіх ні Тамаш, ні яго жонка Паўліна не ведалі... Пісаў так да таго апошняга майго пісьма. Тое пісьмо напісаў ужо як трэба, бо мне не было болей чаго хаваць ад Марціных бацькоў... Наадварот, я хацеў, каб яго прачыталі яны і пасварыліся на Марту... Я не думаў, што Марта паверыць майму пісьму. Мне ўяўлялася зусім іншае — Марта пачне дапытвацца, чаму я стаў такі злосны і пішу пра тое, чаго няма і чаго ніяк не можа быць. І тады б... Тады б я напісаў, як я кахаю яе, як баюся, каб яна не выйшла замуж за другога. І папрасіў бы: не хадзі, Марта, у клуб, не танцуй абы з кім, пачакай, калі прыеду я...»

Але Марта мне нават не адказала...

Я чакаў ад яе пісьма доўга, аж пакуль, нарэшце, не напісалі з вёскі, што Марта выходзіць замуж...

Два наступныя леты я не прыязджаў на вакацыі дадому. Адно лета ездзіў разам з усім курсам на цаліну — памагаць цаліннікам убіраць ураджай, другое правалэндаўся на практыцы на вялікім заводзе, на Украіне. Шчыра кажучы, цаліна і практыка былі толькі адчэпкай, каб не ехаць у вёску, дадому. Я чамусьці пачаў баяцца паказвацца на вочы тым людзям, якія ведалі мяне змалку, баяўся пажыць сярод іх хоць бы дзень. Гэтая боязь узрасла, калі я неяк у верасні прыехаў на тры дні дадому,— вельмі ж крыўдзілася на мяне маці, што я на яе забыўся і не еду нават пераведацца,— пайшоў у лес па грыбы і спаткаў на гэтай вось сцежцы Марту...

«Трэба хоць цяпер прызнацца Марце, што тое пісьмо я напісаў у злосці, што ніякай дзяўчыны ў мяне не было, што з той, што я дружу, я пазнаёміўся толькі праз два гады, на практыцы,— падумаў цяпер я.— Хай ведае, што я напісаў тое пісьмо з адным толькі жаданнем — выклікаць рэўнасць».

... Там, дзе ўчора злавіў вожыка, я зноў спыніўся. Але як ні ўслухоўваўся, ці не шамаціць дзе паблізу лісце, як ні ўглядаўся, ці не ходзіць між камлямі соснаў Марта,— Марты не ўбачыў.

«Можа яна сёння дзе далей сабірае смалу?..»

Праехаў далей,— дзялянкаю, па сцяжынцы,— Марты не было.

«А можа яна дома?..»

Сеў на веласіпед, даехаў да лесніч0ўкі. Зноў забрахаў сабака, і зноў на яго брэх ніхто не выйшаў з хаты...

За палянай я падумаў, ці не вярнуцца мне назад на дзялянку. Можа Марта сабірала смалу далёка дзе ад сцежкі і цяпер падышла бліжэй?.. Я ўжо быў крутнуў руль, каб завярнуцца, але ў той жа момант другая думка спалохала мяне: «А што, калі Марціна маці дома і глядзіць у акно? Учора бачыла, сёння таксама... Калі ўбачыць, што я вяртаюся назад, на дзялянкі, адразу ж здагадаецца пра ўсё. І насварыцца на Марту...»

Як ні цяжка было мне прымусіць сябе ехаць дадому, але я ўсё ж прымусіў — не, мне ні ў якім разе нельга быць тут, каля леснічоўкі. Мне нельга быць нават у вёсцы. Трэба было і сёлета не ехаць на вакацыі сюды, дадому, а купіць якую-небудзь турысцкую пуцёўку, а не — паехаць разам з Валяй да яе бабкі, у тую невядомую вёсачку пад Крычавам, што стаіць на беразе Сожа і пра якую так часта ўспаміналі Валя. У гэтай вёсачцы Валя жыла ў вайну, да



таго, як немцы злавілі з лістоўкамі яе маці і расстралялі... Жыла і пасля, у бабкі, бацькавай маці, аж пакуль не скончылася вайна і яе не забраў у горад матчын брат... Сёлета ўсю вясну бабка пісала Валі, што яна вельмі аслабела, ледзьве соўгаецца па хаце, і хацела б перад смерцю пабачыць сваю ўнучку, пажыць з ёй хоць які месяц так, як жылі ўдваіх некалі... І Валя паехала да бабкі. «Калі табе будзе сумна, прыязджай да нас»,— запрашала Валя, калі я праводзіў яе пасля сесіі на цягнік...

## VII

У вечары вярхом на кані прыехаў Кузьма. Ён прывязаў ля двара за штакеціну танканогага гнядога жарэбчыка і ўбег у хату — босы, у старым выцвілым салдацкім галіфэ і такой жа выцвілай, амаль што белай салдацкай гімнасцёрцы.

— Здароў, студэнт! — падаў ён мне руку і, убачыўшы, як пільна аглядаю яго, засмяяўся.— Што, так ў горадзе не ходзяць? — спытаўся ён не то жартам, не то ўсур'ёз.

— Чаму не ходзяць? — паціснуў я жорсткую, жылістую Кузьмову руку.— І ў горадзе ўсякія людзі жывуць. Не адны ж там вучаныя...

— Го-го-го! — не даўшы мне дагаварыць, зарагатаў на ўсю хату Кузьма.— Дык і я ж, можа, таксама не які невук, а брыгадзір!

— Ну, а калі ты брыгадзір,— умяшалася ў нашу гаворку маці— яна стаяла з чапялою ля печы, варыла вячэру,— дык не хадзі, бы старац, адзявайся...

— Навошта яго, добрае, у поле надзяваць? Запылішся, запэцкаешся... Праўда ж? — падміргнуў ён мне.— Дый часу на гэтыя пераадзяванні няма, сёння не абедаў нават...

— Бо дурны,— уставіла зноў сваё маці.— Колькі разоў казала табе, што работы ўсёй не пераробіш... Памрэш, а работа нязробленая астанецца...

— І ўсё адно — пакуль жывеш, рабіць трэба,—уздыхнуўшы, нібы між іншым, сказаў Кузьма.— Ды я не дзеля таго прыехаў. Я хацеў сказаць, што заўтра па абедзе мы едзем усім калгасам у Застожжа касіць. Можа б і ты паехаў, Змітрок? Га? — паглядзеў ён на мяне.— Табе дзень сюды, дзень туды, а нам — яшчэ адзін касец!

— Што? — накінулася на Кузьму маці.— Блізкі свет Застожжа! Гэта ж і начаваць там трэба на камарэчы, і есці, а ён і так высах у горадзе, як таран... Хай хоць трохі апратаецца дома. Хутка ж зноў ехаць...

— Не адгаворвай, маці,— заступіўся за Кузьму бацька. Прышоўшы з сенажаці, ён злазіў на гарышча, назбіраў там нейкага бадылля (за зіму скурыў увесь свой, да лісточка, мультан) і цяпер крышыў тое бадыллё на ўслоне.— Хай едзе, калі хоча. Хоць правятрыцца, з людзьмі пабудзе...

— Ну дык як, студэнт? — падняў зноў на мяне вочы Кузьма.— Паедзем?

Мне было ўсё роўна, куды ехаць, абы толькі не сядзець дома, не ўспамінаць Марты, не думаць, як бы з ёю зноў сустрэцца, пагаварыць. Я адчуваў, што калі я буду дома і заўтра, я не стрываю — сяду на веласіпед і паеду па той запаветнай сцяжынцы да дзялянак. А я гэтага не хацеў. І таму сказаў:

— А чаму б і не паехаць?.. Толькі ты мне касу добрую

знайдзі,— папрасіў я Кузьму.— Такую, каб ніхто пяткі мне не падрэзаў...

— Што-што, а касу знойдзем,— узрадаваўся Кузьма.— Абы ты толькі ў руках яе трымаў — сама касіць будзе!

— Ну вось...— заламала рукі маці.— Не шукай работы, дык яна сама цябе знойдзе...

— Ціха, ціха, маці,— сказаў зноў сваё важкае слова бацька.— Ні там, ні тут ён яшчэ надта на пуп не браў. Хаця і трэба было, каб помніў, чый ён сын і з чаго есць хлеб яго бацька, каб не смяяўся, не цураўся, як некаторыя, усяго свайго, вясковага...

Кузьма прашлэпаў босымі нагамі па падлозе і аж пацёр далоні.

— Ну вось, і яшчэ аднаго касца знайшоў! — і ўжо да ўсіх: — Ну, я паехаў!

— Пачакай,— з дакорам паглядзела на Кузьму маці.— Вячэра зараз зварыцца, хоць бы картоплю ў рот укінуў, рабацяга...

— Не, мама, няма калі,— аднекнуўся Кузьма.— Дома і паабедаю і павячэраю заадно...

Праз хвіліну ён быў ужо на кані. Прыгнуўшы галаву да грывы, ён скакаў некуды ў другі канец вёскі — аж курэў услед за ім пыл.

## VIII

Ад нашае вёскі да Застожжа кіламетраў дзесяць. Гэта калі ехаць напрасцяк, праз брады. Лета сёлета было не надта сухое: не-не дый дажджыла. Асабліва з вясны. Таму дабірацца на далёкія сенажаці давялося кружным шляхам — летнікам, і не на машынах, а коньмі.

У дарогу збіралася ледзь не ўся вёска — кляпалі косы, ладавалі торбы, падмазвалі каламаззю восі, падганялі хамуты і вупраж. З самага ранку з камінoў смачна пахла смажаным мясам: гаспадыні круцілі маладых пеўняў, даставалі з кублаў прыхаваны з зімы скорам — на сенажаць кожны стараўся ўзяць лепшае, каб было аб чым пацягнуць касу. А як толькі спала паўдзённая спёка, рушылі. Цэлы абоз фурманак расцягнуўся па звілістай палявой дарозе. Зашуршаў пад коламі пясок, затарабанілі ў вазах граблі і косы, і на яшчэ кволую, аксамітна-зялёную збажыну, што густа стаяла паабапал дарогі, паплыў шызы пыл.

Я сеў да Кузьмы на падводу, якая ішла ў канцы гэтага не зусім звычайнага абозу і як бы замыкала яго. З намі, на старых разбайдаваных калёсах, звесіўшы з драбінак ногі і дугою выгнуўшы шырокую спіну, ехаў і далёкі наш родзіч, мой цёзка Змітро Жолуд. Быў ён самы дужы чалавек у вёсцы, і праз гэта яго імя часта ўспаміналася ў людскіх гаворках. Расказвалі, да прыкладу, як ён, будучы ў партызанах, аднойчы ўзяў у палон жывога немца. Немец трапіўся на дзіва ўпарты — ані не хацеў ісці да партызан. Сеў на дарозе і чаго дзядзька Змітро ні рабіў — не зрушыўся з месца. Тады дзядзька раззлаваўся, злёгку аглушыў немца прыкладам па галаве, скруціў вяроўкаю яму рукі і ногі (каб не брыкаўся, зараза, і не лез пазногцямі да твару) і, закінуўшы за спіну, прывалок яго на сабе, бы ўсё роўна мех бульбы, у лагер...

У вёсцы не было ніколі завядзёнкі запрагаць валоў, калі, бывала, здаралася ў бездараж на грэблі, што была адразу ж за нашаю хатай, засядаў у гразі старшынёў легкавічок (на ім старшыня штодзень ездзіў у райцэнтр да жонкі, якая ўсё ніяк не магла асмеліцца перабрацца ў вёску),— клікалі заўсёды Змітра Жолуда. Ён прыходзіў у ватоўцы, у гумавых ботах і, як бач, выкочваў легкавічок...

Болей за дзядзьку Змітра ў калгасе ніхто не зарабляў працадзён. І каб калгас быў багаты, перадавы, чалавек не раз бы за сваю працу атрымліваў бы і ўзнагароды, і прэміі, пра яго б ведалі бадай што ў самім Мінску. А паколькі калгас у нас быў так сабе, ні багаты, ні бедны, пра Змітра ніхто нідзе не гаварыў, не пісаў...

Дзядзька Змітро, як можа ніхто ў нашай вёсцы, любіў праўду, шчырасць і не цярпеў ніякай маны. І пры гэтым ані не ўмеў прытварацца — усім, каго спатыкаў, рэзаў у вочы тое, што думаў. За гэта яго паважалі людзі. Любіў ён і паразважаць аб жыцці-быцці.

— Я от, можа, таксама,— звычайна пачынаў ён,— пацягаўся па свеце, дарог колькі ўсялякіх за вайну перамераў сваімі нагамі. І ўсяго пабачыў, на ўсё нагледзеўся — і на цагляныя дамы, і на рэкі розныя, і на людзей... І скажу табе, чалавеча, лепшага месца, як у нас, нідзе няма. Тут табе і лужок, тут табе і поле, і рэчачка, і лясок. Улетку — рыба, ягады, грыбы, еш, хоць расперажыся; узімку — дзічына, дровы, можна сказаць, на самой печы. І калі бот падраўся, лапаць сплесці можна — лазы ж наўкруг, хоць гаць гаці... Не ўродзіць жыта, бульба ўродзіць. Вымакне ў лагчыне, на пяску нешта вырасце. Хата струхлела — лясок пад бокам, новую стаў... А неба якое высокае ў нас, зор колькі высыпае начамі ўвосень! А яблыкі якія смачныя — ясі, і есці іх яшчэ болей хочаш... Бывала, успомню перад боем куточак свой, грушу, што ў двары маім стаіць, ці як картаплянік пахне, калі яго з поля сцягваеш ды ў агонь кідаеш... І зашчыміць сэрца, нямілым усё на свеце робіцца... Падумаеш: няўжо болей не пабачу свайго дома, не пахаджу, дзе хадзіў?.. Можа я прывык... Кажуць жа, што кожны кулік сваё балота хваліць. Толькі скажу табе, чалавеча, што бог нас не абдзяліў, зямельку такую зручную даўшы...

Цяпер дзядзька Змітро зацята смактаў тоўстую, як палец, самакрутку і моўчкі глядзеў на свае доўгія ногі, што, абутыя ў гумовікі, ледзь не валакліся па зямлі.

— Што гэта вы, дзядзька, маўчыцё, не раўнуючы як на хаўтурах? — не стрываў, урэшце, Кузьма і павярнуўся тварам да дзядзькі Змітра. Кузьма сядзеў уперадку і правіў коньмі: у тым жа салдацкім галіфэ, у той жа выцвілай гімнасцёрцы, толькі на нагах гэты раз былі абуты таксама, як і ў дзядзькі Змітра, гумовікі.

— А што гаварыць?..— не падымаючы галавы, раўнуў сваім густым басам дзядзька Змітро.— Усё роўна, гавары ці не гавары, ад гэтага нічога не зменіцца...

— Ну, тут вы, дзядзька, нешта загнулі не тое...— пакруціў галавою Кузьма.— Так сказаць, песімізма...

Кузьма пасля службы ў войску заўсёды пры зручным выпадку любіў уставіць якое-небудзь «вучонае» слова. Грамата ў брата была невялікая, усяго якія шэсць ці сем класаў, а ён дужа хацеў, каб пра яго гаварылі, што ён сёе-тое ды ведае і ў сім-тым разбіраецца.

— Што не тое? — са злосцю агрызнуўся дзядзька Змітро — ён быў сёння, як і ўсе дзецюкі, трошкі нападпітку.— Хіба не праўду я казаў і кажу: зямля не мае цяпер сілы над чалавекам. Кожны смаркач скончыць школу і — ф'юць!.. У вёсцы астаюцца толькі тыя, хто сам ужо нічога рабіць не можа. А ўсе астатнія — на вучобу, вярбоўкі розныя, на цаліну, будоўлі...

Памаўчаў, падумаў.

— Ліха яго ведае, можа і праўда, як некаторыя кажуць, я застарэў... Толькі я, бы дрэва тое, дзе ўрадзіўся, там і памерці хачу. І як бы дрэнна ні было мне, усё роўна нікуды адсюль не паеду. І людзей тых ненавіджу, што ўвесь век свой толькі тое і робяць, што па свеце валочацца, усё лёгкага хлеба сабе шукаюць. Дзе начуе, там ужо не днюе... Там добра, дзе нас няма... А я скажу, дзе мы ёсць, там сама лепей... Вазьмі нават бусла, што на хляве ў мяне гняздо звіў... Свет абляціць, а на мой падворак вернецца. То, напэўна ж, і ён не дурны: ведае, што лепей, як у нас, нідзе няма... І нешта рабіць трэба, каб не ўцякалі людзі з дому, каб зямелькі свае не цураліся, а каб была яна даражэй чалавеку за жыццё... Тады мы і з хлебам будзем, і лекцый розных ды дакладаў не трэба будзе па гэтульки чытаць...

— Во, гэта голас...— падтакнуў Кузьма.— Вунь і сёння з калгаса шэсць сем'яў едзе. І куды — аж на Сахалін! Кідаюць бацькаўшчыну,— усё, з чым з гадамі зжываліся, да чаго прывыклі змалку,—і едуць...

— Ага!..— пажвавеў, заёрзаў на адным месцы дзядзька і нават на момант забыўся смактаць папяросу.— Тут ты падтакваеш мне. А ты на сходзе, на сходзе скажы пра гэта!..

— І скажу,— сцебануўшы пужкаю коней, кіўнуў галавою Кузьма.— Думаеце, пабаюся?..

— Ты не гразіся, ты скажы, скажы... А то пакуль ты сабярэшся гаварыць, глядзі, каб не позна было...— Зноў памаўчаў, падумаў.— Дажыліся вунь да таго, што мая меншая ўжо крык падняла — завярбуюся і паеду. Хоць замуж там выйду... Ты чуў? Каб выйсці замуж, трэба ехаць на край белага свету...— Дзядзька пацягнуў папяросу, марудна выпусціў з роту колцамі дым.— А падумаеш, і праўду кажа... Мая Валя вунь колькі год у дзеўках сядзела. А паехала з вёскі, на трэці ж месяц замуж выйшла. І жыве. Ва ўсякім разе, не горш, чым мы з табою — паробіць месяц, ведае, што нешта палучыць.

— Ездзіць кожны ўмее. А паспрабуй так зрабіць, каб не адсюль, а сюды ўсе ехалі,— як бы заспрачаўся з дзядзькам Кузьма.

— Паспрабуй, паспрабуй...— падахвоціў Кузьму дзядзька.— Можа ў цябе што і выйдзе. Бо я колькі ні рабіў — нічога ў мяне не выйшла... Эт, ды што пераліваць з пустога ў парожняе!..— Дзядзька абыякава махнуў рукою, яшчэ болей сагнуў спіну і апусціў галаву.

Кузьма болей не чапаў яго, бо ўехалі ў лес,— дарога тут завіляла між дрэў, і трэба было глядзець за коньмі, каб не ўз'ехаць на які-небудзь пень ці не зачапіцца воссю за камель і не паламаць калёсы.

Задумаўся, седзячы на возе, і я. Па праўдзе, здаецца ж, па-другому пачалі жыць цяпер людзі — у кожнай хаце ёсць электрычнасць, радыё, купляюць матацыклы, тэлевізары. І ўсё роўна нечага людзям не стае — уцякаюць з вёскі, нібы тыя зайцы. І едуць таксама ж не гуляць, а працаваць. Значыць, людзі трэба і там, куды едуць, і можа нават болей, чым тут. І, мусіць, нельга прывязваць чалавека сілком да зямлі, калі ў яго няма ахвоты яе ўрабляць. Хай едзе, куды хоча, куды яго цягне. Вось і мяне таксама не вабіць вёска, бацькава селішча, зямля. І добра гэта ці дрэнна?.. Наогул, дзіўна неяк у мяне бывае: у горадзе я сумую, нуджуся па дамоўцы, па вёсцы, варта ж толькі пажыць хоць тыдзень дома, у вёсцы, ірвуся назад у горад... Цела тут — душа там, цела там — душа тут...

Выехалі на вялізную лясную паляну, і Кузьма, акінуўшы вачыма фурманкі, што трэсліся, паволі паўзлі па дарозе, раптам выцягнуў загарэлую жылістую шыю і заспяваў высокім, амаль што дзявочым голасам:

Дзесь паехаў мой мілы ў дарогу,
Кінуў дома ён жану нездарову...

І дзядзька Змітро проста на вачах перайначыўся, змяніўся — выпусціў з рук недакурак, выпрастаў плечы і, шырока разявіўшы рот, раўнуў, бы ў парожнюю бочку:

Прыязджае ён праз нядзелю-другую,
Ды знаходзіць дзяціну малую.
Э-ха-хо!

Густыя мужчынскія галасы ўмомант падхапілі песню, перакінулі яе, бы вязку сена, з возу на воз. Хвіліна, і ўжо ўвесь абоз эхае, ахае, гарлапаніць на ўвесь лес:

— Ой, скажы мне, скажы, дарагая,
Скуль узялася дай дзяціна малая?
Э-ха-хо!

## IX

І вось першы вечар у маладым бярэзніку на грудку ля самага балота. Кумкаюць, як апантаныя, жабы, кугакае, бы малое дзіця, сава, дзьме ў доўгую дзюбу нешта сваё, буркатлівае вадзяны бугай. Таўкуцца, ныюць, ні на хвіліну не змаўкаючы, мошкі, камары. За балотам, над лесам, далёка-далёка час ад часу ўспыхваюць начныя сполахі. Блісь-блісь-блісь — і патухне. Месяца на неба яшчэ няма — ён толькі ўзыходзіць, працярэбліваецца сваімі вострымі рожкамі праз густыя, чорныя ў вечаровым змроку вершаліны дрэў — усё роўна як заблудзіўся і шукае дарогі. Парная цяплынь. Пахне завялым аерам — з яго мы паслалі сабе пасцелі, каб было добра і мякка спаць.

Я сяджу на пяньку каля берасцянага буданчыка, які мы зрабілі з Кузьмом яшчэ повідну, крыху ў баку ад усіх, на прагаліне, пад прысадзістым галістым грабам, і ўспамінаю, як аднаго дня, пасля экзаменаў, удваіх з Валяю ездзілі за горад і заначавалі ў лесе. Проста так, па сваёй ахвоце. Я злавіў вудаю два шчупакі, некалькі лешчыкаў і плотак, і Валя, выпатрашыўшы іх, варыла юшку ў каструлі, што мы захапілі з сабою, едучы з горада. Якім таемна-прыгожым здаўся ў водсветах полымя мне Валін твар, асабліва тады, калі яна нагіналася, каб зняць лыжкаю пену і памяшаць варыва! Як пунцавелі яе круглыя, смуглявыя шчокі, з якой дабратой і пяшчотай глядзелі на мяне цёмныя-цёмныя, бы ноч, вочы!

Пасля, калі юшка зварылася, Валя разаслала на траве хустачку, парэзала на тонкія лустачкі хлеб, і мы проста з каструлі сёрбалі юшку,— яна злёгку аддавала балотнай вадой і дымам і была такая смачная, якой я, здаецца, ніколі яшчэ не еў.

Тым часам добра ацямнела. Мы наламалі яловых лапак, зрабілі з іх нешта накшталт пасцелей. Але за ўсю ноч так і не звялі вачэй. Валя даўно ўжо не начавала вось так пад адкрытым небам, і ўсё ёй было нязвыкла і цікава: і як загараюцца і паступова гаснуць зоры, і як узыходзіць і плыве нізка над лесам, час ад часу чапляючыся за голле і вершаліны дрэў, месяц, і як кожную хвіліну ўсё ў прыродзе мяняе свае абрысы, бляск і колер...

«... Валя, дзе ты цяпер? Што ты робіш там, у свае бабкі?..»

У памяці паўстаў той ранак, калі я ўпершыню пазнаёміўся з Валяю. Гэта было на трэці ці чацвёрты дзень майго прыезду на практыку. Прачнуўся тады я нешта вельмі рана і адразу ж згадаў: учора, калі вяртаўся з завода, дзяўчынка, што перабягала перада мною вуліцу, рассыпала чарніцы — яна некуды несла іх у плеценым цацачным кошыку. Дзяўчынка азірнулася, хацела, мабыць, сабраць ягады, але не паспела — якраз у гэты момант да тратуара пад'ехаў аўтобус і з яго адзін за адным пачалі выходзіць людзі. Дзяўчынка не стала чакаць, пакуль адыдзе аўтобус,— пабегла подскакам на адной назе, далей. А я доўга стаяў і не зводзіў вачэй з тых рассыпаных ягад — яны чарнелі ў пяску і былі, бы ўсё роўна жывыя...

«У лесе паспелі ўжо чарніцы,— з нейкай неасэнсаванай радасцю думаў я, лежачы ў той ранак у пасцелі.— На вёсцы цяпер ва ўсіх — і ў баб, і ў мужчын, і асабліва ў дзяцей — чорныя, як мазніцы, раты. А ў лесе цалюткі дзень не сціхаюць песні, крыкі...»

І мне так закарцела дадому, у сваю ціхую лясную вёску, што я падняўся з пасцелі, памыўся пад кранам халоднай — аж зводзіла рукі — вадою і выйшаў на двор. Увечары, перад самым змярканнем, над горадам прашугала імклівая летняя навальніца, і ўсюды на асфальце яшчэ стылі лужы, і было сыра, нават прахладна. Я пастаяў трохі ля інтэрната, шэрай, без балконаў каробкі, дзе мне далі ў агульным пакоі ложак, потым прайшоўся па тратуары, перасек вуліцу і апынуўся ў невялікім, вельмі ўтульным скверыку. Ён, гэты скверык, быў за некалькі крокаў ад таго завода, дзе я практыкаваўся, і я вельмі ўпадабаў бываць у ім перад работай.

Я выбраў лаўку з краю, пры вялізнай круглай клумбе. Сеў. І адразу ж адчуў — у скверы пахне чарніцамі. Прынёс яго, гэты пах, сюды, у горад, учарашні дождж, ці можа пакінулі яго на лаўках тыя жанчыны, што прывозілі з вёскі паўнюткія кашолкі ягад і перш, чым пайсці на базар прадаваць, адпачывалі ў скверыку,— я не ведаў. Аднак чарніцамі пахла так свежа і моцна, што я аж пашукаў вачыма ля сябе, ці не ляжаць рассыпаныя ягады дзе-небудзь поблізу ў траве...

Вось у гэты момант і падышла да мяне дзяўчына. Была яна сярэдняга росту, вочы — вялікія, чорныя і глядзелі на мяне па-дзіцячы шчыра, даверліва. Жоўтая шарсцяная сукенка, пашытая па модзе, шчыгульна аблягала цела, неяк па-асабліваму адцяняючы высокія грудзі, вузкую — хоць вазьмі ды перашчыкні — талію, стройныя мускулістыя ногі. Дзяўчына неяк надта ж па-свойску, па-дамашняму, нібы мы з ёю былі ўжо даўно знаёмы, усміхнулася і спытала, ці не ведаю я, дзе ў гэтым горадзе вуліца Падвальная.

— А хіба ёсць такая? — пацíснуў я плячыма.

— Некалі была...— зноў усміхнулася дзяўчына.

І ў яе голасе, у тым, як яна глядзела на мяне, было гэтулькі пяшчоты і дабраты, што я не мог, каб не пагаварыць з дзяўчынаю. Аказалася, што яна, як і я, упершыню ў гэтым горадзе, што яна, як і я, прыехала сюды на практыку і — што самае цікавае — яна вучыцца ў тым самым горадзе, што і я, толькі ў другім інстытуце. Мы пазнаёміліся. Дзяўчыну звалі Валя. Валя Букрэйчык.

Увечары мы сустрэліся зноў. І з таго дня пачалі сустракацца заўсёды пасля работы. Мы хадзілі ў кіно, блукалі разам па горадзе, аглядалі гістарычныя мясціны. А мясцін гэтых было нямала — цэрквы і касцёлы, з паколатымі ад часу сценамі і пазалочанымі макаўкамі і крыжамі, чырвоныя, складзеныя з адмысловай цэглы,



якая вытрымала ўсе нягоды чалавечага жыцця і асталася бадай што такая ж, як і стагоддзі назад, вежы і байніцы, тэатры і дамы дзіўнай архітэктуры, кожнаму з якіх было па некалькі вякоў і кожны з якіх выглядаў, бы толькі ўчора з яго знялі рыштаванні...

— А ведаеш,— сказала аднойчы Валя,— у гэтым горадзе ёсць цудоўны парк. Кажуць, адзін з лепшых у Саюзе...

І ў бліжэйшую вольную нядзелю мы селі ў трамвай,— ён быў маленькі, драўляны, нейкай старой, не наскай канструкцыі, з дзвюма суцэльнымі бакавымі лаўкамі ўсцяж сцен, бы ўсё роўна ў старой вясковай хаце,— і паехалі шукаць, дзе той парк. Кандуктарка, вельмі вясёлая, бойкая ўкраіначка, параіла нам, дзе лепш за ўсё выйсці. І мы выйшлі па нейкай вузенькай вулачцы, і па ёй падняліся на горку, потым спусціліся ўніз, і тут мы ўбачылі высокую зялёную клумбу, а над ёю — белыя лёгкія арачныя вароты.

Парк і сапраўдзе быў незвычайны. Адразу ж пры ўваходзе — ставок, у якім надта ж грацыёзна плавалі белыя і чорныя лебедзі. І мы доўга стаялі ля гэтага стаўка і любаваліся тым амаль што казачным харастврм, што ствараюць вада, перавернутыя ў ёй вяршынямі ўніз вербы, сонца і лебедзі... Потым пайшлі далей па густых алеях, скрэсленых уздоўж і ўпоперак палосамі святла і ценямі...

Ходзячы па алеях ад дрэва да дрэва, мы так натаміліся, што, калі паднялося сонца і пачало прыпякаць, мы аж не маглі перастаўляць ног. Урэшце натрапілі на лаўку, якая стаяла трохі ўбаку ад алеі, і селі.

Вось тут мы ўпершыню і загаварылі, спачатку жартам, потым усё больш і больш сур'ёзна, ці маем мы каму пісаць адсюль пісьмы, ці думае пра нас нехта там, дома... Тут я і даведаўся, што Валя — круглая сірата, што ні свайго бацькі, ні маці яна не помніць, бо яны загінулі ў вайну, калі ёй не было і трох год. Бацька невядома дзе, бо быў ён на фронце, а потым скінулі яго на парашуце ў лес, да партызанаў, а маці ў вёсцы, ля Сожа. Жыла Валя ў бабкі, бацькавай маці, а як скончылася вайна — пераехала ў горад... У горадзе яна скончыла дзесяцігодку, паступіла ў інстытут... Гэты ж украінскі горад яна выбрала, каб паехаць сюды на практыку, таму, што тут, як расказвала ёй бабка, яе бацька, чырвоны камандзір, некалі спаткаўся з маці, тут яны пажаніліся, тут і нарадзілі першую і апошнюю сваю дачку... Тут яны і жылі ў доме № 17 па вуліцы Падвальнай, пакуль не пачалася вайна...

Валя расказвала ўсё гэта, неяк вінавата і сумна ўсміхаючыся, потым раптам расплакалася. Я пачаў яе суцяшаць, і неспадзявана,— чаму раптам мне захацелася гэта зрабіць, нават і цяпер не ўцямлю? — я абняў яе за плечы і пацалаваў...

... Успомніў усё гэта, і мне зноў, як і тады, у тым парку, зрабілася шкада Валі. «А я нават пісьма ёй не паслаў,— упікнуў я сябе.—А абяцаў жа напісаць, як толькі прыеду!..»

## X

Касіць зачыналі рана, на цямку. Першы, перахрысціўшыся па старому звычаю на лес, пайшоў Змітро. За ім, увішна махаючы косамі, пачалі выстройвацца адзін за адным і ўсе астатнія касцы.

Я спачатку стаў за Кузьмом. Але ўжо на другім заходзе прыкметна адстаў. Каса раптам пачала то ўразацца ў купіны, то пакі-

дала за сабою траву, і даводзілася штохвіліны лішні раз махаць, каб яе зрэзаць.

Кузьма, убачыўшы гэта, уваткнуў кассё ў зямлю і пакошаю падышоў да мяне. Я не хацеў пасаваць перад братам і, хаця абліваўся ўвесь потам, аж прыгнуўся — стараўся захапіць як мага шырэйшы пракос.

— Ффіў! — спыніўшыся зводдалі, свіснуў Кузьма.— Ды ты не іначай хочаш увесь луг за раз выгаліць. Так доўга касы не пацягнеш — выдыхнешся, і любы смаркач табе пяткі падрэжа...

Ён узяў з маіх рук касу, правёў па вастрыі пазногцем, правяраючы, ці добра яна намянташана, потым расставіў шырока ногі і, узяўшы пракос як не напалавіну вузейшы, пайшоў хутка і лёгка, бы забаўляючыся, і каса ў яго зазвінела, запела тонка і весела:

— Жжык, жжык, жжык!..

Спыніўся, дастаў з кішэні штаноў мянташку, зробленую з сітавага дуба, пасыпаў яе сухім пясочкам, павольна правёў ёю разы тры па касе. І зноў пачаў лёгка і спорна махаць касою. Трава, доўгая, густая, ляцела з-пад касы па цэламу бярэму, і за кожным узмахам Кузьма рабіў ледзь не крок наперад, пакідаючы за сабою на пакошы дзве роўныя, глыбока ўмятыя палоскі слядоў.

Выраўняўшы пракос са сваім, ён пусціў мяне наперад, а сам пайшоў за мною, сказаўшы:

— Можа з гэтага хлеба есці ты і не будзеш, але касіць усё адно трэба ўмець. Ды не хапай так шырока, трымай касу ў руках, не апускай, не лажы яе на зямлю!..— павучаў ён мяне, косячы ўслед.

Мо праз гадзіну я адчуў, што ў мяне агнём гараць далоні і пачынае тупавата пабольваць між лапатак. Але я не спыняўся — махаў і махаў касою. І чым болей я касіў, тым большая мяне брала ахвота: касіць яшчэ, касіць і ні за што не адстаць ад усіх, не выйсці з пракоса...

«Цікава ўсё ж гэта,— думаў я, махаючы касою.— Здаецца, і не касіў, а ўжо ўзяла мяне нейкая цікавасць, нават азарт! А каб пакасіў тыдзень, два? Відаць, на ўсё жыццё палюбіў бы луг, палюбіў бы касьбу. А каб на полі парабіў?.. Паараў, пасеяў, пабаранаваў, а пасля і пажаў, змалаціў?.. Мусіць, палюбіў бы і поле, зямлю... Гм, дык выходзіць нешта дзіўнае: я не люблю зямлі, бо не рабіў на ёй, бо не ведаю яе?..»

Крокаў праз колькі гэтая думка здалася наіўнай — зямлю ж кідаюць цяпер не толькі маладыя, але і тыя, хто раней трымаўся за яе рукамі і нагамі, хто без зямлі не ўяўляў свайго жыцця. І гэта не так сабе — тут ёсць нейкая прычына. А якая?..

Узышло сонца, і адразу ж цэлай плоймай наляцелі авадні, сляпні. Яны, як ачмурэлыя, з пагрозлівым зыкам кружылі і кружылі вакол касцоў і надта ж балюча кусаліся. Але людзі не зважалі — роўна і расцяжна махалі і махалі косамі...

— Жжык-жжык, шах-шах!..— толькі і чулася адусюль.

Тым часам раса ўвачавідкі ападала, і касіць з кожным крокам рабілася ўсё цяжэй і цяжэй. Трава выпросталася, станавілася жорсткая і непадатная. Добра, што аб'явілі снеданне і пярэднія, дайшоўшы да канавы, пачалі паласкаць у ёй свае косы і адзін за адным, як буслы, цыбалі на грудок — усе загарэлыя, у лёгкіх крамных кашулях, знарок надзетых дзеля касьбы,— там, ля буданоў, была кухня.

Зраўняўшы з усімі свае пракосы, пайшлі на грудок і мы з Кузьмом.

— Ну як? — пытаўся дарогаю Кузьма.— Не шкадуеш, што паехаў са мною?

— Не-е!

— Ну, абы не шкадаваў,— засмяяўся брат.— Мы ўцёглыя, нам хоць бы што. А цябе папаломіць дзён колькі, пакуль прывыкнеш. Ды ты вельмі не бядуй. Калі мяне паставілі за брыгадзіра, я таксама думаў — не вытрымаю і збягу...

— А цяпер? — спытаўся я, каб не маўчаць.

— Цяпер нічога, пры-вык!.. Хлеб з нечага трэба ж есці...



## XI

На грудку, забіўшы ў пянёк бабку, Кузьма сеў кляпаць косы, а я злазіў у будан, узяў міску і пайшоў да катла па снеданне — прыварак касцам даваў калгас. Людзей ля катла было не багата, і я яшчэ здалёк у дзяўчыне, што, падперазаўшы бялюткі фартушок, чарпаком накладала ў міскі крутую пшонную кашу, пазнаў Марту. І сэрца маё зноў трывожна забілася: «Чаму яна прыехала сюды, у Застожжа? З іх жа сям'і, здаецца, у калгасе ніхто ніколі не працаваў...»

І як толькі я падышоў бліжэй, спытаўся:

— І ты тут, Марта?

— А чаму б мне не быць тут? — неяк гулліва, сцепануўшыся, адказала Марта.— Папрасілі, я і паехала...

— А ўсё ж? — спытаўся я яшчэ раз, ужо больш настойліва, бачачы, што сапраўдную прычыну, чаму прыехала ў Застожжа, Марта ад мяне хавае.

— А ўсё ж?.. Прыехала, вось табе і ўсё ж,— сказала яна, і ўспыхнула ўся, шчокі яе так і заірдзеліся, зайгралі румянцам. Яна адвярнулася, пачала набіраць у катле чарпаком кашу.

— А падсочка? — не адставаў ад свайго я, нібыта ведаць, чаму Марта прыехала на луг, мне было так ужо і важна.

— Падсочка не воўк, у лес не ўцячэ...— Марта крутнулася перада мною і палажыла ў міску поўны чарпак кашы.— Скажы лепей, дзе будан твой? — адразу ж пераняла яна гаворку на другое.— Нешта я цябе не бачыла на грудку... Сустрэла ўчора Кузьму, кажа — паедзеш... А сённі ўранні гляджу — няма цябе...

«Няўжо яна праз мяне прыехала сюды?» — мільганула ў маёй галаве, і мне зрабілася горача.

— Мы сабе асобна буданчык зрабілі... Вунь там,— паказаў я рукою на прагаліну, дзе было наша жытло.— Бачыш?

— Бачу,— паднялася на дыбачкі Марта.

І тут вочы нашы сустрэліся. У яе глыбокіх, сумных вачах я ўбачыў дакор: навошта, маўляў, пытаеш пра тое, што, пэўна ж, добра ведаеш і сам... Мне стала сорамна — я не вытрымаў Марцінага позірку і першы адвёў свае вочы ўбок.

— Мы з Кузьмом. Прыходзь у госці,— адчуўшы сябе вінавата, не ведаю чаму, сказаў я.

— Прыйду,— паабяцала Марта.

## XII

Апаўдні ў Застожжа прыехаў Раман Апанасавіч Кухта — мой колішні настаўнік, цяпер пенсіянер, за вочы — проста Лагарыфм. Убачыўшы на калгсным лузе мяне, былога свайго вучня, ён доўга трос мне руку і ўсё прымаўляў, відавочна падрабляючыся пад Тараса Бульбу:

— А ну, павярніся, сынку, я пагляджу, чаму цябе навучылі ў тым бісаўскім горадзе!..

Касцы выходзілі якраз на грудок абедаць, і мы з Раманам Апанасавічам адышліся ў лес. Там, убаку ад дарогі, мы выбралі сярод старых вячыстых дубоў і разлапістых кустоў арэшніку чыстую паляначку, якая была заліта з усіх бакоў яркім ліпнёвым сонцам, і селі ў траву.

— Даўно, даўно цябе не бачыў,— казаў, усё яшчэ прыдзірліва аглядаючы мяне, Раман Апанасавіч.—То ты недзе ездзіў, то я хварэў... Ну, расказвай, як жывеш, як вучышся... Дарэчы, я ж таксама некалі збіраўся стаць інжынерам...

— Праўда? — шчыра здзівіўся я.

— Было, было ў мяне такое памкненне!..

— І чаму не сталі?

— Чаму?— Раман Апанасавіч крыва ўсміхнуўся і, памаўчаўшы, вельмі ціха і неяк няпэўна дадаў: — На тое былі свае прычыны... Жыццё! То — куды я хацеў, мяне не бралі, то — куды мяне бралі, я не хацеў... А то вайна была такая ўсчалася...— Паглядзеў на гадзіннік.— Ой, другая гадзіна ўжо!..— заспяшаўся раптам ён.— Убачыў цябе і на ўсё забыўся. Я ж агітатар. Прыехаў расказаць касцам, што на свеце робіцца. Ты на ўсё лета?

— На ўсё,— кіўнуў я галавою.

— Ну, дык часу ў нас хопіць. Пагаворым яшчэ... Толькі ты не саромейся, заходзь да мяне. Я ж цяпер адзін...

— Як адзін? — падняў я вочы на свайго настаўніка.— А Мар'я Хведараўна?

— Памерла... Яшчэ вясною,— сказаў Раман Апанасавіч і ў той жа момант павярнуўся, каб я не бачыў яго твару — пайшоў напрасцяк праз гушчар у той бок, дзе былі буданы і адкуль чуўся дробны



перастук малаткоў і мянташак. Маленькі, згорблены і, здалося мне, вельмі няшчасны...

Я ж яшчэ нейкі час сядзеў на паляне. Зверху, праз густую сетку галля і лісця, падалі мне на твар гарачыя, сляпучыя промні сонца. Чэкаў недзе зусім побач у верхавінні дзяцел, сцішана перагукваліся ў кустах арэшніку сіваваронкі. Сычэлі нябачныя ў траве конікі. Некуды спяшаліся, беглі заклапочаныя мурашкі. А я сядзеў, прыгнечаны, прыгаломшаны пачутым, і чамусьці ўспамінаў тое, што рабілася ў нашай вёсцы адразу ж пасля вайны. На працадні тады ў калгасе амаль нічога не давалі. Рабіць жа задарма ніхто не хацеў, і ўсе стараліся ўладкавацца ў леспрамгас, ці яшчэ куды, дзе плацілі грошы. Рэвізійная камісія штодзень не таму, дык другому абразала па самыя вуглы соткі — не ідзеш ў калгас, няма табе і зямлі... Сымон Квасолька, што жыў на канцы вёскі, засеяў абагуленае поле: усё роўна калгас яго не сеяў, яно пуставала, як пуставалі і цэлыя абсягі скрозь — да ўсяго ў людзей не даходзілі рукі. І Квасольку за «самаўпраўства і самавольны захоп калгаснай зямлі» ўпяклі аж на шэсць год у турму... А ў яго — сям'я, восем ратоў, і ўсе дзеці малыя, адно меншае за другое...

І вось тады на ўроку, калі Раман Апанасавіч схамянуўся, чаму другі тыдзень не ходзіць у школу Алік Квасолька (Сымонаў сын, ён вучыўся ў тым жа, што і я, класе), мы сказалі, што Алік ужо абсякае сучча на складзе ў леспрамгасе, і спыталіся, ці не можна як-небудзь так зрабіць, каб Сымон Квасолька быў дома, а не ў турме.

Раман Апанасавіч пачырванеў, рукі ў яго дробна закалаціліся.

— Я прыйшоў на ўрок алгебры,— неяк асабліва гучна сказаў ён.— І я прашу не задаваць мне ніякіх пабочных пытанняў...

На тым уроку ў класе стаяла нязвыклая цішыня. Ніхто нікому не падказваў, ніхто нікому не памагаў рашаць задачы — была акурат кантрольная — кожны рашаў за сябе. А Раман Апанасавіч сядзеў за сталом, гартаў журнал і чамусьці не глядзеў на клас...

Потым я ўспомніў Мар'ю Хведараўну... Не, мы, вучні, не тое каб любілі выкладчыцу нямецкай мовы, а хутчэй за ўсё — яе паважалі. Пры ёй мы не маглі выкінуць якую-небудзь штуку, не маглі ісці да дошкі, калі не вывучылі ўрок. І не таму, што баяліся, а проста не маглі, і ўсё — такі была яна чалавек. З усяго, што я ведаў пра Мар'ю Хведараўну, у памяці ўсплыло, як у першыя гады пасля вайны мы хадзілі ўсім класам збіраць жалуды — тады садзілі ў стэпах ахоўныя палосы і мы падрадзіліся назбіраць больш за сто пудоў насення дубу. У лесе мы запазніліся і, калі надвячоркам ішлі дадому, дагналі палонных немцаў. Немцы жылі ля нашай школы, у вялізным, без акон і дзвярэй зрубе, абгароджаным наўкруг метраў на дзесяць калючым дротам, і штодзень хадзілі на дзялянкі рэзаць лес. У другі раз мы, можа, прайшлі б ля немцаў зусім непрыкметна, нават на іх не паглядзелі б. Але перад гэтым здарылася адна прыгода, пра якую багата гаварылі ў нашай вёсцы — немцы, вяртаючыся з лесу, назбіралі грыбоў, якіх у той год усюды была процьма, і ўвечары наварылі. І пахварэлі, як адзін: у добрыя грыбы, мусіць, трапілі мухаморы ці паганкі...

Немцы і цяпер шукалі грыбоў — разбрыліся ўзбоч дарогі па лесе і перагукваліся, крычалі адзін аднаму, аж галасіў лес:

— Дзі пільцэ вэльхэ ротэ, мютцэ хабэн, зольман ніхт нэмэн! *

Як ні прасілі мы Мар'ю Хведараўну сказаць, што крычаць адзін

* Грыбоў, якія маюць чырвоныя шапкі, не браць!

аднаму немцы, яна так і не сказала... Сцішылася неяк, задумалася і да самай школы не прамовіла ні слова.

«Чаму?.. Не, немцаў яна не шкадавала, бо гэта не хто іншы, а яны забілі ўсіх яе дзяцей — двух сыноў на фронце, а шаснаццацігадовую дачку тут, у нашым лесе, калі тая прабіралася з мястэчка з нейкімі вельмі важнымі весткамі да партызан... Тады, чаму яна сціхла, чаму не захацела перакласці нам тыя нямецкія словы?.. Хіба палонныя немцы нагадалі ёй яе дзяцей? — думаў я.— Хто цяпер можа сказаць, што было ў яе тады на душы, чаму яна змоўкла... Ніхто, бо Мар'і Хведараўны болей няма...»

## XIII

Праз дзень, вылезшы з балота на грудок, Кузьма сказаў мне:

— Ну, брат, аставайся тут адзін, без мяне. Я паеду ў вёску, пагляджу, што там у брыгадзе робіцца. Сам ведаеш: не дагледзь — не зробяць. Можа трэба што маці ці бацьку перадаць?

— А што ім перадаваць? — пацепнуў плячыма я.— Бачыш, пакуль усё добра: кашу...

— Ну, ладна, касі,— махнуў ён на развітанне мне рукою.— А я паеду. Калі шчыра сказаць табе, хвалююся я трохі. Магда ж мая ўцяжку ходзіць, радзіць вось-вось маецца... Ды што табе да гэтага, халасцяку, табе ж невядомы яшчэ такі сямейны клопат,— усміхнуўся ён.— Жаніцца там у горадзе не надумаў?

— Не,— ухіліўся я ад адказу.— Няма на кім.

— Ну, ты мне гэта кінь — няма на кім... А мо па гэтай,— паказаў ён вачыма на грудок,— па Будавай усё сохнеш, га?

— Што ты...— аднекнуўся я: мне здалося, што Кузьма нешта ведае, і я не хацеў выдаваць сябе.

— А яна, брат, па табе сохне,— сказаў ён, смеючыся.— Бачыш, у Застожжа прыехала, як пачула, што і ты едзеш. Ну, ладна, глядзі сам, не маленькі...

— Калі вернешся? — спытаўся я, калі Кузьма сабраўся адыходзіць.

— Не ведаю. Пэўна, праз дзень ці праз два, калі дома ўсё добра. А што, можа прынесці што з дому табе трэба?

— Ды нічога...— памуляўся, казаць ці не, я і ўсё ж сказаў: — Можа там пісьмо дома мне ёсць, дык ты вазьмі, прынясі яго сюды...

— Дык, значыцца, нехтачка ёсць, калі пісьмаў чакаеш...— заўсміхаўся Кузьма.— Ладна, зайду. Толькі, каб вяселля не скруціў, чарку добрую паставіў!..

— Ну, тады тое будзе... Ідзі...

Кузьма выйшаў на дарогу і хутка схаваўся ў зяляніне дрэў. А я ўзяў міску і паволі паклыпаў да катла па абед...

## XIV

Увечары, намахаўшыся касою так, што балела, бы пабітае, усё цела, а рук дык і зусім нельга было падняць, гэтак пакутліва яны нылі, я сядзеў ля свайго буданчыка, ніяк не рашаючыся класціся спаць. Мне раптам пачало здавацца, што вось-вось павінна нешта здарыцца надзвычай важнае, тое, ад чаго будзе многае залежаць у маім жыцці. І я сядзеў, чакаў, сам не ведаючы чаго.



Моўкнуў, паволі агартаўся начною дрымотаю лес. Цемра зацягвала дрэвы, кусты, рабіла іх праз меру густымі і няпэўнымі. Але камары ўсё яшчэ не сціхалі — танютка звінелі і звінелі ў вечаровай шэрані. І было ўсюды ціха-ціха. Нават не крумкалі жабы.

Але вось у гэтай цішы я ўлавіў асцярожныя крокі — нехта, расхінаючы галінкі кустоў, ішоў да майго будана. Я падняў галаву, насцярожыўся: хто б гэта мог быць?..

Амаль не здзівіўся, калі ўбачыў Марту. Я ведаў, што яна прыйдзе да мяне, чакаў гэтай сустрэчы і, прызнацца, трошкі баяўся. З таго дня, як я напаткаў Марту ў лесе і аддаў ёй вожыка, я многае перадумаў і вырашыў ні за што не збліжацца зноў з Мартай, быць ад яе як можна далей, не даваць волі сваім пачуццям, не вярэдзіць ні свае, ні яе душы. У мяне ёсць дзяўчына, Валя, буду сябраваць з ёй. У Марты ёсць муж, і хай яна жыве з ім, жыве і не на што іншае не спадзяецца. А тое, што было ў нас некалі, хай забудзецца, як бы яго і не было зусім. Так, і толькі так, іначай усё можа скончыцца вельмі кепска... І для яе і для мяне... Так, прынамсі, думаў я, калі ўбачыў, што Марта прыехала таксама ў Застожжа...

Марта спынілася як бы ў нерашучасці крокі за два ад мяне і неяк таямніча спыталася:

— Ты яшчэ не спіш?

— Як бачыш...— абыякава адказаў я: я надумаўся быць неразгаворлівым, не выдаваць, што ў мяне на душы, каб Марта адчула сама, што яна цяпер чужая мне, непатрэбная.

Яна села на пянёк паблізу будана, адламала з арэшнікавага куста галінку і, выцягнуўшы перад сабою ногі, пачала абмахваць ёю камароў. Вусны яе былі сцяты, а вочы па-змоўніцку блішчалі.

— Што гэта ты сёння нейкі кіслы...— паглядзеўшы на мяне, сказала Марта, і голас яе задрыжаў.— Ты што, недавольны, што я прыйшла?.. Дык я магу і назад пайсці.

Яна і папраўдзе ўстала і павярнулася, каб ісці. Я не чакаў, што яна так зробіць, і сказаў:

— Сядзь, пасядзі... Я трохі, мабыць, ператаміўся... Ведаеш, з непрывычкі...— і ўсміхнуўся.

Яна зноў села. Але бляск у яе вачах патух. Вусны яшчэ больш сцяліся. Яна апусціла галаву, задумалася. Забылася нават на камароў, якія адразу ж густа абляпілі яе ногі.

— Пра што ты думаеш?..— спытаўся я, каб неяк парушыць тую халоднасць, што ўзнікла між намі.

— Ат, пра ўсё...— сказала Марта, як бы ачнуўшыся.— Ты не зважай на мяне, раскажы лепей, як жывеш у горадзе...

— Што расказваць? Жыву, як і ўсе. Вучуся...

— А як скончыш, куды паедзеш?..

— Не ведаю. Куды пашлюць...

І тут я здагадаўся, што Марту цікавіць не тое, што яна пытае, а нешта зусім іншае. І яна пытае пра маё жыццё ў горадзе, пра тое, куды я паеду, як закончу інстытут, каб выведаць тое, іншае. Дзеля таго, іншага, яна можа і прыйшла сюды да мяне ў гэты вечар. І я на момант забыўся, што думаў у першую хвіліну, калі прыйшла Марта. Спытаўся:

— А ты як жывеш?

— Што я...— паціснула плячыма Марта.— Я дома, замужам...

— Давольна мужам?

— Давольна не давольна, а выйшла замуж, то жыць трэба,— яна сумна ўсміхнулася.— А ты жаніцца не збіраешся?..

Гэтыя словы Марта сказала з такім хваляваннем у голасе, што я адразу ж здагадаўся: гэта і ёсць тое іншае, дзеля чаго яна і прыйшла да мяне.

— Пакуль што не. Няма на кім...— неяк само сабой сарвалася ў мяне з языка звыклае.

І ў тую ж хвіліну я пашкадаваў, што сказаў гэта, бо Марта павярнула галаву да мяне і спыталася:

— Як няма? Ты ж пісаў у тым апошнім сваім пісьме...

— То была няпраўда, што я пісаў...— прызнаўся я.

— Як няпраўда? — аж падалася ўсім целам да мяне Марта.

— Бачыш,— няўмела пачаў бараніцца я.— Я атрымаў тады пісьмо, у якім мне пісалі, што ты ходзіш у клуб на пагулянкі, што ля цябе ўвіхаецца нейкі трактарыст... Ну і раззлаваўся вельмі... Выдумаў тую дзяўчыну, каб неяк адпомсціць табе, выклікаць рэўнасць: маўляў, гуляеш ты, не думай, што не гуляю я...

— Дык ты ўсё гэта выдумаў! — не магла апамятацца Марта.— А я, я паверыла...

Яна прыкрыла рукамі вочы, але не заплакала.

— Я не думаў, што ты пасля майго пісьма так зробіш... Тут пісьмо, а тут праз нейкі час пішуць з дому, што ты выходзіш замуж..

— А што мне аставалася рабіць? — падняла на мяне вочы Марта.— Ты напісаў, што я табе болей не трэба. А без цябе мне — хоць куды, усё роўна... Сумна мне вельмі ў тую восень было, Змітрок,— прызналася яна.— У інстытут я не паступіла... Дый так... Можа каб трохі развесяліцца, я і ў клуб той пайшла, на танцы... Тыдня не прайшло, а тут пісьмо тое тваё... Далей і сама не помню, што рабіла... А калі падумала, успомніла — заплакала... І цяпер яшчэ плачу...

Яна па праўдзе ўсхліпнула. І ад яе слёз мне зрабілася не па сабе. У тую хвіліну я падумаў, што буду ўсё сваё жыццё шкадаваць, што напісаў тое вар'яцкае пісьмо,— яго, таго пісьма, я не дарую сабе ніколі. А Марце сказаў другое:

— Няўжо ён такі паганы? П'е?

— Не, не п'е,— пахітала галавою Марта і выцерла хусцінкаю вочы.

— Дык чаго ж тады? Б'е цябе? Ці да другіх ходзіць?

— І не б'е, і да другіх не ходзіць... А вось не магу з ім жыць, і ўсё...

— Што ён, непрыгожы?

— Не ведаю. Даўно вельмі бачыла. Шосты месяц ужо. Нават забылася, які ён. Ведаю толькі, што, каб была дзяўчынаю, ні за што не выйшла б цяпер за яго замуж.

— Чаму?

Яна паціснула плячыма.

— І сказаць не магу... Не выйшла б, і ўсё. Можа б яшчэ і нічога, жыла б я з ім, каб да мяне не жыў ён з дзяўчынай адной.

— Адкуль ты пра гэта ўведала? Сам расказаў?

— Не, дзяўчына тая да мяне прыязджала. Пачула, што на мне ён жаніўся, і прыехала... Пераживала я гэта вельмі спярша, думала, не ўжывуся з ім, кіну. А пасля...

— Што пасля?..

— Пасля махнула на ўсё рукою... Так і жывём — ён сабе, я сабе... Я тут, ён недзе ў Карэліі...

Яна памаўчала. Уздыхнула. Цяжка, са шкадаваннем.



— Змітрок? — раптам нібы нешта ўспомніўшы, спыталася яна і зноў паглядзела на мяне: — А ты, ты вельмі перажываў, як пачуў, што я выйшла замуж?

Я не адказаў — бо і сам не ведаў, вельмі перажываў я тады ці не. Толькі помню, прачытаў я ў пісьме, што Марта выходзіць замуж, перад пачаткам заняткаў і не пайшоў на лекцыі. Нешта балюча заныла ў мяне ў сярэдзіне, і дзён колькі не хацелася нічога рабіць. На лекцыях я сядзеў, не могучы запісаць ні радка з таго, што гаварыў выкладчык. Прыходзіла нават у галаву думка — кінуць інстытут, паехаць дадому, у вёску, і не даць, каб гулялася тое вяселле. І я бадай што зрабіў бы гэта, каб ведаў, што Марта кахае мяне, а не таго, за каго выходзіць замуж. Тады ж я думаў, што яна проста здрадзіла, і мне было да болю, да роспачы крыўдна. Ва ўсім я тады вінаваціў Марту. Аж выходзіць — ва ўсім вінаваты я сам...

— Я не чакаў, што ты так зробіш,— сказаў я.— Мне здавалася, што ты мяне ўсё ж кахаеш... Успомню, як хадзілі мы ўночы праз лес з табою да леснічоўкі, і...

— Не трэба пра гэта, Змітрок,— папрасіла Марта.— Лепей раскажы, хто ў цябе цяпер ёсць там, у горадзе?.. Прыгожая?

Я павагаўся — расказаць Марце пра Валю ці лепей не трэба. Калі скажу, што нікога ў мяне няма, усё роўна не паверыць. Дый навошта мне так гаварыць? Што гэта мне дасць?.. І я сказаў:

— Летась пазнаёміліся. На практыцы... Сірата яна — ні бацькі няма, ні маці...

— Жэнішся на ёй?

— І сам не ведаю...

Марта памаўчала. Тое, што яе так цікавіла, яна выведала. А таму, можа, яна і ўстала, абцягнула на сабе плацце і, стараючыся не глядзець мне ў вочы, сказала:

— Прабач, што перашкодзіла... Пайду спаць...

І мне зрабілася шкада Марты. Шкада, як ніколі. Гэта ж не хто іншы, а я зрабіў яе такой нешчаслівай, я разбіў яе надзею. І каб хоць хацеў таго сам — а то ж выйшла ўсё міма маёй волі, неяк само сабой... Бо не напісаў бы я Марце таго пісьма — не была б, не мучылася яна замужам за нялюбым...

— Чакай, я правяду цябе,— сказаў я, таксама ўстаючы.

— Не, не трэба,— адмовілася Марта.— Тут недалечка, зайду і адна. Спакойнай табе ночы.

Павярнулася, падняла галаву і пайшла ў цемру, пайшла павольна і ціха, бы здань.

## XV

З вёскі Кузьма вярнуўся вельмі хутка, назаўтра ж. Загадкава паглядзеўшы на мяне, дастаў з нагруднай кішэні гімнасцёркі тэлеграму і падаў мне. Нічога не ведаючы, я імгненна разгарнуў блакітны тэлеграмны бланк і прачытаў: «Буду сёння сустракайце Валя».

Хвілін колькі я стаяў, бы аслупянелы. Потым перачытаў яшчэ раз, што было напісана ў тэлеграме — не, здаецца, усё правільна, тэлеграма адрасавана мне.

— Нічога не разумею,— адчуваючы, як прылівае да твару чырвань, сказаў я.

— Не прыкідвайся. Сам быў такі...— з'ехіднічаў Кузьма. І тут

жа мяне паўшчуваў: — Толькі ты дарэмна не сказаў пра гэта нікому. Падрыхтаваліся б, сустрэлі б. Быў бы, адным словам, ажур. А так — выкручвайся, як хочаш, сам. Мая хата з краю, я нічога не знаю...— развёў ён рукамі.

— Я не ведаў, далібог, не ведаў,— кляўся я і бачыў, што брат не верыць ніводнаму майму слову.— Гэта нейкая недарэчнасць, памылка...

— Сварыцца я з табой не хачу, дый няма часу. Бяжы хутчэй дадому і гайда на станцыю! — уладна загадаў Кузьма.— Я прыйду заўтра, пагляджу, што там у цябе за краля... А заадно і жонку праведаю.

— Не радзіла яшчэ?

— Не.

Я паслухмяна аддаў Кузьму касу, а сам, не заходзячы нават на грудок, пайшоў у вёску.

«Няўжо гэта праўда, што едзе Валя? — думаў, губляўся ў здагадках усю дарогу я.— Але ж чаму?.. Што ў яе здарылася? Мы ж не дамаўляліся, што яна прыедзе да мяне...»

## XVI

Дома была сапраўдная паніка. Стол, лыжкі, канапка, табурэты былі ссунуты са сваіх звычайных месцаў да парога, а пасярод хаты, падаткнуўшы падол спадніцы, стаяла з анучай у руках маці — мыла падлогу. Бацька сядзеў на ўколенках у качарэжніку і вышкрабаў на лапатку смецце.

— Падумаеш, пані вялікая прыедзе...— нязлосна бурчаў ён сабе пад нос, не чуючы, што адчыніліся дзверы і ў хату зайшоў я.

— Пані не пані, а ўсё ж чужы чалавек. Яшчэ абы-што пра нас падумае...— гаварыла маці.

Убачыўшы мяне, абое сціхлі.

— Гэта нейкая недарэчнасць,— адразу ж, яшчэ з парога, сказаў я, каб толькі нешта сказаць, не стаяць моўчкі.— Можа нават памылка якая...

— Памылка!.. — ухмыльнуўся бацька.

— Не, Змітрык, якая ж тут можа быць памылка,— разважыла па-свойму, па-жаночы маці.— Мусіць, сох, сох, ды нешта напісаў такое... А ведама ж, дзяўчына — усё магла падумаць. Але ты не крыўдзіся, мы нічога не маем, хай едзе... Вось толькі каб у хаце трохі прыбраць... Усё ж, як ні кажы, а чужы чалавек...

— Ладна, мама,— хацеў супакоіць я маці.— І так добра будзе...

— Што ладна? — накінуўся ні з таго, ні з сяго на мяне бацька.— Пакуль я тут гаспадар, і я не хачу, каб аба мне чортведама што думалі. Калі едзе, значыцца трэба, каб па-людску ўсё было. Чым меў вучыць, дык лепей вядро якое вады прынёс бы!..

Мне нічога не аставалася, як схапіць парожнія вёдры і бягом бегчы да студні...

## XVII

Цягнік прыходзіў а палове дзесятай, але ўжо ў дзевяць я быў на станцыі. Блукаў па бязлюдным пероне,— звычайным пасланым з негабляваных дошак уздоўж пуцей тратуары,— і з галавы ў мяне не выходзіла думка: што прымусіла Валю так раптоўна паехаць да мяне? Памерла бабка?.. Але тады Валя хутчэй бы паехала ў горад, да матчынага брата... Сумна стала?.. Але Валя не такая, каб паддацца настрою — жыццё навучыла яе цярплівасці, чаканню. Што ж тады ў яе?..



Я перабіраў у памяці ўсё, што толькі магло ў Валі здарыцца, і да нічога пэўнага не прыходзіў...

Урэшце, я прымусіў сябе пакінуць строіць здагадкі — усё роўна, строй не строй, нічога з гэтага не выйдзе, дый, балазе, чакаць заставалася нядоўга, усяго якую паўгадзіну, а там усё стане і само сабой вядома,— сеў пры вакзале на лавачку і ад нечага рабіць пачаў аглядаць станцыю.

Станцыя была невялікая, адусюль заваленая штабялямі дроў і ярусамі бярвення. Толькі з аднаго боку, адкуль ішла дарога,— пыльны, шырокі, спярэшчаны машыннымі каляінамі шлях,— дроў і бярвення не было, стаялі звычайныя драўляныя хаты, абшаляваныя на гарадскі манер дошкамі і пафарбаваныя знадворку ў жоўты ці цёмна-зялёны колер, з высокімі ганкамі і шклянымі верандамі. Трое хлапчукоў ганялі па траве мяч і білі яго наскамі чаравікаў так, што ён аж выў немым стогнам.

Змяркалася. Мутны бледнаваты змрок павольна асядаў на хаты, набліжаў з кожнай хвілінай усё больш і больш і без таго чорную сцяну лесу, што цесна акружала з усіх бакоў станцыю. Але пахла яшчэ зусім, як удзень, моцна і густа — насмоленымі гудронам шпаламі, дубовай карою, прэлымі трэскамі, пахла адтуль, дзе грувасціліся штабялі дроў і ляжалі ярусы бярвення. На запасным пуці, у тупіку, рабочыя грузілі вагон. Ля вагона гарэла вялізнае яркае вогнішча, і ў яго святле відны былі чорныя і плоскія, бы выразаныя з кардону, людзі; яны рукамі цягнулі вяроўкі і падбадзёрвалі адзін аднаго гучнымі выкрыкамі:

— Ну, раз-два — узялі! Яшчэ разок! Яшчэ!..

Пасажыры — дзве старэнькія бабкі, дзядзька ў вялізных самаробных ботах, некалькі вясковых дзяўчат і хлопцаў з чамаданамі і клункамі, чакаючы цягніка, тоўпіліся на пероне і аб нечым перамаўляліся. Маладая жанчына ва ўсім чорным, сама белая, грудастая, трымала на руках малое і забаўляла яго,— выпучвала шчокі, гучна цмокала языком і час ад часу шчаслівa смяялася. З жэзлам у руцэ, у чырвонай шапцы і замасленым выцертым кіцелі горда і важна шпацыраваў сюды-туды дзяжурны па вакзалу...

Але вось з лесу, мацаючы адным вялізным белым вокам яшчэ не густую, вечаровую шэрань, выскачыў паравоз. Адчайна, гулка свіснуў і, мякка падсоўваючыся да станцыі, адразу ж суцішыў ход. Ляснулі буферы, скрыгатнулі колы, зашыпелі буксы — цягнік спыніўся.

Як не бягом я кінуўся да вагонаў. Прабег паўз іх у адзін канец, прабег у другі, зноў вярнуўся назад: Валі нідзе не было відаць. Дый пасажыраў, што тут, на гэтай станцыі, сыходзілі, таксама было нямнога — усяго нейкіх чалавек сем-восем. Чамусьці мой позірк упаў на чалавека ў белым паліто, што, стоячы ў тамбуры, падаваў з вагона чамаданы і наладаваныя сеткі тоўстай, расфуфыранай кабеце. Я падбег да вагона — можа Валя стаіць за спіною гэтага чалавека? — і здагадаўся пра ўсё: у кабеце я пазнаў Валю, старэйшую Жолудаву дачку...

Канешне, каб я не хадзіў на пошту, каб не пытаўся пісьмаў, тэлеграму аддалі б не мне, а таму, каму і трэба, каму і была яна адрасавана — дзядзьку Змітру...

Мне зрабілася сорамна і крыўдна. І я, не чакаючы, калі адыдзе цягнік, памалу паплёўся назад, у вёску...

## XVIII

Мо цэлы тыдзень я быў проста сам не свой. Ад сораму і прыкрасці я не мог глядзець у вочы бацьку, маці, не мог паказацца на вуліцу,— баяўся, што мяне засмяюць нават дзеці. Гэта ж трэба, каб усё так супала! І прозвішча, і імя, і нават імя дзяўчыны. Ведама, у горадзе такое б не здарылася, там усюды, на кожным доме, стаіць нумар. А тут...

У Застожжа болей я не паехаў — траву там ужо дакошвалі, дый не хацелася сустракацца са Змітром Жолудам, Валіным бацькам. І я не выходзіў з двара — папраўляў платы, якія сям-там збуцьвелі і асунуліся, перакідаў ад сенцаў бліжэй да хлява свінушнік, паладзіў на хаце страху, бо ў раптоўныя, навальнічныя дажджы, асабліва ў ліўні, яна працякала. Напісаў некалькі пісьмаў Валі...

Потым, калі дома не стала чаго рабіць, сеў на веласіпед і паехаў у Качай-балота — яго нядаўна асушылі, і мне чамусьці вельмі рупіла пабыць там, дзе ўсяго якіх год пяць назад гібела спрадвечная багна.

Ехаць у Качай-балота трэба было лесам і міма той паляны, дзе ў вайну ў зямлянках жылі партызаны. Паляна тая цяпер зарасла арэшнікам, ажыннікам, папаратнікам, і каб не ямы ад зямлянак, ніхто не сказаў бы, што некалі тут, у лесе, быў партызанскі лагер. А ён жа такі праўда быў — я нават сам ночай колькі начаваў тут, калі перад самым вызваленнем нехта пусціў пагалоску, што гітлераўцы намерваюцца ўсіх нас пагнаць у Нямеччыну...

Ходзячы па зарасніку ад ямы да ямы, я неспадзявана наткнуўся на ржавую нямецкую каску, што, перавернутая бокам, ляжала пад разложыстым кустом крушыны... Ці не ў гэтай касцы мы, дзеці, насілі з балота ваду, калі хаваліся ад немцаў?..

І тут я ўспомніў — непадалёку ад гэтай паляны, пад трыма старымі дубамі, пахаваны парашутыст з Масквы... Яго скінулі ў наш лес неяк зімою, у першы год вайны. Немцы засеклі, дзе прызямліўся парашутыст, і паранілі яго. Але і паранены, ён не здаўся — дапоўз да партызанскага лагера, перадаў нейкія надзвычай важныя звесткі і — сканаў...

І толькі цяпер я здагадаўся, чаму я ехаў у Качай-балота. Ды гэта ж мне хацелася пабыць ля той магілы...

«А што калі той невядомы парашутыст Валін бацька? — падумалася мне.— Валя ж казала неяк, што яго таксама скідвалі ў лес да партызанаў. І там ён прапаў без вестак...»

Я выйшаў зноў на дарогу, праехаў да тых трох дубоў. Дубы стаялі з краю, ля самага балота, магутныя, рачкаватыя, і пад імі падымаўся невысокі драўляны помнік, абгароджаны пафарбаванай у зялёны колер дашчатай агароджай... На магілцы цвілі касачы, бялела шаўковая трава...

Ходзячы ўзбоч Качай-балота, якое было парэзана ўздоўж і ўпоперак на роўныя квадраты вузенькімі канаўкамі,—у іх блішчала, пералівалася вада,— я ўспамінаў Валю, тое, што не раз чуў ад яе, як яна, калі трохі падрасла, шукала свайго бацьку — пісала пісьмы ў Маскву, у Мінск, да ўсіх бацькавых знаёмых, якіх помнілі бабка і дзядзька... Аднойчы яна чытала газету і там натрапіла на подпіс



«А. Букрэйчык». «Антон Букрэйчык»,— прачытала яна. Тата, яе тата жыве!

У той жа дзень яна купіла білет на цягнік і паехала ў горад, дзе выходзіла тая газета. У рэдакцыі ёй сказалі, што ніякага Букрэйчыка няма, што «А. Букрэйчык»,— гэта псеўданім аднаго супрацоўніка газеты...

— То можа ён ведаў майго бацьку Антона Букрэйчыка,— спыталася, усё яшчэ на нешта спадзеючыся, Валя.

Не, супрацоўнік той — вельмі малады хлопец, нядаўні выпускнік універсітэта — ніякага Букрэйчыка не ведаў, нават ніколі не чуў, што дзе-небудзь ёсць людзі з такімі прозвішчамі...

«Няшчасная дзяўчынка! Пражыць усё сваё жыццё і не ведаць ні бацькі, ні маці. Трэба напісаць ёй пра гэтую магілу. А раптам — і праўда тут пахаваны яе бацька?..»

Я сеў на веласіпед і паехаў дадому з адною толькі думкаю — больш ніколі не ўспамінаць Марты, думаць толькі пра Валю... «Я зраблю ўсё, каб яна была шчаслівая, пакахаўшы мяне...»

## XIX

Дома, у бацькавай хаце, я застаў Кузьму. Ён быў чыста паголены, паднядзелены — у белай шаўковай сакалцы, чорных напрасаваных штанах, на нагах новыя паўчаравікі, і — п'яны. Убачыўшы мяне, падхапіўся з-за стала. Віхляючыся з боку на бок, пайшоў насустрач. Твар яго аж ззяў ад нейкага невядомага ўзрушэння і радасці.

— Віншуй мяне, Змітрок! — ускрыкнуў ён.— Сын, сын у мяне нарадзіўся! — і, аблапіўшы рукамі за плечы, палез да мяне цалавацца.

Я ледзьве выкараскаўся з яго дужых і чэпкіх абдымкаў.

— Люблю я цябе, Змітрок! — крычаў як не ў самае маё вуха Кузьма.— І сына свайго назаву таксама Змітраком! Вось тады будзе — у адным сяле — тры Змітракі і ўсе Жолуды!.. Сам чорт не разбярэ, той гэта ці не той, калі каторы з іх на нешта трэба будзе. Ха-ха-ха! — рагатаў Кузьма.— Ды гэта пасля... А цяпер давай да мяне, там усе ўжо сабраліся, нас чакаюць. Вып'ем за здароўе сына!..— і, не даўшы апамятацца, пацягнуў мяне з хаты.

Жыў Кузьма за грэбляю, на пасёлку, адразу ж з канца. І хвілін праз якіх дзесяць мы былі ўжо ў яго хаце. Хата ў Кузьмы была новая, нават яшчэ не тынкаваная, на тры пакоі. У самым вялікім стаялі ўздоўж сцен упрытык адзін да аднаго сталы, і за імі сядзелі госці — мой бацька, маці, Магдзіна маці (бацькі ў яе не было, не вярнуўся з вайны), радня з нашага і жончынага боку. Усе паспелі ўжо ўзяць па добрай чарцы, а таму былі вясёлыя, гаманкія.

Як толькі мы ўвайшлі ў хату, застолле заварушылася, закрычала і ўмомант рассунулася, даючы нам сесці на самым пачэсным месцы. Але Кузьма як бы і не заўважыў гэта — ганарыста, бы певень, прайшоў па хаце, павёў мяне ў пакойчык збоку, у спальню, і паказаў сына: ён спаў, абкладзены падушкамі, на пасцелі,— маленькі, чырвоненькі, нібыта толькі што з лазні. Побач з ім на другім ложку ляжала Магда — бледная, зморaная. Мне яна слаба ўсміхнулася аднымі толькі куточкамі вуснаў, я павіншаваў яе з сынам, і мы вярнуліся ў залу.

За сталом было тлумна, гармідарна, я выпіў адну чарку, потым

другую, вельмі хутка забыўся на свой сорам і сум, разам з усімі смяяўся і жартаваў з Кузьмы, бо той неўзабаве зусім сп'янеў і заснуў проста за сталом...

## XX

І зноў пацягнуліся нудныя, пакутлівыя дні. Як і раней, я прачынаўся на досвітку, ездзіў на Віць правяраць свае кашы, памагаў дома маці, але рабіў усё гэта без ахвоты — пасля таго прыкрага непаразумення з тэлеграмай усё страціла для мяне сваю прываблівую непасрэднасць і сэнс.

Бацька, бачачы, што я без дай-прычыны нуджуся, неяк не стрываў:

— Эх, сын мой, сын!..— пажурыў ён мяне.— Ад зямлі ты адарваўся і неба не дастаў... Нешта рабіць трэба, бо без работы і блыха дохне...

Я і сам ведаў, што трэба нешта рабіць, не сядзець дома, склаўшы рукі, а быць з людзьмі,— толькі там і адчуваеш сябе, што і ты такі ж чалавек, як і ўсе, сын зямлі. Але мужчынскай работы ў калгасе асаблівай не было — час быў такі, што бульбу ўжо абагналі па трэцяму разу, лугі пакасілі, сена зграблі і склалі ў стагі,— памагла, балазе, пагода,— а збажына яшчэ не паспела. І я цэлымі днямі, бы непрыкаяны, снаўдаўся па вёсцы, нідзе не знаходзячы сабе занятку.

Каб адвесці хоць чым душу, паспрабаваў быў зайсці да хлопцаў, з якімі некалі вучыўся ў школе і якія нікуды з вёскі не паехалі — асталіся жыць і працаваць тут, дома. Але іх мала цікавіла мая турбота і мой сум — у іх быў свой клопат: як аплацяць сёлета працадзень, ці не скруціць іх заробку старшыня, як той, леташні — збожжа, што трэба было аддаць на працадні, ён прадаў у закуп. Старшыню за гэта знялі, але людзям ад гэтага не палепшала...

Аднойчы, таго не заўважыўшы і сам, я апынуўся ў двары Рамана Апанасавіча Кухты. Ён жыў на водшыбе, за вёскаю, ля калгаснага агарода. Пасяліўся ён там нешта гады праз два пасля вайны, калі пераехаў з мястэчка настаўнічаць у нашу школу — хата ўсё роўна пуставала, бо тую сям'ю, што жыла некалі ў ёй, расстралялі немцы.

Нейкі час я стаяў і азіраў сядзібу. Як тут усё дагледжана, даведзена да ладу — агароджа, двор, невялічкі садок! Кожнае дрэўца пабелена, акапана, грады праполаты — нідзе ні травінкі. Двор чыста падмецены, дарожка выкладзена чырвонай цэглай.

— Усё, усё сам,— гаварыў Раман Апанасавіч, выходзячы з сякерай у руках з дрывотніка — маленькага навесіка з дошак.— З таго дня, як памерла Мар'я Хведараўна, усё раблю сам... І вару, і мыю, і агарод ураблю...

Ён узяў мяне за плечы і, адчыніўшы фортку, правёў у сад. Тут таксама панавалі тая ж акуратнасць і парадак — кусты парэчак і агрэсту абгароджаны, голле яблынь і груш падпёрта. Грады адна ў адну, нешырокія, доўгія, і паўз разоркі пасаджаны кветкі — дробныя ружовыя маргарыткі, блакітныя і жоўтыя касачы.

Селі на лавачку пад старою, напалову ўжо ўсохлай грушаю, і я толькі цяпер убачыў, як пастарэў мой колішні настаўнік — твар яго быў бледны, маршчакаваты, рукі бясконца сутаргава калаціліся, дый сам ён, здавалася, увесь калаціўся. Толькі што — храбрыўся, хацеў жыць.



— Ну, як вы, Раман Апанасавіч? — спытаўся, счакаўшы трохі, я.

— Ды нішто пакуль...— суха кашлянуў у кулак Раман Апанасавіч.— Больш ляжу, чым хаджу...

— Што, хварэеце? — спытаўся я зноў, і мне зрабілася ніякавата: пра што я пытаюся ў старога чалавека?

— Хварэю,— трымаючыся адной рукой за грудзі, адказаў Раман Апанасавіч.— Усё збіраюся схадзіць у бальніцу, ды не дабяру часу. То адно, то другое... Але я рад, што ёсць работа, што да мяне ідуць людзі... Вось і надоечы прыходзілі — старшыня і брат твой Кузьма. «Парайце,— кажуць,— што рабіць, ніхто не ідзе палоць лён, цвіце няполаты...» А што я магу раіць? Летась абяцалі даць надбаўку на працадні, што зароблены на лёне. І не далі... Бачыш, з чаго ўсё пачынаецца: абяцаў і не даў...— заламаў на руцэ два пальцы Раман Апанасавіч.— Сёлета абяцай ужо залатыя горы — ніхто не паверыць... Абяцаць трэба тады, калі напэўна будзе. А так лепей маўчы... Вось так і адбіваюць патрошку ў чалавека ахвоту ўрабляць зямлю. Той старшыня трошкі, гэты трошкі... Старшыні мяняюцца, а людзі астаюцца адны і тыя ж...— Ён адкінуў наском чаравіка каменьчык, што валяўся пад нагамі, і нібы спахапіўся: — Ды што гэта я зноў?.. Лепш ты раскажы што-небудзь пра сябе. Як там у горадзе? Жаніцца не думаеш?..

— Яшчэ не думаў,— прызнаўся я, трошкі збянтэжаны такім нечаканым паваротам нашай гаворкі.

— Жаніся, жаніся, Зміцер,— падахвоціў мяне Раман Апанасавіч.— І думаць тут няма чаго... Калі мне было столькі, колькі табе, я, дурань, доўга муляўся, ніяк не могучы рашыцца на жаніцьбу. І толькі цяпер па-сапраўднаму ўцяміў, кім была мне Мар'я Хведараўна... Яна ж са мной усё жыццё... Як таварыш... Як маці... Як сястра...— на вачах у яго нагарнуліся слёзы.— Эх, Зміцер, Зміцер, зайздрошчу я табе... У цябе ўсё наперадзе!..

— Ці варта...— задумліва паківаў я галавою.— Хто ведае, што будзе...

— Што б ні было, аб адным толькі цябе прашу — будзь сумленны, ніколі не рабі таго, у што ты не верыш сам... І табе не страшна будзе тады нічога, што б ні здарылася. Сумленне тваё будзе чыстае... І яшчэ адно — асцерагайся недалёкіх людзей, зайздроснікаў, а калі ўжо дужаешся з імі, кладзі адразу на лапаткі, каб болей не ўсталі...— Рыгор Апанасавіч сцяў вусны, і ў вачах у яго з'явілася жорсткасць.— Многа, ох як многа крыві яны папсавалі мне... Таму і кажу табе пра іх. Не думай, што я апраўдваюся. Я кажу табе тое, што павінен быў сказаць у школе. Гэта мой абавязак... Абавязак настаўніка і старэйшага таварыша, які больш за цябе ўсяго пабачыў і перажыў...

Ад Рамана Апанасавіча я выйшаў позна...

## XXI

Неспадзявана разнягодзілася, пайшлі дажджы. Дзён колькі ні на хвіліну не паказвалася сонца, на двары было змрочна і сыра. Зусім як увосень, з раніцы да позняга вечара плылі і плылі нізкія, цягучыя хмары. І гэта яшчэ болей гняло, давіла мяне. Раней хоць быў лес, было поле, была Віць. Цяпер жа — чатыры цесныя сцяны хаты.

Дождж змыў з сахі ластаўчына гняздо, і прачнуўшыся неяк уранні, я ўбачыў яго на сене ля сваёй пасцелі. Добра, што паблізу нідзе не шнырыў кот, інакш бы ад чырвоных, яшчэ зусім голенькіх, у пушку пісклятак не асталося б і следу. Перапалоханыя старыя ластаўкі, бацька і маці малых, неспакойна кружылі пад страхою хлява, не ведаючы, што ім рабіць. Я схадзіў у хату, узяў малаток, цвікі, кавалак дошкі і сяк-так прыладзіў ластаўчына гняздо на ранейшае месца да сахі і пасадзіў у яго маленькіх ластавянятак. Як удзячны былі мне за гэта старыя ластаўкі! Яны мо з гадзіну яшчэ не вылятталі з хлява і ўсё нешта шчабяталі, ціліўкалі...

Дома, у хаце, я доўга стаяў ля акна, глядзеў на мокрыя грушы і яблыні, з якіх капала, спадаючы па лісці, вада, і думаў пра Валю. Чаму яна мне не піша?.. За тры тыдні — ні аднаго пісьма... Што ў яе здарылася?... Дамовіліся ж, што напіша, як толькі прыедзе...

Потым я ўспомніў Марту. Успомніў, як прыходзіла яна да мяне ў Застожжы, калі я аставаўся ў будане адзін. Успомніў, што гаварыў мне неяк Кузьма: «Ну і ўлягае за табою, Змітрок, гэтая Будава. На пакос ездзіла... У клуб вечар у вечар ходзіць, каб цябе пабачыць. Надоечы сустрэла мяне, пытае: «Што з вашым Змітраком? Не відно нешта яго нідзе...» І мне стала не па сабе. Я ўявіў, як Марта, скінуўшы лодачкі, каб іх не замачыць у расе, ідзе адна надвячоркам у клуб, як танцуе, не зводзячы вачэй з дзвярэй — ці не іду я? — і як пасля, так і не дачакаўшыся мяне, бяжыць ноччу адна праз лес дадому... І каб хоць яна вінавата была ў тым, што мы не сышліся, а то ж вінаваты і я. Вінаваты можа нават больш, чым сама яна... «А што, калі Валя пазнаёмілася там, у бабкі, з якім хлопцам, ходзіць з ім на танцы, гуляе і зусім забылася на мяне? А я тут марнею і сохну, мучаю і сябе, і Марту... Каму гэта трэба?» «Гуляй, пакуль гуляецца»,— прыйшлі мне ў галаву недзе чутыя словы,— ці не на радзінах у Кузьмы? — і як толькі выблiснула сонца і неба ачысцілася ад хмар, я выкаціў з сенцаў веласіпед, крыкнуў маці, што хутка вярнуся, і, ускочыўшы на сядзенне, паехаў у лес, да Марты...

## XXII

Марта была ў бары, на падсочцы: імкліва шмыгаючы між тоўстых і яшчэ мокрых ад дажджу камлёў, яна хутка і спрытна наразала на соснах стамескай вусікі,— прыгнецца, наставіць у самы ніз смалістай лапіны стамеску, выпрастаецца — дж-жык! — і цэлая стружка з шорхатам падае долу.

Я схаваўся за маладую галлістую сасонку і нейкі час любаваўся Мартаю — яе тонкім і гнуткім станам, грудзьмі, што аж распіралі лёгкую жаўтаватую кофтачку, поўнымі загарэлымі рукамі. Потым, калі Марта падбегла зусім блізка, я выйшаў са свае схованкі.

— Аказваецца, ты здорава ўмееш працаваць!..— сказаў я, усё яшчэ любуючыся Мартаю.

— Ой! — ускрыкнула яна і павярнулася на голас. І ў тую ж хвіліну шчаслівая ўсмешка расплылася па яе твары.— А я ўжо была спалохалася, думала, можа чужы хто...— сказала яна больш спакойна.

— Я кажу, здорава ты ўсё ж працуеш,— паўтарыў я. Пачаўшы гаворку на смяшліва-вясёлы лад, я не хацеў ужо быць сур'ёзным, бо ведаў: развярэджу зноў і сабе і Марце душу, і мы расстанемся, нездаволеныя адно адным.



Марце, відавочна, таксама падабалася, што я з ёю так размаўляю.

— А няўжо ж так, як ты, лынды б'ю. Цэлымі днямі сядзіш дома. Нават увечары ў клуб лянуешся прыйсці...

— Адкуль ты гэта ведаеш? — як бы нічога і не казаў мне Кузьма, спытаўся я, радуючыся, што мы гаворым зноў так, як гаварылі некалі, нібы Марта і не выходзіла зусім замуж, нібы мы з ёю толькі ўчора ўвечары рассталіся і сёння вось сустрэліся зноў.

— Я яшчэ і не тое ведаю,— падміргнула Марта мне вачыма.

— А менавіта?..

— Ды хаця б тое, што ты падараваў адной дзяўчыне вожыка і ні разу нават не прыйшоў паглядзець, як ён жыве. І нават больш: вожык той аказаўся зусім не вожыкам, а важыхаю... І важыха тая нарадзіла важычанят...

— Ну? — знарок весела ўскрыкнуў я, успомніўшы тую нашу першую сустрэчу вось тут, у бары, калі я ехаў з Чортавага Лугу і падараваў Марце вожыка.

— Далібог, праўда. Прыязджай, паглядзіш,— сказала Марта.

— Калі?

— Ну, хаця, б...— яна хвіліну падумала.— Заўтра. Увечары... Я акурат адна дома буду...

— А куды ж бацька, маці пойдуць?

— Недзе ў вёску, на радзіны,—і пачырванела ўся, зарумянілася.

— І ты не баішся быць са мною адна? — жартам спытаўся я і, не чакаючы, што яна адкажа, падышоў да яе, гулліва абхапіў за плечы. Гэта адбылося неяк нечакана, міма мае волі. Апамятаўся я толькі тады, калі адчуў на сваёй шыі Марціны рукі — уся закалаціўшыся, яна пачала прагна цалаваць мяне ў губы, у вочы...

«Што я раблю?» — спалохала мяне думка, але стрымаць сябе я ўжо не мог.

Цела маё ўмомант налілося пругкай, мускулістай сілай, і ў вушах зазвінела нейкая ціхая, дзіўная музыка. Шыю, твар абдало гарачынёю. Хвілін колькі я стаяў, як аглушаны... Потым рукі мае пачалі хінуць Марту да сябе...

— Не трэба...— ледзь выдыхнула яна і адвяла мае рукі ў бок.— Тут людзі ходзяць. Лепей прыйдзі заўтра... Увечары... Як сцямнее... Добра?..

Яна, гэты раз ужо сама, прыхінулася да мяне, паднялася на дыбачкі і пацалавала ў вочы.

— Дык ты прыйдзеш? — па-змоўніцку, шэптам спыталася яна.

— Прыйду,— сказаў я і лёгенька адпіхнуў Марту. Потым, пастаяўшы хвіліну, як не подбегам сігануў да свайго веласіпеда — ён стаяў пад сасонкай непадалёку ад сцяжынкі...

## XXIII

Увесь наступны дзень я жыў чаканнем сустрэчы з Мартай. Хадзіў з маці рваць свінням бабоўнік, сек дровы, памагаў бацьку падпіраць голле яблынь, каб яно не паламалася ад яблык, што віселі ўсюды рэпехам. Але што б я ні рабіў, я думаў толькі пра Марту...

У поўдзень я з'ездзіў на Віць, пакупаўся, назбіраў невялікі букецік лугавых кветак — смолак, зязюлек, талерачак, званочкаў, божых слёзак — і ўсё паглядваў на сонца, чакаў вечара, калі змеркнецца і можна будзе ехаць у лес да Марты. А яно, як на тое, вісела

і віcела над галавою і быццам бы не збіралася сёння нават заходзіць. Мне пачало здавацца, што вось-вось нешта здарыцца такое, што перашкодзіць мне быць увечары ў леснічоўцы...

І яно-такі здарылася. Вярнуўшыся з рэчкі дадому, я ўбачыў на стале пісьмо. Пісьмо ад Валі. Нарэшце! Імгненна я разарваў канверт, выняў складзены ўдвая ліст і на момант забыўся на ўсё на свеце. Валя пісала, што яна хадзіла ў лес па ягады, трапіла пад дождж, намокла, прастудзілася і зусім неспадзявана злягла ў бальніцу... Цяпер ёй стала лепш, і яна рада, што можа хоць адпісаць на мае пісьмы. Страшэнна сумна, і яна аддала б, здаецца, усё, каб толькі пабачыць мяне...

«Яна хварэла, а я...»

Мне зрабілася, як ніколі яшчэ, сорамна перад самім сабою. І тады ж аднекуль, з глыбіні душы, вынікла жаданне — паехаць да Валі, паехаць сёння ж, не адкладаючы гэта ні на дзень пазней...

## XXIV

Увечары я быў ужо на станцыі. Зноў сядзеў на той самай лавачцы, дзе дзён колькі назад чакаў цягніка, на якім прыехала Жолудава Валя. Зноў ад нечага рабіць аглядаў штабялі дроў і ярусы бярвення, і ў маёй памяці раптам усплылі словы Рамана Апанасавіча: «Жаніся, жаніся, Зміцер!»

«А што, калі і праўда ажаніцца? — падумаў я.— Ажаніцца і на жніво прыехаць дадому, ужо ўдваіх, з Валяю...»

І на душы ў мяне зрабілася лёгка-лёгка...

Я прыгадаў аднаго свайго сябра па інстытуту, які неяк расказваў мне, як ён, не перанёсшы разлукі з каханай, паехаў да яе ў вёску і там ажаніўся...

...Прачнуўся ён ад дзіцячага плачу,— плакала дзіця сястры, да якой яго каханая прыехала разам з ім пагасцяваць. Сястра, як на тое, некуды выйшла з хаты, ці не даіць карову, мужа яе таксама не было дома — і ён бачыў, як асцярожна, на дыбачках кралася да калыскі дзяўчына, босая, у адным ліфчыку і кароткіх летніх трусіках, так, як спала ў пасцелі. Вось яна дайшла да калыскі, схілілася, перавярнула малое на другі бок і рукою лёгенька пачала калыхаць дзіця, напяваючы напаўголаса калыханку, слоў якой было не разабраць, бо іх замяняла адно доўгае, працяжнае «а-а...»

Быў светлы, ціхі ранак, яшчэ нават не ўзыходзіла сонца, і ён, прытварыўшыся, што спіць і нічога не бачыць, не чуе, ляжаў і не зводзіў вачэй з дзяўчыны, аж пакуль не сціхла, заснуўшы, малое... А тады саскочыў з ложка, схапіў дзяўчыну на рукі і, цалуючы яе ў шыю, у грудзі, панёс да сябе ў пасцель...

Назаўтра яны пайшлі ў сельсавет і распісаліся...

... «Цікава, ці будзе што-небудзь падобнае хоць калі ў мяне?— думаў я. З гэткімі думкамі я сеў і ў вагон, калі на станцыю прыйшоў цягнік, так за ўвесь вечар ні разу і не ўспомніўшы, што недзе непадалёку адсюль, у леснічоўцы, мяне чакае, дачакацца не можа Марта. На той час я зусім забыўся пра гэта...

У мяне была Валя, і я ехаў да яе...







Міхась СТРЫГАЛЁЎ

# Стартпляцоўкі



Голас ночы, ахрыплы і злы,
напаўзае ад гулкіх пляцовак.
Водар бітуму, мокрай зямлі,
водар дыму плыве на пагорак.

Бачу твары сяброў ля кастра.
Бачу магмаю ўздутыя вены.
Што ж, галоўны механік, пара,
пачынай наступленне!

Хай да самых нагор'яў вясну
ўскалыхне грукат працы ударнай.
Там табе ў гэты час не да сну
у пустой афіцэрскай казарме.

Катлавана апошнія метры
зарываюць салдаты... Па скронях
душнай Азіі ветры, азіяцкія ветры
асыпаюцца соллю.

Толькі сосны заднеюць ў кюветах,
толькі дзяцел ударыць аўрал —
вастраносае цела ракеты
над распадкам уздыме Урал.



аш атрад задрамаў
на прывале ў паходзе.
Хмель ужо заціхаў.
Толькі цвіў іван-чай,
і гарэў іван-чай
на усходзе.

Я на захад глядзеў.
Бачыў бацькаву хату.
Ля дняпроўскага
белага плёса
бачыў клін наш нязжаты.
Бачыў хлопчыка, брата,
ў белым марыве
грэчкі і проса.

Бачыў маці і бацьку.
І матчыны ціхія слёзы.
І адну, і адну каля хаты
бярозу.

Выплыў клін журавоў
па-над хатай знянацку.
Білі крыллі
па хмарах...

За каторы ўжо месяц ізноў
у душу маю ўпершыню
ціша йшла,
як выжара.

# Зоранька

 табе падарую кастры.
Заравыя кастры.
Хай на сцежцы таёжнай гарыць
іван-чай да зары.

Нагадае імшарнік-гарыца,
да цябе данясе
сонца шар прамяністы
па ўральскай расе.

Як над Белаю Руссю
грымне сонечны гуд,
ты вазьмі сябе ў рукі
і ад стомы мой промень прыгуб.

Ты ўбачыш дарогу
і заімку без вокнаў ў тайзе,
і другую эпоху,
непадуладную Бабе-Язе.

Вухкаў сыч ў гушчары несярдзіта.
Вечнасць
        збоку ляцела
        к нам ў госці.
І на сцежкі блакітныя
йшлі ласі любавацца
                тваёй прыгажосцю.

А над светам лясным, адмысловым,
бунтуючы кроў,
цёк наш месяц мядовы
зыркім бляскам кастроў.

# На быстрыні

е, не вакзал,
а станцыя, хаціна
на еўра-
азіяцкім пераходзе.
Мяце пазёмка.
Шалясціць няспынна
на станцыі
з дзівоснай назвай
«Поўдзень».

На станцыі
трашчыць агонь ў пячурцы.
Дрыжыць у шкле
паўночны маладзік.
І сэрца ўзрушанае б'ецца гулка
і даганяе
ў далечы цягнік.

Чаму ж ты, сэрца,
рвешся у дарогу?
Чаму такі твой
малады запал?

Ці перастанеш, сэрца,
ля парогу
грымець
        літымі
                клавішамі
шпал?

Снягі... Снягі...
Без краю. Без пачатку.
Гудкі. Начная колаў
мітусня.
Мо сэрца аб рабро маё
адчайна
усхвалявана стукае
да дня?

Круты рукзак.
Хусцінкай парусінавай —
дымкі заімак...
Піхтачы. Агні...
І ў дзяўчыны, як у самой Расіі,
перахвацiла дых
ад быстрыні.



**Рыгор СЕМАШКЕВІЧ**





ожа ёсць дзе барана старая
Або колы з дзедаўскіх калёсаў?
Не кідайце так іх — я вам раю
Усцягнуць на дуб або бярозу,

Што шумяць у вас ля самых вокан.
Дужыя галіны утрымаюць.
Там прыгожа, вольна і высока.
Там буслы паселяцца да мая.

А буслы — каб шчасцем дом быў повен,
Каб жылося ў згодзе і ў дастатку.
Ну, спярша гаспадарам праз комін
Кожны год укінуць па дзіцятку.

Дзецям — добрых казак, як малінаў,
Сыпануць вячэрняю мінутай.
А старым — салодкія ўспаміны
Аб гадах, далёкіх і мінулых.

Будуць клекатаць яны шчасліва
І купацца ў яркіх промнях сонца,
Клікаць вас удаль за нашы нівы,
Ў незнаёмыя лугі і сосны.





ырвонае лета!
Колькі песень спета!
Маліны спяліла,
Па сцежках вадзіла.
Блудзіла...
Позна спаць нас клала,
Рана падымала,
Чырвонае лета!
А мне, маладому,
Хоць не йдзі дадому.
Прастаяў да ранку
Ля суседскай брамкі,
Чырвонае лета!
Твая ноч каротка,
Але і салодка.
А зімняя злая,
Хаця і даўгая,
Чырвонае лета!
Ты мала бываеш,
А моцна буяеш...
Колькі там гуляння,
Колькі расцвітання,
Чырвонае лета!
А мы ўсё чакаем,
Цябе выглядаем
І зімой успомнім
Цёплай песняй-промнем,
Чырвонае лета!



*Споўнілася сорак пяць гадоў з дня абвяшчэння Савецкай Калмыкіі.*
*Ніжэй друкуюцца вершы калмыцкага паэта Міхаіла Хонінава, які ў гады Вялікай Айчыннай вайны партызаніў на Беларусі.*

**Міхаіл ХОНІНАЎ**

# Калмычцы



алісьці, ледзьве сонца паднялося
Над палыном, якім прапахнуў шлях,
Вялікаму паэту давялося
Імчаць на тройцы ў стэпавы прасцяг.

Ў самотную кібітку на хвіліну
З цікаўнасцю рашыўшы заглянуць,
Усхваляваны іншым успамінам,
Часова ён спыніў далёкі пуць.

Увайшоў,
Калі калмычка маладая
Ў катле мяшала чай пры тагане.
Палала полымя. І залатая
Зара адсвечвалася на сцяне.

Паэт застыў на міг у захапленні
Перад жаночай невядомаю красой.
І ўсё глядзеў у твар ён са
здзіўленнем,
На смоль валос, што падалі касой,
Ён любаваўся статнаю паходкай,
Вачыма, што блішчэлі з-пад брывей...

І зразумеў, што ў гэты міг кароткі
Перад сабою ён убачыў верш.

I смех яе, і позірк чалавечны,
Яе дзявочы незайздросны лёс,
Натхнёны нечаканаю сустрэчай,
Ён назаўсёды у радках панёс.

Чытаць сягоння ўжо ўвайшло ў прывычку
Напісанае пушкінскай рукой...
Задумалася юная калмычка
Над радаснаю доляю сваёй.

У дзеўчыны іскрацца сонцам вочы,
I голас чысты, як яна пяе...
Як у далёкай той, прыгожы стан дзявочы,
I толькі доля іншая ў яе.

Яна ідзе, узняўшы галаў горда,
Сама як гаспадыня, а не госць...
Як не ўслаўляць яе характар цвёрды,
Сардэчную святую прыгажосць!

# Раніца



Пакуль сонца, дык з-за даху
золак вестку дня прынёс.
Раніца ўзнялася птахам,
песняй звонячы з нябёс.
Да ўсяго была ёй справа,
дзе праходзіў шлях яе...
Памагла паніклым травам
спіны разагнуць свае.
Птушкі з шумам паляцелі
славіць вестуна святла.
У гэты самы міг
з пасцелі
раніца мяне ўзняла.
Прад вачмі я ўбачыў скора
край дзівоснае красы:
сонцам высвечаны горы,
рэкі, стэпы і лясы.
Толькі бразнуў па даёнцы
промень на двары сяла —
і ўцякае змрок ад сонца,
не выносіць змрок святла.
Адпаўзае ў кут маўкліва
страх —
ссутуліўся, панік.
I прарваўся ў свет шчаслівы
навароджанага крык.
Раніцы абрысы зараз
невыразныя яшчэ...
Не знікае ўсмешка з твару
і з матуліных вачэй.
Маці сына спавівае,
нахілілася над ім
і, як сонца,
сагравае,
поячы цяплом сваім.
Перш чым з ложка вас падыме,
ранак голас падае.
Я ўстаю з пасцелі
з тымі,
хто да сонейка ўстае.
Чутны птушак пераборы,
чутна песня ручая.
Ранку рады лес і горы,
асаблівы рады —
я!

Пераклад Міколы АЎРАМЧЫКА.






# ГЭТА, МНЕ ЗДАЕЦЦА, ГАЛОЎНАЕ

Я ўбачыў яго ў адным сяле на Гродзеншчыне. Ён некуды хутка ішоў. Ён быў сярэдняга росту, апрануты ў лёгкую спартыўную куртку. Мы з ім пазнаёміліся і накіраваліся па вясковай вуліцы ў школу. Пасля мы сядзелі ў яго дома, пілі халоднае малако з вялікіх эмаліраваных кубкаў і гутарылі.

— Вам трэба абавязкова з Пятром Ільічом пазнаёміцца. Гэта сапраўдны сельскі інтэлігент,— сказаў мой новы знаёмы і неяк шматзначна ўсміхнуўся.

Ён нібы іранізаваў над такім словаспалучэннем — «сельскі інтэлігент», расказваючы пра самога чалавека. Гаварыў ён, збіваючыся і пераскокваючы з аднаго на другое. Адчувалася, што доўга думаў над гэтым пытаннем і вось захацеў праверыць свае думкі і назіранні?

Можна было б перадаць усю нашу размову. Аднак лепш даць слова юнаку-субяседніку. Я выпрасіў у яго дзённік, хоць і абяцаў не называць яго прозвішча. Вось яго запісы:

●

«...Усё гэта робіцца вельмі проста: здаеш пашпарт, пасля зноў прыходзіш у сельсавет. Сакратар аддае табе дакумент. Там стаіць штамп: «Прапісаны пастаянна». І цяпер цябе ўсе твае знаёмыя будуць называць сельскім інтэлігентам. Што ж гэта азначае ў дачыненні да цябе, учарашняга, калі ты жыў і вучыўся ў горадзе?

Ішоў я з пашпартам у руках і ўвесь час адчуваў яго нібы нешта жывое. Ішоў я міма возера, міма млына, міма тоўстых вербаў па вуліцы і думаў: магчыма мне прыйдзецца хадзіць па гэтай дарозе шмат гадоў... магчыма, пакуль сяло ператворыцца ў горад. Тады я зноў з сельскага ператваруся ў гарадскога інтэлігента.

Такое магчыма. Я пражыву тут, як Пётр Ільіч. Гэта наш настаўнік. Я пазнаёміўся з ім. Не проста пазнаёміўся — за руку, як з іншымі настаўнікамі — вельмі салідна, цырымонна. Не, ён аднойчы запрасіў мяне дамоў. Ён расказваў нейкія нечаканыя рэчы. І пра калгас, і пра выкладанне ў школе, і пра Афрыку, і пра посцілкі. Яму гадоў шэсцьдзесят, але ён такі жва-

вы і бадзёры. Я, здаецца, ніколі не сустракаў такога цікавага чалавека. І я сябе лавіў на думцы, што зайздрошчу яму і мару быць такім, як ён. Але як падумаю часам: пахавацца сябе ў глухім сяле на векі вечныя!

Я ніяк не магу прыстасавацца да ўмоў свайго новага жыцця. Тут нібы нейкі інакшы час. Калі быў студэнтам — дыхнуць не паспяваў! То ў бібліятэку, то на лекцыі, то ў сталоўку. А цяпер усё нібы спынілася. Удзень яшчэ сюды-туды. А як настане вечар — дык цягнецца бясконца.

Добра, што кнігі прыхапіў. Сяджу, капаюся, чытаю.

І ўсё ж трывожна. Ніяк не магу пагадзіцца з думкай, што гарадскія агні пагаслі для мяне назаўсёды.

●

Вяду ўрокі. З дзецьмі цікава. А яшчэ драмгуртком кірую пры сельскім Доме культуры. Я — рэжысёр. І што здзіўляе, у мяне збольшага атрымліваецца.

Дом культуры ў нас не важны — сцэна тры крокі ўглыбіню і ўся завешана лозунгамі. Наглядная агітацыя. Прыедуць з раёна, бачаць лозунгаў шмат, значыць — парадак! Я неяк гаварыў пра гэта загадчыку клуба. Ён скасавурыўся: «Вы што, супраць нагляднай агітацыі?»

Не, я — за. Але ж такая «нагляднасць» толькі псуе справу. Я гаварыў пасля з Пятром Ільічом, і ён згодзен са мною. Справа не толькі ў тым, што прапагандаваць, але і як гэта рабіць. Трэба, каб наглядная агітацыя была надзённая і нечаканая.

Я хаджу два разы ў клуб на рэпетыцыі. Калектыў драмгуртка ў нас добры. Не ведаю, што гэтых хлопцаў і дзяўчат цягне сюды? Прыходзяць за гадзіну, я таксама. Размовы пра п'есу, вершы, пра артыстаў. У гуртку ў нас тры настаўнікі, адзін трактарыст, чатыры работнікі ўліку, даярка і адзін... Дон-Жуан — сын загадчыка сельпо. Закончыў два гады назад сярэднюю школу, нікуды не паступіў і нідзе не працуе.

Амаль усе з адукацыяй не ніжэй сярэдняй. І, шчыра кажучы, цікавыя людзі, нават сын загадчыка сельпо. Мне асабліва падабаецца адна дзяўчына — Галя. У яе тоўстая каса, валасы гладка прычэсаны, галаву яна трымае горда. У яе асаблівы позірк: такі чысты, нібы вада крынічная. Аж дух займае, калі яна пазірае на мяне.

Я вось зараз пішу. Ноч за акном, зіма. Ціха-ціха. Пішу і думаю: куды бяднейшае было б маё жыццё без драмгуртка. У апошні час на рэпетыцыі прыходзіць Пётр Ільіч. Я часам нават злуюся: усе гавораць з ім больш, чым са мною. Ён неяк застаецца ў цэнтры ўвагі. Цудоўны чалавек. Ён заўсёды заглядвае наперад.

●

Я агітатар на свінаферме. Доўга не хадзіў туды, а сёння наведаў ферму пасля ўрокаў. Яна за сялом, абгароджана дошкамі. Здаецца, зноў трапіў у нейкі заводскі цэх. Стаяць механізмы — да самай столі, штосьці шыпіць і круціцца. Гэта цэх нарыхтоўкі кармоў. Пасля я зайшоў у наступнае аддзяленне — свіней не палічыш адразу!

Падышоў да адной жанчыны — яна вядром налівала нешта з катла ў карыта. Сказаў «Добры дзень!», яна адказала і больш ні слова. Нібы і няма мяне на ферме. Я пастаяў і неяк сумеўся: а што я скажу, калі мяне спытаюць пра справы на ферме? Агітатар... А з чаго пачынаць тут?

Зайшоў у чырвоны куток. Гэта проста вялікі чысты пакой. Тут стаіць стэнд з брашурамі пра рацыён, пра хваробы свіней. Над ім вісеў рэпрадуктар, з якога грымеў дыктар.

— Я падумаў: «У калгаснікаў, у кожнага, дома радыё, ёсць тэлевізары. Што ім мой лепет у параўнанні з тэлевізарам?» Я сумна павярнуўся



і праз парог — на двор. А там маладая свінарака дровы коле. Прапанаваў памагчы.

— Ды не трэба...— І зноў коле.

— Не, дайце я паспрабую...

Ну і калоў дровы гадзіны са дзве. Цэлы стос накалоў. Галя — а гэта была яна — некуды пайшла. Скончыўшы з дровамі, пайшоў да людзей, у чырвоны куток. Там сабраліся ўсе.

— Вы, можа, да нас на працу падрадзіліся? — жартуюць.

— Ды не,— адказваю — я ваш агітатар...

— А добры ў нас агітатар! Дроў накалоў!

І ўсё ж мяне ўвесь час мучыла сумленне. Я павінен быў што-небудзь сказаць. Але што? Пра гіганцкія будоўлі? Яны іх кожны дзень па тэлевізару бачаць і па радыё пра іх чуюць. Паведаміць, што робіцца ў горадзе? Дык у кожнай з іх там брат, сват ці яшчэ хто-небудзь іншы. Сказаць пра абавязацельствы? Дык яны самі іх ведаюць.

Яны чакаюць ад мяне не наколатых дроў, а жывога і цёплага слова. Але як яго знайсці?

Значыць, сядзелі мы ў чырвоным кутку. Я сам па сабе, яны — таксама і вялі сваю размову. Адчыніліся дзверы, і ўвайшла Галя. Я нават разгубіўся. Але яна мяне нібы і не бачыла ніколі і ведаць не ведае. Магчыма, хто-небудзь пусціў плётку, што яна ў мяне закахалася. І вось яна, як кажуць, «рэагуе» на нейкую брудную выдумку.

Калі яна калола дровы, яна была свінаркай, а я — настаўнікам, яна нібы засаромелася, што такая адлегласць між намі. Чакайце, а хто ў гэтым вінаваты? Ці не сам я і няўмелая прапаганда рамантыкі прафесій? Мне здаецца — розніца не вялікая: правяраць вучнёўскія сшыткі ці стаяць каля вялікага кормазапарачнага апарата, кіраваць ім і сачыць за паказаннямі прыбораў. Мне нават ніякавата, што, акрамя праверкі сшыткаў, не раблю нічога больш карыснага.

Але ж яна, Галя?

Мне так крыўдна зрабілася. Чаму яна паглядзела на мяне, як чужая, незнаёмая?

Мне здаецца, што агітатар павінен разбурыць усё тое непатрэбнае, што мы раней часу нагаварылі пра рамантыку інтэлектуальнай працы. Праўда, мы сцвярджалі і тое, што ўсякая праца ў пашане. Але ж праца — веліч!

Толькі як весці такую агітацыю? Не мог жа я стаць пасярод пакоя, падняць рукі ўгару і ўрачыста абвясціць: «Праца — веліч!»

Трэба з Пятром Ільічом параіцца і гэтае: «Праца — веліч!» укараніць абавязкова.

●

Быў сёння ў нас лектар з раёна з дакладам пра міжнароднае становішча. Каштоўнасць добрай лекцыі ў тым, што яна абагульняе разрозненыя веды. Былі настаўнікі, праўда, не ўсе. Пётр Ільіч, вядома, быў. А вось Бірылаў абоіх не было. Дзіўныя яны гэтыя Бірылы — ён і яна. Мне аднойчы па нешта спатрэбілася зайсці да іх. У іх свой дом, каля яго розныя хлеўчыкі — для гусей, курэй, парасят. Сам Бірыла нешта корпаўся ў агародзе, а жонка выйшла з хлява, неахайная нейкая. Магчыма, гэта і трэба — настаўніку займацца ўласнай гаспадаркай. Справа не ў гаспадарцы, а ў адносінах да яе.

Вось я прыходжу да Пятра Ільіча: ён, у ватоўцы, у старым касцюме і валёнках, нясе вядро, замешанае свінням. І ўсё ж нешта такое ёсць у гэтым чалавеку, што ён і ў ватоўцы застаецца інтэлігентам. А пра Бірылу

гэтага не скажаш. Аднойчы я загаварыў з ім пра кнігі і заўважыў у яго вачах перапалох. Мне нават няёмка стала. Ён калісьці скончыў настаўніцкі інстытут, а на ўроках у яго — шум і гам. Завуч наведвае тыя ўрокі і злуецца на яго, крычыць нават.

Як адбываецца гэткае пераўтварэнне? Дзе тут прычыны? Яны ж, гэтыя прычыны — не сацыяльныя. Пётр Ільіч абвяргае гэта ўсёй сваёй сутнасцю і жыццём.

Або яшчэ. У некаторых настаўнікаў я не бачу асветніцкага фанатызму. А ў Пятра Ільіча ён ёсць — яго вучні-пяцікласнікі зрабілі ў дыктанце па некалькі памылак, і ён, нягледзячы на ноч і непагадзь, пайшоў за пяць кіламетраў да бацькоў гэтых вучняў. Ён неяк проста падыходзіць да калгаснікаў на вуліцы ці на калгасным двары і прыжмурвае вочы. Тады дробненькіх маршчынак каля іх становіцца яшчэ больш.

— А вось у Галандыі сіласуюць кармы крыху не так, як у нас...

І так цікава раскажа, што трэба нам пераймаць, а што не трэба... А некаторыя настаўнікі ходзяць, як чыноўнікі, і глядзяць на Пятра Ільіча насмешліва.

●

Сёння быў на справаздачным сходзе ў калгасе. Старшыня ў дакладзе крытыкаваў нас, што мы не разгортваем агітацыю і культурную работу. Як гэта разумець? Самадзейнасць? Драмгурток? Лекцыі? Пра што?

Я аднойчы чытаў даклад — па геаграфіі. Зала была поўная, аж спалохаўся, хоць падрыхтаваўся нядрэнна. Пачаў — і адчуваю: гавару не тое. А што трэба — не разумею.

Мяне, здаецца, слухалі, але я хутка скончыў і сказаў, нібы так і задумана было загадзя: «А цяпер паглядзім тэлевізар». І нібы з палёгкай уздыхнула ўся зала.

Бываюць у нас канцэрты. Тады клуб паўнюткі.

Што ж яшчэ даць людзям з культуры? Тэатры? У вёсцы іх няма. Можна вазіць людзей у горад на спектаклі, але старшыня не надта адпускае грошы на гэта.

Сімфанічныя канцэрты? Так... Калі пачынаюць «пілікаць» па тэлевізару, калгаснікі просяць пераключыць праграму. А наогул, калі б прыехаў жывы аркестр, у нас бы слухалі... Што яшчэ? Музеі і выстаўкі? Рэпрадукцыі ёсць — вісяць у клубе.

Выстаўку натуральную — было б здорава! Ну, што яшчэ для культуры? Кнігі? Але ж яны патрабуюць часу і сіл. Запрасіць пісьменнікаў? Гэта, вядома, было б здорава!

Словам, я адчуваю, што нашаму сялу, па словах старшыні калгаса, трэба апынуцца... у цэнтры сталіцы! Я таксама гэтага хачу. Магу, у крайнім выпадку, уцячы ў сталіцу. Але ж усё сяло туды не ўцячэ, а мы, група настаўнікаў, зрабіць сталіцу ў сяле не зможам.

Адзінае, мне здаецца, рашэнне — каб да нас з горада прыязджалі артысты, мастакі, музыканты, пісьменнікі... Транспарт у калгасе ёсць, а старшыні няма чаго скупіцца — дзеля культуры можна і раскашэліцца.

Трэба будзе зайсці пагутарыць з ім...

●

Прачытаў свае ўчарашнія нататкі. Дрэнна. Асабліва, дзе я пішу пра сталіцу. Расплакаўся. Як непрыгожа! Гэта я так ад крыўды гавару. У нашым сяле яшчэ вельмі мала такога, што можна было б назваць «сталіца».

Паміж іншым, я ўсё з трывогаю паглядваю на сябе — ці не пачаў апускацца. Гэта ад сталіцы не залежыць. Усё залежыць ад унутранага жыцця.



А яшчэ больш уплыў мае асяроддзе, у якім жывеш і працуеш. Але ж асяроддзе ствараюць людзі. Асяроддзе — гэта сума некалькіх унутраных жыццяў. У нас ёсць такое цікавае асяроддзе — наш драмгурток. Шчыра кажу — ён цікавей, чым была наша студэнцкая сталіца. Да нас пачаў хадзіць і загадчык школьнай гаспадаркі.

Не, асяроддзе ў нас цікавае. Не ведаю, ці было б такое, каб я жыў у горадзе. Там заўсёды не хапала часу. І вось мы, часцінка сталіцы, павінны растварыцца на ўсё сяло, растварыцца ў культурным сэнсе. Гэта наша задача. У нас было ўжо два спектаклі. Поспех выключны. Воплескі, як у сапраўдным тэатры.

Цяпер пара падумаць пра канцэрты і пра што-небудзь, акрамя іх.

Здаецца, напаў на залатую жылу. Калі б хто ведаў, што я называю залатой жылай, пасмяяўся б.

Я арганізаваў краязнаўчы гурток. Мы напісалі пісьмы ў розныя архівы, музеі, вырашылі зрабіць раскопкі кургана, што побач з нашым сялом і называецца Шведскім.

З музея прыйшло пісьмо, надрукаванае на машынцы. Там падрабязна напісана, што наша сяло ўзнікла ў 1009 годзе і называлася Гарадзішчам. А ў XII стагоддзі ў нас было больш жыхароў, чым цяпер. У эпоху Пятра тут праходзілі шведы і былі баі. Мае гурткоўцы проста загарэліся, пісьмо насілі, паказвалі па хатах. Пасля я падрыхтаваў даклад. Школьнікі намалявалі карту сяла і яго ваколіц. Зала была паўнюткай. Мяне слухалі — муха не праляціць. Пасля даклада засыпалі пытаннямі.

Мы запісалі ўжо расказы нашых мясцовых партызан, аднаго ўдзельніка грамадзянскай вайны. Выходзіць, і ў нашага сяла цікавая гісторыя...

Думаю заняцца збіраннем узораў народнага мастацтва. Таксама ўжо зрабіў даклад. Вучні, калі я ім сказаў пра гэта, засмяяліся, думалі — я пажартаваў... Я ім доўга гаварыў пра народнае мастацтва, але яны разышліся з недаверам. Кажуць, не могуць быць прадметам мастацтва тыя посцілкі, якія выткалі іхнія маці і якімі яны накрываюцца, або крэсла з карагі, якое зрабіў Цярэшка — ёсць у нас такі калгаснік-арыгінал. А яшчэ ёсць дзядуля Сцяпан Змітравіч, некалі ганчаром быў. Кажуць, цудоўна ляпіў розныя фігуркі і прадаваў іх на кірмашах.

Трэба будзе да яго падкаціцца, каб ён усё ўспомніў. Нарыхтуем гліны, назбіраем карэнняў...

Уяўляю сабе даклад. На сценах развесілі посцілкі, на стале паставілі розны старажытны посуд, свісцёлкі, цацкі з саломы. А ў зале сядзяць людзі і дабрадушна ўсміхаюцца.

І вось усё гэта я называю сваёю залатою жылаю. Смешна, але вельмі важна. Гэта факт самасвядомасці. Чалавек адчувае, што набывае ў гэтым свеце нейкую вагу, у яго з'яўляецца не агульная, а яго ўласная гісторыя, яго самабытнае мастацтва. Гэта вельмі важна.

●

Сёння злавіў сябе на тым, што з зайздрасцю хаджу міма нашай царквы.

Яна стаіць на ўзгорку, на самым высокім месцы нашага сяла. Гэта «тыпавая» царква. Будавалі яе на пачатку гэтага стагоддзя. Пачынаеш глядзець на сцены царквы, і вось позірк пабег па стройных купалах да самага неба.

Уся гэтая прыгажосць справа даўно мінулых гадоў. Вера ў бога знікае. Але ж якімі цудоўнымі і ўмелымі «прапагандыстамі» былі тыя дойліды, што будавалі царкву, умелі праз будынак выказаць пэўную ідэю.

І вось я пазайздросціў такому ўменню, бо ў нас ідэі больш высокія: мы павінны ўслаўляць чалавека і яго працу.

Калі б я быў пісьменнік або мастак, я б пра гэта гаварыў, крычаў, паказваў, унушаў. А дзесьці пасярод сяла на самым высокім месцы я збудаваў бы палац, храм, скарбніцу. Як хочаце называйце. У тым палацы кожная лінія, кожны камень павінны былі б услаўляць Чалавека. Смеласць, палёт, яснасць, імклівасць, чысціню помыслаў яго, прыгажосць яго душы. І чалавек, які глядзеў бы на гэты твор, таксама б унутрана ачышчаўся, харашэў душой.

Не, царкоўнікі былі не дурні, калі запрашалі самых лепшых майстроў, архітэктараў, мастакоў, бутафораў, кампазітараў ствараць гімн у славу ўсявышняга.

●

Нам, у прыватнасці, мне, патрэбен гімн у славу Галіны!.. Павінен жа быць такі гімн? Павінен! І ён будзе створаны намаганнямі многіх мастакоў.

Гімн ў славу Галіны! Я любуюся гэтымі словамі, іх гучаннем.

Цяпер зноў пра Палац. Унутры яго я напісаў бы фрэскі. Намаляваў бы калгасніцу Мар'ю, якая тчэ посцілкі, старога ганчара Сцяпана і... Галіну — даглядчыцу фермы, настаўніка, які правярае сшыткі.

Не... Гэта не фантазія — проста гэта павінна быць. Гэта неабходна. Прыгажосць, што ўзносіць і ўпрыгожвае жыццё чалавека, нам вельмі патрэбна.

Справа не ў сталіцах і глухіх сёлах. Усё гэта глупства, калі гавораць пра заняволенне ў сяле. Справа ў тым, каб працаваць з душой, дзе б ты ні быў. Справа ў тым асветніцкім фанатызме, які ёсць у Пятра Ільіча і які павінен быць у кожнага з нас. Я адчуваю, што галоўная наша задача цяпер — паказаць чалавеку яго веліч і прыгажосць.

Трэба, каб чалавек ведаў і адчуваў сваю гісторыю, цаніў і разумеў сваё старажытнае і сучаснае мастацтва і, асабліва, цаніў і разумеў значэнне сваёй працы на карысць будучыні».

Віктар **ГОВАР.**

# ПЯЦЬ СУМНЫХ ГІСТОРЫЙ

Напярэдадні свята ён атрымаў зарплату (а зарабляў ён больш за 250 рублёў у месяц). Сказаў жонцы, што хоча парадаваць яе і маці добрымі падарункамі, такімі, каб засталіся ў памяці на ўсё жыццё.

— Няхай грошы будуць пры мне, а то, часам, трапіцца рэч, якую шукаю для цябе...

Жонка не пярэчыла. Яна толькі ўважліва паглядзела мужу ў вочы. Сёмкін патаптаўся на месцы і адвярнуўся. Жонка падумала: «Можа і сапраўды хоча купіць падарункі? Некалі ж ён быў такі чулы і спагадлівы...»

— Не забудзь пра Ірынку, — сказала яна на развітанне. — Дачка ў нас ужо вялікая...

— Добра, што прыгадала, — узрадаваўся Уладзімір. — Тут хопіць і на падарунак дачцы. — Ён дакрануўся да кішэні, дзе ляжалі грошы.

Вечар цягнуўся доўга, здавалася, яму не будзе канца. Жонка з дачкой чакалі. Варта было каму-небудзь прайсці каля вокнаў, як Ірачка кідалася да дзвярэй. «Гэта наш татка ідзе! — ускрыквала яна. — Нясе мне ляльку!» Яна хацела, каб татка купіў Паўлінку з вочкамі, што хаваюцца пад чорнымі пушыстымі вейкамі, ці Таню, што так цудоўна спявае, калі яе нахіліш.

Чаканне было цяжкае, трывожнае. Чым меней заставалася да поўначы, тым менш было надзеі, што бацька вернецца цвярозы. Ірынка стамілася і заснула, а маці намагалася чытаць кніжку. Яна гартала старонкі, але думкі былі зусім пра другое. Адклала кніжку ўбок і пачала хадзіць па пакоі. Думала пра тое, што сённяшні вечар яна магла б правесці ў сваім калектыве, куды яе запрашалі. Праўда, яна сказала, што не зможа прыйсці, бо дома наладжваюць сваё маленькае сямейнае свята.

Пасля стамілася, прылегла на канапе і заснула. Прачнулася ад страшэннага грукату. Саскочыла і ўся здранцвела ад жаху: у дзверы нехта біў кулакамі і нагамі.

— Хто там?

— Адчыняй, гэта я! — крычаў п'яны Уладзімір.

Жонка глянула на гадзіннік. Быў пачатак пятай. Яна адчыніла дзверы. Уладзіміра падтрымліваў нейкі незнаёмы мужчына.

— Гэта таксіст. Падзякуй яму, што ён прывёз мяне дадому. Заплаці, колькі там з мяне...

— А дзе грошы?

— Што?.. Што ты сказала?.. — Сёмкін кінуўся на жанчыну з кулакамі. Прачнулася Ірынка. Бацька падскочыў да ложка, злосна штурхнуў дзяўчынку...

У калідоры будынка, дзе народны суд Кастрычніцкага раёна сёння разглядае некалькі шлюбаразводных спраў, прысутныя звяртаюць увагу на Ірынку. Яна, як дзве кроплі, падобна на свайго бацьку, які знаходзіцца тут жа. Вось дзяўчынка падбегла да бацькі, зазірнула ў твар, чакала, што бацька пагладзіць яе па галоўцы, скажа ласкавае слова. Але Сёмкін адвярнуўся. Ірынка, пакрыўджаная і збянтэжаная, вярнулася да маці.

Сёмкіна і яго жонку запрасілі ў залу суда. Зайшоў і я. Слухаю.

...Калі жонка Сёмкіна вычарпала ўсе меры ўздзеяння на свайго мужа, калі не дапамагло нават умяшанне грамадскасці мінскай механізаванай калоны трэста Захсантэхмантаж, дзе працуе Сёмкін, яна звярнулася ў суд. каб скасаваць шлюб. Суддзя т. Семечка зачытвае заяву і дае ёй слова.

Жанчына, тэхнік па прафесіі, аб працы і паводзінах якой у калектыве, дзе яна працуе, самай лепшай думкі кіраўнікі і супрацоўнікі, нямала перадумала і перажыла, перш чым пераступіць парог суда. Яна прынесла сюды свой боль, крыўду, свае пакуты. Чалавек, якому яна аддала сваё сэрца, які стаў бацькам яе дзіцяці, ператварыўся ў самую жорсткую істоту.

Яны яшчэ ў маленстве сябравалі. Дружба перарасла ў глыбокае пачуццё. Абое прыгожыя, яны нязменна звярталі на сябе ўвагу. Людзі любаваліся маладой парай. Да заключэння шлюбнага саюза яны, здавалася, добра вывучылі адзін аднаго, ведалі і схільнасці, і свае характары. Быў час праверыць і пачуцці.

Як жа сталася, што цяпер жонка з глыбокай горыччу гаворыць пра мужа, як пра чужога чалавека, які, акрамя няшчасця, нічога не прынёс ёй?

— Ён сваімі паводзінамі перакрэсліў усё добрае, што было ў нас у першыя гады сумеснага жыцця,— хвалюючыся і стрымліваючы слёзы, сказала жанчына.

Суд пад увагу прымае толькі факты. І жанчына, збіваючыся і губляючы ад хвалявання ніць размовы, прыводзіць адзін за другім факты бессаромнай легкадумнасці, нахабства, душэўнай чэрствасці чалавека, які, не ўзнімаючы вачэй ад падлогі, сядзіць тут жа, побач.

Што ж скажа ён, ці знойдзе словы, каб абвергнуць гэтыя цяжкія і абгрунтаваныя абвінавачванні? Яго паводзінамі цікавілася міліцыя, гарадская пракуратура, грамадскасць установы, дзе ён абяцаў таварышам выправіцца, наладзіць сямейнае жыццё.

— Рассудзіце самі, ці магу я жыць з чалавекам, які здзекуецца з роднага дзіцяці?—пытае маці ў суддзяў.—Жыць з чалавекам, які прымушае завязаць яму найлепшы гальштук, калі збіраецца ісці да іншай жанчыны? Ён так мне і гаворыць: «Мяне не чакай, я пайшоў на ўсю ноч».

Слухаю і прыгадваю словы Уладзіміра Ільіча Леніна пра тое, што ў палавым жыцці праяўляецца не толькі дадзенае прыродай, але і прыўнесенае культурай, будзь яно ўзнёслае ці нізкае. Хіба нармальны чалавек ляжа на вуліцы ў гразь і будзе піць з лужыны? Або са шклянкі, краі якой заляпаны дзесяткамі губ?

— Устаньце, Сёмкін!—гаворыць суддзя.—Раскажыце суду, чаму вы так сябе паводзіце, чаму разбураеце сям'ю?

Ён узнімаецца павольна, неяк ненатуральна, адводзячы вочы ўбок. Сам шыракаплечы, рослы, але чамусьці сутуліцца, крывіцца і стараецца не глядзець на суддзяў, на прысутных. Пачынае гаварыць, але пераскоквае з пятага на дзесятае. Нічога лагічнага. Сіліцца расчуліць сябе: прыгадвае, як купляў для дачушкі ложачак. Усхліпвае і, шмаргаючы носам, выціскае з пачырванеўшых вачэй некалькі слязінак.

— Я купляў ложачак, ложачак...

Пэўна, у яго памяці аб роднай дачцы нічога больш і не засталося, акрамя гэтага выпадку.

— Дзе вы вучыцеся?—пытаюць Сёмкіна.

— А навошта?—шчыра здзіўляецца ён.—Я і так адукаваны—сем класаў скончыў... Жонка заўсёды папракала мяне, што не хачу вучыцца. Аднойчы, калі сказаў, што надакучыла такое слухаць, стукнула мяне па носе. Ну я, вядома, не стрымаўся...



Усе, хто быў у зале, глянулі на яго пудовыя кулакі. Такі можа ўдарыць!

— Вы камсамолец?

— Камсамолец. Толькі на ўлік яшчэ не ўзяўся. Зняўся, дзе раней працаваў, прынёс дахаты картку, ды забыўся, дзе паклаў...

— А членскія ўзносы плоціце?

— З паўгода, а можа крыху больш, не плаціў...

На вытворчасці ж Сёмкін лічыцца не благім працаўніком. Ён экскаваторшчык і, як мне расказвалі ў перасоўнай механізаванай калоне, адзін з лепшых. Колькі ж абліччаў мае Уладзімір Сёмкін? На вытворчасці ён добры працаўнік, дома ж, у сям'і—дэспат і распуснік, п'яніца і чэрствы чалавек! Дзе ж ён фальшывы, а дзе сапраўдны?

На гэта пытанне няцяжка адказаць, калі ўлічыць, што на працы нават не ведаюць, што Сёмкін камсамолец, ведаюць яго толькі па працэнтах выпрацоўкі. Для вызначэння ж якасці чалавека гэтага вельмі мала...

У Мінскім абласным судзе разглядалася і справа аб скасаванні шлюбу, дзе істцом і адказчыкам выступалі людзі, што перакідваліся жартамі, смяяліся. Яны адрозніваліся ад астатніх тым, што пакідалі ўражанне нейкіх занадта легкадумных, нібы выпадкова трапіўшых у суд. Уступілі яны ў шлюб у 1960 годзе. Праз год нарадзіўся сын.

І вось яны,—інжынер і старшы тэхнік па прафесіі,—у зале суда.

— Не сышліся характарамі,—гаворыць ён.—Пераканаліся, што ў нас няма ніякіх пачуццяў...

— Да сказанага нічога не магу дадаць,—хіхікнула яна.—Ён усё высветліў дастаткова,—кіўнула ў бок былога мужа.

— А з кім жыве ваш сын?—запытала старшыня суда т. Брэжнева.

— Наш сын жыве ў маёй маці,—адказаў ён.—Там жа жыве і яна.

— Калі свякроў і нявестка ўжываюцца між сабой,—сказала Брэжнева, дык, можа, вы вельмі легкадумна ставіцеся да скасавання шлюбу? У вас жа сын! Падумайце, не спяшайцеся.

— Мы ўсё абдумалі,—адказаў ён.—Мая маці і былая жонка жывуць разам, але гэта зусім не азначае, што яны мірацца між сабой. Яны толькі церпяць адна адну. Робіцца гэта для малога. Бабуля не можа жыць без унука, гатова прыняць у дом хоць д'ябла з рагамі, абы ў яе не адбіралі яго. А былая жонка не можа жыць без сына. Вось таму і суіснуюць...

— А вы жывяце асобна?

— Асобна. Але часта наведваю маці, сына. Трапляецца, што і начую там.

— Плоціце аліменты?

— Я на свайго сына даю грошай больш, чым патрабуецца па закону. Яна гэта можа пацвердзіць.

Яна пацвердзіла.

— Дык чаму ж вы разыходзіцеся?

— Няўжо не зразумелі?—здзіўляецца ён.—Я ж вам ужо казаў: у мяне характар успыльчывы, але я хутка адыходжу. Яна ж... Яна ні разу мне не ўступіла! Разумееце, ні разу! Хіба так можна жыць?

Яна зноў хіхікае.

Што гэта такое? Звычайная легкадумнасць ці нешта большае?

У розны час і ў розных судах мне даводзілася быць сведкам, як разыходзяцца легкадумныя маладыя людзі, якія перад уступленнем у шлюб амаль не ведаюць адзін аднаго. Пакахалі з першага позірку, распісаліся, не думаючы, што яны робяць гэта занадта паспешліва. Вось некалькі прыкладаў.

У адной з натарыяльных кантор Мінска стаяла ў чарзе, каб засведчыць копію дыплома, маладая дзяўчына-тэхнік. За ёй заняў чаргу хлопец з прыгожымі рысамі твару.

— Якая ў вас прывабная сумачка! — сказаў ён.
— Вам падабаецца? — ажывілася дзяўчына.
— Не толькі сумачка, але і яе гаспадыня...
— Вы жартуеце?
— Далібог, гавару сур'ёзна... Ведаеце, я з большай радасцю стаяў бы з вамі ў чарзе, скажам, у ЗАГС, чым у гэтай.
— Кіньце жартаваць!..
— Мне не да жартаў, я ўжо закаханы, як гімназіст... Вы — мая мара! Вы мне сніліся... Я шукаў вас так доўга, так доўга!..
Неўзабаве яна спытала:
— Вы будзеце стаяць? Я, ведаеце, раздумала рабіць копію.
— Што вы, мне цяпер не да копіі. Хадзем на вуліцу!
І яны запісаліся. А праз тры дні ўжо неслі заявы ў нарсуд аб скасаванні шлюбу.
Недаравальна, што гэтых маладых людзей ніхто не спыніў, не папярэдзіў памылкі, якую яны зрабілі, прыняўшы часовае захапленне за глыбокае пачуццё. А такое папярэджанне маглі зрабіць працаўнікі ЗАГСа, калі б не фармальна, а па-чалавечы ставіліся да абавязкаў, якія ўскладае на іх дзяржава.
Легкадумнасць прыводзіць да сумных, часам драматычных вынікаў: на ўсё жыццё застаецца траўма, крыўда на сябе, на сваю паспешлівасць, неразборлівасць, крыўда на людзей.
Шлюб — гэта справа дваіх, дарэчы, інтымная, асабістая. Але каханне дваіх дае жыццё трэцяму. Калі ў сям'і з'яўляецца дзіця, грамадству, дзяржаве не ўсё роўна, як жыве такая сям'я, як яна выхоўвае дзяцей. Сям'я — гэта маленькая ячэйка нашага грамадства. Таму не можа быць абыякавых адносін да сямейных спраў. Дзяржава непасрэдна зацікаўлена, каб сямейныя адносіны грунтаваліся не толькі на раўнапраўі мужа і жонкі, але і на іх адказнасці перад грамадствам.
У маральным кодэксе будаўніка камунізма падкрэсліваецца, што адносіны мужа і жонкі заснаваны на ўзаемнай павазе, на клопатах аб выхаванні дзяцей.
Эгаізм, сябелюбства — дрэнныя спадарожнікі ў жыцці, а людзям, якія пакутуюць ад гэтых заган і робяць жыццё сваіх блізкіх невыносным, нялёгка стварыць добрую сям'ю.

Яўген і Ірына вучыліся ў адной групе, на адным факультэце. Разам скончылі інстытут. Здавалася, што разумелі адно аднаго з паўслова. Пажаніліся. І бадай з першага дня сумеснае жыццё ператварылася ў пекла. Калі ён хацеў, скажам, аладак са смятанай, яна на стол ставіла талерку з селядцом. Калі ж яна хацела ў кіно, ён браў білеты ў тэатр. Кожны з іх атручваў жыццё другому. Нараджэнне дзіцяці не толькі не палепшыла адносін, але зрабіла іх невыноснымі.
Ён сабраў свае рэчы, пакінуў запіску, што ніякіх прэтэнзій да яе і цешчы не мае, што адмаўляецца ад усялякіх правоў на прыбудову, сумесна зробленую да дома бацькоў.
Ірына, прачытаўшы запіску, пабегла ў міліцыю з просьбай памагчы вярнуць мужа і бацьку яе дзіцяці. Яўген вярнуўся. Ён чакаў, што жонка нешта зразумела, прадумала, і, мабыць, цяпер наладзіцца жыццё. Але яго надзеі не апраўдаліся: ён увайшоў у пакой — яна адвярнулася, ён прывітаўся, яна так глянула на яго, што Яўген зразумеў — жыцця не будзе...
Шэсць разоў у народным і абласным судах разглядалі справу Яўгена і Ірыны. Яна прасіла суд выселіць мужа, ён звяртаўся з заявай, каб яго ўсялілі. Тады Ірына паказвала суду запіскі, дзе ён адмаўляўся ад маёмасці. Яўген абвінаваціў жонку ў вераломстве...
Сумна робіцца, калі слухаеш Ірыну і Яўгена. Па пятнаццаць год вучыў іх народ у школах і інстытутах, а яны... Яны спустошылі дробязямі свае душы, зрабілі сябелюбства — галоўнай мэтай жыцця. Адсутнасць узаемнай павагі, без якой немагчыма сямейнае жыццё, прывяло мужа і жонку да поўнага разрыву. Засталося дзіця без бацькі...



А то іншы раз бывае так.
У Слоніме жыве жанчына. Назавём яе Палінай Пятроўнай. Расціла яна адзінага сына, песціла яго і прывучыла ва ўсім слухацца толькі яе адну. Толькі маці, і больш нікога ва ўсім свеце... Кожнае сынава жаданне старалася папярэдзіць, і сама за яго вырашала ўсе жыццёвыя пытанні. Як кажуць, клала сыну ў рот яйка, ды яшчэ і аблупленае.
Так і рос Кастусёк матчыным сынком. Бабуля дровы секла, у хату заносіла, а Кастусёк ляжаў на канапе і пускаў колцы дыму пад столь.
Але надышоў час, і маці выправіла Кастуся на працу. Паступіў ён на мясцовую фабрыку вучнем электрыка. Трапіў у добры калектыў, і абудзіліся ў ім чалавечыя пачуцці. Вучыўся і працаваў. Радаваў старэйшых стараннасцю і кемлівасцю. На клубным вечары Кастусь пазнаёміўся з маладой работніцай, якую мы назавём Таняй. Маладыя людзі пасябравалі і пакахалі адно другога.
Даведалася аб сардэчных справах сына Паліна Пятроўна і сказала:
— Каб апошні раз я чула, што ты сустракаешся з Таняй! Зразумеў? Яна табе не пара!
— Чаму, мама?
— Ты з інтэлігентнай сям'і, а Таня... Гной з-пад каровы ўбірае, курэй даглядае. Забудзь пра яе. Я табе знайду красуню, вартую цябе...
Кастусь не пярэчыў, але перамагчы сваё пачуццё не здолеў. Хаваючыся ад маці, працягваў сустракацца з Таняй. У парку над возерам Кастусь шаптаў дзяўчыне пяшчотныя словы, пераконваў у тым, што яго маці добрая, што яна вельмі любіць дзяцей. І калі б у іх было дзіця, то ўсё само сабой вырашылася б і яны абавязкова пажаніліся б. Таксама было б няблага, каб Таня пастаралася спадабацца Паліне Пятроўне: чаму б ёй пры сустрэчы не паздароўкацца ветліва з маці Кастуся?
І Таня, сустрэўшы Паліну Пятроўну на вуліцы, сказала не толькі звычайнае «добры дзень», але з павагай паглядзела на будучую свякруху. Маці Кастуся зрабіла выгляд, што не заўважыла дзяўчыну, прайшла, нібы на вуліцы нікога не было. Ад крыўды Таня заплакала.
А Кастусь усё даводзіў, што яго маці добрая, варта толькі спадабацца ёй, і ўсё ўладкуецца. А спадабацца ёй можна, калі ў іх будзе дзіця.
На фабрыцы ўсе ведалі пра іх каханне, гаварылі — добрая пара.
І вось Таня сказала Кастусю, што ў яе хутка будзе дзіця, і дадала: «Нам трэба запісацца».
Яны падалі заяву ў ЗАГС. Даведалася аб гэтым Паліна Пятроўна, схавала пашпарт сына, а яму сказала:
— Лепш убачу цябе мёртвым, чым мужам Тані! Хутчэй пазбаўлюся жыцця, чым згаджуся, каб яна была маёй нявесткай!
Ціхі, сарамлівы хлапец, Кастусь пачаў рабіць такое, што ўсе дзіву даліся: то нап'ецца ў дыміну, то прычэпіцца да каго-небудзь, улезе ў бойку.
У калектыве гаварылі: «Гэта ад адчаю. Маці давяла...»
Калі ж Кастусь збіў чалавека і яму пагражала турма, маці кінулася на фабрыку — дапамажыце выратаваць сына, вазьміце на парукі!
Тады і сказалі Паліне Пятроўне, што яна сама вінавата ва ўсім. Пачала Паліна Пятроўна скардзіцца і на малую жылплошчу: каб у яе, моў, была добрая кватэра, то згадзілася б яна ўзяць да сябе Таню, хай бы ўсе жылі разам...
На пасяджэнні фабкома спецыяльна разглядалася пытанне, як дапамагчы Кастусю і Тані.
У калектыве Таня карысталася павагай і любоўю. І для яе шчасця тут вырашылі зрабіць амаль немагчымае: фабком рашыў аддаць асобны дом з трох пакояў настаўніцы Паліне Пятроўне і яе маладым. Дом тэрмінова адрамантавалі, Паліне Пятроўне выдалі ордэр, у які запісалі ўсіх будучых жыхароў. Вядома, і Таню. Калектыў узяў Кастуся на парукі. Тым часам нарадзілася дзіця.
Але Паліна Пятроўна не спяшалася перабірацца на новую кватэру.
— Я не хачу і слухаць пра Таню... — сказала яна ў фабкоме, куды яе запрасілі, каб высветліць, чаму некалькі месяцаў пустуе дом. — Я шукаю нявесту для сына...

Таня падала заяву ў суд на аліменты. Хоць наша заканадаўства не можа прызнаць законным любы саюз мужчыны і жанчыны, але перад судом быў асаблівы выпадак. Калектыў фабрыкі паслаў у суд сваіх прадстаўнікоў, каб засведчыць, што ў дзіцяці ёсць бацька — Кастусь. Ён і сам не адмаўляўся. Супраць унучкі ваявала толькі Паліна Пятроўна. Яна нават пісала ў рэдакцыі газет пісьмы, што яе сына, Кастуся, хочуць ажаніць гвалтам...

Чатыры разы ў судзе разглядалася справа. І кожны раз суд прымаў рашэнне ў карысць Тані і яе дачкі.

А што ж Кастусь?

Ён пакутаваў страшэнна, таму што любіў і Таню і дачку. Але за ім, як цень, хадзіла маці, сачыла за кожным ягоным крокам, сцерагла, каб ён не сустракаўся з жонкай.

Сцерагла, але не ўсцерагла. Аднойчы Кастусь, атрымаўшы зарплату і выпіўшы лішку, у стане адчаю зрабіў такое, што выратаваць яго ад суровага пакарання было ўжо нельга: яго асудзілі на некалькі год зняволення.

Магло ж быць усё зусім інакш, калі б Паліна Пятроўна не ўмешвалася ў жыццё маладых. Канечне, яна маці, ёй здавалася, што яна сыну робіць толькі дабро. Але атрымалася наадварот: яна давяла ўласнага сына да турмы. Як часта маці дарослых людзей усё яшчэ лічаць дзецьмі!

Шлюб — гэта не толькі прыватная справа маладых. Дзяржава, рэгіструючы яго, бярэ на сябе пэўныя клопаты і адказнасць за кожную новую сям'ю. Таму і легкадумнасць некаторых маладых людзей недаравальная. Толькі ў чэхаўскага Белікава словы аб тым, што: «Жаніцьба — крок сур'ёзны», — гучаць іранічна. На самай жа справе, калі чалавек стварае сям'ю, ён павінен зразумець, што бярэ на сябе вялікую адказнасць. У. І. Ленін падкрэсліваў, што лёгкія адносіны да жыцця несумясцімы з задачамі будаўніцтва камуністычнага грамадства.

**Уладзімір МЯЖЭВІЧ.**

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ



**Анатоль АГАФОНЕНКА.** Яго радзіма — горад Рэчыца, што раскінуўся на крутых берагах Дняпра. Толя жыў там да 1930 года, калі яго бацькі, рабочыя, пераехалі ў Мінск. Толькі скончыў Анатоль сярэднюю школу, як пачалася вайна. Разам з бацькамі ён пайшоў у партызаны і да самага вызвалення Беларусі змагаўся з ворагам у атрадзе імя Кутузава. Потым служыў у Савецкай Арміі.

Пасля дэмабілізацыі Анатоль Агафоненка паступіў на працу ў Беларускі дзяржаўны тэатр оперы і балета як мастак-дэкаратар. Прыродныя здольнасці таленавітага юнака добра ацанілі старэйшыя сябры, якія параілі яму паступіць вучыцца ў Мінскае мастацкае вучылішча. Скончыўшы вучылішча, мастак працуе выкладчыкам малявання і чарчэння. Але яго вабіць тэатральнае мастацтва, і ён зноў ідзе мастаком-дэкаратарам, на гэты раз у Тэатр юнага гледача. Адначасова Анатоль паступае вучыцца на вячэрняе аддзяленне Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Больш дзесяці спектакляў аформіў мастак у тэатрах Мінска. Тэмай сваёй дыпломнай работы ён абраў оперу Рыгора Пукста «Машэка».






Сцяпан КУХАРАЎ,
Ігар КРАЎЧАНКА

# ЖЫЦЦЁ, ЯК ЛЕГЕНДА

**Нарыс**

Ішла вясна 1925 года.

У нядзелю на аколіцы вёскі Смаляніца іграў гармонік. Маладыя хлопцы і дзяўчаты, выбіваючы абцасамі дол, кружыліся ў танцы. У цяню купчастых сосен, зацягваючыся самасадам, спаважна гаманілі вясковыя дзядзькі. Апранутыя па-святочнаму — у стракатых андараках, у вышываных кофтах — тут жа стаялі групкамі жанчыны.

Чуўся смех, лілася музыка.

Здавалася, гэта была звычайная вясковая гулянка. Толькі не многім было вядома, што гэтае шматлюднае зборышча задумана мясцовымі падпольшчыкамі, як мітынг, на якім будзе выступаць Вера Харужая.

Усё ішло, як было загадзя задумана. Нямаведама адкуль на дарогах і сцежках паявіліся лістоўкі. І гэтак жа нечакана перад натоўпам на фурманцы паднялася маладая, з густой шапкай русявых валасоў дзяўчына. Вера пачала сваю гутарку аб цяжкім лёсе сялян у панскай Польшчы. Яна заклікала вясковую моладзь дружна ўзняцца на барацьбу за сваё вызваленне.

Тым часам пільныя вочы падпольшчыкаў назіралі за тымі, каму не

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ



**Ліля СВАБОДА** нарадзілася ў 1938 годзе ў горадзе Віцебску ў сям'і ваеннаслужачага. Пасля вайны Ліля разам з бацькамі вяртаецца ў родны горад, дзе паступае ў мастацка-настаўніцкае вучылішча. Пасля вучылішча яна прадаўжае адукацыю ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце. Сёлета Ліля абараніла дыпломную работу — афармленне спектакляў «Аіда» і «Дамы і гусары».

падабаліся такія размовы. Панічам і шляхцічам не ўдалося выйсці з вёскі. Іх у любы момант маглі б пераняць. Сярод тых, хто ахоўваў гэты мітынг, быў зухаваты дабучанскі хлопец Павел Буцько. Ён ужо выканаў не адно важнае заданне партыі. Да яго, смелага і рашучага, цягнулася моладзь.

Другі раз Павел удзельнічаў у мітынгу ў той жа вёсцы Харэва, дзе зноў выступала Вера Харужая. Ён знаёміцца з Міронам Крыштафовічам, Сцяпанам Пацярухам, Рыгорам Шышко, якія складалі кіруючае ядро рэвалюцыйнага падполля на Пружаншчыне.

Лістоўкі, мітынгі, сходы, стычкі з панскімі паслугачамі...

На след падпольшчыкаў напалі агенты дыфензівы. Паўла Буцько кідаюць у турму. Амаль два гады, з кароткімі перапынкамі — халодныя і сырыя пружанскія і гродзенскія засценкі.

Гэта не зламала волю да барацьбы. І Павел абдумвае план уцёкаў. Яму ўдалося абхітрыць прагных да грошай паноў «правасуддзя» — за невысокую ўзятку яго да суда адпускаюць на парукі.

Павел зразумеў, што ў другі раз яму не вырвацца з турмы, і ён укрываецца за граніцай.

... Не лёгка чалавеку на чужыне. Яго не грэе гарачае кубінскае сонца, не песціць слых чужая мова. Цяжка без сяброў. Парожнія кішэні змушаюць кідацца на выпадковую работу.

Пад спёкай, абліваючыся потам, Павел будуе чыгунку. А калі пачаўся цукровы сезон, ён апынуўся на фабрыцы «Цэнтраль-Элія». Дванаццаць гадзін за долар і сорак цэнтаў — так доўга не выцягнеш, і ён зноў на дарозе беспрацоўя.

Не знойдзена шчасце і на шахце «Міна мата амбры», што па-іспанску азначае — наталяе голад. За гэтай шматабяцаючай назвай хавалася сапраўднае пекла. Тут той жа галодны паёк і мізэрны заробак, тыя ж хваробы і абвалы, якія вялі на той свет. Служачыя амерыканскіх канцэрнаў разам з жандарамі крывавага дыктатара Мачады душылі кожную спробу працоўных да барацьбы. У гэтых цяжкіх умовах і знаходзіць сабе Павел новых сяброў з прафсаюза табачнікаў. Праз іх ён знаёміцца з кубінскімі камуністамі і становіцца падпольшчыкам пад партыйнай клічкай Мінеро. У краіне адбываецца рэвалюцыя, і хоць улада перайшла да другога дыктатара — Бацісты, камуністычная партыя Кубы і прафсаюзы таксама атрымліваюць перамогу: яны выходзяць з падполля.

Мінеро выклікаюць у Гавану. Ён у гушчы працоўных, вядзе партыйную работу.

Удзень Мінеро націрае падлогу ў фешэнебельным атэлі, дзе адпачываюць капіталісты, а вечарамі — на сходах, сярод рабочага люду.

Для партыі патрэбны сродкі, і Мінеро даручаюць стварыць славянскі клуб, каб аб'яднаць у ім эмігрантаў-беларусаў, палякаў, літоўцаў — усіх, каго нялёгкі лёс кінуў на чужыну.

У невялікім падвальчыку, на адной з вуліц Гаваны, ідуць савецкія кінафільмы, на сценах — партрэты Леніна і генеральнага сакратара Кубы Блас Рока, у бібліятэцы камуністычная літаратура. Усе зборы ідуць у партыйную касу.

Работа клуба наладжана, і Мінеро становіцца за стойку ў рэстаране «Фонда кааператыва» — кааператыўным рэстаране. Ён падае кліентам напіткі, мые шклянкі і старанна раскладвае выручку на дзве касы: на дапамогу МОПРа і ў партыйную касу. Мінеро знаёміцца з Блас Рока (Францішкам Кальдарыё) і старшынёй ЦК Хуанам Марынэле, з Фаліо Гробартам, Хуанам Ардоні, Карласам Рафаэль Родрыгесам і Рамарыко Кардэро.

Пакуль пралетарыят Кубы нарошчваў свае рэвалюцыйныя сілы, на другім канцы свету, у Заходняй Еўропе, ужо загаралася полымя другой сусветнай вайны. У Германіі і Італіі ўладу захапілі фашысты, на Пірэнейскім паўвостраве каудзільё Франка сабраў мараканскія полчышчы, каб затапіць у крыві рэспубліканскую Іспанію. З імі плячо ў плячо пайшлі белагвардзейскія недабіткі, нямецкія і італьянскія фашысты.





Пасведчанне выдатнага стралка на імя П. Буцько.

Рэспубліка ў небяспецы! Усе на абарону Свабоды! — на гэты палымяны покліч адгукнуліся людзі добрай волі, камуністы ўсяго свету.

...Па Атлантычным акіяне да берагоў Францыі набліжаўся англійскі лайнер. У каюце трэцяга класа ехалі кубінскі Мінеро — Павел Буцько з пашпартам польскага эмігранта Мордкі Фрыдмана і яго сябар-украінец Іван Сташко, па пашпарту Лейба Фінкельштэйн. Побач у каютах знаходзіліся яшчэ пяць іхніх таварышаў-кубінцаў. Вядома, цяжка было ехаць з такімі ліпавымі пашпартамі. І да ўсяго гэтага, на параходзе аказаўся польскі консул, якому захацелася пазнаёміцца са сваімі суайчыннікамі.

Сябрам толькі і не хапала гэтай сустрэчы! Каб пазбегнуць яе, хлопцы рашылі наладзіць маленькі маскарад. На стол паставілі дзве бутэлькі гарэлкі, а самі разлегліся на койках. Як толькі адчыніліся б дзверы, хлопцы «пальнулі б» добрым зарадам п'янай лаянкі.

На шчасце, усё абышлося добра. Удала прайшлі таможаны кантроль, сустрэліся з французскімі таварышамі ў Парыжы. І вось яна, доўгачаканая іспанская граніца... Ноч. Зоры на цёмным аксаміце неба. Парная цішыня. Прабіраліся патаемнымі сцежкамі. На тым баку граніцы іх ужо чакалі рэспубліканскія грузавікі. Ехалі доўга, усхваляваныя начной таямнічасцю і нязвыклымі горнымі дарогамі. На світанні прыбылі ў раён размяшчэння рэспубліканскіх войск. З першымі промнямі сонца разгарэўся бой. Гэта было пад Гвадалахарай. Франкісты імкнуліся перарэзаць дарогу на Мадрыд. Яны сюды кінулі адборныя мараканскія часці. Мараканцы ішлі ва ўвесь рост, у чырвоных фесках і шарфах, з дзікім лямантам, прыкрываючы сабой іспанскіх фалангістаў, італьянскіх і нямецкіх фашыстаў.

Абарону гэтага ўчастка фронту трымалі інтэрнацыянальныя батальёны імя Гарыбальдзі, Ярослава Дамброўскага, Тэльмана.

У цывільнай вопратцы, у толькі што купленым французскім берэце, без зброі Павел Буцько апынуўся на полі бою. Рэспубліканцы пайшлі ў контратаку. І калі побач упаў скошаны варожай куляй таварыш, Павел падхапіў яго вінтоўку і пабег наперад...

У адным месцы фалангісты ўрэзаліся ў строй рэспубліканцаў. Загінуў камандзір узвода. Яго замяніў Павел Буцько. Падаў каманду па-іспанску атакаваць з фланга. Тут яму згадзіўся вопыт, падказаны беларускімі падпольшчыкамі — не байкаціраваць, а служыць у польскай арміі, каб навучыцца валодаць зброяй.


Кубінскі эміграцыйны білет на імя Паўла Буцько.



Знак адрознення капітана.

У баях пад Гвадалахарай быў поўнасцю разгромлены экспедыцыйны корпус італьянскіх фашыстаў.

Праз некаторы час на берэце байца-інтэрнацыяналіста жаўцелі тры нашыўкі з чырвонай зорачкай — званне капітана: Павел Буцько становіцца інструктарам 46-й ударнай Камуністычнай дывізіі, якой камандаваў Валянцін Ганзалес Ганзалес — Кампесіно. Гэта быў гарачы іспанец, адданы сын сваёй радзімы. Кампесіно — па-іспанску селянін. Валянцін паходзіў з сялянскай сям'і і любіў родную зямлю, скалістыя горы, вінаграднікі, чыстае іспанскае неба.

З Валянцінам Кампесіно Павел быў у баях і на мадрыдскім фронце, і на арагонскім, на рацэ Эбра, пад Тэруэлем, Кіхорна, Сэлядос, Балагер, Бельчытэ...

Цяжкая абстаноўка склалася на арагонскім фронце. Гэты ўчастак фронту ўтрымлівалі анархісты, якія не падпарадкоўваліся рэспубліканскім законам, пагарджалі воінскай дысцыплінай. У кароткіх перапынках паміж баямі яны гулялі з фалангістамі ў футбол ці п'янствавалі. А калі даводзілася цяжка, кідалі зброю і беглі дахаты. Каб спыніць націск ворага, на рубеж выйшлі 46-я ўдарная Камуністычная дывізія і інтэрнацыянальныя брыгады імя Дамброўскага, Гарыбальдзі, Тэльмана і Лінкольна.

Завязаўся доўгі, зацяты бой. Сярод фалангістаў былі падраздзяленні белагвардзейцаў, сабраных з розных краін. З лютай нянавісцю сустрэлі яны інтэрнацыяналістаў. З іх акопаў чулася: «Будзеце нас памятаць, чырвоная сволач! Вось дзе мы з вамі расправімся!»

Аднак магутны націск інтэрнацыяналістаў прымусіў іх адступіць. І яны заляглі на трох вышынях. Не ўратавалі іх і адхонныя скалы, і навейшая зброя, якою іх шчодра адарылі імперыялісты: яны былі разбіты ўшчэнт, і багатыя ваенныя трафеі папоўнілі арсенал пераможцаў.

Тут, на подступах да вышыні, загінуў камандзір украінскай роты імя Тараса Шаўчэнкі. На прыступ роту павёў рослы чарнявы лейтэнант, які толькі што камандаваў узводам. А калі на ўзятай вышыні байцы сустрэліся, Павел Буцько пазнаёміўся са сваім земляком.

— Варанішча? — здзіўлена перапытаў Павел у лейтэнанта.— Гэта сапраўднае прозвішча?

— Так,— адказаў той.— Сапраўднае. А чаму вас гэта цікавіць?

— Ды ў нас, на радзіме, сустракаюцца такія прозвішчы.



На арагонскім фронце.

— А адкуль жа вы, капітан?

— З-пад Пружан. Ёсць там такая вёска — Дабучын.

— Дык мы ж землякі! Я са Смаргоні!

Салдаты моцна паціснулі адзін аднаму рукі.

Цяпер яны сустракаліся часцей. На адным з кароткіх прывалаў Фадзей Варанішча — так звалі маладога лейтэнанта — расказаў земляку пра свой складаны шлях, які прывёў яго ў Іспанію.



Пасля шпіталю Фадзей Варанішча зноў на стрэльбішчы.

...У тых жа, дваццатых гадах хлапец імкнуўся вырвацца з панскай няволі. Была спроба перайсці граніцу ў Савецкі Саюз, ды перанялі стражнікі, збілі, этапам адправілі дахаты. Няўрымслівае сэрца шукала выйсця, і Фадзей адправіўся за акіян.

Буэнас-Айрэс не вельмі ветліва сустрэў іншаземца. І хоць пры кожным атэлі і пастаялым двары знаходзіліся амерыканскія і англійскія агенцтвы па вярбоўцы, але ж работу знайсці было цяжка. Яна была толькі ў гарачай пустыні, куды пракладвалася чыгунка, ці на плантацыях. Вербавалі ў паліцыю, у армію наёмнікаў...

А на вуліцах гарадоў Аргенціны, як і ў гітлераўскай Германіі, палалі кастры з кніг, з дубінкамі разгульвалі малодчыкі генерала-дыктатара Уры-Буру.

І ўсё ж хлопец вымушаны быў завербавацца туды, адкуль рэдка хто вяртаўся,— у Чака, на будаўніцтва чыгункі. У горадзе Санта-Фэ, калі завербаваныя чакалі наступнага цягніка, Фадзей сустрэўся з партовым рабочым. Пачуўшы родную мову, Марцін адгаварыў земляка ехаць у гэтае пекла.

Восем год у калектыве партовых рабочых гартавалася свядомасць хлопца з заходнебеларускай вёскі Клідзяняты. Тут Фадзей уступіў у камсамол, а затым у камуністычную партыю Аргенціны.

...А ў студзені 1937 года на акіянскім параходзе турыстам у Францыю ехаў Фадзей Варанішча. Кампартыя Аргенціны паслала на абарону рэспубліканскай Іспаніі лепшых сваіх сыноў-добраахвотнікаў.

Як і сапраўдны турыст, Фадзей, знаходзячыся ў Парыжы, не мінуў міжнароднай выстаўкі. Стоячы ля савецкага павільёна, ён з гордасцю ў сэрцы глядзеў на скульптуру рабочага і сялянкі, якія ў гарачым парыве над галовамі ўзнялі сімвал пралетарыяту — серп і молат. А насупраць, над павільёнам Германіі, нібы спрут разлапіўшы прагныя клешчы, чарнела



Фадзей Варанішча. Малюнак зроблен 28 сакавіка 1937 года на фронце пад Мадрыдам.


По закліку Пасіянарыі — на фронт!

свастыка. Здавалася, гэта твар у твар сутыкнуліся два светы — свет свабоды і свет рабства.

— Камуністы Францыі,— расказваў земляку Фадзей Варанішча,— перапраўлілі нас у прыгранічны горад Фігарэс, у Каталонію, дзе быў наш зборны пункт. Ваяваць пачаў радавым салдатам, пасля ранення быў на курсах камандзіраў. А ваявалі, як бачыш, побач...

...Сакавік 1937 года. На арагонскім фронце завязаліся кровапралітныя баі па дарозе Сарагоса — Уэска. Франкісты стараліся авалодаць гэтай дарогай, каб разрэзаць рэспубліканскія часці. Здаралася, што асобныя ўчасткі фронту пераходзілі па некалькі разоў з рук у рукі. Байцы-рэспубліканцы праяўлялі выключны гераізм і храбрасць. Але сілы былі няроўныя. Не хапала зброі, боепрыпасаў. Былі блакіраваны ўсе парты. У адкрытым моры італьянскія падводныя лодкі падсцерагалі і тапілі параходы, якія ішлі ў Іспанію. Гітлер і Мусаліні заключылі з Франка тайнае пагадненне, па якому абавязваліся забяспечыць крываваму каудзільё сваю падтрымку, каб задушыць рэспубліку.

Па ўсёй краіне разнёсся кліч палымянай Далорас: «Усе на фронт! Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях!». Нават правадыр анархістаў Дуруці на адным з ваенных саветаў сказаў: «Мы можам адмовіцца ад усяго, але толькі на ад перамогі».

А рэакцыя лютавала. Яна любымі сродкамі хацела ўнесці разлад у лагер рэспубліканцаў. З-за вугла фашысцкімі агентамі быў забіты Дуруці. Каб да канца дэмаралізаваць анархістаў, забойцы пачалі прыпісваць сваю чорную справу камуністам. У вёсках фалангісты распаўсюджвалі чуткі, нібыта чырвоныя здзекуюцца з людзей, гвалцяць жанчын, рабуюць...

У такіх складаных умовах рэспубліканскія арміі вялі барацьбу. Бадзёрасці надавала і тое, што на чале рэвалюцыйных войск стаялі такія праслаўленыя камандзіры, як Энрыке Лістэр, Хуан Мадэста, Валянцін Кампесіно, камандуючы інтэрнацыянальнымі брыгадамі легендарны генерал Лукач — вядомы венгерскі рэвалюцыянер і пісьменнік Матэ Залка.

Асабліва жорсткія баі ішлі ў раёне Уэска. Брыгадзе імя Дамброўскага было загадана авалодаць адной вёскай, каб адрэзаць дарогу на Уэска. Суседнімі дывізіямі справа і злева камандавалі Энрыке Лістэр і Валянцін Кампесіно. Трымаючы доўга абарону, фалангісты занялі ўсе вы-



годныя стратэгічныя ўзвышшы. Каля самай лініі абароны была зусім адкрытая мясцовасць, якая, як і дарога, добра прастрэльвалася.


Далорас Ібаруры і Валянцін Ганзалес Кампесіно (камандзір 46-й ударнай Камуністычнай дывізіі) у часе развітання з інтэрнацыянальнымі часцямі, якія змагаліся ў Іспаніі.

Спробы рэспубліканцаў авалодаць добра ўмацаваным раёнам не мелі поспеху. Брыгады Дамброўскага і Гарыбальдзі неслі вялікія страты. Загінулі многія камандзіры.

Сюды, нягледзячы на моцны артылерыйскі абстрэл, выехаў генерал Лукач. На паваротцы дарогі выбухам снарада перакуліла машыну, і смяртэльна паранены камандзір памёр на руках сваіх байцоў.

Атака ўспыхнула з новай сілай. Інтэрнацыяналісты з падтрымкай байцоў ударнай Камуністычнай дывізіі паспяхова выканалі пастаўленую задачу. Сярод атакуючых былі сябры-беларусы Павел Буцько і Фадзей Варанішча. Яны зноў былі разам, ішлі плячо к плячу.

Дні і ночы ў баях, у паходах. З марша, фарсіраваўшы раку Эбра, 45-я інтэрнацыянальная дывізія і 46-я ўдарная Камуністычная дывізія ў раёне Гандэсы акружылі адборныя часці фалангістаў. Адны з іх кідаліся ў бурныя патокі Эбра, другія, склаўшы зброю, неўзабаве сталі добрымі салдатамі рэспубліканскай арміі. Запалохана было і насельніцтва, якое нейкі час знаходзілася ў варожым стане. Людзі галадалі, але не выходзілі на вуліцу, сядзелі ў дамах пры зачыненых аканіцах. Байцы інтэрнацыянальных брыгад дзялілі салдацкі паёк на дваіх, а рэшту аддавалі дзецям і жанчынам. Пазнаўшы праўду пра тых, хто нёс свабоду, жыхары пакідалі свае абжытыя мясціны і ішлі за імі.

Адчуваючы, што рэспубліканцы на ўсіх франтах атрымліваюць перамогі і іх падтрымлівае насельніцтва, сусветны імперыялізм і фашызм праз Лігу Нацый дамогся рашэння вывесці з тэрыторыі Іспаніі ўсіх воінаў-іншаземцаў.

Гэта быў самы сумны дзень у жыцці байцоў інтэрнацыянальных брыгад. Як цяжка было расставацца з цудоўным іспанскім народам, са зброяй, якая была здабыта ў гарачых баях!

У невялікі гарадок Сан Рэдра дэ Тарэльё на развітальны мітынг з інтэрнацыяналістамі прыбылі камандуючыя рэспубліканскіх армій, члены ўрада. З палымянай прамовай выступіла Далорас Ібаруры.

У яе словах гучаў гнеўны пратэст і рашучасць змагацца за свабоду і незалежнасць рэспублікі.

— Но пасаран!— горача скандзіравалі стройныя рады інтэрнацыяналістаў.— Іспанія не скорыцца!..

Героі іспанскай эпапеі атрымліваюць заслужаныя ўзнагароды. За Далорас Ібаруры, якой уручаецца вышэйшая ўзнагарода рэспублікі — ордэн «Дубовыя лісці Мадрыда» і як ганароваму салдату брыгады імя Дамброўскага ордэн «За выдатную інтэрнацыянальную барацьбу», да трыбуны падыходзіць лейтэнант Тэадор (Фадзей Варанішча). Яго грудзі ўпрыгожваюцца такім жа ордэнам, у цэнтры якога, над партрэтам Дамброўскага, выгравіраваны словы: «За вашу і нашу свабоду».

Урадавую грамату атрымлівае Павел Буцько.

«Сіньёр доктар Хуан Негрын Лепас, старшыня Савета міністраў і міністр нацыянальнай абароны, ад свайго імя і ад сіньёра дон Антоніо Гардон Гарсэ, начальніка артылерыі наземных войск,— пісалася ў ёй,— сведчу, што Павел Буцько прымаў удзел у баях у Іспаніі ў абароне свабоды іспанскага народа ў званні капітана 46-й дывізіі. Праводзячы яго з



**Павел Буцько** (крайні злева) **з сябрамі па зброі пасля прыезду ў Гавану.**

краіны, якую абараняў гэты капітан, выносім падзяку ўраду той дзяржавы, якая яго выхавала».

Змагаючыся за кожны метр іспанскай зямлі, ішлі рэспубліканскія часці на ўсход, да французскай граніцы. Аднак на ёй ужо стаялі часці французскіх рэакцыянераў, каб не прапусціць інтэрнацыяналістаў і бежанцаў.

Неўзабаве пачаліся доўгія, пакутлівыя гады ў французскіх канцлагерах — Аржэлес Сюрмэр і Сан Сіпрыён. На пясчаным узбярэжжы Міжземнага мора, дзе раней адпачывалі турысты, калючым дротам быў агароджаны лагер. З мора дзьмуў салёны, пранізлівы вецер. Людзям не было дзе ўкрыцца. Раненых і знясіленых, якія не маглі падняцца, заносіла пяском...

Гэта быў толькі пачатак. Другім «камфартабельным» жыллём служыў ім лагер Гюрс, дзе пясок замяніла гнілое балота. Людзі пакутавалі ад цынгі, ліхаманкі. Галодны лагерны паёк — 270 грам хлеба з апілкамі, шклянка бурды, якая называлася кавай, ды трыста грамаў тапінанбура — бульбы, якою кормяць скаціну. Гэта ўсё, каб чалавек хутчэй загінуў...

Цяжкае становішча, у якім апынуліся былыя ўдзельнікі іспанскіх падзей — інтэрнацыяналісты, занепакоіла камуністаў усяго свету. У краінах, дзе камуністычныя партыі не былі забаронены, камуністы прыклалі ўсе сілы, каб вырваць з гэтага пекла сваіх братоў. З першай партыяй кубінцаў едзе ў Гавану Павел Буцько. Вялікую групу беларусаў і ўкраінцаў удалося вызваліць Савецкаму Саюзу. Выйшлі на волю многія таварышы з франка-бельгійскага батальёна, байцы батальёна імя Лінкольна.

**Група байцоў-інтэрнацыяналістаў з лагера Гюрс (Францыя). Перад імі бюст Максіма Горкага, вылеплены байцом-украінцам.**



А Фадзею Варанішчу ў ліку многіх давялося глынуць добрую порцыю з гэтай горкай чашы. Дзень у дзень у лагер прыязджалі розныя камісіі, якія, атручваючы свядомасць, стараліся завербаваць былых рэспубліканцаў у армію наёмнікаў для вайны ў французскіх калоніях у Афрыцы.

Камуністы былі нязломныя. Яны ў сваю чаргу ўзмацнілі выхаваўчую работу. У лагеры выпускалася насценная газета, чыталася камуністычная літаратура. Перад уваходам у барак быў устаноўлены бюст Максіма Горкага, вылеплены з гліны байцом-украінцам. Камуністы наладзілі сувязь з газетай «Юманітэ», якая расказвала праўду аб тых, якія і ў гэтых жудасных умовах працягвалі змаганне.

Каб развязаць сабе рукі і памагаць франкістам, фашысцкая Германія выйшла з Лігі Нацый.

З мэтай расколу інтэрнацыяналістаў лагернае начальства зрабіла чыстку, і камуністычнае ядро з былых камандзіраў і камісараў было вывезена ў лагер з больш строгім рэжымам — Вернетэ.

У знак пратэсту ў Гюрсе ўспыхнула паўстанне. Але бунтаваць давялося не доўга. Пад арку Эйфелевай вежы ўжо сунулася карычневая чума, топчучы французскую зямлю кованымі ботамі.

Бясследна зніклі з лагера байцы батальёна імя Тэльмана. Астатніх забралі на работу па збудаванню Атлантычнага вала. Тут Фадзея Варанішчу знаходзяць французскія камуністы і памагаюць яму ўцячы.

У Парыжы яму даюць даручэнне — прабрацца ў Бардо, уладкавацца на работу на будаўніцтве базы нямецкіх падводных лодак. Там толькі што правалілася падпольная арганізацыя, якая рыхтавала ўзрыў базы.

З партыйнай клічкай «Пауль» Фадзей Варанішча прыбывае ў Бардо. Знаёміцца з бясстрашнай іспанкай «Кармэн» — Піляр Ганзалес і яе мужам Стэфанам, іспанцам Хуанам Рубіо, з камандзірам атрада «дэ Ларэт» Норбер Эцьенам, французжанкай Пулет і другімі членамі бардоскага падполля.

**Партызаны і падпольшчыкі на адной з вуліц г. Бардо пасля вызвалення. Трэці справа Ф. Варанішча.**





Фадзей Варанішча з гістарычным сцягам, які ў 1937 годзе маскоўскія рабочыя падарылі дэлегацыі французскіх пралетарыяў з г. Бардо. З гэтым сцягам французскія патрыёты хадзілі ў атакі на гітлераўскіх захопнікаў. Цяпер сцяг захоўваецца ў Гродзенскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

Работы Паўлю хапала. Заводзячы знаёмства з ваеннапалоннымі, трэба было сцерагчыся, каб не натрапіць на правакатара. Каб пераправіць чалавека ў макі, трэба было падрыхтаваць яго не толькі маральна, але і здабыць яму вопратку, дакументы. Хуан Рубіо хаваў уцекачоў у сваім склепе, а бясстрашная «Кармэн» ноччу пераводзіла іх у плаўні.

Так праз Паўля да макі знайшлі дарогу сорак тры савецкія ваеннапалонныя. Сярод іх масквічы Алег Озераў і Міхаіл Антамохін, Антон Пятроў з Калінінскай вобласці, Андрэй Пегаў з Растоўскай і Сяргей Праснаў з Тульскай вобласці.

У 1944 годзе жыхары горада Бардо святкавалі дзень вызвалення. Па вуліцах з чырвонымі сцягамі ішлі калоны партызан і падпольшчыкаў. Наперадзе славянскай калоны з чырвоным сцягам, на якім золатам гарэлі герб СССР і словы «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!», крочыў Пауль — Фадзей Варанішча.

Гэты сцяг, вышыты рукамі маскоўскіх работніц, быў падараваны дэлегацыі бардоскага пралетарыяту, якая гасцявала ў Маскве ў 1937 годзе.

Сцяг, як святыню, захоўвалі французскія рабочыя, калі пачалася вайна. З ім у бой хадзілі макі. Калі Фадзей Канстанцінавіч у лістападзе 1945 года ад'язджаў на радзіму, французскія сябры сказалі:

— Пауль, вязі гэты сцяг на Радзіму, няхай ён будзе напамінкам аб сумеснай барацьбе французскага і рускага народа з нашым агульным ворагам — фашызмам!

У першыя пасляваенныя гады пад легендарным сцягам, як некалі ў Бардо, хадзілі на дэманстрацыі смаргонскія рабочыя.

* * *

Недалёка ад пружанскай вёскі Дабучын, пры дарозе, пад кучаравымі вішнямі стаіць сялянская хата. У ёй жыве персанальны пенсіянер Павел Пятровіч Буцько. Яго часта запрашаюць да сябе школьнікі, вясковая моладзь, воіны, і ён ахвотна ўспамінае сваю вогненную маладосць, сваіх баявых паплечнікаў, справы якіх сталі легендай.

Сярод дарагіх яму рэліквій — дакументаў, фатаграфій — беражна захоўваюцца адрасы сяброў. І сярод іх — Фадзея Варанішчы. Паўла Пятровіча непакоіла думка аб сустрэчы, ды ўсё неяк не выпадала...

... Сцяжынкай, якая вядзе да парога той хаты, спорнай хадою крочыць высокага росту, з выпраўкай былога салдата немалады ўжо чалавек. У яго вачах, жвавых і зоркіх, напружанае чаканне. Яму насустрач з панадворку амаль бяжыць гаспадар — каржакаваты, не па гадах рухавы чалавек.

— Пастой, пастой... Варанішча?! Браток, ці ж гэта ты?!.

Сябры ціснулі адзін другога ў абдымках.

Сустрэча праз дваццаць шэсць гадоў!

— Ну, дык хадзем жа, хадзем у хату,— узбуджана гаварыў Павел Пятровіч, ведучы пад руку госця.

І ўжо за сталом сябры разгаварыліся. Толькі і чулася: «А памятаеш?» «А ведаеш?...»

— Скажы, браток, можа ты ведаеш пра хлопцаў, што тады з лагера Гюрс выехалі ў Савецкі Саюз?— спытаў Павел Пятровіч.

— Ведаю. Мне пісаў адзін таварыш,— расказваў Фадзей Канстанцінавіч.— Яны адпачывалі ў Падмаскоўі. Якраз пачалася вайна, і нашы хлопцы папрасіліся ў тыл ворага. Іх высадзілі дэсантам, адну групу на Украіне, а другую — у Беларусі. Украінская група натрапіла на засаду. А нашы ваявалі ў партызанах. Праўда, не ўсе дажылі да Перамогі. А як жа, брат, склалася тваё жыццё?..

— Кубінскія камуністы шмат выцягнулі нашага брата з таго пекла. Калі мы падрыхтаваліся да адпраўкі, да нас падышла са спіскамі жанчына —кубінскі консул у Францыі. Яна, паглядзеўшы на мяне, здзіўлена запытала: «А вы таксама кубінец?» А потым махнула рукой, і я апынуўся ў Гаване. У нашай групе са ста чатырох чалавек амаль усе былі такія, як я, бо толькі восем былі сапраўдныя кубінцы. Мне далі месяц адпачынку. Потым зноў на работу. Працаваў начальнікам аховы Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Кубы... У час другой сусветнай вайны хадзіў матросам на гандлёвых параходах. Пабываў амаль ва ўсіх партах свету. І нават у Мурманску, у Беламорску. А ў 1944 годзе заходзіў ў Адэсу. Адтуль паслаў першую тэлеграму дадому, у Дабучын...

І зноў успаміны, успаміны... Ім, здавалася, не будзе канца.



Павел Буцько і Фадзей Варанішча. Сустрэча праз дваццаць шэсць год...

Фота І. Краўчанкі і з асабістых архіваў П. Буцько і Ф. Варанішчы.

*Дзевяноста гадоў з дня нараджэння выдатнага дзеяча Камуністычнай партыі і Савецкай дзяржавы Міхаіла Іванавіча КАЛІНІНА*



М. І. КАЛІНІН У ПРЭЗІДЫУМЕ ЮБІЛЕЙНАЙ УРАЧЫСТАСЦІ, ПРЫСВЕЧАНАЙ УРУЧЭННЮ БЕЛАРУСКАЙ ССР ПЕРШАГА ОРДЭНА ЛЕНІНА. МІНСК, ЛІПЕНЬ 1935 ГОД. (Кадр з кінахронікі).

# ДУМКІ ПРА КАМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

**... Асаблівасць юнацкага ўзросту заключаецца ў велізарным унутраным імкненні да ідэальных перажыванняў. У моладзі заўсёды ёсць жаданне самаахвяравання; у моладзі заўсёды ёсць жаданне абысці ўвесь свет пехатою, пайсці ў маракі, быць капітанам, адкрываць новыя часткі свету і г. д. і да т. п. І, таварышы, гэта натуральна. Я не ведаю, як у іншых, а ў мяне, па крайняй меры, такія фантазіі брадзілі да 18. Я не думаю, каб сучасная моладзь была ў гэтых адносінах асаблівай. Я не думаю, каб гэтыя імкненні да цудоўнага, імкненні быць цуда-волатам, рабіць добрыя справы для народа ў галіне навукі і ў іншых галінах,— каб усе гэтыя якасці не былі ўласцівы і сучаснай моладзі.**

(З прамовы на VII з'ездзе ВЛКСМ 11 сакавіка 1926 года.)





М. І. Калінін на чыгуначнай станцыі ў Бабруйску ля вагона агітцягніка. 1919 год.

**Прапаведзь савецкага патрыятызму не можа быць адарванай, не звязанай карэннямі мінулай гісторыі нашага народа. Яна павінна быць напоўненай патрыятычнай гордасцю за дзеянні свайго народа. Бо савецкі патрыятызм з'яўляецца прамым нашчадкам творчых спраў продкаў, рухаючых уперад развіццё нашага народа.**

(Даклад на сходзе партыйнага актыву гор. Масквы. 2 кастрычніка 1940 года.).



# ВЯЛІКАМУ КАСТРЫЧНІКУ— ВЯЛІКІ ЭПАС

Здараецца яшчэ сустракаць скептыкаў, якія самаўпэўнена сцвярджаюць, што ў наш век тэхнічнага прагрэсу і касмічных палётаў паэма як жанр выраздзілася і распалася, што яе развіццё цяпер, увогуле, немагчыма. Часта яшчэ можна пачуць размовы пра імклівую бурлівасць нашых дзён, пра мільгатлівы калейдаскоп уражанняў, што захопліваюць штодня нашага сучасніка, не даючы яму апомніцца, пра малыя формы літаратуры, лірызацыю, як абавязковую прыкмету сучаснага стылю, і г. д.

Але дастаткова азірнуць, напрыклад, шляхі развіцця нашай пасляваеннай паэмы, і сумненні наконт яе лёсу развейваюцца, як дым. Больш пяцідзесяці твораў гэтага жанру дала толькі беларуская літаратура за гэты час, і сярод іх такія манументальныя, як «Рыбакова хата» Якуба Коласа і «Грозная пушча» Аркадзя Куляшова. А Пятрусь Броўка, Аляксей Русецкі, Анатоль Вялюгін, Уладзімір Дубоўка, Сяргей Дзяргай, Сцяпан Гаўрусёў, Аляксей Зарыцкі, Антон Бялевіч! Хіба іх уклад у развіццё паэтычнага эпасу быў не плённы?

Два апошнія дзесяцігоддзі — гэта хутчэй час настойлівых пошукаў развіцця паэмы як жанру. І гэта ж можна сказаць пра 20-я—30-я гады, якія былі вельмі ўраджайныя на паэмы. Прыгадаем тут найбольш значныя з іх — «Новую зямлю» і «Сымона-музыку» Якуба Коласа, «Босыя на вогнішчы» Міхася Чарота, паэмы Янкі Купалы, Уладзіміра Дубоўкі, Петруся Броўкі, Пятра Глебкі, Паўлюка Труса, Аркадзя Куляшова, Андрэя Александровіча, Алеся Звонака і іншых.

Дачкой рэвалюцыі можна назваць беларускую савецкую літаратуру, а ўсё лепшае, што ёю створана,— эпасам новага жыцця, жыцця народа на скрыжалях новага часу. Народжаная векапомнымі падзеямі Кастрычніка, адзначаная духам і складам новай эпохі, наша літаратура не магла не наблізіцца да «чыстага» эпасу, да таго, калі казаць словамі В. Р. Бялінскага, «ідэалізаванага прадстаўлення... гістарычнай падзеі, у якой прымаў удзел увесь народ, якая зліта з рэлігійным, маральным і палітычным існаваннем народа і якая мела моцны ўплыў на лёс народа». Ці ж не «гістарычнай падзеяй, у якой прымаў удзел увесь народ», з'явіўся для нас Кастрычнік? Ці ж не з яго ідэямі зліта сучаснае «маральнае і палітычнае існаванне» беларускага народа? І ці ж не меў і не мае ён «моцнага ўплыву на лёс народа»? Толькі станоўчымі вынікаюць адказы на ўсе гэтыя пытанні, а значыць, усе асноўныя аб'ектыўныя перадумовы з'яўлення эпасу рэвалюцыі ў нас у наяўнасці. І таму зусім



натуральна, што ў нас пошукі эпасу ні на хвіліну не спыняліся. Наша літаратура станавілася эпасам рэвалюцыі, эпасам Кастрычніка.

Як бы перадспевам да яго была ў некаторай сваёй частцы беларуская дарэвалюцыйная літаратура. Велічным адлюстраваннем нацыянальна-вызваленчай барацьбы народа пачатку XX стагоддзя з'явіліся дарэвалюцыйныя паэмы Янкі Купалы «Адвечная песня», «Сон на кургане», «Бандароўна», «Магіла льва». Шлях працоўнага народа ў рэвалюцыю яшчэ да яе гістарычных падзей пачаў паказваць у эпічных палотнах Якуб Колас, ствараючы першапачатковыя раздзелы сваіх славутых «Новай зямлі» і «Сымона-музыкі». У гэтых творах — жыццё нашага народа да рэвалюцыі. Чытаеш і ўвачавідкі бачыш, з чым ішоў народ, што нёс ён у рэвалюцыю. Да паказу ўсяго гэтага будзе яшчэ не аднойчы вяртацца беларуская савецкая паэма ў 20-я—30-я гады.

Пакутлівая перадгісторыя рэвалюцыі ў рамантычна-алегарычным вобразе Крыжа нядолі і народнага доўгацярпення будзе паказана ў «Босых на вогнішчы» М. Чарота, як жудасны, страшлівы сон яна прыйдзе да лірычнага героя паэмы «Дзесяты падмурак» П. Труса, у жахлівых бытавых падрабязнасцях яшчэ раз ажыве ў паэме П. Броўкі «Кацярына» і іншых. Паэма 20-х—30-х гадоў дапіша разам з тым карціны народнага жыцця блізкага пярэдадня рэвалюцыі — гады першай імперыялістычнай вайны. «1914 год» П. Броўкі, «Крыўда» А. Куляшова, «Песня вайны» Я. Пушчы з'явяцца цікавымі спробамі ў гэтым кірунку. І ўсё ж літаратура не выканае тады задачы ў кірунку стварэння вялікага эпасу рэвалюцыі. Пра гэта яскрава сведчыць той факт, што аж да апошніх год свайго жыцця будзе працаваць над паэмай «На шляхах волі» Якуб Колас. Імкнучыся раскрыць перадгісторыю рэвалюцыі, паэты не раз яшчэ звернуцца і да гістарычнай тэмы. Янка Купала напіша «Тарасову долю», Уладзімір Дубоўка — «Крычаўскую спакусу» і «Браніславу». І ўсё гэта будзе ад няспынных творчых турбот пра тое, што рэвалюцыі нельга зразумець, мастацкі не даследаваўшы яе вытокі, абставіны, у якіх яна разгортвалася, якія перакройвала, нараджаючы новы час.

Адлюстраванне рэвалюцыі, аднак, пачалося ў нас з эмацыянальнага яе ўспрыняцця. Гэтыя пачуцці шырока і бурліва выказаў Міхась Чарот, стаўшы першым песняром падзей Кастрычніка на Беларусі. Яго паэма «Босыя на вогнішчы» — гэта паэма падзей, не так паказаных, як адчутых. Яна выразіла нянавісць і гнеў народа да праклятага мінулага, захапленне рэвалюцыяй, радасць ад яе прыходу і перамаганоснага наступу. Паэма стала, такім чынам, сапраўдным гімнам Кастрычніку, новаму ладу. І тым больш успрымалася яна сучаснікамі паэта як гімн новаму жыццю, што здавалася ім і новай па форме. А новым у ёй было перш за ўсё само сцверджанне рэвалюцыі, рэвалюцыйны аптымізм, выказаны з нечуванай экспрэсіяй.

Па сутнасці, пра тыя ж самыя падзеі была і паэма Янкі Купалы «Безназоўнае», але Купала не пайшоў у іх адлюстраванні на спалучэнне высокага і нізкага, героіка-рамантычнага і бытавога, як Чарот у «Босых на вогнішчы». Купалава паэма стала ўжо не толькі радасным гімнам у гонар рэвалюцыі, а творам, засяроджаным на адным цэнтральным вобразе, на адной думцы. Гэтым вобразам з'яўляецца ў ім Маладая, у якой паэт увасобіў разняволеную рэвалюцыяй Беларусь, здзяйсненне сваёй даўнішняй запаветнай мары:

> Занімай, Беларусь маладая мая,
> Свой пачэсны пасад між народамі!

Сцвярджаючы, што «масты старыя спалены, старыя ланцугі, паложаны падваліны пад новыя сцягі», паэма «Безназоўнае» паказвала ства-

ральныя сілы рэвалюцыі і гэтым пачынала больш паглыбленае пранікненне ў сутнасць і дух рэвалюцыі, у яе разуменне.

У другой палове 20-х гадоў паэма аб рэвалюцыі, з аднаго боку, усё яшчэ заставалася гімнавай, прывітальнай, як «Дзесяты падмурак» П. Труса, часам збівалася і на рыторыку, як мясцінамі ў «Паэме імя вызвалення» А. Александровіча. З другога боку, яна імкнулася паглыбіцца ў асэнсаванне Кастрычніка. Іменна ў гэтым напрамку працаваў перш за ўсё У. Дубоўка.

Творам аб рэвалюцыі і сучаснасці з'явілася казачна-фантастычная і сімволіка-алегарычная паэма У. Дубоўкі «Кругі». У ёй таксама ёсць адкрытае ўслаўленне рэвалюцыі і новага жыцця, але перш-наперш, гэта спроба алегарычна-сімвалічнага даследавання рэвалюцыі. Калі ў паэме «Крычаўская спакуса» Дубоўка імкнуўся раскрыць і апаэтызаваць дух і сілу рэвалюцыі цераз гістарычныя аналогіі, то тут ён звярнуўся да сюжэтаў нацыянальнага фальклору, каб паказаць, чым з'явіўся для беларускага народа Кастрычнік.

Усім вобразна-эмацыянальным ладам паэмы Дубоўка даказваў, што рэвалюцыя — гэта заканамернае ўвасабленне ў жыццё спрадвечнай мары народа аб Праўдзе і Шчасці. Герой паэмы Цікаўны — гэта праўдашукальнік, падобны сваёй дасціпнасцю да Тараса з паэмы «Тарас на Парнасе», сваёй цягавітасцю і неадступнасцю ў пошуках — да герояў-праўдашукальнікаў Ф. Багушэвіча. І да Лявона і Сымона Зяблікаў з драмы Я. Купалы «Раскіданае гняздо». Чымсці падобны ён і да Сама са «Сну на кургане». А гэта таму, што ён, як своеасаблівы збіральны вобраз, паводле задумы паэта, увасабляе працоўны дарэвалюцыйны народ. Ні героі Багушэвіча, ні героі Купалы не знаходзілі ні Праўды, ні Шчасця, а Цікаўны дабіраецца да Сонца. Яно яму адкрывае Праўду, яно яго вучыць быць чалавечным, працавітым, добрым. Уся алегарычнасць паэмы «Кругі», такім чынам, вельмі лёгка прачытваецца, тым больш, што казачна-алегарычныя малюнкі паэмы раз-пораз перабіваюцца аўтарскімі маналогамі:

| | |
|---|---|
| Здзейснена прадвесненне Купалы,<br>акавіта Коласавых слоў!<br>...Радасць мая,— Рэвалюцыі час! | Я ж не магу ў гэты час не сказаць:<br>шчасце маё ўжо нават у тым,<br>што я ўдзельнік вялікіх часін. |

Усе паэмы 20-х гадоў, прысвечаныя Кастрычніку, былі, такім чынам, у шмат чым блізкія паміж сабой — пафасам услаўлення, скіраванасцю да сімволікі, алегорыі, незвычайнасці. Паэтызуючы рэвалюцыю, яны не спынялі яшчэ ўвагі на канкрэтных падзеях, не ўздымаліся да стварэння аб'ектывізаванага вобраза героя рэвалюцыі. Першыя крокі ў гэтым напрамку зрабіў у канцы 20-х гадоў А. Звонак паэмамі «Загай» і «Каршун». Але малады тады паэт не змог пераадолець схематычна-трафарэтных уяўленняў аб героі рэвалюцыі як аб чалавеку, якога разрывае надвое пачуццё рэвалюцыйнага абавязку і перажыванні з повадү любві да дзяўчыны. Свайго камісара Загая паэт маляваў у нейкім псеўдабылінным ракурсе, прымушаючы яго, падобна пушкінскаму Алека з «Цыганоў», уцякаць у стэп, парываць з грамадствам.

Нельга забывацца і на тое, што ўжо 20-я гады далі нам твор, у якім чалавек і рэвалюцыя выяўляліся арганічна і ўсебакова. Гэта была паэма аб жыцці беларускага дарэвалюцыйнага сялянства — паэма, якая, услаўляючы мужыка-беларуса, раскрываючы ўвесь прывабны яго чалавечны воблік, паказвала, як ён, герой працы, паступова перарастаў у героя новага часу, як імкнуўся вырвацца з цянётаў эксплуатацыі, як шукаў шляхі да новай долі, не знаходзіў іх і трагічна гінуў, сваім няўдалым вопытам паказваючы, што ісці трэба другой дарогай. Паэма гэта — «Новая зямля». Яна вырасла ў шырокую эпапею народнага жыцця, стала нацыянальным эпасам.

Акрамя «Новай зямлі», у 20-я гады Якуб Колас закончыў паэму «Сымон-музыка». Пабудаваная на дарэвалюцыйным жыццёвым матэрыяле, яна, як і «Новая зямля», не стала наўзбоч ад адной з магістральных тэм эпохі, а прагучала і як хвала ў гонар ўсеразнявольваючай сутнасці Кастрычніка, як заклік несці таленты на службу рэвалюцыі.

У канцы 20-х гадоў шырокі водгалас займела і паэма Алеся Александровіча «Цені на сонцы». Не ўсё ў ёй вытрымала выпрабаванне часам, у прыватнасці яе фельетонная аблегчанасць. Але як тэмпераментны клопат нашай літаратуры за здзяйсненне ідэалаў рэвалюцыі яна несумненна застаецца ў летапісе паэм пра Кастрычнік і яго час.

У 30-я гады мастацкім першаадкрыццём з'явілася паэма Петруся Броўкі «Праз горы і стэп», якая гераізм мас раскрывала праз паэтызацыю гераізму індывідуальнасцей, а самыя індывідуальнасці — праз канкрэтна-бытавыя дэталі, яркія, запамінальныя. І хоць падзеі ў паэме падаваліся кінематаграфічна, паэту ўсё ж удалося перадаць усю напружанасць свайго перажывання за рэвалюцыю, за герояў, якія яе здзяйснялі, за іх лёс.

Шмат творчай энергіі ўвасабленню векапомных падзей рэвалюцыі аддаў у 30-ыя гады Пятро Глебка. У паэме пра Ільіча, якую паэт назваў «Мужнасць», яму ўдалося выказаць глыбока асабісты, а тым самым і народны боль, усенародную скруху ў сувязі з заўчаснай смерцю Леніна. Клятвай вернасці ленінскім запаветам, мужнай і натхнёнай, прагучала гэта паэма. І, наадварот, паэме «У тыя дні», пры ўсёй чаканнасці яе радкоў, бракавала напружанага сардэчнага перажывання. Калі ў паэмах 20-х гадоў эмоцый было часам аж занадта, то імкненне П. Глебкі да выяўлення падзей праз канкрэтныя дэталі зрабіла адну з нашых маштабных па ахопу падзей паэму празмеру апісальнай. У паэме «У тыя дні» паэту не ўдалося стварыць паўнакроўныя вобразы

## ПЕРШЫЯ ТВОРЫ



**Аляксандр САЛАЎЁЎ** нарадзіўся ў 1926 годзе пад Ленінградам. Сашу было толькі пятнаццаць гадоў, калі яго родную вёску захапілі фашысцкія цемрашалы. Разам з сястрой хлопец пайшоў у партызаны. Пад канец ваеннага ліхалецця Аляксандр ідзе на фронт — б'е ворага на Карэльскім перашыйку і ўдзельнічае ў разгроме Курляндскай групіроўкі варожых войск.

Пасля вайны Аляксандр Салаўёў знайшоў сваю маці, якая апынулася ў горадзе Мадона (Латвійская ССР). Туды прыехаў былы воін. Пачаў працаваць мастаком-дэкаратарам у доме народнай творчасці і адначасова вучыўся ў сярэдняй школе.

У 1957 годзе ён паступае ў Ленінградскае мастацкае вучылішча імя Мухінай, а потым у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Ён вучыцца на аддзяленні тэатральных дэкаратараў. Тэма яго дыпломнай работы — афармленне спектакляў «Людзі і разбойнікі» і «Вайна і мір».



**Ігар КРЭЙДЗІК** нарадзіўся ў Запарожжы. У 1947 годзе Ігаравы бацькі вяртаюцца ў родны Мінск. Тут юнак паступае вучыцца ў мастацкае вучылішча і адначасова працуе ў клубе аўтазавода. Вечары, праведзеныя сярод самадзейных артыстаў, выклікалі ў юнака жаданне стаць мастаком-дэкаратарам. Ён паступае ў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут на аддзяленне мастакоў-дэкаратараў. Сёлета мастак абараніў дыпломную работу — афармленне спектакляў «Яснае світанне» і «Герой фатэрлянда».

ўдзельнікаў рэвалюцыі. У гэтым праявіўся ўсё яшчэ непераадолены ў 30-ыя гады бар'ер апісальніцтва падзей, безадносна да іх уплыву на народ. Дзеля пераадолення гэтага бар'еру ў 30-ыя гады больш за ўсё зрабілі пошукі Аркадзя Куляшова.

Паэма «Крыўда» была яшчэ на гэты бок бар'еру — у першай яе частцы паэтызацыяй прыроды і самой падачай малюнкаў франтавой паласы паэт узнаўляў толькі атмасферу жаху, народжанага імперыялістычнай вайной. Антычалавечнасць крывавай бойні паказана і ў другой частцы паэмы праз вобразы дзесяці інвалідаў. Жахлівасць вайны была гэтым выражана даволі афектыўна, але ў паэме ўсё ж паўставалі перад чытачом не жывыя людзі з іх драматычным лёсам, а толькі знявечаныя вайной дзесяць чалавечых цел, як сімвал ненажэрнасці вайны-мясарубкі.

Упершыню вобраз героя — змагара за Кастрычнік, хоць яшчэ і не распрацаваны псіхалагічна, з'явіўся ў паэме Куляшова «Антон Шандабыла». Паэту ўдалося ўпершыню звязаць падзеі рэвалюцыйнай барацьбы з лёсам канкрэтнай асобы, зрабіць паэму канфліктнай і драматычнай знутры, а не толькі па каларыту малюнкаў і рытмічнаму гучанню, удалося паказаць рэвалюцыю як барацьбу двух светаў — старога і новага праз канкрэтныя чалавечыя характары. Такім чынам, ужо ў гэтай ранняй паэме складваўся будучы аўтар гераічнай хронікі-эпасу «Грозная пушча». Але да яе Куляшоў прыйдзе з вопытам работы над паэмай «Баранаў Васіль», у якой дасягнута пэўная глыбіня псіхалагічнага аналізу, з вопытам раскрыцця характараў праз канфлікты, як у паэме «У зялёнай дуброве», а галоўнае, з вопытам стварэння такога манументальнага палатна, як «Сцяг брыгады».

У «Сцягу брыгады» ўсё было закроена на эпічны лад: малюнкі вайны, народнага гора, маштабнасць ідэі і галоўнага героя і, нарэшце, непаспешлівы былінна-апавядальны тон паэмы. Атмасфера часу, абставіны, самі героі, іх перажыванні — усё «матэрыялізавана» тут у рэчавых дэталях (адчулася школа 30-х гадоў). Рэчы цудадзейна станавіліся сімваламі, увасабленнем лёсу народнага. Ды і той жа Алесь Рыбка. Чалавек з зусім негераічным прозвішчам, нават падкрэслена звыклым, ён, пастаўлены ў інтэр'еры рэчаў, якія ўздымаюцца высакагорным Памірам сімвалаў, узяты не ў дробна-бытавым плане, а ў высокім клопаце пра Радзіму, пра сцяг брыгады і камісара Заруднага, пра сваю сям'ю, якія для яго і ўвасабляюць і складаюць Радзіму. Гэты чалавек выступае ў паэме, як сімвал чагосьці вялікага, эпахальнага, усенароднага. Ідэалізаваны, прыўзняты, ён стаў сапраўды эпічным героем народнай эпапеі змагання супраць фашызму, за радзіму Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Паэму «Грозная пушча» А. Куляшоў піша ў пасляваенныя гады і аддае ёй нямала часу. На з'яўленне гэтай паэмы, трэба сказаць, працавала не толькі сама гісторыя нашага народа, якому за ідэалы Кастрычніка, за іх перамогу на ўсёй беларускай зямлі прыйшлося змагацца не аднойчы. Працавала на яе ўся наша літаратура ўвогуле.

Цікава, што матыў аднаго з вершаў Змітрака Астапенкі — аб граніцы, якая раздзяліла не толькі Беларусь, а паставіла «глухую мяжу для ўсяго невыказна вялікага свету». Гэты матыў як бы непасрэдна потым падхопіць у сваёй «Граніцы» Аркадзь Куляшоў. Гераіка змагання працоўных Заходняй Беларусі вылучыла і сваіх песняроў — Валянціна Таўлая, Піліпа Пестрака, Максіма Танка. «Песня пра сухар» і паэма «Таварыш» В. Таўлая, паэма «Нарач» М. Танка сталі непасрэдным і яркім адбіткам жыцця і рэвалюцыйнай барацьбы народа. Лірычны герой паэмы «Таварыш» В. Таўлая, хоць і не назваў нам ягонага імені паэт,



як жывы і сёння стаіць у вачах — сціплы, валявы, да апошняга дыхання адданы рэвалюцыі баец. Духоўным братам яго выступае падпольшчык Грыша з паэмы М. Танка «Нарач».

І, нарэшце, з жадання ўвекавечыць подзвіг народа ў барацьбе за рэвалюцыю з'явіліся яшчэ дзве паэмы, і абедзве ў пасляваенны час,— «Рыбакова хата» Якуба Коласа і «Грозная пушча» Аркадзя Куляшова. «Рыбакова хата» — гэта шырокі сацыяльна-бытавы эпас з каларытна выпісанымі героямі. «Грозная пушча» — велічная карціна той барацьбы, якая нарадзіла легендарных герояў зямлі беларускай Кірылу Арлоўскага і Сяргея Прытыцкага. Гэтыя сапраўдныя героі сталі прататыпамі вобразаў «Грознай пушчы».

Паэма Аркадзя Куляшова бліжэй за ўсё, што ў нас напісана аб рэвалюцыі, стаіць да класічнага эпасу. Думаецца, што яна да гэтай пары яшчэ не ацэнена як след.

У свой час яшчэ Гегель патрабаваў для сапраўднага эпасу сувязі ўсяго багацця падзей з «цэласным светам... нацыі і веку». «Цэласны свет... нацыі і веку» Куляшоў добра адчувае. Пра гэта сведчыць не адзін яго верш, не адна паэма. Не ўспамінаючы тут суровага, як рэвалюцыйная песня, урачыстага, як гімн, верша «Камуністы», не спыняючыся на камсамольскі-задзірыстай і душэўна-мяккай паэме «Толькі ўперад», хочацца выпісаць некалькі радкоў з паэмы «Песня аб слаўным паходзе». Наш век, наш час, пачаты Вялікім Кастрычнікам, паэт увасабляе ў гэтай паэме ў вобразе Вялікага Паходу, які людзям мір нясе,

Варштат і хлеб — рабочаму,
Да працы век ахвочаму,
Зямлю і плуг — аратаму,
Суд — багачу праклятаму,

Жыццё — бядой замучаным,
Вясёлы смех — засмучаным,
Любоў — усім разлучаным.

Вызваленчую сутнасць Кастрычніка, яго ленінскі гуманізм,—а гэтым самым і «цэласны свет веку» —нашага веку, веку Вялікага Кастрычніка,— гэтымі радкамі паэт выказаў вельмі сцісла і натхнёна.

У беларускай савецкай літаратуры тэма Кастрычніка вырашалася ў цеснай сувязі з тэмай пошукаў сялянамі зямлі і волі. У гэтым плане яе распрацоўваў у 20-ыя гады Якуб Колас у «Новай зямлі», Міхась Чарот у паэме «Ленін», у 30-ыя гады Пятрусь Броўка ў паэме «Кацярына». Новую, даволі цікавую спробу ў гэтым кірунку ў пасляваенны час зрабіў Антон Бялевіч у паэме «Карэнні дуба». Твор гэты сімпатычны перш за ўсё сваім галоўным героем Мядзведзічам. І сам ён і прыгоды, якія выпадаюць на яго долю ў паэме, раскрыты праз народна-казачны каларыт. І ўсё ж адзін эпічны герой, уласна, эпасу стварыць не можа, а ў сувязь з падобнымі да Мядзведзіча па велічы і характэрнасці іншымі героямі паэт свайго Мядзведзіча не паставіў, адпаведных падзей, хоць бы нават напаўлегендарных, звязаных з Кастрычнікам, у паэме не раскрыў, і відавочныя магчымасці да стварэння цікавага эпасу былі ім упушчаны.

Удачы нашай літаратуры ў чыста эпічным плане,— такія, як «Новая зямля» і «Грозная пушча»,— прымушаюць верыць і спадзявацца, што яна яшчэ не сказала свайго апошняга слова аб сацыялістычнай рэвалюцыі, што яе пошукі эпасу Вялікага Кастрычніка будуць даваць яшчэ не аднойчы свой самабытны плён. І гэта, напэўна, як і дасюль, будзе ісці поруч з усё новымі паэмамі аб шэсці Кастрычніка — пераважна лірычнай разнавіднасці, такімі, як «За строем дат і рубрык» Уладзіміра Хадыкі, «Патрыятычная песня» Пімена Панчанкі, «Яго вялікасць» Аляксея Русецкага, «Штодзённы лістапад» Сцяпана Гаўрусёва...

Сэрцавінай нацыянальнага эпасу аб рэвалюцыі была і застаецца лeнініяна, створаная нашымі паэтамі. Яшчэ з 20-ых гадоў пачаўся буй-

8*

ны яе рост, адзначаны чаротаўскай паэмай «Ленін», затым узнесены драматычнай паэмай Пятра Глебкі «Мужнасць», вершаваным апавяданнем Максіма Лужаніна «Хадок», паэмай Петруся Броўкі «Заўсёды з Леніным» і зусім нядаўна расквечаны такой шырокапанарамнай паэмай аб маленстве і юнацтве Ільіча, як «Вецер з Волгі» Анатоля Вялюгіна. Велічнымі, сапраўды паэмнымі ўзнікаюць перад намі яе асноўныя героі — малады Валодзя Ульянаў, яго старэйшы брат Саша, каваль Парфіры, які нагадвае Пугачова, вобраз Волгі, якую ў паэме называюць Сцяпанаўнай — у памяць пра Сценьку Разіна. Паэма «Вецер з Волгі» дае ўсе падставы, каб перарасці з твора пра юнацтва Леніна ў эпапею аб правадыру рэвалюцыі, а значыцца, у эпапею рэвалюцыі.

Дзякуючы праніклівасці і намаганням Янкі Купалы здарылася так, што ля вытокаў беларускага савецкага эпасу стала найвялікшая паэма старажытных усходніх славян, перакладзеная ім у 1919 годзе — «Слова аб палку Ігаравым». Старажытнае слова яшчэ раз праслужыла нам сваю службу — яно клікала ўвесь беларускі народ яднацца з усімі народамі былой царскай Расіі на барацьбу супраць старога свету за вялікія ідэалы Кастрычніка. Узорам для творчага пераймання застаецца яно нам і сёння.

Бялінскі, адзначаючы ў свой час, што эпас патрабуе падзеі, у якой бы прымаў удзел увесь народ, заўважаў: «Зразумела, калі гэтая падзея датычылася не аднаго народа, але і цэлага чалавецтва,— тым бліжэй паэма павінна падыходзіць да ідэалу эпасу». Сёння, на парозе слаўнага 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, яго значэнне і ўплыў на лёс усяго чалавецтва, як ніколі, выразны і відавочны. І сёння наша набліжэнне да эпасу Кастрычніка — гэта набліжэнне да эпасу ў яго ідэале. І мы да яго сапраўды наблізіліся ўсім тым лепшым, што напісана пра рэвалюцыю і яе правадыра.

**Алег ЛОЙКА,**
**кандыдат філалагічных навук.**

# РАМАНТЫК, ПТУШКАЛОЎ, ПАЭТ

**Семдзесят гадоў з дня нараджэння Эдуарда БАГРЫЦКАГА**

З Багрыцкім я пазнаёміўся ў раннім дзяцінстве, яшчэ да таго, як пачаў хадзіць у школу. Знаёмства пачалося з паэмы «Смерць піянеркі». Мой старэйшы брат, якому ніяк не давалася завучванне вершаў на памяць, сумна бубніў напаўголаса: «На плетеный коврик упадает крест»... Набожная маці, непрыхільна (я гэта зразумеў па яе яхідных каментарыях) ставячыся да паэмы, тым не менш прывучала брата зубрыць «на совісць». А я, слухаючы гісторыю пра маленькую дзяўчынку, плакаў. Я не магу сцвярджаць гэта з поўнай упэўненасцю, але, мяркуючы па тым, што і цяпер пры чытанні паэмы нешта даўкае падступае да горла і перашкаджае дыхаць, напэўна — плакаў. У дзяцінстве мы ўспрымаем літаратуру не як вымысел, а як самую сапраўдную праўду, і я верыў, што недзе далёка ад мяне жыла харошая дзяўчынка, якая захварэла на шкарлятыну і памерла. Гісторыя з крыжыкам мяне не хвалявала. Сэнс яе я зразумеў пазней.



**Эдуард Багрыцкі.**
Гравюра А. Каровіна.

Потым настала чарга «Думы пра Апанаса». Другі брат, болей удачлівы ў вучобе, рэчытатывам дэкламаваў урывак, у якім ідзе апісанне бою катоўцаў з бандытамі. Дайшоўшы да слоў: «Хлобысть по сопатке», брат засмяяўся: вельмі ўжо знаёмыя былі яму гэтыя словы. К таму часу я ўжо ўмеў чытаць і, зацікавіўшыся, адным духам прачытаў усю паэму. Яна аказалася не такой вясёлай. Здзівіў Коган. Яму кажуць, каб уцякаў, скарыстаў магчымасць застацца ў жывых — дык уцякай жа! Што з таго, што «прямо перед ним в тумане — омуты речные, вправо — немцы-хуторяне, влево — часовые»! Можа ўсё абыдзецца шчасліва, ніхто не зловіць? Я проста-такі падштурхоўваў Когана, але ў адказ пачуў: «Неудобно коммунисту бегать, как борзая!» Гэта мяне ашаламіла. Што за чалавек? Я і злаваўся, і шкадаваў яго, і разумеў, што ўсё, мусіць, не так проста, як мне здаецца, што Коган зрабіў так у імя нечага такога, што мне яшчэ незразумела, недаступна. І зноў-такі высокі сэнс яго ўчынку стаў зразумелы мне толькі праз многа гадоў.

У дзяцінстве мы звяртаем мала ўвагі на аўтара твора, які нам спадабаўся. У маёй свядомасці назаўсёды засталіся назвы паэм, дзяўчынка, што кідае крыжык, Коган, Апанас, Катоўскі, і асобна ад усяго гэтага — прозвішча: **Эдуард Багрыцкі.** Я неяк нават не здагадваўся, што ў гэтых двух паэм — адзін аўтар. Тым больш, што настаў працяглы перапынак у знаёмстве з ім, перапынак, запоўнены школьнымі Пушкіным, Лермантавым, Някрасавым, разборам станоўчых і адмоўных рыс у характары Анегіна і ўсім, чым да гэтага часу набіваюць галовы школьнікаў звыш усякай меры.

Вясной 1958 года, у пару першага прыступу закаханасці ў жыццё, у работу, у прыроду і абуджэння цікавасці да літаратуры, у адным з кніжных кіёскаў Смаленска я ўбачыў знаёмае прозвішча на вокладцы сіняй кніжачкі кішанёвага фармату, што выходзяць у серыі «Бібліятэка савецкай паэзіі». Па-сяброўску падміргнуў ёй, купіў, прыехаў на кватэру, разгарнуў, прачытаў першы верш, ахнуў, прачытаў усю кнігу і палюбіў яе моцна, на ўсё жыццё.

Таму, што чытач перад усімі іншымі паэтамі і пісьменнікамі аддае перавагу каму-небудзь аднаму, садзейнічае многа самых нечаканых выпадковасцей. Я кватараваў у драўляным доме на ўскраіне Смаленска. З вокан яго відаць былі ўзгаркаватыя палі, сенажаці, парослыя хмызняком, непадалёку праходзіла прасёлачная дарога, абсаджаная бярозамі і клёнамі. Пасля заняткаў я ішоў у поле і да позняга вечара блукаў там, жмурачыся ад блішчучай на сонцы саломы, што нацерушылася з вазоў, і павуціны, што наснавалася на пожні, і ад самой пожні, у якой праменні сонца адлюстроўваюцца чамусьці кругамі. Я знемагаў ад любві да восені. Мне патрэбен быў нехта, хто б раздзяліў мае перажыванні. Ім стаў Багрыцкі. Ён любіў восень, як я, але бачыў яе лепш, чым я. У гэтым я пераканаўся, калі адным дыхам вывучыў на памяць:

По жнитвам, по дачам, по берегам
Проходит осенний зной.
Уже необычнее по ночам
За хатами псиный вой.
Да здравствует осень!

Сады и степь,
Горючий морской песок
Пропитаны ею, как черствый хлеб,
Который в спирту размок.

Яго прырода была лепшая, чым тая, якую любіў я. І я пачаў вывучаць яго, Багрыцкага, прыроду, якая проста выпірала з яго вершаў, біла ў вочы, у ноздры, у вушы. Ключом паслужыла слоўца з прадмовы І. Грынберга — «экспрэсія». У тлумачальным слоўніку я прачытаў: «выражэнне пачуццяў, перажыванняў, — выразнасць». Не згадзіўся. Магчыма, ўжыта не зусім тое слова, магчыма, не зусім дакладнае тлумачэнне. Для сябе вырашыў мець на ўвазе другое слова — «нагнятанне».

Цэлай сістэмай параўнанняў, метафар Багрыцкі ўсё больш і больш поўна характарызуе прадмет, паварочвае яго перад чытачом усё новымі і новымі гранямі. І калі здаецца, што ўсё вычарпана, што сказана літаральна ўсё, што можна было сказаць, ён умудраецца сказаць нешта яшчэ, настолькі ж нечаканае, нязвычнае, дзівоснае і здзіўляючае. Вось мора з вядомага верша «Кавун»:

Свежак надрывается. Прет на рожон
Азовского моря корыто...
В густой бородач ударяет бурун...
Пустынное солнце садится в рассол,
И выпихнут месяц волнами...
Густыми барашками море полно...
Сквозь волны навылет!
Сквозь дождь — наугад!
В свистящем гонимые мыле...
Мы втянуты в дикую карусель
И море топочет, как рынок.
Козлами кудлатыми море полно...

Гэта і ёсць тое, што я вырашыў назваць нагнятаннем. У маім успрыняцці паўстае зусім рэальнае мора ў шторм. Яно плешча са старонак кнігі. Папера здаецца вільготнай, насычанай ім. Падобна на тое, што Багрыцкі не цярпеў умоўнасцей. Калі б ён быў афарміцелем шэкспіраўскага тэатра, ён з абурэннем выкінуў бы шыльды са словамі «лес», «вёска» і прыцягнуў бы на сцэну не дэкарацыі, а сапраўдныя лес і вёску. Інакш ён не мог. Яго мастакоўская шчодрасць часта нават ўступала ў супярэчнасць з законам эканоміі выяўленчых сродкаў, як гэта заўважаецца, напрыклад, у вершы «Ноч».

Я заўважыў дзіўную асаблівасць. Ідучы ў поле, каб у поўнай адзіноце чытаць там любімыя вершы пра восень, я заўсёды пачынаў з пушкінскага «Унылая пора, очей очарованье...» Гэты верш хацелася чытаць павольна, нараспеў, стоячы сярод жоўтай цішыні, у якой чуецца шолах травінкі, што распроставаецца, прымятая тваёю нагой. Але «Восень» Багрыцкага так чытаць было нельга. Трэба было крочыць, і крочыць даволі шпарка, каб патрапляць у рытм складоў і радкоў. І справа не толькі ў рытме. Увесь верш насычаны ўнутраным рухам, у ім няма ні кроплі статычнасці, у ім нішто не стаіць на месцы: «Туман от соленых вод клубится и тянется над водой, где рыбий косяк плывет. И ухо мое принимает звук, гудя, как пустой сосуд; и я различаю: на юг, на юг осетры плывут, плывут! Шипенье подводного песка, неловкого краба ход, и чаек полёт, и пробег бычка, и круглой медузы лёд». Багрыцкі не быў ні жывапісцам, ні фатографам; ён хутчэй кінематаграфіст, які аперыруе каляровай плёнкай і імкліва манціруе кадры.

Прырода ў Багрыцкага — нейкая непрычасаная, ускалмачаная, касматая, значыць — першародная, першабытная. Нездарма яму так люба слова «дзікі» — «дикие ливни», «дикие сквозняки», «дикие костры» — і яшчэ: «неприбранная луна», «бешеные планеты», «бешенство ветров». Пазней, чытаючы і перачытваючы ўсё, што мела дачыненне да жывога вобліку паэта, я знайшоў прычыну гэтага. Задыхаючыся ад астмы, прыкуты да плоскага дамашняга матраца, ён акружаў сябе такой прыродай, сярод якой яму хацелася жыць, у якой многа паветра, святла, ліўняў, птушак. Хвароба не давала яму магчымасці вандраваць па свеце, і ён помсціў ёй, нібыта кажучы: «А я ўсё-такі жыву там, дзе хачу, і нічога ты са мной не зробіш». І ён увесь — у палях, у лугах, у лясах. У яго няма або амаль няма гарадскіх пейзажаў, а калі і ёсць («Вершы пра салаўя і паэта»), то адмоўныя адносіны да іх не маскіруюцца — «расчищенный вдрызг самовар» замяняе ў горадзе сонца.

У апошніх сваіх творах ён стаў скупейшы, стражэйшы, і таму карціны прыроды станавіліся ў яго яшчэ больш выразныя, даведзеныя да незвычайнай гушчыні. Я яшчэ хадзіў пад уражаннем «Восені», для якой паэту спатрэбілася сорак радкоў, а ў канцы кнігі ў вершы «Размова з сынам» убачыў тую ж восень, сціснутую ў чатыры радкі:

Я прохожу по бульварам. Свист
В легких деревьях. Гудит аллея.
Орденом осени ржавый лист
Силою ветра к груди приклеен.

І ў тым, што дрэвы названы лёгкімі (яны ўжо амаль без лісця), і ў тым, што алея гудзе (тоўстымі ствaламі) і свішча (голымі галінамі), і ў рытме, што перадае ўпартую хаду паэта насупраць ветру, які нават прыклеіў да яго грудзей ліст, — ва ўсім угадваецца восень з усімі яе пахамі і фарбамі. Тут ужо няма падрабязнай яе карціны — дадзены толькі вугал зроку. Калі чытач скарыстае яго, то ўбачыць усё, што бачыць паэт. Гэта, магчыма, і ёсць вышэйшая ступень майстэрства, калі табе даюць кроплю, а ты бачыш у ёй увесь зямны шар.

Жара. Не читается и не спится.
Предместье солнцем оглушено.
Зеваю. Закладываю страницу
И настежь распахиваю окно.

Гэта падобна на цуд. Ні аднаго бліскучага параўнання, ні аднаго слова з тых, якім па штату належыць быць паэтычнымі, ні аднаго тропа, акрамя зусім бяскрыўднага — «предместье солнцем оглушено», а карціна летняга поўдня, у якім дрэмле мяшчанскае прадмесце, здзіўляе сваёй завершанасцю. Успамінаеш, што ў падобных абставінах ты адчуваў сябе менавіта так. Але пры гэтым звяртаеш увагу на тое, што **такая** прырода акружае свет мяшчанства, свет нерухомасці, ляноты, застою, суму. Таму, у адрозненне ад іншых вершаў паэта, дзе прырода пададзена ў імклівасці, руху, тут яна нерухомая, мёртвая:

Над миром, надтреснутым от нагрева,
Ни ветра, ни голоса петухов...

І гэта гучыць як прыгавор.

Так пачынаўся для мяне Багрыцкі — з прыроды. Потым прыйшло разуменне таго, што прырода, якой бы цудоўнай яна ні была, усё-такі толькі фон, на якім дзейнічаюць мяцежныя героі паэта. Непаседы, бадзягі, разбойнікі, жабракі, Тыль Уленшпігель, вясёлы Дзідэль, Віцінгтон, кантрабандысты, пагранічнікі — заўсёды ў дарозе, ім проста няма калі любавацца прыродай, не да таго. Заўсёды ў руху самі, яны і прыроду бачаць рухомай — ад гэтага яна рухаецца і ў вершах.

А самі гэтыя людзі сімпатычныя незвычайна. У іх каласальны запас энергіі, сядзець на месцы для іх — смерці падобна. Яны ходзяць, вандруюць, плаваюць, праследуюць, б'юцца. Перад усімі іншымі часцінамі мовы Багрыцкі аддае перавагу дзеяслову, перад усімі іншымі чалавечымі якасцямі — мужнасці і шчодрасці. Дзідэль пакідае тоўстую Марту, утульнасць, створаную ёю, для таго, каб слухаць, як шматгалосы свет прыроды «свищет, щелкает, звенит»; Тыль Уленшпігель, харчуючыся толькі пахамі чужых кухняў, ходзіць па Фландрыі і бударажыць сыты народ; Віцінгтон плыве за трыдзевяць зямель, не толькі ратуючыся ад расплаты за забойства саперніка, — яму падабаецца, калі судна кідае яго з хвалі на хвалю. Ва ўсіх герояў па сутнасці толькі адзін герб — «тяжелый ясеневый посох над птицей и широкополой шляпой».

Тады ў Смаленску, чытаючы і перачытваючы маленькую кніжачку на лекцыях, у трамваях, у полі, завучваючы вершы на памяць, я яшчэ не звяртаў увагі на тое, што героі першага, адкрыта рамантычнага перыяду творчасці Багрыцкага не маюць ворагаў. Дакладней — нейкага пэўнага, канкрэтнага ворага, рэальнага антыпода. З кім скрыжаваў шпагу Віцінгтон? Невядома. Супраць каго выступае Тыль Уленшпігель? Супраць герцага Альбы? Але яго няма ў вершы. Ён проста ўпамінаецца. Кантрабандысты і пагранічнікі ў роўнай меры прыцягваюць увагу паэта — і ў тых, і ў другіх жыццё аднолькава небяспечнае, і паэт не ведае, каму з іх аддаць перавагу. Рэальных ворагаў няма. Ды яны, зда-

еца, і не цікавяць Багрыцкага. Яго захапляе сама ідэя вандраванняў, адмаўлення ад зямнога, сытага быту, якому супрацьстаўляецца прыгодніцкая рамантыка адважных людзей. Разам з імі ён ірвецца на волю з затхлага местачковага быту, паказанага ім пазней з бязлітаснай праўдзівасцю:

Любовь?
Но съеденные вшами косы;
Ключица, выпирающая косо;
Прыщи; обмазанный селедкой рот
Да шеи лошадиный поворот...

Вораг усіх яго герояў — адзін. Імя яго — мяшчанскі дабрабыт. Ён яшчэ не персаніфікаваны. Ён будзе ўвасоблены ў рэальным чалавечым вобразе потым. Гэта будзе «чалавек прадмесця». Сацыялістычная рэчаіснасць адцяніла яго, сканцэнтравала ў ім усё агіднае мінулае ўласніка — і Багрыцкі разгледзеў яго выразна, ва ўпор. А разгледзеўшы, не дае яму спакою, б'е без промаху, прыкоўвае да ганебнага слупа і ў «Паходжанні», і ў «Чалавеку прадмесця», і ў «Смерці піянеркі» — ва ўсіх апошніх творах, выкрываючы самую сутнасць сквапніцкай маралі:

Меня учили: крыша — это крыша.
Груб табурет. Убит подошвой пол.
Ты должен видеть, понимать и слышать,
На мир облокотиться, как на стол... —

на стол, застаўлены, натуральна, рознымі стравамі. Жыць для таго, каб есці. Накапляць. Але як? Зноў — «як вучылі»:

Недаром учили: клади на плечи,
За пазуху суй — к себе таща,
В закут овечий,
В дом человечий,
В капустную благодать борща.

Навошта ж урэшце ўсё гэта? Ці ёсць гэтаму канец? Канца няма, працэс накаплення замыкаецца ў самім сабе, як акружыня. У ім, як сляпы конь па крузе, топчацца мешчанін:

Я ли не копила,
Ночи не спала,
Всё коров доила,
Птицу стерегла,—
Чтоб было приданое,
Крепкое, недраное,..

Велізарны сэнс светлай і журботнай паэмы «Смерць піянеркі» ў тым і заключаецца, што за стойкасцю маленькай Валі паэт убачыў нешта большае, чым проста дзіцячая ўпартасць. На гэтым новым пакаленні, якое толькі нараджаецца, рызрываецца, нарэшце, адвечны круг сквапніцтва, пачынаецца новая мараль, азораная чырвоным гальштукам, якая адмаўляе крыжык, як сімвал старога свету. Гэтая смерць азначае перамогу новага жыцця.

Дзіцячае маё гора ад таго, што Валя памерла, было, такім чынам, адкарэкціравана сэнсам яе смерці, які пазней адкрыўся мне. Але ад гэтага гора не паменшылася. І цяпер, перачытваючы паэму, я адчуваю, як штосьці даўкае сціскае ў горле дыханне. А ў дзяцінстве я, мабыць, усё-такі плакаў.

Маленькая мужная піянерка была, як я потым даведаўся, не адзінокая ў сваім змаганні з мяшчанствам. Ля яе ложка, памагаючы ёй у барацьбе, стаялі чэкісты, рыбаводы, Феликс Дзяржынскі — новыя героі вершаў паэта, які стаў на цвёрдую глебу рэальнага жыцця, але не страціў рамантычна-ўзнёслых адносін да яго. Заключны перыяд творчасці Багрыцкага — гэта незвычайнае спалучэнне, сінтэз рамантыкі і рэалізма, рэвалюцыйнай узнёсласці і цвярозай дзелавітасці, г. зн. дакладнае адлюстраванне часу, у які жыў паэт.

Рэвалюцыя, якая не перастала быць рэвалюцыяй, страсна і летуценна пазіраючы ўперад і ўверх, ужо апранула рабочы камбінезон. Выкананне кожнай практычнай задачы адухаўлялася будучыняй, якая здавалася блізкай і даступнай. Багрыцкі ўсё гэта асэнсоўвае па-свойму:

Марганцем окрашенная рука
Обхаживает вымя и репицы плеть,
Нынче корове из под быка
Мычать и, вытягиваясь, млеть...

У дастатковай меры будзённа, дзелавіта, празаічна. Але потым пачынаецца ўсё нарастаючы разгон, узлёт, які заканчваецца недзе ў космасе:



Расчищен лопатами брачный круг,
Венчальную песню поет скворец,
Знаки Зодиака сошли на луг
Рыбы в пруду и в траве Телец.

І ў гэтым ён застаецца самім сабой. Творчасць яго не пацярпела істотных змен — пад яе толькі была падведзена база новай рэчаіснасці. Ён цэласны. Ён па-ранейшаму любіць усё яркае, буйнае, звонкае, шматколернае. У яго няма нічога шэрага, цьмянага, слабага, адценняў і паўтонаў. Гэта на дзіва здаровы і моцны паэтычны арганізм, які нібыта выйшаў з «фламандскіх вершаў» Эміля Верхарна.

Слова «жыццялюб» прыстала да Багрыцкага ўчэпіста. І па справядлівасці. Ён бязмежна любіць усё зямное, жывое, любіць так, што і на смерць глядзіць у вышэйшай меры несур'ёзна. Ён думае і піша пра яе здзекліва, з нейкай грунтоўнай іроніяй: «Проклюют навылет, поддадут коленом, голову намылят лошадиной пеной... Степь заместо простыни: натянули — раз!.. Добротными саблями побреют нас!...» Гэта — з верша «Размова з камсамольцам Н. Дзяменцевым». Смерць выступае ў ролі цырульніка. Яшчэ больш здзекліва — у «Апошняй ночы»: «...Взгляд остановится, и губа отвалится к бороде, и наши товарищи, поплевав на руки, стащат нас в клуб, чтоб мы прокисали там средь лампочек и цветов...» Ніякай містыкі, таямнічага жаху, жалобнага смутку. Звычайная справа. Смерць, відавочна, адзінае, што не рамантызавана Багрыцкім. У гэтым яго жыццялюбства, у прыватнасці. Ён перамагае смерць задоўга да таго, як яна возьме верх.

Майстэрства Багрыцкага здзіўляючае. Па гэтай маленькай кніжачцы я вучыўся разумець, што такое паэтычны вобраз наогул. Паэт параўноўвае свет з птушкай, сухі бур'ян са сцюдзёным крышталем, сябе з сусветам, зялёнае сукно на стале — з балотам, якое засмоктвае прэс-папе і алоўкі; голад падае ў яго мыльнай мышшу ўніз па горле ў стрававод; ён ловіць словы, як яшчарак, на якіх ніяк не наступіш. Калі ён хоча падабраць свежы эпітэт да слова «цішыня» і не знаходзіць яго, ён піша «идет знаменитая тишина», і аказваецца, што гэта і ёсць самае свежае.

Рэчы ў яго з поспехам замяняюць сваіх гаспадароў, характарызуючы іх, аднак, з вычарпальнай паўнатой: «Справа — нога да слева нога» (конь не названы, але ён ёсць); «справа — наган, да слева шашка, цейсс посередке, сверху — фуражка» (гэта коннік). Ні слова не гаворачы пра крытыка, паэт акружае яго такімі рэчамі, што абывацельская натура крытыка ўжо не бярэцца пад сумненне: «А критик за библейским самоваром, винтообразным окружен угаром, глядит на чайник, бровью шевеля. Он тянет с блюдца — в сторону мизинец, — кальсоны хлопают на мезонине, как вымпел пожилого корабля...» Чаго варты адзін толькі жэст — «в сторону мизинец»! Вершы Багрыцкага змайстраваны трывала, густыя, цікавыя. Іх не прабяжыш вачыма проста так. Яны самі прымушаюць чытаць сябе.

З таго часу, калі эскадрон кавалерыстаў правёў стваральніка лепшай паэмы пра грамадзянскую вайну — «Думы пра Апанаса» — у апошні шлях, прайшло не так ужо многа год, але так насычаны былі гэтыя гады, — так многа крутых паваротаў лёсу прайшла краіна, што не магла не нарадзіцца новая паэзія. І яна нарадзілася, паклаўшы ў аснову даследаванне індывідуальнай чалавечай асобы, аналіз тонкіх і найтанчэйшых рухаў чалавечай душы. У ёй паявіліся паўтоны, адценні — і чым болей будзе адкрыта іх, тым значнейшымі будуць заваёвы сённяшняй паэзіі. Але нічога з таго, што зроблена Багрыцкім, не перакрэслена, хоць на ўзбраенне ўзята не ўсё. І тут нічога не зробіш: новы час, новыя песні. Можна пашкадаваць, што сённяшняя паэзія ў нейкай меры страціла рамантычную ўзнёсласць, «абытавілася», але прызнаць гэты факт неабходна. Хто ведае, можа настане час, калі «багрыцкі» паток сальецца, умоўна кажучы, з «вінакураўскім», і ў выніку атрымаецца нешта яркае, шматкаляровае і, разам з тым, тонкае і глыбокае.

Цяпер Багрыцкаму семдзесят год. З іх ужо трыццаць адзін год ён не піша. Але кнігі яго прадаўжаюць выходзіць. І да той сіненькай кніжачкі,

якая паклала пачатак маёй бібліятэцы, прыбаўляюцца другія. Я купляю іх, таму што нават з новых вокладак, з новых шрыфтоў заўсёды чэрпаю нешта новае, што памагае глыбей зразумець і яшчэ больш палюбіць гэтага незвычайнага чалавека — рамантыка, птушкалова, паэта.

**Фёдар ЯФІМАЎ.**

# ЯКАЯ ЯНА, БУДУЧЫНЯ?




**І. Лада, А. Пісаржэўскі. Контуры будучыні. Выдавецтва «Знание», Масква, 1965**

Якая яна, будучыня? Гэтае пытанне хвалюе людзей рознага веку, але асабліва тых, хто сёння выбірае сабе самастойную сцежку па жыцці, ці, выбраўшы яе, робіць першыя крокі ў сваё заўтра. Адказ на гэтае пытанне юнакі і дзяўчаты шукаюць перш за ўсё ў кнігах. І зусім заканамернай выглядае тая зацікаўленасць, з якой сустрэлі чытачы кнігу з даволі інтрыгуючай назвай «Контуры будучыні».

Яна не першая сярод спроб пранікнення ў заўтрашні дзень навукі і тэхнікі, сацыяльнага жыцця. Савецкі чытач меў магчымасць пазнаёміцца з сур'ёзным і глыбокім даследаваннем англійскага вучонага Дж. Томсана «Прадбачаная будучыня», заходнегерманскага эканаміста прафесара Фр. Баадэ «Спаборніцтва к 2000 году». Выйшлі ў свой час цікавыя кнігі: «Рэпартаж з XXI стагоддзя», дзе змешчаны расказы савецкіх вучоных пра навуку і тэхніку будучыні, акадэміка С. Струміліна «Наш свет праз 20 гадоў», своеасаблівая анталогія пісьмаў «Свет праз 20 гадоў» і іншыя. Але нават для таго, хто знаёміўся з упомненымі тут выданнямі, кніга Ігара Лады і Алега Пісаржэўскага «Контуры будучыні» будзе такой, якую чытаюць «набгом». Аўтары не навязваюць чытачу ніякіх катэгарычных высноў, яны спакваля ўцягваюць у роздум над складанымі і падчас супярэчлівымі праблемамі развіцця навуковых і тэхнічных ідэй нашага часу.

Адной з кардынальных праблем, якая займала галовы людзей яшчэ ў мінулыя стагоддзі, было высвятленне прычын неадпаведнасці росту тэхнічнай магутнасці чалавека ўмовам яго сацыяльнага існавання. Амаль дзвесце гадоў таму назад адказ на гэтае пытанне паспрабаваў даць Мальтус — памочнік прыходскага свяшчэнніка і выкладчык гісторыі аднаго з каледжаў у Англіі. Ён сцвярджаў, што насельніцтва зямнога шара расце куды шпарчэй, чым павялічваюцца сродкі яго існавання.

Мальтус лічыў, што гэта натуральны і вечны закон прыроды і з ім трэба не толькі змірыцца, але і садзейнічаць «правядзенню» гэтага закону ў жыццё. «Замест таго, каб прапаведаваць сярод беднякоў неабходнасць захавання чысціні,— пісаў Мальтус,— мы павінны падтрымліваць якраз іншыя звычкі. Трэба рабіць у гарадах больш вузкія вуліцы, перанасяляць дамы і садзейнічаць паўтарэнню эпідэмій чумы».

За такое цынічнае ў адносінах да чалавека выказванне чапляліся многія палітыкі Захаду, каб абгрунтаваць свае дамаганні «жыццёвай прасторы». Мальтузіянская тэорыя была пакладзена ў аснову дзяржаўнай палітыкі германскага фашызму. І сёння чалавеканенавісніцкія трызненні новаяўленых мальтузіянцаў служаць імперыялістам для апраўдання захопніцкіх планаў, якія здзяйсняюць яны ў дачыненні да слабаразвітых краін.

Аўтары кнігі «Контуры будучыні» страсна выкрываюць прапаведзь упадку і песімізму, што выходзіць з-пад пяра сучасных буржуазных сацыёлагаў. Філосафы славутага «вольнага свету» не могуць прапанаваць нічога іншага, як чакаць «караблекрушэння» на «асуджанай планеце». Нават такі прагрэсіўны мысліцель нашага часу, як Дж. Томсан, апыняецца перад невясёлым вывадам: «Ці не давядзецца нашым праўнукам захаваць непрадукцыйныя метады арганізацыі працы, каб забяспечыць занятасць інтэлектуальна менш адораных людзей»? І зусім слушна аўтары кнігі звяртаюць увагу на прычыны тэарэтычнай бездапаможнасці вядомага вучонага, калі ён «з дарогі, выбрукаванай фактамі, саступае на вельмі ненадзейную сцежку абстрактных разважанняў». Яны абстрактныя, бо не маюць пад сабой рэальнага грунту ў той рэчаіснасці, дзе жыве і працуе Дж. Томсан.

Савецкі эканаміст Ігар Лада і пісьменнік-публіцыст Алег Пісаржэўскі, натхнёныя ідэямі марксісцка-ленінскай сацыяльнай навукі, дакладнасць якой пацверджана падзеямі сусветнай гісторыі найноўшага часу, робяць нялёгкі, але ўдзячны крок з таго месца, на якім апыняюцца іх зарубежныя калегі.

Цікавыя лічбы прыводзяцца ў кнізе пра імклівы рост насельнікаў на нашай планеце. Гадоў дзесяць таму назад эксперты-дэмографы Арганізацыі Аб'яднаных Нацый падлічылі, што за 50 гадоў (з 1950 па 2000 год) насельніцтва зямнога шара не менш чым падвоіцца і дасягне лічбы ў 5 мільярдаў чалавек. Але час унёс істотныя папраўкі, пацвердзіўшы марксісцкае палажэнне пра тое, што законы росту народанасельніцтва, як і ўсе законы грамадскага развіцця чалавецтва, не вечныя. Цяпер вучоныя мяркуюць, што падваенне колькасці людзей на зямлі адбудзецца раней і к 2000 году іх, напэўна, стане звыш 6 мільярдаў чалавек.

Ці будзе гэта азначаць перанаселенасць? Вядома, будзе, бо шчыльнасць насельніцтва перавысіць 50 чалавек на квадратны кіламетр, г. зн. наблізіцца да шчыльнасці насельніцтва сучаснай Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. Чалавецтву прыйдзецца расставацца з абшарамі лясоў і лугоў, пераходзіць на гарадскі лад жыцця.

Так магло здарыцца, калі б не існавалі краіны, што будуюць камуністычны лад. Прывёўшы пераканаўчыя лічбы пра павышэнне ўзроўню сярэдняй працягласці жыцця ў СССР, аўтары кнігі робяць слушны вывад пра тое, што праблема «перанаселенасці» памрэ разам з капіталістычным ладам. «Чалавецтва ва ўмовах камунізма ў найшырэйшых маштабах будзе асвойваць пустыні і зоны вечнай мерзлаты, тайгу і джунглі, Сусветны акіян, іншыя планеты сонечнай сістэмы». Ды яшчэ, дадаюць аўтары, «пераважна стыхійны цяпер рост народанасельніцтва зменіцца свядома накіраваным, такім, які забяспечыць найбольш мэтазгодную, па меркаванню людзей таго часу, колькасць іх на Зямлі ў кожную пэўную эпоху будучай гісторыі».

У кнізе робіцца спроба прыадкрыць заслону над знешнім выглядам чалавека будучыні, зазірнуць у яго духоўны свет. Аўтары кнігі наўмысна падкрэсліваюць, што чалавек будучыні «ні ў якім разе не стане бездапаможным прыдаткам машыны», як тое сцвярджаюць буржуазныя сацыёлагі. «Як бы ні развівалася тэхніка,— адказваюць ім аўтары кнігі,— асноўным элементам вытворчага працэсу заўсёды застанецца мэтанакіраваная дзейнасць чалавека».

Творчай дзейнасці будаўніка новага жыцця на Зямлі і прысвечаны асноўныя раздзелы кнігі «Контуры будучыні». У іх даступна і вобразна раскрываюцца рысы працы і побыту Вялікага Чалавецтва будучыні, натхнёна расказваецца пра яго энергетыку і матэрыяльна-сыравінныя рэсурсы, пра сельскую гаспадарку і прамысловасць, гарады і шляхі зносін, пра яго зямное існаванне і дарогі ў космас.

Уяўленні аб рысах будучыні, якім прысвечана ў кнізе багата старонак, аднак не складаюць яе асноўны змест. Галоўная ўвага аўтараў скіравана на тыя рысы і з'явы, якія нараджаюцца, існуюць, развіваюцца ўжо сёння і, як кажуць, на нашых вачах пераступаюць межы будучыні. Камуністычнае пераўтварэнне свету, якое ідзе ўжо сёння,— вось што займае аўтараў кнігі. Раскрываючы ўнутраную логіку прадбачання аптымальнага развіцця вядучых навуковых і тэхнічных тэндэнцый сучаснасці, кніга падводзіць чытача да разумення таго, што найвышэйшая гуманістычная мэта эканамічнага прагрэсу можа быць найлепшым чынам рэалізавана толькі на шляхах сацыялістычнай перабудовы ўсяго жыцця чалавецтва.

У кнізе ёсць фантастыка, ёсць мара, але ўсё ў тых разумных мерах, у якіх яны сустракаюцца ў самой сучаснай навуцы. Кніга як бы рэалізуе нядаўна абнародаваную думку народнага паэта Латвіі Яна Райніса пра тое, што, не ведаючы будучыні, ці можна ведаць і сённяшняе? Аўтары кнігі «Контуры будучыні» прасочваюць па розных кірунках прагрэсіўныя тэндэнцыі развіцця, закладзеныя ў сучасным прыродазнаўстве і тэхніцы.

Кнігу можна назваць захапляючым падарожжам у свет навукі і тэхнікі, глыбокім роздумам пра наступны лёс нашай планеты. З гэтага падарожжа, з далучэння да гэтага адкрытага роз-

думу аўтараў над хвалюючымі праблемамі часу чытач выходзіць узбагачаным. Ён набывае глыбокае разуменне тых шляхоў, ідучы якімі, чалавек здзейсніць сваю запаветную мару пра шчасце.

Іменна здзейсніць, а не будзе чакаць надыходу яго з нейчых рук. Завяршаючы свой багаты экскурс у будучыню, аўтары кнігі пераказваюць пранікнёныя словы М. Г. Чарнышэўскага: «Будучыня светлая, пісаў вялікі рускі рэвалюцыянер, будучыня цудоўная. Любіце яе, імкніцеся да яе, працуйце для яе, набліжайце яе, пераносьце з яе ў сённяшняе, колькі здолееце перанесці. Настолькі будзе светлае і добрае, багатае радасцю і асалодай ваша жыццё, колькі вы здолееце перанесці ў яго з будучыні».

Кніга І. Лады і А. Пісаржэўскага шмат у чым памагае перанясенню яскравых рыс і найбагацейшых здабыткаў светлай будучыні чалавецтва — Камунізма ў нашае сёння.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**




# РОЗДУМ МАСТАКА

**Янка СКРЫГАН. Ранішнія росы. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1965.**

Пісьменнік успрымае літаратуру не зусім так, як звычайны чытач, а своеасабліва, скрозь прызму ўласнага творчага вопыту. Акрамя агульнага погляду, ён узброен яшчэ і тым, што сам зразумеў і абдумаў у часы, калі пакутаваў над вершамі або крэсліў старонкі прозы. Таму так цікава чытаць артыкулы пра літаратуру, аўтарам якіх выступае мастак слова, майстар.

Янка Скрыган узбагаціў нашу прозу творамі, у якіх гучыць суровая праўда жыцця. У іх ёсць і лірычная задуменнасць, і захапляючая рамантыка пачуццяў. Асабліва чуйны пісьменнік да слова. Прастата яго мовы натуральна пераходзіць у арыгінальную вобразнасць, падпарадкаваную патрабавальнаму густу і лагічнай неабходнасці. Перачытваць «Затоку ў бурах», «Таісу», «Наталлю» або «Няпрошаную слязу» — сапраўдная асалода.

І вось на кніжныя паліцы пастаўлена новая кніга Янкі Скрыгана, жанравае вызначэнне якой крыху нечаканае: «Літаратурныя нататкі»... Праўда, далей яшчэ сказана «...успаміны, партрэты», але гэта не так і важна, бо, пагартаўшы кнігу, бачыш, што Я. Скрыган выступае пераважна аўтарам так званых эсэ.

І ва ўспамінах, і ў літаратурных партрэтах, сабраных Я. Скрыганом у кнізе «Ранішнія росы», няма сюжэтных пабудоў і біяграфічнай паслядоўнасці. Затое яны вабяць сваім роздумам пра тое, хто такі мастак, які ён чалавек. Аўтар выбірае з уражанняў тое, што здольна абудзіць самастойную думку пра асобу таго ці іншага дзеяча літаратуры і мастацтва, уразумець некаторыя «сакрэты абаяльнасці» творцы.

Са старонак «Ранішніх рос» паўстаюць характары пэўных людзей, апантаных, калі можна так сказаць, талентам. Гэты талент і кіруе іх пошукамі, вызначае жыццёвы настрой, вылучае іх з асяроддзя іншых. Ёсць нешта адметнае, скажам, у Міхасю Зарэцкім, за якім з першых апавяданняў ішла слава рамантыка. «Гадаванец духоўнай семінарыі — і чырвонаармеец, сын дзяка — і камуніст, спявак тонкіх пакут кахання, душэўнага разладу — і камісар». Ужо гэтыя словы Я. Скрыгана пра свайго калегу неяк адразу спыняюць нашу ўвагу, і далей мы з асаблівай даверлівасцю «прыслухоўваемся» да ўсяго, што «гаворыць» Міхась Зарэцкі. Здаецца, нібы ён, звяртаючыся да аўтара ўспаміна-партрэта, гутарыць і з намі. Перакідваецца мост праз гады, і пісьменнік цяжкага і складанага лёсу «ажывае» перад намі. Тое, як успрымае Міхась Зарэцкі супярэчнасці жыцця, па сутнасці сваёй пераклікаецца з сучасным роздумам пра мастацкія прынцыпы рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці.

У эсэ, якое так і называецца — «Некалькі хвілін чужога жыцця», адкрыты людзям характар Платона Галавача. Западае ў памяць трывожнае і патрабавальнае пачуццё сапраўднага пісьменніцкага таленту, якое неадступна спадарожнічала гэтаму цікаваму мастаку: «...Мяне вельмі моцна хвалюе пытанне, — шчыра прызнаваўся П. Галавач, калі выдаваўся раман «Праз гады», — ці ёсць у кнізе тое, што мы называем мастацтвам... Ці змагу я быць патрэбным у літаратуры, ці павінен ёй аддаць свае сілы, ці будзе гэта апраўдана?» Нібы ў той кроплі расы, у гэтым прызнанні — неспакойны творца-працаўнік!

З успамінаў Я. Скрыгана, як з каштоўных кавалачкаў мазаікі, чытач зможа скласці сабе пэўны малюнак літаратурнага руху 30-х гадоў на Беларусі. Аўтар не ўзнімае на п'едэстал геніяў тых, каго ён напаткаў на пачатку свайго шляху і каму потым стаў другам, але і не «прызямляе» іх падрабязнасцямі штодзённага быту. Яму даражэй жывое аблічча чалавека, чым напышлівы манумент або паспешлівая, «імгненная фатаграфія».

Толькі, бадай, у эсэ «Рукі на кляновым лісце» Янка Скрыган, на мой погляд, сам апынуўся ў палоне кніжных уяўленняў. Ён пакідае майстэрню скульптара Заіра Азгура, дзе бачыць цэлы натоўп мастацкіх вобразаў гістарычных дзеячоў і нашых сучаснікаў, каб зірнуць на... рэпрадукцыі. І пачынае параўноўваць створанае скульптарам з тым, чаго ён у арыгінале ніколі не бачыў: з «Трупам Хрыста» Гальбейна-малодшага і з «Мысліцелем» Радэна. Параўнанне выглядае штучным, а жывыя ўражанні патанаюць у цьмяных разважаннях «наогул».

Агульнасць разважанняў псуе і дарожныя нататкі «Тыдзень на Украіне». Нататкі гэтыя больш падобны на «паштоўкі», пазбаўленыя таго арыгінальна-пісьменніцкага падыходу да з'яў жыцця і мастацтва, які складае пафас усёй кнігі «Ранішнія росы».

З цікавасцю чытаюцца артыкулы Янкі Скрыгана, прысвечаныя пытанням мовы. Пісьменнік выступае змагаром за жывое, пачэрпнутае з народных крыніц, трапнае і дакладнае слова. Мова для аўтара «Ранішніх рос» — не застыглыя курганы пэўных азначэнняў і назваў, а жывое выяўленне думкі, пачуцця. Пісьменнік шануе слова з адданасцю сыноўняй і гэтаму ж вучыць разумна і тактоўна сваіх малодшых калег па літаратуры. Яго назіранні над багаццем сэнсавых і эмацыянальных адценняў слова пераконваюць і вучаць самастойным пошукам.

Кніга «Ранішнія росы» цікавая для кожнага, хто імкнецца зазірнуць у творчую лабараторыю пісьменніка. Тут няма якой-небудзь сістэмы і паслядоўных «урокаў майстэрства». Аўтар дзеліцца з намі сваім роздумам пра тое, з чаго складаецца праца літаратара: зацікаўленае ўспрыняцце жыцця, ацэнка кожнай яго з'явы, духоўныя кантакты з людзьмі, пошукі ў чалавеку непаўторнай асобы, уменне ў слове перадаваць свае назіранні, пачуцці, думкі. Паўтараю яшчэ раз тое, пра што гаварылася ў пачатку: літаратурныя нататкі Янкі Скрыгана паказваюць, **кім** і **як** ствараюцца творы мастацтва. І паказваюць не прасталінейна, а ўдумліва і вельмі асабіста. Так, як гэта разумее паводле ўласнага вопыту адзін з нашых таленавітых пісьменнікаў.

**Барыс БУР'ЯН.**



# АДЗІНЫ НЕПАДЗЕЛЬНЫ СВЕТ

**Кніга вершаў, песень, балад, і... унікальных фатаграфій**

Гэта сапраўды адзіная і ўнікальная ў сваім родзе кніга не толькі па сваіх мастацкіх вартасцях, што з'яўляецца заслугай яе паэтычных тэкстаў, зробленых нашым добрым другам — вядомым чэшскім паэтам і празаікам Людвікам Ашкеназі, але і па непадзельнай узаемасувязі мастацкай фатаграфіі з паэтычным словам, своеасаблівай трактоўкай майстэрства фатографа яго сабратам-пісьменнікам.

Пра гісторыю з'яўлення кнігі ў свет падрабязна і цікава расказвае ў баладзе-ўступе «Я сустрэўся» сам аўтар. «Аднойчы ціхім летнім вечарам,— чытаем мы,— у невялікім рэстаранчыку Злата-Прагі, непадалёку ад Градчан, адкуль, як на далоні, пераліваецца агнямі ўвесь мой горад,— мяне пазнаёмілі з надзвычай цікавым чалавекам. Гэта была дзяўчына, чарнявая, стройная, прыгожая. Я заўважыў, што пад пахай у яе замест сумачкі была кітайскай работы паліраваная з інкрустацыямі з ракавінак скрыначка-куфэрак, перавязаная накрыж ружовым касніком. «Што гэта ў вас за куфэрак? — спытаў я сваю знаёмую пасля першых фраз узаемнай ветлівасці.— Што можа быць у такім транспартабельным сейфіку?» — «О, гэта сапраўды мой скарб і мая казна. У ім цэлы свет! — без какецтва адказала дзяўчына і дадала: — У кожнага чалавека ёсць свой любімы занятак, свой «хобі». Мой — у гэтым куфэрачку. Я ніколі з ім не растаюся, і куды б ні ішла ці ехала, бяру яго з сабой замест блакнота».

За вячэрай мы разгаварыліся. Дзяўчына аказалася вялікім фотааматарам-збіральнікам найрадчэйшых здымкаў як чэхаславацкіх, так і замежных фотамайстроў. І яна адамкнула вечка куфэрка. Там сапраўды быў скарб — цэлы свет людскіх радасцей і пакут, узлёты і дасягненні чалавечага розуму і ганьба вырадкаў чалавецтва.

Гэтая сустрэча адбылася можа з тыдзень пасля таго, як Чалавек, пераадолеўшы зямное прыцягненне, вырваўся з падворышча Зямлі ў міжзорнае бязмежжа космасу, а яго геній на Зямлі няспынна паглыбляўся ва ўсё новыя і новыя, яшчэ неразгаданыя таямніцы атама.

Мы глядзелі на фатаграфіі, а людзі нашагу свету з усіх мацерыкоў глядзелі ў вочы нам. Стары селянін-кітаец, што першы раз у сваім жыцці сеў у цягнік. Жанчына з Ізраіля на фоне сцяны са спісамі мільёнаў загінуўшых суродзічаў. Гер-прафесар з атрадаў СС, які чысціць аўтамат пасля масавых забойстваў. Мадона-негрыцянка. Апаленыя твары маці з дзіцем у дзень трагедыі Хірасімы. Дзеці, дзеці — мноства дзяцей, і ўсё гэта глядзіць вам у вочы, пратэстуе, абвінавачвае, судзіць, просіць і моліць:

— Брат! Таварыш! Памятай, дзейнічай!»

Уражаны і ўзрушаны да глыбіні душы, Ашкеназі не мог застацца абыякавым да таго, што ўбачыў у той запаветнай скарбніцы фотадакументаў. «Я перахварэў ад уражання ўбачаным,— прызнаецца ён,— а неўзабаве сеў за рабочы стол і, адзін за адным, зрабіў для кожнай з іх, як змог, свае подпісы, сваю трактоўку, вынес свой паэтычны прысуд.»

І атрымалася цудоўная кніга, поўная палымянага пратэсту супраць вайны і расавай дыскрымінацыі, кніга страснай любві і павагі да Чалавека і ўсяго чалавецтва нашага адзінага і непадзельнага свету.

І коратка, у некалькіх словах, пра самога аўтара паэтычных тэкстовак гэтай незвычайнай кнігі.

Летась, будучы ў Празе на міжнародным форуме па дзіцячай літаратуры, нам, групе беларускіх пісьменнікаў, пашчасліла сустрэцца з ім і мець кароткую гутарку. На прыёме, які быў наладжаны Саюзам пісьменнікаў ЧССР у гонар удзельнікаў форуму і яго гасцей, перакладчыца славянскай паэзіі на чэшскую мову Ольга Блажкава пазнаёміла нас, і Ашкеназі, ветліва ўсміхаючыся, сказаў: «Мілыя нашы браты-беларусы, вы нашы самыя жаданыя госці».

Невысокі і поўны з выгляду, вонкава вельмі падобны на Яна Дрду,— дарэчы, свайго блізкага друга, як ён сам прызнаўся, калі мы яму сказалі аб гэтым падабенстве,— Людвік Ашкеназі, як паэт, вызначаецца своеасаблівым праікненнем у чыста чалавечы сэнс такіх паняццяў, як любоў і радасць, вайна і гора, мацярынства і дзеці. У яго сваё паэтычнае бачанне ўсяго, аб чым бы ён ні пісаў. Адзін з яго пражскіх крытыкаў, літаратуразнаўца Кача Полячкава трапна падмеціла, што «прамата і прастата аціэнак Ашкеназі заваявалі яму права лічыцца адным з самых папулярных аўтараў сярэдняга пакалення сучасных пісьменнікаў Чэхаславакіі».

**Язэп СЕМЯЖОН.**

Людвік **АШКЕНАЗІ**



## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

**Узрост наш вопыт росціць, і дзіця**
**свет навакольны бачыць па-дзіцячы.**
**Панаглядайце, як карону сонца**
**яно малюе на манер кароны**
**сваёй замурзанай любімай лялькі.**
**Мы цешымся да слёз, калі падчас**
**уяўная яму на сонцы пляма**
**на палатне бясштаннага «пікаса»**
**разы ў чатыры большая за Сонца.**
**А памятаеце —**
**было ж і так:**
**маленькая дзяўчынка з Хірасімы,**
**зажмурыўшыся, глянула на неба**
**і закрычала з радасці: — Ой, мама,**
**які вялікі грыб!**

## ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

**Найсаладзейшы сон — пасля вайны.**
**Перад вайной які той сон —**
**трывожна:**
**заснеш, прахопішся, навострыш вуха —**
**здаецца, ціха, гулу не чутно.**
**Акно расчыніш. Па глыбінях неба**
**даўжэзным шчупам мацае пражэктар.**
**На вуліцы аж душацца маторы —**
**мотапяхота, гаўбіцы і танкі.**
**Хтось, надрываючыся да знямогі,**
**над мікрафонам кліча нейкі «якар».**
**Гарланіць радыё, бесперастанку**
**чаргуючы то заклікі, то маршы.**
**Хаця мабпланы ўсё яшчэ ў пакетах**



пад сургучом і захаваны ў сейфах,
аднак жа адрасы з умоўным шыфрам
ужо стаяць на іх. Які ж там сон?
Дыхнеш і адчуваеш — блізка бура.

А на вайне калі табе спачын?
Калі даснящца сны? Заўсёды шум:
то чуеш, як стракочуць кулямёты,
то рвуцца міны, то кусае вош,
то знізу дзьме, а ў жываце кішка
іграе марш — загразла недзе кухня.
А то — і вокам не паспееш звесці,
як артналёт — ратуйся хто дзе жыў!
Сяды-тады перападзе й зацішша.
Ну, вось паспім, і толькі так падумаў,
як раптам нешта — трах! Ля самых
ног —
нага была, і ўжо няма нагі.
Успамінай цяпер, як звалі сон.
І дзівішся: усё сваё жыццё

ты быў на дзвюх, а зараз — аднаногі.
Які ж там сон, калі ты сам не ўвесь?

Найсаладзейшы сон — пасля вайны,
ў дзень першы новага светастварэння.
Дзе быў, там злёг і кануў, нібы камень,
у глыбіню і забыцця і стомы,
у першы свой бясхмарны, мірны сон.

І салаўі, і гоман, і салюты —
пушынкі мімалётныя, а сніцца
сваё гняздо, пакінутае калісь,
і задрамаўшыя ў ім птушаняты.
А колькі з іх ужо і не прачнуцца!
Найсаладзейшы сон пасля вайны,
а колькі ж гора-горычы ў тым сне!
Грузілам увайшлі ў яго і смерць,
і радасць уваскрэсення — ты жывы!
Такое бачыш толькі ў першым сне
і сам не знаеш — плакаць ці смяяцца.

## ПРОСІМ ПРАБАЧЭННЯ



Паслухайце, бязвусыя патомкі,
я раскажу вам, што такое смерць
у вобразе гарматнага снарада.
Калі ў далёкі той ці блізкі час
надарыцца вам, хлебаробам, заўтра
на ворыве падняць з раллі нарогам
стальнога япрука накшталт сігары,—
вось гэта, так лічы, яна і будзе.
Магчыма, шчэ не заржавее й надпіс:
«Gluck-auf!» * ці «Hale!» **, а то і
«Merry Christmas» ***,
альбо «Прывет і пацалунак з Рэйна!»
Так, так, бязбройныя мае патомкі,
мы, вашыя дзяды, на зубаскальства
і жарты вісусаў былі майстрамі;
тварылі смерць і ўсё з ухмылкай,
з жартам —
ні даць ні ўзяць — нікчэмныя паяцы.
Што ж, чалавек і век — адной пароды.
Не засмучайцеся. Жывіце з мірам!
Але, крый бог, і вам прышлюць
павесткі,
мы, што тварылі той вялікі грэх,
у вас заранеў просім прабачэння.

* «Gluck-auf!» (ням.) } Прывітанне.
** «Hale» (англ.) }
*** «Merry Christmas (англ.) — Са святам каляд!



## ДЗІЦЯЧАЯ КАЛЯСКА

1945

Яна не ведала нямецкай назвы
ні вуліцы, ні нават гарадка.
На ўзбочыне пры самым тратуары,
відно — стаіць дзіцячая каляска,
ужо не новая, на двух рэсорах.
І вось мілейшы Марс вайны сучаснай—
рэгуліроўшчыца ці, можа, снайпер
у строгай гімнасцёрцы радавога
славутай Арміі — бяжыць насустрач
маленькаму жыццю на ратным полі.
«Каб не спужаць яго, я толькі
гляну» —
сказала пра сябе і ў апраўданне
падумала: Не ўмею ж добра
«шпрэхаць»,
Я вывучыла:
«Du» і «Hände hoch!»,
але ж на гэты раз такога мала.



Відаць, спавітае — і ручанятак
не выставіць, падумаўшы, што мама.
Ну што ж, мабілізую ўвесь запас
нядаўніх школьных ведаў. Я скажу:
«Du! Bald zwanzig Jahre. Du viel essen
Du viel Kinder machen. Du leben lassen.
Du kleiner. Du Kind!»
Яна сказала гэта ўсё яму.
З каляскі ж каб што шэпнула. У ёй,
спавітая ў карункавы канверт,
ляжала супрацьтанкавая міна.

## МУЖЧЫНЫ



— Я, можа б, і прывыкла пакрысе
да мыліцы замест жывой нагі,
калі б не людзі. Першае, што ім
у вочы кідаецца,— гэта ногі.
— Ды што ты кажаш? — перабіў
хлапчук.—
Чаму перш ногі? Ты гаворыш
глупства!
— Не глупства. Я ж на вочы не
калека.
Мужчыны перш ацэняць да калень,
а потым — твар. Я гэта прыкмячала.
— Няўжо, а я не знаў, хоць і мужчына.
— О, ты яшчэ хлапчук, зусім
хлапчук,—
сказала і ўздыхнула аднаножка.

Пераклаў Язэп СЕМЯЖОН.

У СВЕЦЕ
ПРЫГОЖАГА

# З ТАДЖЫКСКІХ СУСТРЭЧ

Маё знаёмства з гэтым чалавекам пачалося завочна. Праходзячы па фае старога будынка Дома кампазітараў у Маскве, я ўбачыў на сцяне побач з партрэтамі вядомых дзеячоў музычнай культуры краіны фатаграфію старога з праніклівымі, яснымі вачыма. Здавалася, гэты мудры таджык у цюбецейцы ўсё бачыць, усё разумее. Пад партрэтам быў надпіс: «Народны хафіз Шарыф Джураеў». І мне захацелася пазнаёміцца з ім у жыцці, пазнаёміцца і пасябраваць.

Прайшоў час. Летась, зноў жа ў Маскве, адзін з маіх таджыкскіх сяброў пачаў расказваць пра творчасць народных спевакоў-хафізаў. І тады мільганула думка: ці нельга ўбачыць старога Шарыфа Джураева, чый партрэт запомніўся мне назаўсёды...

І вось мы з Сардарам Насіравым — настаўнікам гісторыі з горада Пянджа — ідзём па ціхай, спакойнай вуліцы Азадзі-Занон у Душанбе.

Аднапавярховыя дамы патанаюць у зеляніне садоў, у жоўта-ружовых і фіялетавых вінаградных лозах. Сама назва вуліцы ў перакладзе з таджыкскай мовы азначае «Вольная жанчына», і гучыць яна сімвалічна, калі думаеш пра сучаснае жыццё таджычак.

Шарыф Джураеў не ведаў, што мы прыйдзем да яго. Але ніякага адчування нечаканасці на яго твары мы не заўважылі. Адразу стала зразумела, што ў гэтым пакоі гасціннасць не толькі цудоўная народная традыцыя таджыкаў, але і праява цеплыні і сардэчнасці гаспадара.

Гэтак пачалася — пасля маскоўскай — наша сапраўдная сустрэча. Шарыф Джураеў частаваў нас духмяным зялёным чаем, вінаградам і павольна расказваў пра сваё жыццё. Калі не хапала рускіх слоў, гаспадар браў у рукі панчтор і спяваў пад яго акампанемент. Спяваў — гэта не тое слова: ён працягваў весці пры дапамозе музычных гукаў шчырую, задушэўную размову.

Мінула амаль семдзесят гадоў, як у Калай Хумбе на Паміры нарадзіўся Шарыф Джураеў.

Памір... Старажытная, таямнічая зямля. «Дах свету». Пра Памір пісалі ў старажытных летапісах македонскі купец Маез Ціціянус, цудоўны географ і астраном Пталамей, вядомы падарожнік Марка Пола.

Калай Хумб... У яго квітнеючых садах, паводле паданняў, Аляксандр Македонскі шукаў сустрэчы з прыгажуняй Перы. Калай Хумб — кукінская крэпасць, сталіца вядомага дарваскага бека, аднаго з магутных князёў бухарскага эмірата. І, нарэшце, аб Калай Хумбе мы чытаем у вядомым «Апавяданні палкоўніка Бабунова пра зацьменне Месяца», напісаным Юліусам Фучыкам.

Цяжкае жыццё было ў Шарыфа Джураева. З пяці гадоў сірата, потым — вучань-слуга ў Ізатшо, аднаго з эмірскіх чыноўнікаў у Дарвазе, чалавека прагрэсіўных поглядаў, які добра ведаў паэзію, музыку, сам складаў вершы і мелодыі.

У Ізатшо будучы хафіз атрымліваў «чай, хлеб і газелы», вывучаў спевы, ігру на нацыянальных інструментах, макомы — класічныя вакальна-інструментальныя паэмы пра жыццё народа. Але кожны кавалак ляпёшкі, кожную піялу чаю, кожнае знаёмства з новым чатырохрадкоўем-газелай трэба было адрабіць. Шарыф Джураеў атрымаў прафесію муляра, і па сённяшні дзень стаяць у Калай Хумбе збудаванні, куды ўкладзены праца, майстэрства і будаўнічы талент вядомага хафіза.

Хафізам чалавек становіцца не толькі таму, што ў яго ёсць прыроджаны талент. Патрэбна яшчэ бясконца любіць свой народ, ведаць яго долю і нядолю, яго думкі і светлыя спадзяванні, адчуваць патрэбу расказаць усё гэта людзям.

Шарыф Джураеў бачыў, як знясіленыя дэхкане «мераюць цюбецейкамі» мізэрны надзел сваёй зямлі, як пакутуюць ад празмерных падаткаў, як бязлітасныя ўмовы жыцця зводзяць іх у магілы... Але дзесьці высока за воблакамі жыве цудоўная песня. Хто яе пачуе, гаворыць народнае паданне, той атрымае сілу. І ў пошуках гэтай цудадзейнай сілы Шарыф пачаў складаць песні. Яны прыносілі людзям радасць, клікалі змагацца за светлую будучыню.



Шарыф Джураеў.

Так Шарыф Джураеў стаў хафізам. А ў пачатку 20-х гадоў, пасля перамогі на дзесяцідзённым туі — народным свяце, дзе спаборнічалі самыя вядомыя хафізы, яго імя стала вядомым не толькі ў Калай Хумбе, але і ў Душанбе. Яму разам з яго настаўнікам Мірзо Гуломам выпаў гонар на з'ездзе народных прадстаўнікоў, што ў 1924 годзе абвясцілі стварэнне Таджыкскай савецкай дзяржавы, уславіць новае жыццё. Шарыф Джураеў першы ў гісторыі таджыкскага народа прыехаў у Маскву запісваць на грамафонныя пласцінкі песні сваёй радзімы. І калі вясной 1941 года на Дэкадзе таджыкскага мастацтва і літаратуры ў Маскве хафіз Шарыф Джураеў са сваімі трыма сынамі — адзінаццацігадовым Кандзілем, дзевяцігадовым Макімам і шасцігадовым Дарвозі — спяваў песні «Сваці нам, ленінскі сцяг» і «Сёння нам дапамаглі, сказалі, як трэба жыць», ён цвёрда верыў, што ў яго дом, ва ўсе дамы яго краю прыйшлі праўда, воля, светлая мара.

Вялікая сям'я ў Шарыфа Джу-

раева. За святочны абрус — дастархан — садзяцца ў доме хафіза, акрамя яго з жонкай, шэсць сыноў, тры нявесткі і сем унукаў.

Дык як жа не спяваць хафізу свае цудоўныя песні «Свету мір», «Люблю Радзіму», «Сэрца маё», «Працы сэрца аддаю, праца — мая любоў», «Песню аб вясне» і многія іншыя! Усе ж яны з'яўляюцца старонкамі жыцця яго самога, жыцця яго дзяцей і ўнукаў, яго вучняў, жыцця ўсяго народа.

Шарыфу Джураеву, які ўдастоены трох ордэнаў і званняў народнага артыста і народнага хафіза Таджыкістана, радасна прыязджаць у гарады і кішлакі свайго краю і Узбекістана, Туркменіі і Казахстана, Кіргізіі і Расіі, ездзіць па дружалюбнаму Афганістану і па Ірану і спяваць славу новаму жыццю свайго народа!

...Некалькі гадзін у доме гасціннага хафіза прамільгнулі для нас, як адна мінута. Мы былі рады знаёмству з чалавекам, які шчодра аддае людзям свае песні, сваё сэрца.

Калі першая сустрэча была знаёмствам з мудрасцю таджыкскага мастацтва, дык другая стала знаёмствам з яго маладосцю.

Аднойчы Азіза Азімава,— народная артыстка Таджыкістана і першая таджыкская жанчына, якая стала прафесійнай балерынай,— запытала ў мяне, ці бачыў я, як танцуе Маліка Сабірава. Прыйшлося прызнацца, што не бачыў. «Абавязкова паглядзіце,— сказала Азіза,— бо Маліка не толькі сённяшні, але і заўтрашні дзень нашага мастацтва».

Маліка заўсёды хацела танцаваць. У дзіцячым садзе яна да самазабыцця танцавала то завадную ляльку, то матрошку; у першых класах агульнаадукацыйнай школы без удзелу Малікі не абыходзіўся ні адзін ранішнік. А ў 1953 годзе па рэкамендацыі Азізы Азімавай, якая даўно прыглядалася да яркага таленту дзяўчынкі, адзінаццацігадовая Маліка Сабірава паехала ў далёкі Ленінград вучыцца ў вядомым на ўвесь свет харэаграфічным вучылішчы. Бацька не хацеў пускаць яе так далёка ад дому, але дзяўчынка праявіла характар і прыгразіла, што, калі яе не пусцяць, яна больш не будзе ў школе выдатніцай. Так вырашыўся яе лёс.

У першы ўжо год навучання Маліка з выключным поспехам выканала ролю Машы ў вядомым балеце Чайкоўскага «Шчаўкунчык». Пастаноўшчык спектакля, выдатны савецкі танцоўшчык і балетмайстар Канстанцін Сяргееў пасля першага дэбюту дзяўчынкі расчулена падняў яе на рукі, пацалаваў і падарыў ляльку такога ж росту, як яна сама. Так Маліка-Маша ўвайшла ў рэпертуар Ленінградскага акадэмічнага тэатра оперы і балету імя С. М. Кірава.

Поспехі спадарожнічалі дзяўчынцы не толькі ў мастацтве танца. І па агульнаадукацыйных прадметах, акрамя пяцёрак, у Малікі іншых адзнак не было. Да гэтага трэба дадаць, што яна адначасова вучылася і танцавала на сцэне тэатра ў спектаклях «Дон Кіхот» і «Баядэрка», «Медны коннік» і «Бахчысарайскі фантан», «Шчаўкунчык» і «Спячая прыгажуня».

Апошні з балетаў прынёс Маліцы сапраўднае прызнанне не толькі ў Ленінградзе, але і ў Маскве, дзе яна вясной 1961 года прымала ўдзел у конкурсе харэаграфічных вучылішч. Усе спецыялісты аднадушна прызнавалі, што «таджычка Сабірава ў «Спячай прыгажуні» па праву саліравала ў ансамблі рускіх танцоўшчыц», што «яна цудоўна засвоіла традыцыі рускага класічнага танца», што «ў гэтай маленькай дзяўчыны спакойная і нават урачыстая манера выканання сапраўднай вялікай балерыны».

Партыяй Аўроры і класічным дуэтам з балету «Полымя Парыжа» закончыла Маліка Сабірава Ленінградскае харэаграфічнае вучылішча, атрымаўшы на выпускным спектаклі ацэнку «выдатна». Увосень таго ж года Маліка пачала сваё творчае жыццё на сцэне опернага тэатра ў родным Душанбе.

Мне не давялося бачыць усе партыі з рэпертуару Малікі Сабіравай, але тое, што ішло на сцэне Таджыкскага дзяржаўнага тэатра оперы і балету з яе ўдзелам, пакінула незабыўнае ўражанне. Адэта і Адылія ў «Лебядзіным возеры», Танечка ў «Доктары Айбаліце», Зарына ў «Горнай легендзе», Сары ў «Сцежкаю грому» — якая разнастайнасць, якое багацце вобразаў! І ва ўсіх гэтых партыях Маліка здзіўляе выключнай выразнасцю рухаў, сабранасцю, лёгкасцю і дасканаласцю стылю.

Вяршыняй адухоўленасці танца Малікі Сабіравай з'яўляецца партыя Сары ў цудоўным балеце Кара Караева «Сцежкаю грому». Калі мы абменьваліся думкамі пра гэтую сапраўды творчую перамогу маладой балярыны, нехта тонка адзначыў, што яе Сары — цудоўная па глыбіні і выразнасці песня трагічнага кахання, праспяваная сродкам танца. Гэтае паэтычнае вызначэнне трэба аднесці да ўсяго мастацтва Малікі. Музычнасць яе танца такая, што адчуванне віртуознай тэхнікі знікае. Каскады бліскучых фуэтэ, самыя складаныя харэаграфічныя рухі, малюнкі, пабудовы раптам робяцца чароўнымі гукамі ў зрокавай абалонцы.

Калі на першы міжнародны конкурс маладых артыстаў балету ў



Маліка Сабірава.

балгарскім горадзе Варне адбіраліся лепшыя танцоўшчыкі Савецкага Саюза, сярод іх не выпадкова апынулася Маліка Сабірава. Журы конкурсу, шчырая аўдыторыя гледачоў у Варне не памыліліся, калі прызналі яе выступленне «зусім незвычайным адкрыццём, што здзівіла ўсіх прысутных, нават улічваючы ўдзел у творчым спаборніцтве добра вядомых ва ўсім свеце бліскучых майстроў класічнага танца Масквы і Ленінграда».

...Зноў я сяджу на спектаклі ў Таджыкскім тэатры оперы і балету. Танцуе Маліка Сабірава — лаўрэат міжнароднага конкурсу ў Варне. І хочацца бачыць чароўны танец яшчэ і яшчэ, бо разумееш, што гэтая пяшчотная, на дзіва сціплая, маленькая дзяўчына з Таджыкістана — вялікая ў сваім мастацтве.

**Ізідор НІСНЕВІЧ.**

# ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ У ДАРОЗЕ

...Здаецца, гэта было зусім нядаўна. Да нас у тэатр прыйшоў Іван Шамякін і папрасіў тагачаснага галоўнага рэжысёра Любоў Іванаўну Мазалеўскую і мяне пазнаёміцца з яго першай п'есай «Не верце цішыні».

— Я не драматург,— сказаў ён,— але рашыў паспрабаваць свае сілы ў новым жанры.

П'есу вырашылі ставіць. Праўда, пасля дапрацоўкі. Пачаліся рэпетыцыі. Акцёрам спадабаліся праўдзівыя па-



Артысты прыехалі.

Фота Г. Ручымскага.

дзеі ў творы Шамякіна, востры канфлікт, жывыя характары людзей.

І вось наступіла ўрачыстая цішыня... Адкрылася заслона... Гледачы ўсё больш і больш уваходзілі ў жыццё спектакля, перажывалі разам з яго героямі, а пасля трэцяй карціны некаторыя непрыкметна выцiралі слёзы. Мы зразумелі, што спектакль цёпла прыняты гледачамі. А гэта самая дарагая ўзнагарода для яго стваральнікаў.

Прайшлі гады, а «Цішыня» не старэе, жыве і радуе людзей. Іграюць яе нашы акцёры заўсёды з натхненнем. Так, як ігралі спектакль на сцэне Тэатра юнага гледача, і так, як сёлета ігралі трохсоты раз «Не верце цішыні» на клубнай сцэне ў калгасе імя Чкалава на Віцебшчыне.

З раённага цэнтра Глыбокае да калгаса, куды мы выехалі, семдзесят кіламетраў дарогі. Першую частку гэтага шляху праехалі без асаблівых прыгод. А пасля...

Пасля трэба было павярнуць налева, а мы павярнулі направа і наткнуліся на нейкі разбураны мост. І вось пачаўся аб'езд. Дзве гадзіны аб'язджалі, ды так і не аб'ехалі. А тут яшчэ дождж пачаў палівацъ.

Што рабіць? Колькі яшчэ засталося да калгаса, ніхто добра не ведаў. І тут нас выручылі нашы юныя гледачы — вясковыя хлапчукі. З іх дапамогай мы перабраліся цераз рэчку і трапілі ў калгас імя Чкалава. Нягледзячы на стомленасць, праз дваццаць мінут усе былі загрыміраваны, апрануты. Убачыўшы перад сабой перапоўненую залу гледачоў, што сядзелі і стаялі ў зале, чапляліся за падаконнікі і рамы, артысты забыліся на ўсе нягоды падарожжа. Пасля спектакля нас засыпалі букетамі жывых кветак.

...Наш тэатр шмат дзе гастраліраваў за дзесяць год свайго існавання. Першыя гастролі адбыліся ўлетку 1956 года на цалінных землях Казахстана. Тры разы выступалі мы на сцэне Крамлёўскага тэатра, былі ў Ленінградзе, Кіеве, Адэсе, Львове, Вільнюсе, Рызе, Таліне, на караблях Чырвонасцяжнага Балтыйскага флоту. У мінулым годзе зрабілі гастрольнае падарожжа на агітцеплаходзе «Маякоўскі» па рэках Беларусі і Украіны. Сёлетнія ж нашы гастролі мы правялі ў калгасах і саўгасах Гродзенскай і Віцебскай абласцей.

Выехалі не на тыдзень і не на два, а на пяцьдзесят дзён. За гэты час мы паказалі сто трыццаць чатыры спектаклі, на якіх пабывала каля сямідзесяці тысяч гледачоў. Гэтыя лічбы — цудоўнае сведчанне росту духоўнай культуры нашых сціплых працаўнікоў зямлі нават у самых аддаленых кутках Беларусі.

У верасні, пасля першага званка ў школах і інстытутах, мы распачалі новы сезон гастролямі на Гомельшчыне. Сезон гэты незвычайны і хвалюючы. Ён супадае з дзесяцігоддзем з дня заснавання тэатра. Апрача спектакляў на сцэне Гомельскага драматычнага тэатра, як заўсёды, мы выязджалі са сваімі пастаноўкамі ў раёны, калгасы, сельскія школы. Пабывалі і ў нафтавікоў Рэчыцы. Акцёры нашага тэатра сустракаліся з гледачамі не толькі на спектаклі, але і пасля закрыцця заслоны, каб у шчырай гутарцы адчуць сённяшнія запатрабаванні гледачоў. А яны ж, нашы гледачы, гэта, галоўным чынам,— моладзь.

У новым сезоне мы, як заўсёды, клапаціліся пра стварэнне паэтычных спектакляў, якія б увайшлі ў жыццё нашай моладзі, натхнялі яе на сумленную працу, вучобу, выхоўвалі яе ў духу сацыялістычнага патрыятызму.



Сцэна са спектакля «Над хвалямі Серабранкі» па п'есе І. Козела. Артысты В. Барысёнак (шафёр Вася) і Г. Макаль (Жэня).

Новы сезон набліжае нас да вялікага свята — 50-годдзя Савецкай улады. Сёлета мы хочам стварыць спектакль, у якім будзе ўвасоблен вобраз маладога Леніна. У нашых планах і п'еса пра Максіма Багдановіча, над якой працуюць Барыс Бур'ян і Мікола Алтухоў, п'еса Кастуся Кірэенкі пра юных мінчан, п'еса Алеся Пальчэўскага пра сённяшнюю школу, інсцэніроўка вядомага твора Янкі Маўра «Т. В. Т.». Мы пазнаёмім юных гледачоў з драматургіяй Горкага і Чэхава.

Нашы спектаклі ў новым сезоне будуць розныя па жанрах. Галоўнае, чаго мы дамагаемся,— гэта мастацкай дасканаласці, каб прынесці гледачам сапраўдную эстэтычную асалоду, пасеяць у іхніх сэрцах зерні добрага, прыгожага.

**Уладзімір СТЭЛЬМАХ,**
**дырэктар рэспубліканскага**
**Тэатра юнага гледача.**

Сцэна са спектакля «Людзі і разбойнікі Кардамона» па п'есе Т. Эгнера.

Фота У. Крука.



Вадзім ВІЛІНБАХАЎ

# АСВАЕННЕ КОСМАСУ І НЕКАТОРЫЯ ПРАБЛЕМЫ БУДУЧЫНІ

Штучныя спадарожнікі Зямлі і магутныя шматступенчатыя касмічныя ракеты канчаткова перанеслі палёты ў космас са сферы фантазіі ў свет адчувальнай рэальнасці. Палёт да іншых планет і зорак, пра які зусім нядаўна толькі марылі найбольш смелыя людзі, стаў магчымы ў бліжэйшым будучым. Зоркалёты, над праектамі якіх ужо цяпер працуюць энтузіясты ў сваіх кабінетах, дазволяць чалавеку дабрацца не толькі да планет сонечнай сістэмы, але і да планетных сістэм бліжэйшых зорак.

Пакуль, вядома, цяжка ўстанавіць, у якой паслядоўнасці разгорнуцца падзеі, звязаныя з далейшым асваеннем космасу. Імклівае развіццё навукі і тэхнікі, напэўна, унясе ў існуючыя планы значныя карэктывы. Але ўжо цяпер, калі чалавек стаіць на парозе найвялікшых за ўсю гісторыю свайго існавання адкрыццяў, зусім заканамерна паўстае пытанне, якое без сумнення задаецца большасцю зямлян: «А навошта, па сутнасці, патрэбны міжпланетныя палёты, што канкрэтна-практычнае прынясе чалавецтву асваенне космасу?»

Адказ на гэтае пытанне не можа быць кароткім. Мы імкнёмся ў космас, кіруючыся многімі прычынамі. Часам гавораць, што галоўная прычына — патрабаванні чалавечага пазнання, якому ўжо цяпер цесна ў зямных рамках. Сапраўды, чалавек, пазнаючы космас, уяўляе сваё месца і месца планеты Зямля ў сусветным механізме. Трывожная думка хоча пранікнуць у таямніцы Сусвету, прагне новых ведаў. Імкненне да адкрыццяў, вялікіх здзяйсненняў, прага подзвігу, рамантыка бяскрайніх прастораў, пошукі новых светаў — займаюць не апошняе месца сярод стымулаў, якія рухаюць чалавека ў чорныя праймы Сусвету. І чалавек ведае, што за гэтай чарнатой прасторы — асляпляльнае святло іншых зорак і галактычных светаў, новыя надзеі, свет «братоў па розуму», раскіданых у велізарным свеце космасу. Сустрэча з імі можа абагаціць скарбніцу ведаў. Можна ўявіць сабе захапленне ўсемагутнага чалавека, які ўпершыню ўбачыў сваю родную Зямлю, скажам, з Месяца!..

Усё гэта так, асабліва для пачатковай стадыі задавальнення «касмічнай» смагі. Але ці ў гэтым галоўнае? Сярод многіх фактараў паспрабуем выбраць адзін, на нашу думку, самы важны. Яму мы і прысвяцім сваю ўвагу.

Добра вядома, што любое тэарэтычнае пазнанне, для таго, каб апраўдаць сябе, абавязкова павінна рана ці позна прынесці нейкія непасрэдныя, пэўныя, канкрэтна-практычныя вынікі. У. І. Ленін пісаў, што «ад жывога сузірання да абстрактнага мыслення і ад яго да практыкі — такі дыялектычны шлях пазнання ісціны, пазнання аб'ектыўнай рэальнасці».

Практыка з'яўляецца адпраўным пунктам, першапачатковым момантам, асновай і крытэрыем сапраўднасці індывідуальнага пазнання або ўсяго гістарычнага пазнання ў цэлым. Практыка як living рознабаковая, але заўсёды канкрэтная сувязь людзей з рэчаіснасцю, у тэорыі пазнання дыялектычнага матэрыялізму стаіць на першым месцы. Грамадска-гістарычная практыка з'яўляецца не толькі крытэрыем сапраўднасці навуковых ведаў, але і асноўным стымулам развіцця навукі. Толькі пастаянная і непарыўная сувязь тэорыі з практыкай з'яўляецца сапраўднай матэрыялістычнай навукай. Іменна таму і ў міжпланетных палётах, у будучым знаёмстве з нязведанымі светамі, чалавек павінен бачыць канкрэтна-практычныя мэты, якія непасрэдна адаб'юцца на яго быцці. Толькі ў гэтым выпадку можна меркаваць, што асваенне космасу і звязаныя з гэтым каласальныя затраты энергіі і сіл лагічна будуць апраўданыя і неабходныя для далейшага прагрэсу чалавецтва.

У чым жа можа заключацца практычна-канкрэтнае значэнне асваення космасу? Чым апраўдваюцца тыя велізарныя затраты сіл і энергіі, якія спатрэбяцца ад чалавецтва для выканання гэтай задачы?

Каб паспрабаваць адказаць на гэтае пытанне, неабходна звярнуцца да аналогій, пачэрпнутых з гісторыі чалавечага грамадства, бо ўсё, што мела месца да гэтага часу, нельга ніяк параўнаць з будучымі адкрыццямі ў космасе і звязанымі з гэтым вынікамі для далейшага развіцця грамадства. Позірк у мінулае прыходзіцца звяртаць таму, што ў нас няма іншых аб'ектаў, якія дазволілі б абгрунтаваць нашы гіпатэтычныя разважанні адносна будучыні.

У гісторыі вядомы перыяды, калі адкрыцці «новых светаў» мелі велізарнае грамадска-палітычнае значэнне. Эра вялікіх геаграфічных адкрыццяў XV — XVII стагоддзяў прынесла знаёмства з двума новымі, раней невядомымі «светамі» — Амерыкай і Аўстраліяй. Адкрыццё гэтых «светаў», як вядома, мела не толькі навуковае, але і велізарнае канкрэтна-практычнае значэнне. «Стары свет», апрача новых рынкаў збыту і багатых сыравінных крыніц, набыў прасторныя раёны для пасялення, куды мог адхлынуць лішак насельніцтва, створаны існаваўшымі ў Еўропе эканамічнымі і сацыяльнымі ўмовамі.

Прыкладна такое становішча існуе і ў адносінах будучых адкрыццяў у космасе. Ні пра якія рынкі збыту або партнёраў для гандлю ў касмічнай прасторы, вядома, думаць не прыходзіцца, і ні адзін разумны чалавек не можа ставіць сур'ёзна такую задачу. З-за нерэнтабельнасці перавозак цяжка гаварыць і аб выкарыстанні крыніц сыравіны на іншых планетах, што знаходзяцца за мільёны кіламетраў ад Зямлі. Перавозка на такія адлегласці нават самых каштоўных матэрыялаў абышлася б так дорага, што іх выкарыстанне на Зямлі ніколі не акупілася б. Такім чынам, з ліку магчымых задач, што стаяць перад асваеннем космасу, застаецца толькі апошняя — адкрыццё новых светаў для асваення іх, як месцаў пасялення зямлян.

Як ні фантастычна выглядае на першы погляд падобная задача, тым не менш яна можа з'явіцца адзінай канкрэтна-практычнай мэтай, пастаўленай перад будучым асваеннем космасу. Пры гэтым таксама трэба ўлічваць і тое, што праблема перанасялення Зямлі з'яўляецца далёка не гіпербалічнай. Не ўстанаўліваючы дакладных храналагічных рамак, можна дастаткова цвёрда гаварыць пра тое, што некалі, пры нармальным

ходзе гістарычнага развіцця, абавязкова настане момант, калі Зямля не зможа размясціць і забяспечыць усім неабходным сваё насельніцтва, якое каласальна разрасцецца ў параўнанні з цяперашнім. Справа заключаецца не ў вядомай фармуліроўцы Мальтуса, быццам насельніцтва Зямлі павялічваецца хутчэй, чым растуць сродкі існавання. У грамадстве будучыні, пабудаваным на разумных сацыялістычных асновах, да якіх непазбежна, урэшце, прыйдуць усе народы, рост насельніцтва будзе стымулявацца такімі фактарамі, як паляпшэнне сацыяльна-эканамічных умоў, звядзенне да мінімуму дзіцячай смяротнасці, спыненне кровапралітных войн, ліквідацыя існуючых цяпер хвароб і, нарэшце, значнае прадаўжэнне чалавечага жыцця.

У сучасны момант, вядома, немагчыма ўстанавіць нейкія, хоць бы прыблізныя, тэрміны, калі падобныя праблемы паўстануць перад чалавекам і прымусяць яго прымаць рашэнні. Хутчэй за ўсё, пройдуць стагоддзі, а магчыма і тысячагоддзі, перш чым гэтыя пытанні стануць па-сапраўднаму актуальнымі. Але пры гэтым неабходна ўлічваць, што асваенне космасу чалавекам запатрабуе таксама вельмі працяглага часу, які будзе вылічвацца сотнямі, а можа і тысячамі гадоў. Таму няма ніякіх падстаў лічыць, што паміж вышэйўспомненай канкрэтна-практычнай задачай асваення космасу і яе тэхнічным увасабленнем існуе значны разрыў у часе. Не, тут існуе поўная і арганічная ўзаемасувязь. Яшчэ неўсвядомленыя патрэбы будучага, якія паяўляюцца ў сучасным грамадстве, ставяць перад навукай і тэхнікай пэўныя задачы, для вырашэння якіх ужо цяпер былі зроблены першыя, пакуль яшчэ нясмелыя крокі.

Адным з важнейшых вынікаў асваення космасу будзе ўплыў гэтага факту на сацыяльныя пераўтварэнні на Зямлі. Успомнім, што У. І. Ленін у гутарцы з Г. Уэлсам, паводле запісаў апошняга, апублікаваных у «Пары прэс», гаварыў: «Калі мы зможам устанавіць міжпланетныя сувязі, прыйдзецца перагледзець усе нашы філасофскія, сацыяльныя і маральныя ўяўленні...»

Нават непараўнана меншыя па свайму значэнню геаграфічныя адкрыцці XV—XVII стагоддзяў у велізарнай ступені садзейнічалі такім зменам. Асваенне космасу, бясспрэчна, зробіць таксама непасрэдны ўплыў на поўную кансалідацыю зямнога свету ў адзіную эканамічную сістэму, таму што для асваення планет толькі сонечнай сістэмы спатрэбяцца велізарныя затраты, аб'яднаныя сродкі многіх дзяржаў. Нездарма ўжо цяпер, калі робяцца першыя крокі ў касмічную прастору, здольнымі на гэта аказаліся толькі дзве дзяржавы — Савецкі Саюз і Злучаныя Штаты, якія валодаюць найбольшай прамысловай і эканамічнай магутнасцю. Не выклікае сумнення і тое, што паслядоўнае асваенне космасу запатрабуе абавязковага навуковага, прамысловага і эканамічнага планавання ў сусветным маштабе. Бо для вырашэння многіх пытанняў, звязаных з асваеннем космасу, будзе неабходна выкарыстанне ўсіх прамысловых і энергетычных рэсурсаў Зямлі. Толькі кансалідаваная, заснаваная на планавай, цэнтралізаванай вытворчасці сусветная эканоміка зможа забяспечыць неабходныя прадпасылкі для шырокага пакарэння прастораў Сусвету.

Можна гаварыць пра тое, што эра касмічных адкрыццяў, гэтак жа, як і эра геаграфічных адкрыццяў мінулага, будзе непазбежна садзейнічаць гібелі аджыўшага сацыяльна-эканамічнага парадку і садзейнічаць перамозе і сцвярджэнню новых сацыяльна-эканамічных адносін, заснаваных на сацыялістычным спосабе вытворчасці. Патрэбы, што выклікаюцца асваеннем космасу, з'яўляюцца дадатковым і пры гэтым вельмі істотным доказам правільнасці асноўнага палажэння марксізму пра непазбежнасць змены ўстарэлых сацыяльна-эканамічных сістэм. Наглядна пацвярджаецца закон аб усеагульнай сувязі, узаемазалежнасці і ўзаемнай абумоўленасці розных з'яў. «...прычына і вынік, — адзначаў Ф. Энгельс, — ёсць уяўленні, якія маюць значэнне, як такія, толькі прыстасоўна да пэўнага асобнага выпадку, але як толькі мы будзем разглядаць гэты асобны выпадак у яго агульнай сувязі з усім сусветным цэлым, гэтыя ўяўленні сыходзяцца і пераплятаюцца ва ўяўленні ўніверсальнага ўзаемадзеяння, у якім прычыны і вынікі заўсёды мяняюцца месцамі; тое, што тут або цяпер з'яўляецца прычынай, становіцца там або тады вынікам і наадварот».

Сапраўды, толькі ўласцівае XX стагоддзю развіццё навукі і тэхнікі стварыла ўмовы для пераходу ад капіталістычных форм вытворчасці да сацыялістычных, адначасова гэтыя ж фактары стварылі і ўмовы для стварэння сродкаў, прыгодных да касмічных палётаў. У гэты ж час сацыялістычны лад, які з'явіўся вынікам папярэдняга развіцця прадукцыйных сіл, сам стаў стымулюючай прычынай у прагрэсе асваення космасу, бо толькі ва ўмовах гэтага спосабу вытворчасці магчыма забяспечыць сапраўдны рост навукі і тэхнікі ў межах, неабходных для стварэння адпаведнай апаратуры, і толькі ў гэтых умовах могуць быць сканцэнтраваны і выкарыстаны сіла і сродкі, неабходныя для міжпланетных палётаў. Гэтая шчыльная сувязь прычын і вынікаў, якія не супярэчаць адно аднаму, а ўзаемадапаўняюць і развіваюць, паказвае, што сацыялістычны спосаб вытворчасці і асваення космасу з'яўляюцца моцна звязанымі паміж сабой з'явамі, характэрнымі для цяперашняга часу і наступнай эпохі.

Першыя тэарэтычныя работы, прысвечаныя праблемам міжпланетных палётаў, былі створаны Цыялкоўскім у краіне перамогшага сацыялізма, нягледзячы на тое, што ў той час па ўзроўню развіцця тэхнікі Савецкі Саюз значна саступаў многім індустрыяльна развітым капіталістычным краінам.

Зусім невядома, і пакуль не можа быць прадстаўлена нават у выглядзе больш ці менш верагоднай навуковай гіпотэзы, тое, што ўбачыць чалавек пры сваім уступленні на планеты сонечнай сістэмы, не кажучы ўжо аб планетах іншых зоркавых сістэм. Яшчэ ў эпоху Адраджэння існавала ідэя пра мноства населеных светаў, якая была найбольш ярка адлюстравана ў працах Джардана Бруна. Да нашага часу гэтая ідэя не знайшла яшчэ канкрэтнага эксперыментальнага пацверджання. Аднак у прынцыпе яна не выклікае пярэчанняў.

Магчыма бясконцае мноства форм і верагоднасць існавання ў падыходзячых незямных умовах жывых істот, падобных да чалавека, з грамадскай свядомасцю і магчымасцю навуковага пазнання навакольнага асяроддзя. Пытанне пра верагоднасць адкрыцця на планетах разумнай сілы, безумоўна, з'яўляецца адным з краевугольных каменняў пазнання космасу. Мы знарок ужываем выраз — «разумная сіла», бо невядома, у якім выглядзе матэрыя яна паўстане перад будучымі касманаўтамі. Пры гэтым такім жа невядомым з'яўляецца і тое, наколькі гэтая разумная сіла будзе здольна ўступіць у кантакт з чалавекам, а таксама і тое, ці зойме яна ў адносінах да яго добразычлівую або варожую пазіцыю. Гэта «ікс», для разгадвання якога ў сучасны момант няма ніякіх даных. Магчымасці ж сустрэчы з падобнымі разумнымі сіламі і меркаванні пра іх варожыя адносіны да чалавека не могуць не ўлічвацца пры вывучэнні праблем космасу і пры практычным ажыццяўленні міжпланетных палётаў.

Наіўна дапускаць, што асноўныя прынцыпы арганізацыі і структуры іншых светаў абавязкова павінны адпавядаць зямным. Калісьці Лаплас выказаў думку, што для зносін з марсіянамі трэба было б у раўнінах Сібіры пабудаваць інтэнсіўна асветленую фігуру тэарэмы Піфагора — па ёй яны зразумелі б, што на Зямлі жывуць разумныя істоты. У наш час некаторыя думаюць, што гэтай жа мэце могуць служыць магутныя радыёсігналы, якія правільна чаргуюцца. Але калі, напрыклад, дапусціць, што недзе ў туманнасці Андрамеды ёсць высокаарганізаваныя істоты, то калі яны, напрыклад, вадкасныя насельнікі вадкага асяроддзя, у іх не можа быць ні метрычнай геаметрыі, ні нават арыфметыкі ў нашым разуменні, а таму пры дапамозе паняццяў гэтых навук нельга ўстанавіць паміж намі і імі ніякіх зносін. «Калі недзе існуе свет, пабу-

даваны з антырэчыва, то з яго жыхарамі мы не змаглі б «дамовіцца» нават пра тое, дзе правы і дзе левы бок», — гаворыць Э. Кольман у артыкуле «Пачуццё меры».

Асваенне космасу, а тым больш магчымая сустрэча з разумнымі сіламі, безумоўна, з'явіцца паваротным момантам у развіцці светапогляду чалавека, які да гэтага часу поўнасцю стаяў на геацэнтрычных і антрапацэнтрычных пазіцыях, бо ўсе філасофскія сістэмы, пытанні права і маралі, жыццёвы лад і звычкі грунтаваліся на веданні толькі зямных умоў.

Асваенне космасу істотным чынам зменіць узаемаадносіны чалавека і прыроды і зробіць вялікае ўздзеянне на асновы мыслення чалавека. Асабліва, вядома, зменяцца погляды на месца чалавека ў Сусвеце.

Сапраўды, цяпер усё чалавечае мысленне, светаўяўленне і светапогляд носяць на сабе яўны адбітак антрапацэнтрызму. Нягледзячы на разнастайныя філасофскія разважанні і сумненні, чалавек прывык лічыць сябе цэнтрам Сусвету. Існуючы ў зямных умовах, чалавек не можа адмовіцца ад гэтага ўяўлення, перабудаваць сваю псіхічную структуру. Ход гістарычнага развіцця да гэтага часу толькі пераконваў чалавека ў правільнасці такога тэзісу. Пранікненне ж у космас, знаёмства з прасторамі Сусвету прымусяць чалавека па-новаму паглядзець на навакольны свет, межы якога расшырацца да бясконцасці, прымусяць яго адчуць сябе не гаспадаром, а часткай Сусвету. Гэта непазбежна прывядзе да поўнага крушэння антрапацэнтрычнага светаўяўлення і выкліча неабходнасць значнай пераацэнкі маральных, эстэтычных і этычных норм, што склаліся за многія стагоддзі зямной гісторыі чалавечага грамадства.

Змяненню могуць падвергнуцца маральныя і этычныя ўяўленні, якія складаліся стагоддзямі. Дастаткова падумаць хоць бы пра адзін бок гэтага пытання, а іменна пра ўздзеянне адноснасці часу, праблемы, непазбежна звязанай з далёкімі касмічнымі палётамі, на асноўныя прынцыпы сямейнашлюбных адносін. Бацькі, якія сталі маладзейшыя за дзяцей, муж і жонка, беззваротна раздзеленыя бар'ерам часу, малодшыя браты, якія на многія дзесяцігоддзі абагналі старэйшых сваякоў. Не трэба даказваць, што пад цяжарам падобных абставін здольна пахіснуцца цяперашняя сістэма сямейнашлюбных адносін. Адноснасць часу здолее паскорыць распад і ўрэшце пахаваць увесь прывычны нам сямейны лад, непазбежную гібель якога яшчэ сто гадоў назад прадказвалі заснавальнікі навуковага камунізма Карл Маркс і Фрыдрых Энгельс. Чалавецтва будзе вымушана перайсці да зусім іншых, як па форме, так і па зместу, прынцыпаў шлюбных і сваяцкіх адносін.

Такім чынам, зрабіўшы першы крок у космас, чалавецтва ўжо цяпер павінна быць гатова да таго, каб падвергнуць зменам свае асноўныя погляды і звычаі. Яно не можа, сапраўды, пачаць асваенне касмічнай прасторы, з'яўляючыся звязаным багажом антрапацэнтрычных уяўленняў і паняццяў. Рашэнне гэтай задачы — справа не такой ужо далёкай будучыні, як мы часам думаем.




*Для фотааматараў*
*№ 11, лістапад, 1965.*

# ДАРОГАЙ БАЦЬКОЎ-ГЕРОЯЎ

**Фотарэпартаж В. ЖДАНОВІЧА, А. ДЗІТЛАВА і У. ФРЭЙДЗІНА**



**Крокі... Бадзёрыя, лёгкія крокі маладых ног, абутых у кеды і тапачкі. Раз-два, раз-два, раз-два! Вясёлы дроб крокаў бяжыць па лесе, па залітых сонцам гонях, уздоўж імклівых рэк.**

**Жывыя ідуць па слядах герояў. Дзеці і ўнукі чытаюць бясконцую ратную кнігу бацькоў.**

**На Усесаюзны злёт пераможцаў паходу моладзі па месцах баявой славы савецкага народа з'ехалася больш за 700 дэлегатаў: школьнікі, студэнты, рабочыя, калгаснікі. А сярод іх праслаўленыя палкаводцы, героі Айчыннай вайны, пісьменнікі. Месцам злёту выбралі Брэсцкую крэпасць — славуты рубеж масавага гераізму савецкіх людзей.**





Бадай упершыню за ўсю гісторыю турысцкіх злётаў тут не дазволілі паліць кастры. Бо зямля крэпасці прапітана вайной. За некалькі дзён да ўрачыстасці, калі пачалі будаваць палатачны гарадок, знайшлі вось гэтыя «падарункі» — каля пяцісот нямецкіх снарадаў. Затоеная смерць ляжала ў зямлі. І яе ў час абяззброілі савецкія сапёры.



Начальнікам штаба злёту быў Маршал Савецкага Саюза І. С. Конеў.

Жывы сведка гераічных падзей — геолаг Самвел Матэвасян. Дваццаць гадоў назад ён быў салдатам. Сёння — экскурсавод.






Турысцкія чайнікі былі скарыстаны для іншай мэты...

На другі дзень злёту ў тры гадзіны раніцы завыла сірэна. Быў узноўлен трывожны голас дыктара, які паведамляў пра пачатак вайны. І калі пры святле пражэктараў турысты пайшлі па месцах баёў, калі з імі зноў і зноў сустракаліся абаронцы крэпасці, усё было так, як тады, у першую раніцу вайны. Толькі не грымелі выбухі, не лілася кроў. Над галавой было спакойнае асенняе неба, і ў ім — чырвоныя сцягі.





У абаронца Брэсцкай крэпасці Аляксандра Саніна бярэ інтэрв'ю студэнтка Мазырскага педагагічнага інстытута Валя Маркевіч. Хутка яна будзе абараняць курсавую работу, якая называецца «Гераічная абарона Брэсцкай крэпасці».



Жыццё турыстаў праз усе дні злёту было разнастайным: шмат цікавых сустрэч, пасяджэнні клубаў, спаборніцтвы. Нават — пераправа па канаце праз крэпасны роў.



Усё тут было імправізаванае, як у паходзе. І сталоўка.

Хлапчукі з Ліпецкага клуба юных турыстаў назвалі сябе «Неунывакі». Семдзесят хлопцаў прайшлі па роднай зямлі 350 кіламетраў.





Пад вечар у вольны час гучалі турысцкія песні. Сярод дэлегатаў быў самадзейны кампазітар з Ленінграда Віктар Гарадніцкі (у цэнтры).

На развітанне ад факелаў гарадоў-герояў запаліўся вечны агонь на Цэнтральнай плошчы крэпасці. На тым самым месцы, дзе будзе збудаваны манумент у гонар гераічнай абароны. Перад абаронцамі цытадэлі ўдзельнікі злёту пакляліся быць вартымі тых, хто загінуў дзеля выратавання Радзімы, дастойнымі сынамі бацькоў-герояў.





Уладзімір Мяжэвіч. Майстар ласункаў.

## НА КОНКУРС «ВОБРАЗ МАЛАДОГА СУЧАСНІКА»





# ЭСТАФЕТА БЕЗ ФІНІШУ




Міхаіл Крываносаў і Уладзімір Амвросьеў.

Эстафетная палачка важыць сто пяцьдзесят грамаў. Але ні адзін бягун, які чакае перадачы, не думае пра гэта. Яна, практычна, бязважкая ў тыя секунды, калі ты сціскаеш яе ў пальцах на бягу і калі яна з тваёй далоні пераходзіць у сябраву руку.

А што вы скажаце пра эстафету вагою ў сем з палавінай кілаграмаў?! Ды і каму прыйдзе ў галаву бегчы з такім цяжарам! І тым не менш, гэтая эстафета існуе. Яна як бы нябачна пераходзіць з рук у рукі ад аднаго беларускага спартсмена да другога. Старт ёй быў дадзены трынаццаць гадоў назад. Пачалося гэта так...

Міша Крываносаў, рослы, дужы хлопец, паступаў у беларускі інстытут фізкультуры. Апрача дакументаў, якія былі неабходны для паступлення, у яго ў кішэні ляжала запіска дырэктара тэхнікума, дзе ён вучыўся, да выкладчыкаў інстытута: «Звярніце ўвагу на гэтага юнака. Ці не выйдзе з яго кідальнік?»

Міша і не думаў, што гэта вызначыць яго прызванне. Ён спрабаваў сілы ў лыжах—атрымлівалася. Заняўся плаваннем, потым барацьбой, гуляў у валейбол. Але больш настойлівымі аказаліся выкладчыкі Сямён Іванавіч Гетманец і Яўген Міхайлавіч Шукевіч, якія захапілі хлопца лёгкай атлетыкай. Міша штурхаў ядро, кідаў дыск, іншы раз браўся і за молат. Навічкі кідалі снарад на баскетбольнай пляцоўцы. Ім хапала яе прасторы. А ў Крываносава молат палацеў так далёка, што ўрэзаўся ў сцяну суседняга дома. На шчасце, усё абышлося добра.

З першых жа практыкаванняў Міхаіл Крываносаў наблізіўся да рэспубліканскага рэкорда. Але асабліва захапляцца не было падставы. Рэкорд трымаўся яшчэ з даваенных год і быў невысокі. Асвоіўшы кіданне з двух паваротаў, Міхаіл пабіў яго лёгка, без напружання. Лічбы ўсё ж варта запомніць: першы рэкорд Крываносава—42 метры 91 сантыметр. Гэта было ў 1950 годзе.

Праз год, упершыню выступаючы на чэмпіянаце краіны, Міхаіл пабіў сваё дасягненне. Ён быў уключаны кандыдатам у зборную каманду краіны, якой прадстаяла дэбютаваць на алімпійскіх гульнях у Хельсінкі, як дыскабол.

Алімпійская каманда лёгкаатлетаў рыхтавалася да сезону на чарнаморскім узбярэжжы Каўказа. Іншы раз Міхаілу ўдавалася і там узяць у рукі молат. Але за гэта «асілкі-малатабойцы» бралі з яго своеасаблівую «арэндную плату». Трэніроўкі адбываліся на аэрадроме, бо спецыяльнага поля не было, і Міхаіл павінен быў насіць туды і назад паўпудовы снарад.

Там жа адбылася першая сустрэча Крываносава з алімпійскім чэмпіёнам, венграм Імрэ Неметам. Немет кідаў молат за шэсцьдзесят метраў, а Міхаіл павінен быў падносіць снарад чэмпіёну. Вядома, той не падазраваў, што гэты сціплы хлопец здолее неўзабаве перамагчы яго, як, між іншым, і Міхаіл тады не думаў пра гэта.

Чаму ж молат так захапляў Крываносава? Хутчэй за ўсё — сваёй незвычайнасцю: гэта самы цяжкі з усіх легкаатлетычных снарадаў і адзіны, які кідаюць абедзвума рукамі, не лічачы мала папулярнай «вагі».

Адборачныя спаборніцтвы дыскаболаў не абяцалі Крываносаву пуцёўкі ў Хельсінкі. Ён застаўся чацвёртым, а на алімпіяду ехала трое. Тады з'явілася думка выкарыстаць апошнюю магчымасць. Міхаіл папрасіў, каб яго дапусцілі да спаборніцтваў у кіданні молата. І выйграў іх.

Ля ўваходу на стадыён у Хельсінкі ўзвышаецца тонкая і прамая, як іголка, вежа. Вышыня яе — 71 метр 26 сантыметраў. Яна ўстаноўлена ў гонар фінскага кідальніка Матці Ярвінена — іменна столькі праляцела яго кап'ё. Вежа нібы напамінала ўдзельнікам XV алімпіяды: змагайцеся, дзярзайце, штурмуйце рэкорды!

Міхаілу шмат разоў прыгадвалася гэтая вежа. І тады, калі тры разы запар ён няўдала кінуў молат, не трапіўшы ў шасцёрку алімпійскіх фіналістаў, і пасля, калі яго молат спыняўся на рэкордным рубяжы. Палёт снарада цягнецца імгненне, але колькі для гэтага трэба папрацаваць! З соцень і соцень трэніровак складваецца рэкорд.

Увосень таго ж 1952 года алімпійскі няўдачнік упершыню стаў чэмпіёнам краіны. Для многіх гэта здалося нечаканасцю. Для многіх, але не для самога Міхаіла і яго трэнера Я. М. Шукевіча. Паўтара месяца — ад алімпійскіх гульняў да першынства СССР — Міхаіл літаральна не расставаўся са снарадам, нават спаў з молатам пад падушкай. На трэніроўках ён, не стамляючыся, завіхаўся са снарадам, асвойваючы самае цяжкае — тэхніку, рытм, тэмп паваротаў. Зрэдку без асаблівых намаганняў выпускаў молат з рук і толькі ў канцы трэніроўкі дазваляў сабе кінуць яго на поўную сілу. Молат ляцеў усё далей.

Ці варта пералічваць усе перамогі Міхаіла Крываносава? Іх шмат. Пяць год падрад ён не ведаў паражэнняў на чэмпіянатах Савецкага Саюза, адзінаццаць разоў устанаўліваў рэкорды СССР і шэсць разоў сусветныя. Роўных яму па майстэрству ў той час не было.

За год да XVI алімпіяды Міхаіл Крываносаў пазнаёміўся з новым сваім сапернікам, праўда, пакуль завочна. У часе міжнародных спаборніцтваў у Белградзе ён сустрэўся з амерыканскімі спартсменамі, і тыя паведамілі, што ў іх на радзіме вельмі настойлівы і здольны кідальнік Гарольд Коналі кінуў молат за 63 метры. Міхаіл тады ж паслаў паштоўку Гарольду, павіншаваў з поспехам і пажадаў новых дасягненняў. Неўзабаве ў Мінск прыйшоў адказ. Амерыканскі спартсмен дзякаваў за віншаванне. Ён выказваў сваё захапленне рэкордамі Крываносава, паведамляў, што вывучае яго тэхніку і стараецца выкарыстаць яе.

**Рамуальд Клім** (чацвёрты злева) **і яго трэнер Яўген Міхайлавіч Шукевіч** (пяты злева).





**Аляксей Балтоўскі.**

Яны сустрэліся на алімпіядзе ў Мельбурне, незнаёмцы, якія добра ведалі адзін аднаго. Напярэдадні алімпійскіх стартаў Міхаіл рашуча атакаваў рэкорды. Менш чым за месяц да ад'езду ў Аўстралію ён кінуў молат на 67 метраў 32 сантыметры — далей за ўсе свае ранейшыя рубяжы. А ўжо ў самалёце даведаўся, што Коналі кінуў молат на метр далей. Гэты рэкорд не быў зацверджаны — выявілася нейкае парушэнне правіл. У кожным разе, амерыканец на ўвесь голас аб'явіў, што выклік прыняты.

Алімпійскі паядынак прынёс Міхаілу другое месца. Гэта быў поспех — ніколі яшчэ нашы легкаатлеты не мелі медаляў у гэтым відзе кідання, ніколі яшчэ ў Беларусі не было алімпійскага срэбра. Але гэта было і паражэнне, таму што першым усё ж стаў Коналі.

Поспехі Крываносава выклікалі паломніцтва моладзі ў школу Шукевіча.

Аднойчы на заняткі «малатабойцаў» прыйшоў плячысты хлопец у салдацкай форме. Папрасіў дазволу кінуць молат. Зняў гімнасцёрку і, як быў у ботах, увайшоў у круг. Кінуў. Шукевіч і Крываносаў пераглянуліся. Тэхніка ў хлопца была прымітыўная, але затое — якая сіла!

Гэтым навічком быў Васіль Рудзянкоў, слесар чыгуначнага дэпо станцыі Жлобін. Яшчэ ў рамесным вучылішчы ён захапляўся лёгкай атлетыкай. Шаснаццацігадовым юнаком, каб выручыць каманду вучылішча, Васіль згадзіўся кінуць молат. Снарад паляцеў на 23 метры. Незвычайнае адчуванне яму спадабалася: цяжкі металічны шар спачатку не слухаўся, а потым сам набіраў хуткасць і вырываўся з рук. Праз год, заканчваючы вучылішча, Рудзянкоў ужо кідаў молат на 40 метраў. Служба ў арміі прывяла яго ў Мінск і памагла сустрэцца з Шукевічам. Васіль стаў трэніравацца разам з Крываносавым.

Потым Васіль Рудзянкоў успамінаў: «Зарубежны друк называе Гарольда Коналі «каралём молата», а для мяне Міхаіл Крываносаў — быў больш, чым «кароль»...»

Летам 1956, алімпійскага, года Рудзянкоў упершыню паслаў снарад за 60 метраў. Адбылося гэта ў Мінску. А ўвосень яго па службе перавялі ў Маскву. І ў сталіцы ён трымаў сувязь са сваімі настаўнікамі Я. Шукевічам і А. Журыным, строга выконваў распрацаваныя імі трэніровачныя планы, выконваў іх парады.

Васіль марыў выступіць у чэмпіянаце Еўропы. Але ў каманду трапілі больш спрактыкаваныя «малатабойцы» — Міхаіл Крываносаў і Анатоль Самацветаў. Чэмпіёнам кантынента стаў паляк Тадэуш Рут.

Няўдачы таварышаў нібы падагналі Рудзянкова. Увосень таго ж года ён выйграў камандны чэмпіянат краіны з асабістым рэкордам — 64 метры 11 сантыметраў. А наступны год прынёс яму цэлы каскад поспехаў: званне чэмпіёна Спартакіяды народаў СССР перамогі ў матчах СССР — ФРГ, СССР — Вялікабрытанія, РСФСР — Польшча і, самае галоўнае, у матчы СССР — ЗША над непераможным Коналі. Цяпер стала ясна, што праз год на Рымскай алімпіядзе галоўнымі прэтэндэнтамі на залаты медаль стануць Коналі і Рудзянкоў.

У Рым Васіль прыехаў уладальнікам рэкорда краіны — 68 метраў 27 сантыметраў. Ён уважліва назіраў за сапернікамі. А тыя вялі на яго «псіхічную атаку» — размовамі пра завышаныя вынікі амерыканцы хацелі запалохаць нашага кідальніка. Рудзянкоў ведаў, чаго варты гэтыя размовы. Але яму было вядома і іншае: Коналі вельмі дужы, валявы атлет, бо здолеў перамагчы нават прыродны недахоп — у Гарольда ж левая рука крыху карацейшая. Іншы раз было відаць, як пакутаваў ён часам ад болю пры кіданні молата.

Паядынак у Рыме не атрымаўся. Яшчэ ў кваліфікацыйных спаборніцтвах Рудзянкоў сваім вынікам — 67 метраў 3 сантыметры — вывеў сапернікаў з раўнавагі. Коналі не вытрымаў напружання барацьбы і застаўся за рысай фіналістаў. А Рудзянкоў не выпускаў ініцыятывы і адразу захапіў лідарства ў спаборніцтвах. А калі чэмпіён Еўропы Рут здолеў на чатыры сантыметры палепшыць свой вынік, Васіль паказаў яшчэ больш выдатны — 67 метраў 10 сантыметраў. Так мельбурнскае срэбра Крываносаваператварылася ў рымскае золата Рудзянкова.

У Шукевіча быў яшчэ адзін вучань — Рамуальд Клім. Высокі і хударлявы, ён спачатку захапляўся... спартыўнай хадзьбой. Трэнеру давялося пакласці нямала сілы, каб схіліць яго на перакваліфікацыю. У 1955 годзе, калі Крываносаў ставіў свае рэкорды, Рамуальд упершыню кінуў молат на 43 метры 47 сантыметраў, пасля года трэніровак — на 54 метры. А далей павялічваў пакрысе — па метру-два ў год. У 1957 годзе Рамуальд стаў майстрам спорту. У ім бачылі толькі «серадначка», з тых, якія не падводзяць каманду, але і асаблівых лаўраў не прыносяць.

Пасля таго як Рамуальд заваяваў бронзавы медаль на III Спартакіядзе народаў СССР, яго ўключылі ў зборную краіны. Зімой Рамуальд не ведаў спачыну. Ён паднімаў штангу, гіры, бегаў, скакаў і кідаў молат бясконца. У мароз, у дождж, у імжу... У Токіо могуць ехаць толькі трое, а ён у спісе — шосты...

Алімпійскі год сапраўды можа быць названы годам подзвігу Рамуальда Кліма. За сезон, з вясны да позняй восені, ён звыш дваццаці разоў выступаў у спаборніцтвах і прайграў усяго адно першынство СССР. Мала хто ведаў, што Рамуальд выступаў не зусім здаровы. Але гэтага паражэння было дастаткова, каб яго шанцы на пуцёўку ў Токіо пахіснуліся. Тады Рамуальд адказаў справай: праз тыдзень пасля чэмпіянату краіны ён паставіў усесаюзны рэкорд. Сумненні адпалі.

Але сіла інерцыі яшчэ дзейнічала. За месяц да алімпіяды ў часопісе «Лёгкая атлетыка» дзесяць спецыялістаў з розных краін выказвалі свае меркаванні пра магчымага пераможцу ў Токіо, і толькі чацвёра назвалі Кліма — спартсмена, які, па сутнасці, у алімпійскім годзе не ведаў паражэнняў. Рамуальд жа ехаў у краіну ўзыходзячага сонца з адным жаданнем — заваяваць першае месца.

У Токіо паўтарылася многае, што было ў Рыме. Зноў размовы: «Коналі кідае на трэніроўках за 72...» Рамуальд толькі ўсміхаўся сам сабе: «Ведаем, чулі яшчэ ў Лос-Анжэласе перад матчам з амерыканцамі... Там ён таксама кінуў за 71. А перамагчы не здолеў...»

Барацьба ішла на самым высокім узроўні. Выпрабоўвалася не толькі майстэрства, але і нервы. Коналі адразу рынуўся ў атаку. У кваліфікацыйных спаборніцтвах ён абышоў Кліма. Увечары ішла асноўная барацьба за медалі, за званне алімпійскага чэмпіёна. Клім быў трэці. У другой серыі кідання яго абыходзіць Юры Нікулін. Але вось фінал, і Рамуальд адразу нібы забівае цвік па самую плешку — 69 метраў 74 сантыметры! Новы ўсесаюзны і алімпійскі рэкорд! Пераўзысці яго не здолелі ні Жывоцкі, ні Бейер. Коналі са сваім папярэднім вынікам — 66 метраў 65 сантыметраў — застаўся на шостым месцы.

Рамуальд Клім прывёз з Токіо залаты медаль, выкаваны сваімі рукамі, сваім молатам.

У кожнага спартсмена ёсць жорсткі і няўмольны вораг — узрост. З ім можна змагацца доўга, але рана ці позна ён усё ж перамагае. Каму ж перадасць эстафету алімпійскі чэмпіён — Рамуальд Клім?

Сёлета ў Мінску праходзіла Усесаюзная спартакіяда школьнікаў. Галоўным суддзёй спаборніцтваў па лёгкай атлетыцы быў Міхаіл Крываносаў. «Малатабойцы» выступалі на другім стадыёне. Крываносаў раз-пораз забягаў у судзейскі пакой і з хваляваннем пазіраў на тэлефон. Але апарат маўчаў, і — раптам...

— Віншую, Міхаіл Пятровіч! — кінуўся яму насустрач Афган Сафараў, заслужаны трэнер СССР, выхавацель азербайджанскіх лёгкаатлетаў: — Твой хлопец — першы!..

Чэмпіёнам краіны сярод школьнікаў стаў у той дзень вучань Крываносава — Валодзя Амвросьеў. Ён заваяваў другі ў сваім жыцці залаты медаль. Першы быў — за выдатнае заканчэнне сярэдняй школы.

Другое месца ў гэтых спаборніцтвах заняў Вася Хмялеўскі — хлопец дужага складу, выхаванец трэнера Уладзіміра Жаркоўскага са Шчучынскай дзіцячай спартыўнай школы.

Шасцёрку фіналістаў замкнуў Пеця Зайцаў — школьнік з Віцебска. Яго вучыў алімпійскі чэмпіён Рамуальд Клім.

...Эстафета ідзе без фінішу. Гэта вельмі добрая прыкмета. Расце змена сапраўдных асілкаў. Тыя, хто стварыў школу беларускіх кідальнікаў молата, хто пракладваў першыя шляхі, хто здабыў ёй сусветную славу, могуць смела перадаваць ім эстафету.

**Міхаіл СУПАНЕЎ.**
**Фота Д. Церахава.**



**Васіль Хмялеўскі.**

**Пятро Зайцаў.**



# МАРКІ АБАРАНЯЮЦЦА

На пытанне, чаму паштовыя маркі друкуюць у некалькі колераў, амаль кожны чалавек толькі пацісне плячыма і адкажа, што шматколерная марка проста-такі прыгажэйшая, чым аднаколерная. Аднак гісторыя развіцця паштовых марак сведчыць, што друкаваць у некалькі колераў іх пачалі не дзеля прыгажосці. А чаму? Вось пра гэта і пойдзе размова.

У Расіі паштовыя маркі з'явіліся ў 1858 годзе. Яны значна аблегчылі працу паштовага ведамства. Гэта навяло на думку пашырыць сферу скарыстання марак. Улетку 1875 года былі ўведзены гербавыя маркі.

Аднак неўзабаве высветлілася, што царскім чыноўнікам яны прынеслі вялікія непрыемнасці. Усё пачалося з таго, што Дэпартамент неабкладных збораў Міністэрства фінансаў зрабіў падлік сумы збораў у дзяржаўную казну ад продажу паштовых і гербавых марак. Вынікі гэтага падліку ашаламілі нават самых паважных саноўнікаў: выявілася, што паштовымі і гербавымі маркамі аплачана значна больш пісьмаў і дакументаў, чым было выпушчана марак. Правялі расследаванне, і прычына была знойдзена: адны і тыя ж паштовыя і гербавыя маркі ўжывалі двойчы і тройчы! Гэта можна было рабіць таму, што «гасілі» маркі, проста перакрэсліваючы іх чарнілам. Нядобрасумленныя людзі карысталіся такою нагодаю. Неўзабаве дачуліся, што існуюць нават «кампаніі» па збору і скупцы ўжо выкарыстаных марак, чарніла на якіх па-майстэрску вытручвалася і маркі зноў пускаліся ў продаж.

У выніку такіх махінацый толькі за адзін год казна панесла страты на некалькі соцень тысяч рублёў.

Што рабіць? У Дэпартаменце неабкладных збораў нічога прыдумаць не змаглі, папярэдзілі толькі паліцыю і вырашылі праверыць у наступным годзе колькасць марак, пушчаных у продаж, і колькасць іх на паштовых дакументах. І выявілася, што колькасць марак паўторнага абарачэння катастрафічна ўзрасла. Было ясна — справа ў злачынцаў пастаўлена на шырокую нагу, яны заграбаюць шалёныя грошы за кошт дзяржавы. Трэба было нешта рабіць...

У 1877 годзе Дэпартамент неабкладных збораў звярнуўся ў Экспедыцыю дзяржаўных папер (дзе друкаваліся грашовыя знакі, маркі паштовай і гербавай аплаты) з просьбай надрукаваць новыя маркі, на якіх немагчыма было б вытручваць знакі «гашэння». Экспедыцыя ўзялася за справу з вялікім нездавальненнем (трэба ж было распрацаваць новы гатунак паперы, новыя фарбавальнікі і г. д.) і ўрэшце адмовілася ад заказу на той падставе, што, маўляў, вытручванне чарніла немагчыма зрабіць без прыкметнага парушэння колеру маркі, а значыць, новых марак рабіць не трэба.

І ў Расіі карысталіся старымі маркамі, год ад году несучы ўсё большыя страты ад паўторнага іх абарачэння. Да пачатку васьмідзесятых гадоў мінулага стагоддзя страты настолькі ўзраслі, што далей маўчаць было нельга. Экспедыцыя дзяржаўных папер атрымала ад царскага ўрада заданне тэрмінова распрацаваць і надрукаваць новыя паштовыя і гербавыя маркі. На гэты раз былі распрацаваны і новыя фарбавальнікі і новая тэхналогія вырабу марак. У 1883 годзе Экспедыцыя пачала выпуск новых марак. Усе маркі сталі выпускаць на паперы зеленаватага адцення, якая, на думку хімікаў, не дазволіць ужываць хімічныя растворы для вытручвання знакаў гашэння без рэзкай змены колеру. Дэпартамент неабкладных збораў быў задаволены — злачынцы цяпер вымушаны спыніць сваю дзейнасць! Але радасць была заўчасная — колькасць новых марак з вытручанымі знакамі «гашэння» і паўторна наклееных на паштовыя адпраўленні і дзяржаўныя дакументы не толькі не зменшылася, а нават павялічылася. Злачынцы рабілі вытручванне на новых марках гэтак жа лёгка, як і на старых. Зноў узнікла пытанне: што рабіць? Распрацоўваць новыя маркі? Але гэта зноў велізарныя выдаткі! І ці будзе карысць з гэтага? Трэба, мусіць, шукаць іншыя шляхі. Вырашылі «гашэнне» рабіць не чарнілам, а з дапамогаю спецыяльнага штэмпеля, друкарскаю фарбаю. Зрабілі вялікую колькасць штэмпеляў, разаслалі ва ўсе паштовыя ўстановы. Вырашылі, што цяпер злаўмыснікі пераможаны. Аднак прайшло не так многа часу, і Дэпартамент неабкладных збораў вымушаны быў перакапацца, што друкарскую фарбу злачынцы вытручваюць з марак вельмі ўмела, у кожным разе няўзброеным вокам нічога не прыкмеціш.

І пачалося своеасаблівае спаборніцтва хімікаў спецыяльнай лабараторыі са злачынцамі. Шмат штэмпельных фарбаў рознага хімічнага саставу перабралі хімікі, многія з фарбаў пабывалі і ў паштовых аддзяленнях, але зноў чыноўнікі пераконваліся, што злачынцы вытручваюць фарбы, як і раней, не пакідаючы прыкметнага для вока следу.

Нарэшце звярнуліся ў Міністэрства замежных спраў, прасілі даведацца, як змагаюцца з паўторным выкарыстаннем марак у Англіі, Францыі і іншых краінах. Высветлілася, што і там існуе паўторнае выкарыстанне марак і надзейных сродкаў барацьбы з ім няма.

Думка «гасіць» маркі механічным шляхам пры дапамозе спецыяльнага прабівальніка (згадзіліся нават з тым, што такі спосаб будзе псаваць дакумент) зноў-такі аказалася нерэальнай з-за дарагавізны вырабу вялікай колькасці штэмпеляў. Тады зноў звярнуліся да ранейшай прапановы пазбавіцца ад махінацый злачынцаў: вынайсці новы спосаб друкавання паштовых і гербавых марак.

Праектаў было шмат. Так, нейкі Дзікоўскі прапанаваў рабіць «гашэнне» спецыяльна вынайдзенай ім фарбаю, якую, як ён сцвярджаў, нічым не вытруціш. Фарбу даследавалі, але... і яна не пакідала на марках ніякага следу ад шмат якіх хімікатаў.

Атрымалі ліст ад памочніка аптэкара Розенбліта. Ён сцвярджаў, што фарба, вынайдзеная ім, фенаменальная, трывалая, вечная. Зрабілі пробу — вынік быў той жа, што і раней.

Пасля шматлікіх і няўдалых спроб знайсці адпаведную фарбу вырашылі аб'явіць адкрыты конкурс па вынаходніцтву любога, але задавальняючага спосабу «гашэння» марак. У 1889 годзе ў газеце «День» была надрукавана спецыяльная аб'ява. Усе прапановы старанна вывучылі, але нічога так і не знайшлі.

І вось тады звярнуліся да буйнейшага рускага вучонага-хіміка Дзмітрыя Іванавіча Мендзялеева. 23 красавіка 1890 года яму паслалі спецыяльнае пісьмо. Рашэнне звярнуцца да Мендзялеева было не выпадковым. Справа ў тым, што яшчэ раней Дзмітры Іванавіч памог вырашыць адно з адказнейшых пытанняў, якім займалася Экспедыцыя дзяржаўных папер: спатрэбілася звыштэрмінова распрацаваць спосаб вырабу такой паперы для чэкаў, якую ні ў якім разе нельга было б падрабіць. Гэта вылічана было тым, што за некалькі дзён у буйнейшых банках Пецярбурга па падробленых чэках хтосьці атрымаў вельмі вялікія сумы грошай. Нягледзячы на занятасць, вучоны згадзіўся памагчы. Дарэчы, ён зусёды рабіў так, калі бачыў, што яго вопыт і веды сапраўды патрэбны людзям. Папера для чэкаў была зроблена Мендзялеевым і яго вучнямі ў майстэрнях Экспедыцыі.

Вось і цяпер ратунку чакалі толькі ад вялікага хіміка. Дзмітры Іванавіч даў згоду, папрасіў падрыхтаваць узоры марак з вытручаным «гашэннем», фарбы, якія ўжываліся для штэмпялёўкі, і падрабязна азнаёміць яго з працэсам друкавання марак. Можна ўявіць сабе хваляванне супрацоўнікаў Экспедыцыі, калі пасля падрабязнага азнаямлення з усім, што было зроблена да гэтага, Мендзялееў павінен быў даць адказ! Было ж выпрабавана, здаецца, усё, што толькі магчыма. Столькі год дамагаліся здавальняючых вынікаў! Столькі фарбаў выпрабавалі! Што прапануе вялікі вучоны?!

Але Дзмітры Іванавіч нездарма лічыўся вялікім хімікам. Велізарнейшы вопыт і навуковая інтуіцыя памаглі

яму прыняць адзіна правільнае, зусім нечаканае і вельмі простае, як усё геніяльнае, рашэнне. Маркі трэба друкаваць двума фарбамі! Прысутныя доўга не маглі супакоіцца — як жа не дадумаліся яны самі да такога простага і на дзіва дасканалага вываду?

Пачаўся бурны перыяд працы Экспедыцыі. Гравіраваліся новыя клішэ, падбіраліся фарбы, рабілася падрыхтоўка машын для двухколернага друкавання. Усё гэта ішло такімі хуткімі тэмпамі, што ўжо 19 мая 1890 года Экспедыцыя паведаміла Дэпартаменту неабкладных збораў, што праведзенае па прапанове Д. І. Мендзялеева друкаванне марак дзвюма рознымі фарбамі дало патрэбныя вынікі і што гравіроўка пробнай маркі заканчваецца.

Настаў нарэшце дзень, калі ўсё было гатова. Надрукавалі першыя маркі. Вось маркі заштэмпеляваны. Пачалася праверка «гашэння» ўсімі вядомымі хімікатамі. Ура! — на марках ва ўсіх выпадках утвараюцца выразна бачныя расплывы! Нарэшце знойдзены спосаб абароны марак ад злачынцаў! Такая, коратка, гісторыя друкавання шматколерных марак.

**Андрэй ДУЛАЎ.**

●●●

# НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ЗВЫЧАІ



**«ВЫСТАЎЛЕННЕ Д'ЯБЛА»**

Гэта абавязковы элемент нацыянальнага свята Калумбіі — Дня грамадзяніна». У разгул свята ўвечары ў вёсках, гарадах, сталіцы Калумбіі — Богаце наладжваецца традыцыйная працэсія. Узначальвае яе экзатычная постаць «д'ябла» ў доўгім чырвоным балахоне і чорнай масцы з рагамі і пашчаю. Вакол «д'ябла» танцуе «штучная карова» — двое мужчын у маскарадным касцюме з хвастом і рогамі. За імі ідзе натоўп людзей у ярка размаляваных масках — тут і чарцяняты, і драконы, і гідальга ў плашчах са шпагамі, і дуэнні з віёламі, і астролагі з падзорнымі трубамі. Усе яны ўзброены бычынымі пухірамі, і кожнага цікаўнага гледача (а іх збіраюцца тысячы) б'юць гэтымі пухірамі па галовах. Звычайна, удары не прычыняюць болю. Равуць трубы, барабаняць барабаны. У небе палыхаюць ракеты, гулянка на чале з «д'яблам» доўжыцца цэлую ноч...

**Я. ЦЭРКОВЕР.**




**пад рэдакцыяй**
**міжнароднага гросмайстра**
**Аляксея СУЭЦІНА**

# РАСЦЕ ЗМЕНА

Усё больш відавочным становіцца тое, што на змену нашай праслаўленай пляядзе гросмайстраў выходзіць новае пакаленне шахматыстаў. Пра гэта сведчаць хоць бы адборачныя матчы прэтэндэнтаў. На вялікі жаль, барацьбу за сусветную шахматную карону павінны былі спыніць такія карыфеі шахмат, як П. Керас, В. Смыслоў, Я. Гелер і М. Батвіннік, якія, дарэчы, добраахвотна адмовіўся ад сваіх прэтэндэнцкіх правоў.

Звычайна, з найбольшай цікавасцю аматары шахмат сочаць за імёнамі маладых гросмайстраў. Зусім нядаўна імі былі выхаванцы савецкай шахматнай школы, цяпер прэтэндэнты на сусветнае першынство — Барыс Спаскі і Міхаіл Таль. Першы атрымаў званне гросмайстра ў васемнаццаць гадоў, другі — у дваццаць. Вельмі рана — у шаснаццаць гадоў — атрымаў званне гросмайстра амерыканец Роберт Фішар.

Зусім нядаўна, улетку, на міжнародным турніры ў Марыянскіх Лазнях загаварылі пра маладога чэхаславацкага шахматыста Властыміла Горта. Яму дваццаць адзін год, вучыцца ў Пражскім дзяржаўным універсітэце. Власціміл роўна і вельмі моцна правёў увесь турнір і падзяліў першае і другое месцы з савецкім гросмайстрам, ветэранам нашых шахмат Паулем Керасам, тым самым намнога перавысіўшы гросмайстарскі нарматыў. Ён цяпер — самы малады па ўзросту міжнародны гросмайстар.

В. Горт — шахматыст пазіцыйнага стылю з развітым стратэгічным шахматным «густам». Ён выдатна і хладнакроўна вядзе абарону ў самых «сумных» сітуацыях. Не па гадах умелы і ў шахматным аналізе.



Власціміл мае ўжо немалы шахматны вопыт: выдатна зарэкамендаваў сябе на трох апошніх Сусветных шахматных алімпіядах у Лейпцыгу, Варне і Тэль-Авіве. Спартыўны гонар зборнай Чэхаславакіі на алімпіядах Горт пачаў абараняць з пятнаццацігадовага ўзросту. Ён, бясспрэчна, асноўная надзея чэхаславацкіх шахмат, варты пераемнік гросмайстраў Л. Пахксана і М. Філіпа.

Зусім нядаўна (на міжнародным

турніры ў Сараеве) мне давялося блізка пазнаёміцца і пасябраваць з Власцімілам Гортам. Інтарэсы Горта выходзяць далёка за межы шахматнага майстэрства. Ён вельмі сур'ёзны, рознабакова развіты чалавек, навучанне на факультэце эканомікі лічыцца ім не менш важным, чым бітвы на шахматнай дошцы. Мара юнага гросмайстра — стаць доктарам эканамічных навук.

У шахматнай барацьбе Горт перш за ўсё — добры псіхолаг. Успамінаецца такі выпадак. Власціміл вельмі хацеў, каб перамога ў турніры дасталася мне (сам ён быў не ў лепшай спартыўнай форме і задаволіўся сёмым месцам). Перад апошнім турам мне ўдалося апярэдзіць на паўачка асноўных канкурэнтаў — Л. Палугаеўскага і М. Матуловіча, якія павінны былі гуляць паміж сабою. Горт параіў: «Увесь турнір Вы рызыкавалі і гулялі кожную партыю на выйгрыш. Звядзіце апошнюю (з нямецкім майстрам Б. Маліхам) хуценька на нічыю: пасля гэтага вашым канкурэнтам псіхалагічна будзе вельмі цяжка пайсці на рызыку!»

Прагнозы Горта поўнасцю спраўдзіліся: ніхто з маіх канкурэнтаў не здолеў пераадолець псіхалагічнага рубяжа рызыкі, і іхнія сустрэчы таксама закончыліся ў нічыю. Такім чынам у табліцы атрымаўся неабходны інтэрвал. Як у тым жарце гросмайстра Сало Флора: «Люблю быць уперадзе на паўачка пасля ...заканчэння турніру...»

Власціміл Горт вельмі дапытлівы, цікаўны. Любіць ён прыязджаць у нашу краіну і не раз ужо быў у Маскве. Марыць наведаць і другія гарады Савецкага Саюза, у тым ліку і Мінск. А пакуль што я рэгулярна адсылаю яму памятныя паштоўкі з відамі Мінска, і яны яму вельмі падабаюцца.

Поспех В. Горта — сведчанне бурнага росквіту шахматнага майстэрства ў краінах сацыялістычнага лагера. Ён — першая ластаўка пасляваеннага пакалення. Будуць неўзабаве і другія гросмайстры, узрост якіх вызначаецца не больш чым двума дзесяткамі гадоў. Гэта — румынскі шахматыст Г. Георгіу, чэхаславацкі майстар Л. Кавалек і многія іншыя. Пажадаем поспеху нашым сябрам па шахматнай зброі!

У чытачоў можа ўзнікнуць слушнае пытанне: «А дзе ж нашы юныя гросмайстры?» Так, іх не відаць пакуль што. Але нельга забываць, што «заўсёды маладыя» нашы ветэраны, і яны не хочуць добраахвотна саступаць свае пазіцыі. Сапраўды ж, узрост у савецкіх шахматыстаў мае нейкія іншыя, свае асаблівасці...

# ЖУРНАЛІСТ ПЕРАМОГ ГРОСМАЙСТРА

На апошнім вялікім міжнародным шахматным турніры, прысвечаным памяці вызвалення ад фашызму, сенсацыйнай была сустрэча лепшага гросмайстра Югаславіі С. Глігорыча з вядомым шахматыстам і журналістам па спартыўных тэмах В. Янашэвічам.

Янашэвіч рэдка гуляе ў шахматы на турнірах. Спецыяльнасць яго — «быць шахматным крытыкам». Натуральна, шмат піша ён і пра С. Глігорыча. Магчыма, якраз гэта дапамагло ўжыць у партыі з Глігорычам такія хады, якія закранаюць найбольш слабыя месцы ў творчасці гросмайстра.

Даём гэту партыю.

Янашэвіч — Глігорыч. Венская партыя. 1. e4 e5, 2. Кc3 Кf6, 3. f4 d5, 4. fe К:e4, 5. Кf3 Сe7, 6. Фe2 (Незвычайны выбар старога, амаль забытага дэбюту. Але зусім зразумелае імкненне Янашэвіча аддаліцца ад сучасных сістэм, якія дасканала вывучаны Глігорычам.)

6. ...К: c3, 7. dc 00, 8. Сf4 c5, 9. 000 Кc6, 10. c4 d4, 11. Фa4 Лe8, 12 h4 g6, 13. a3 Сf5, 14. Фe1 f6, 15 Фg3 fe, 16. К : e5 К : e5, 17. С : e5 Сf6, 18. Сf4 Фe7, 19. Сd3 С : d3, 20. Л : d3 b5, 21. h5! (Сігнал да рашаючай атакі.) bc, 22. Лf3 c3, 23. hg h5, 24. Сd6 Фe6, 25. Крb1 Лad8, 26. Сc5 Лd5, 27. Фc7 Лd7, 28. Фf4 Лb7, 29. b4 Сg7, 30. Фg5 Фe5, 31. Лf5 Фe2, 32. Лd5 Лbb8, 33. Лd7 Лe5, 34. Фf4 Фc4, 35. Лg7!

Чорныя здаліся.



Усмешкі маладосці

Віктар ДАЙЛІДА

# ЛАЗНЯ

ГУМАРЭСКА

Мал. А. ЧУРКІНА.

Жыта сёлета зарадзіла ў нашым калгасе — ці возьме і камбайн! Старшыня Максім Мікалаевіч Гарошына, нізенькі, тоўсценькі чалавек, пад'едзе, часам, на сваім «масквічы» да палетка, зніме капялюш і, пагладжваючы ніштаватую лысіну, толькі ўсміхаецца.

Неўзабаве настала жніво. Эх, і клопатаў было калгаснікам! Механізатары дык прасветлай гадзіны не мелі. То жнуць, то малоцяць, а шафёры ледзь упраўляліся машынамі адвозіць збожжа. У людзей засекі перапоўніліся ад заробленага на працадні. Нават дзед Шпунт, які летам у самую гарачую пару заўсёды пёк на чаране старыя косці, і той злез з печы і закрычаў:

— І я працаваць хачу!.. Хоць рукамі махаць буду, але памагу калгасу! А лепей мяне на зграбалку пасадзіце, дык я хоць па полі крыху пакатаюся, і то помач будзе...

Пасадзілі дзеда на зграбалку, дык ён праз некалькі дзён пратросся на сядле, праветрыўся і стаў, як арол, памаладзеў ды на цяжэйшую работу папрасіўся. Нават сваю Адарку ў кіно вадзіць стаў. Прывядзе, пасадзіць яе, а сам на дзяўчат пазірае.

Пасябраваў дзед з маладымі. Хлопцы ноччу малоцяць — і дзед з імі, гарачым днём ідуць купацца — і Шпунт следам. Скіне на беразе кашулю, порткі, залезе па калені ў ваду і стаіць голы, як бізун, толькі пакрэктвае:

— От дзякуй табе, старшынька, што ты памог мне хваробу выгнаць!..

А потым вылезе на пясочак і палежвае на сонейку, загарае.

Аднойчы ён гэтак вылежваўся, а потым і кажа хлопцам:

— А што, сынкі, каб нам лазню пабудаваць... Гэта ж як прыйдзе зіма, то ў рэчку тады не залезеш. А ў балеі я вельмі ж не люблю плюхацца...

— Во, правільна, дзеду,— падтрымалі яго хлопцы.— Гэта ідэя!..

І толькі гэта яны пра лазню разгаварыліся, старшыня да рэчкі пад'язджае. Таксама пакупацца захацеў. Хлопцы адразу да яго з прапановай:

— Максім Мікалаевіч, трэба нам лазню пабудаваць.



— Пабудаваць то трэба, але ж людзей не хапае...— развёў рукамі старшыня.
— Дык мы самі пабудуем,— уставіў слова Коля Дрозд.— Нядзельнік арганізуем.
— Во-во, нядзельнічак...— падтакнуў Шпунт.— Калі трэба, то і трэба... А то што ж гэта за мыццё — у начоўках ці ў балеі?.. Ды асабліва зімою. Залезеш у ваду, дык знізу пячэ, а зверху дрыжыкі бяруць. А ў мяне яшчэ ўнучак малы, чатыры гады яму, дак падбяжыць, басота, як я ў балею забяруся, ды на мяне вадзіцай халодненькай, вадзіцай... І смехам заліваецца... А прагнаць яго нельга: бо дзе ж ты будзеш голы ганяць дзіця па хаце... І сядзіш так у балеі, завесіўшыся посцілкамі, нібы ў якім старым караблі з ветразямі. Ніхто не можа да цябе падступіцца...
Хлопцы засмяяліся, а старшыня цвёрда сказаў:
— Калі так, то лазня будзе. Матэрыял ёсць, бярыце, будуйце...
— І пабудуем,— сказалі хлопцы.
— Калі трэ, то і трэ,— зазначыў дзед.
Арганізавалі нядзельнік, заклалі падмурак. Потым зрубілі сцены. Працавалі нават і ў дождж. Шпунт зляпіў печ. Лазня была амаль што гатова, ды раптам прыязджае да хлопцаў старшыня і просіць:
— Дазвольце, сынкі, калі ласка, у вашай лазні ячмень ссыпаць: гэта ж так урадзіў, што і дзецъ яго няма дзе... Мы хутка яго забяром.
— Ну, калі хутка ...— згадзіліся хлопцы.
— Калі трэ, то і трэ,— згадзіўся і дзед.
А Коля Дрозд сам сабе падумаў: «Ну вось, я гаварыў, што трэба свіран будаваць, не паслухалі, цяпер загваздка...»



Запоўнілі ячменем усю лазню. А час ішоў. Пачалася ўборка кукурузы, потым сталі выбіраць бульбу і падбіраць лён. А неўзабаве насталі халады, і ўсе ўспомнілі пра лазню.
— Дык трэба ячмень прыбраць,— настойліва патрабаваў Шпунт.— А то ўчора зноў мяне ўнучак вадзіцай прасвяжыў...
Старшыня стаў прасіцца:
— Браточкі, ячмень то мы прыбяром. Толькі гэта яшчэ не ўсё. Лён няма дзе сушыць...
— Ну вось...— загаманілі хлопцы.— Зноў прычына... То ячмень, то лён, а мыцца няма дзе...
— Браточкі,— прасіўся старшыня,— ну што ж рабіць, не прападаць жа льну... Гэта ж жывыя тысячы... А ў раёне строга забаранілі лён сушыць на печах. Мы за які месяц з ім справімся. А вы, таварыш Шунт,— звярнуўся старшыня да дзеда,— якнебудзь старайцеся, каб за ўнучкам наглядалі...
— Дык рады не даць... Ён так знаравіўся, што абы я заплюхаў у балеі, дык так і прэцца да мяне з конаўкай.
Хлопцы згадзіліся са старшынёй, а дзед крыху пазлаваў і таксама сказаў:
— Няхай сабе так. Калі трэ, то і трэ... Пачакаем, бо на печах лён сушыць таксама невялікая радасць.
Назаўтра з лазні выгрузілі ячмень, а праз некалькі дзён нацягалі туды жэрдак і пачалі сушыць лён. Дзед узброіўся трапачкаю, нібы шабляй, і разам з жанчынамі таксама завіхаўся. А вечарам, ідучы дамоў, пачухваўся, бо кастрыцы назалазіла за каўнер, і ўсё думаў пра лазню.
— Добра старшыні,— гаварыў Шпунт,— свая машына... Гадзіна якая — і ён у раённай лазні... Кожную суботу памыецца сабе, пахвошчацца венікам, стане белы, як сыр, хоць ты яго на вуліцу не пускай, бо варона схопіць...
Неўзабаве лягла зіма. Снегам завеяла палі, дарогі. У канцы лістапада старшыня яшчэ сяк-так дабіраўся ў лазню, а ўжо ў снежні і сам закукаваў. Такія завірухі ўсхадзіліся, што свету белага не відаць. Дзень пастаіць ціхае надвор'е, не паспеюць працерці дарогу, а потым зноў як закруціць — сабаку з хаты не выганіш. Праходзяць тыдзень, другі, а завея не сціхае. Старшыня паспрабаваў аднойчы выехаць у лазню на «масквічы», але адразу за вёскай гэтак засеў, што назад коньмі цягнулі. А тут яшчэ жонка з раёна звоніць па тэлефоне:
— Дзе ты там прапаў?.. Чаму не прыязджаеш? Трэба ж у лазню схадзіць ды бялізну памяняць...
— Сам ведаю... Але ж як я дабяруся? — адказаў Гарошына, чухаючы патыліцу.— Не магу ж я ў наш век атама на кані ў раён падацца... Ды і прастудзіцца можна, едучы пасля лазні ў санях...
І тут старшыню выручыла з бяды старая Адасіха, у якой ён кватараваў:
— Дык я вам, Максім Мікалаевіч, вады затораў два нагрэю, і будзе лепей, як у лазні. Аб чым тут бедаваць...





«Во, правільна,— падумаў старшыня.— Што ж я, не дай божа бог, які арыстакрат, ці што?.. У партызанах калісьці снегам мыпіся, а тут — у цёплай хаце... Гэ-э, памыемся!..— падбадзёрыў ён сам сябе і ад радасці аж заспяваў: «Топится, топится в огороде баня...»
— А вечарам, калі Гарошына вярнуўся з праўлення, у хаце ўжо стаяла шырокая балея.
— Можаце мыцца,— прапанавала Адасіха.
Яна ўліла ў балею два чыгуны вару і, выключыўшы ў кухні святло, палезла на печ. Гарошына хутка раздзеўся, босымі нагамі пратупаў да балеі, абмацаў, дзе мыла, і ўсадзіў руку ў ваду.
— Гарачая, ліха на яе!..— крыкнуў ён, апёкшы пальцы.
— Дык вы халоднай падліце,— азвалася старая з печы.
— Не, халоднай нельга,— сказаў старшыня.— Гэта, мусіць, для валасоў шкодна... У мяне і так нейкія тры валасіны засталіся, ды і тыя на патыліцы...
Ён сеў на зэдлік каля балеі, закурыў і пашкадаваў, што цёмна. У раённай лазні, калі часам прыходзілася чакаць чаргі, можна было пачытаць газету ці часопіс.
Схіліўшы галаву, ён пасядзеў крыху. Потым, калі сталі браць дрыжыкі, плюхнуў у балею дзве конаўкі халоднай вады і стаў на калені, каб памыць галаву. І — трэба ж некаму ў дзверы пастукаць...
— Хто там? — занепакоіўся старшыня.
— Гэта я. Адась...— прагаварыў за дзвярыма гаспадар хаты.
Старшыня моўчкі ўстаў, адшчапіў дзверы.
— Чаго цябе ганяе ліхое? — закрычала з печы старая.— Чалавеку і памыцца не дасі...
Яна яшчэ штосьці крычала на Адася, але старшыня не чуў. З расчыненых дзвярэй яго абдало марозным паветрам, і ён хутка ўлез у балею, стаў плюхацца ў вадзе, як гусь, каб хоць крыху адагрэць душу. Толькі цяпер ён заўважыў, што на дзвярах няма матаў і знізу свішча холад. Ён нават успомніў, што шыбы не акітаваны: стары Адась некалькі разоў прасіў прывезці кіту, але старшыня ўсё забываў. Шыба звінела, шорсткі снег шамацеў па акне, і ад гэтага старшыні рабілася яшчэ халадней. Цяпер ён не думаў пра тое, каб добра вымыцца,— хаця б не застудзіцца...
Зноў пастукалі ў дзверы. Старшыня апамятаўся толькі тады, калі на яго зноў шыбануў холад. Гэта свінарка Маня ішла запрашаць старшыню на вяселле. Гарошына войкнуў у балеі і, успомніўшы, што не зашчапіў дзвярэй,— стары чорт! — выскачыў з вады. Ён хацеў шмыгнуць за шафу, але наступіў на мыла і, паслізнуўшыся, грымнуўся бокам на чыгун. Дзяўчына не зразумела, што тут робіцца, і бліснула кішэнным ліхтарыкам, які трымала ў руках.
Цьмянае святло ліхтарыка выхапіла з цемры гладкага чалавека, які курчыўся на падлозе і стагнаў ад болю.
Дзверы ў хаце засталіся расчыненыя. Адась з Адасіхай кінуліся ратаваць старшыню. А перапалоханы малады, якога Маня ў сенцах ледзь не збіла з ног, бег па снезе за сваёй маладой і крычаў:
— Маня, апамятайся!.. Што ты, Маня!!
Назаўтра Гарошына, пакашліваючы і раз-пораз шморгаючы носам, ішоў па вуліцы, нібы звіхтованы. Быў ён у кажуху, шыя была абвязана цёплай хусткай. Сустрэўшы каля праўлення Шпунта, хрыплым голасам загадаў:
— Каб праз дваццаць чатыры гадзіны лазня была ачышчана і ўступіла ў эксплуатацыю! Адказным прызначаю вас, таварыш Шпунт! Усе павінны мыцца ў лазні і — ні адна душа ў балеі!..
— Ясна? — з усмешкай прылажыў да вуха руку Шпунт.— Калі трэ, то і трэ...
— Выконвайце! — строга загадаў старшыня.— Ды без жартаў!..






**САВІЦКІ Алесь** нарадзіўся ў 1925 годзе ў г. Полацку. З першай сваёй аповесцю «Пасля паводкі» выступіў у нашым часопісе. Выйшлі з друку кніга аповесцей «Кедры глядзяць на мора», раман «Жанчына», зборнік апавяданняў «Белы гарлачык».

Пісьменнік працуе цяпер у Літаратурным музеі Якуба Коласа.

**СВІРКА Юрась** нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Маргавіца Глыбоцкага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

Ю. Свірка — аўтар зборнікаў «Шэпчуцца ліўні» і «Вечнасць».

**САЧАНКА Барыс** нарадзіўся ў 1936 годзе на Палессі (вёска Вялікі Бор Хойніцкага раёна). Закончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Цяпер працуе ў рэдакцыі часопіса «Полымя».

Выйшлі кнігі апавяданняў і аповесцей «Дарога ішла праз лес», «Барвы ранняй восені», «Зямля маіх продкаў».

**СТРЫГАЛЁЎ Міхась** нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Нядайка Буда-Кашалёўскага раёна. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут і працуе інжынерам-энергетыкам на Урале. Завочна вучыцца ў Літаратурным інстытуце імя А. М. Горкага ў Маскве.

**СЕМАШКЕВІЧ Рыгор** нарадзіўся ў 1945 годзе ў вёсцы Дамашы на Маладзечаншчыне. Вучыцца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

## ЧЫТАЙЦЕ Ў БЛІЖЭЙШЫХ НУМАРАХ

**Аповесць Алеся Адамовіча «ВІКТОРЫЯ».**

**Апавяданне Міхася Стральцова «Свет Іванавіч, былы Дон Жуан».**

**Вершы Хведара Чэрні, Міхася Федарука, Міхася Рудкоўскага.**

**ПЕРАПІСКА З ЖОНКАЮ ПЯТРА ЗАЛОМАВА.**

**АРТЫКУЛ ФЕЛІКСА ЗІГЕЛЯ «ЦІ МАГЧЫМЫ ПРАМЫЯ КАНТАКТЫ ПАМІЖ ЦЫВІЛІЗАЦЫЯМІ КОСМАСУ?».**

Мастацкі рэдактар Я. Раманоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

«Молодость»
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, 40. Тэлефоны: 93-854 — сакратарыят, 93-592 — аддзелы паэзіі і прозы, 93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення; 93-775 — фотаклуб «Маладосць»

Фармат паперы 70×108$^{1}/_{16}$. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 7395. Цана 40 кап.
АТ 08487. Здадзена ў набор 24/IX-65 г. Падпісана да друку 29/X-65 г. Зак. 578.

Друкарня выдавецтва «Звязда». Мінск, Ленінскі праспект, 79.










# МАЛАДОСЦЬ 1·9·6·6

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

## ЧЫТАЙЦЕ

## У НОВЫМ ГОДЗЕ

## НОВЫЯ ТВОРЫ.

*Аповесць Алеся АДАМОВІЧА „ВІКТОРЫЯ“.*

*Аповесць Івана ШАМЯКІНА „АХ, МІХАЛІНА, МІХАЛІНА...“*

Вядомы вучоны і пісьменнік Аляксандр КАЗАНЦАЎ прапанаваў часопісу фантастычны раман „ВІЛЕНА“.

**Мы надрукуем раманы, аповесці, апавяданні вядомых вам беларускіх пісьменнікаў і зусім маладых аўтараў.**

**Шырока будзе прадстаўлена паэзія.**

У нарысах, рэпартажах, эсэ, артыкулах мы пастараемся ахапіць як мага большае кола тэм, што хвалююць сёння моладзь.

Пра таямніцы космасу, фантастычную Атлантыду, лятаючыя талерачкі, сувязі з незямнымі цывілізацыямі, пра новыя адкрыцці ў біялогіі, фізіцы, хіміі — усё гэта вы знойдзеце на старонках «МАЛАДОСЦІ».

**Часопіс і далей будзе весці размову пра надзённыя пытанні літаратуры і мастацтва.**

**Выпісвайце наш часопіс!**

**Асобны нумар каштуе 40 кап.**

**Падпісная цана на год — 4 руб. 80 кап.**

***Выпісаць „Маладосць“ можна ў арганізатараў падпіскі на прадпрыемстве, у калгасе, навучальнай установе, у кожным аддзяленні сувязі.***

# 1966



Ігар КРЭЙДЗІК. З дэкарацый да спектакля «Героі фатэрлянда».

Аляксандр САЛАЎЁЎ. З дэкарацый да спектакля «Людзі і разбойнікі Кардамона».





Анатоль АГАФОНЕНКА. З дэкарацый да оперы «Машэка».



Лілія СВАБОДА. З дэкарацый да оперы «Аіда».



Аляксандр СЯМІЛЕТАЎ. Кастрычнік.